## Краязнаўчы рух на Пастаўшчыне

Сучасныя варункі развіцця цывілізацыі маюць тэндэнцыю да ўсё большага дынамізму і мабільнасці, пашырэння і паглыблення глабалізацыйна-інтэграцыйных працэсаў. Развіццё транспартных камунікацый, сродкаў сувязі і, асабліва, інтэрнета, надало новыя імпульсы для наладжвання кантактаў паміж людзьмі розных культур, краін, этнасаў, што паўплывала на фарміраванне сістэмы агульначалавечых каштоўнасцей, інтарэсаў, мас-культуры, свядомасці. Але разам з працэсам глабалізацыі, які праяўляецца ў розных сферах жыцця, адбываюцца зрухі ў бок этнічнай самаідэнтыфікацыі і тэрытарыяльнай дыферэнцыяцыі, што знаходзіць праяўленне ў росце самасвядомасці этнасаў і развіцці іх культур, а таксама ў павышэнні ролі мясцовых (рэгіянальных, лакальных) інтарэсаў у развіцці асобных тэрыторый. Усё гэта дыктуе неабходнасць правядзення ў краінах, у тым ліку і ў Беларусі, эфектыўнай рэгіянальнай палітыкі.

Для ўвасаблення яе ў жыццё неабходна задзейнічаць шмат фактараў, і ў першую чаргу тых, якія б паўплывалі на працэдуры збору і апрацоўкі матэрыялаў па вывучаемай тэрыторыі, фарміравання і перадачы ведаў пра родны край мясцоваму жыхарству і маладому пакаленню, ад стваральнай дзейнасці якіх, урэшце, і залежыць развіццё канкрэтнага рэгіёна. З гэтага вынікае, што рэгіянальная палітыка мусіць будавацца на трох “кітах”: сацыяльна-эканамічным, які ўяўляе сабой комплекснае вывучэнне і прагназаванне развіцця тэрыторыі; адукацыйным, які ўключае ў сябе навучанне і асвету мясцовага насельніцтва на матэрыялах сваёй мясцовасці; выхаваўчым, які заснаваны на пашырэнні пачуццяў самасвядомасці і мясцовага патрыятызму.

Сукупнасць азначаных асаблівасцей канцэнтравана выражаецца тэрмінам “краязнаўства”. Жыццё чалавека праходзіць у канкрэтных прыродна-гістарычных сацыяльна-эканаміч-

ных умовах і таму вялікае значэнне мае выхаванне ў яго адносін да роднага краю як да каштоўнасці. Мясцовы патрыятызм, які шмат і несправядліва ганілі ідэолагі ў савецкія часы, зараз павінен быць апраўданы, бо аснова любога развіцця – чалавечы фактар: псіхалогію "часовага" жыхара, для якога "адрес – не дом и не улица" трэба змяніць на ўсведамленне чалавекам сваёй тутэйшасці, повязі з навакольным ландшафтам, з умовамі жыцця, з адносінамі з суседнімі людзьмі. А гэта можа быць дасягнута выхаваннем, у якім адну з галоўных роляў павінна адыграць краязнаўства.

Такім чынам, варункі сучаснага жыцця падказваюць аб'ектыўную неабходнасць пашэрэння краязнаўчага падыходу ў ажыццяўленні рэгіянальнай палітыкі дзяржавы.

Пастаўшчына па ступені краязнаўчага вывучэння і папулярызацыі ведаў пра родны край займае ў Беларусі адметнай месца. Тут жыве і працуе шмат творчых асоб, якія ладзяць экспедыцыі, апрацоўваюць розныя крыніцы інфармацыі, апытваюць жыхароў, выдаюць кнігі, ствараюць сайты і блогі, ладзяць прэзентацыі і выступленні з мэтай знайсці і паказаць людзям шматлікае аблічча роднай зямлі.

Сучасныя краязнаўчыя даследванні грунтуюцца на здабытках папярэднікаў, на працах навукоўцаў, якія вывучалі Пастаўшчыну ў XIX-XX стагоддзях і ў ранейшыя часы. Адной з важнейшых крыніц інфармацыі па любой мясцовасці з'яўляюцца геаграфічныя і гістарычныя карты.

Першае найбольш дакладнае адлюстраванне тэрыторыі Пастаўскага краю было зроблена картографам Т. Макоўскім на карце Вялікага Княства Літоўскага 1613 года, ініцыятарам стварэння і фундатарам якой быў магнат Мікалай Радзівіл. На ёй паказана размяшчэнне ў нашым краі такіх вядомых ужо на той час населеных пунктаў як Паставы, Дунілавічы, Лучай, Камаі, Лынтупы, Гадуцішкі, Полава, Ажуны (Ожунічы), Голбія (Олбій). Нанесены на карты і некаторыя водныя аб'екты, такія як рэкі Дзісна, Мядзелка, Дрысвяціца, а таксама бліжэйшыя

азёры – Мядзел і Нарач.

На карце Д. Рыцы-Заноні 1776 года тэрыторыя раёна паказана са значнымі скажэннямі і недакладнасцямі, але на ёй ёсць большасць буйнейшых паселішчаў края, у тым ліку і некаторыя невядомыя на сённяшні дзень (Powtele, Bassoliky, Winczene).

Вельмі важнымі крыніцамі інфармацыі з'яўляюцца карты расійскіх ваенных тапографаў ("трохвёрсткі"), якія ствараліся ўдзельнікамі экспедыцый пад кіраўніцтвам рускага геадэзіста К. Тэннера на мяжы ХІХ-ХХ стагоддзяў. На іх дакладна паказана размяшчэнне ўсіх асноўных прыродных і гаспадарчых аб'ектаў.

Важныя звесткі пра Пастаўшчыну можна выявіць, прааналізаваўшы змест германскіх карт часоў Першай сусветнай вайны, польскіх карт і карт РККА (Рабоче-крестьянской Красной армии) 30-х гадоў ХХ стагоддзя.

Цікавая інфармацыя ёсць на планах асобных мясцовасцяў і населеных пунктаў. Захаваліся планы Паставаў канца XVIII ст., 30 х гадоў ХХ ст., 1939 года; Лынтупаў – 20 х гадоў ХХ стагоддзя.

Разам з гэтым выяўна адчуваецца праблема абмежаванасці картаграфічнага матэрыяла. У раёне няма агульнай базы картаграфічнай прадукцыі, адсутнічаюць буйнамаштабныя карты асобных частак раёна, няма дэтальных тэматычных карт і схем. Наспела неабходнасць распрацоўкі і стварэння шматгаліновага грунтоўнага "Атласа Пастаўскага раёна".

Першыя сістэматызаваныя звесткі пра наш край можна знайсці ў працах святароў. Так, у 1784 годзе ксяндзамі былі падрыхтаваны даволі падрабязныя апісанні парафій, у якіх ўтрымліваецца інфармацыя пра іх геаграфічнае становішча, населеныя пункты, прыродныя аб'екты, дарогі, маёнткі, храмы.

У ХІХ ст. Янам Ходзькам была выдадзена кніга "Дыяцэзія мінская 1830 года", у якой падаецца характарыстыка Паставаў,

Дунілавічаў, Задзеўя, Лучая.

У другой палове стагоддзя расійскія ўлады пачалі праводзіць комплекснае вывучэнне заходніх ускраін імперыі, у тым ліку і Беларусі. Акрамя стварэння карт рыхтаваліся апісанні асобных тэрыторый на падставе экспедыцыйнай дзейнасці і збору інфармацыі праз апытальныя лісты, якія даручалі запаўняць найбольш дасведчаным мясцовым жыхарам – святарам, настаўнікам, леснікам, чыноўнікам. Гэтыя матэрыялы захоўваюцца пераважна ў архівах Вільні. Да сённяшняга дня для вывучэння гісторыі асобных населенных пунктаў нашага краю выкарыстоўваліся толькі апытальныя лісты пра Паставы і Манькавічы. Таму важна бліжэйшым часам увесці ў навуковы і краязнаўчы ўжытак падобныя дакументы па іншых былых мястэчках Пастаўшчыны.

У канцы XIX стагоддзя было праведзена першае археалагічнае вывучэнне нашага краю, вынікі якога адлюстраваны ў працах Ф. Пакроўскага. Таксама рабіліся запісы мясцовага фальклору (Р. Зянкевіч, А. Гурыновіч).

У міжваенны час польскія даследчыкі вывучалі асобныя кампаненты прыроды края, некаторыя падзеі гісторыі. Пакуль што не ўсе тагачасныя працы вядомы ў Беларусі. З гістарычных даследаванняў да сённяшняга дня не страцілі сваёй навуковай каштоўнасці работы археолагаў А. і У. Галубовічаў, якія адкрылі і апісалі некалькі гарадзішчаў і курганных могільнікаў у нашым краі, даследванне Я. Якубянец-Чаркоўскай "Паўстанне 1863 года ў Свянцянскім павеце" (1934).

Шэраг цікавых звестак пра Пастаўшчыну ўтрымліваецца ў турыстычных даведніках Э. Малішэўскага (1919) і Н. Роўбы (1930).

Грунтоўнае вывучэнне нашага краю пачало праводзіцца з канца 50-х гадоў XX стагоддзя. З таго часу і па сённяшні дзень на Пастаўшчыну перыядычна наведваюцца экспедыцыі геолагаў, геамарфолагаў, лімнолагаў, біёлагаў, археолагаў, фалькларыстаў, спецыялістаў у іншых галінах ведаў. Для вывучэння

будовы зямной кары і пошуку карысных выкапняў атрадамі інстытута геалогіі Акадэміі Навук былі прабураны глыбокія свідравіны ў розных частках раёна. Навуковыя супрацоўнікі лабараторыі азёразнаўства БДУ пад кіраўніцтвам прафесара, доктара геаграфічных навук В. Якушкі правялі абследаванне ўсіх буйнейшых азёр. Вынікі іх работы размешчаны на старонках “Блакітнай энцыклапедыі Беларусі”. Гісторыка-археалагічныя даследаванні ў раёне праводзілі Э. Зайкоўскі, Л. Дучыц, Я. Звяруга, А. Квяткоўская і іншыя.

Цяпер на Пастаўчыне дзейнічае некалькі навуковых і навукова-асветніцкіх устаноў і арганізацый, якія праводзяць работу па зборы, захаванні і папулярызацыі матэрыялаў пра родны край. Гэта – метеаралагічная станцыя ў Лынтупах, раённы краязнаўчы музей у Паставах, музеі і музейныя экспазіцыі ў навучальных установах, архіў у Паставах, бібліятэкі, дом рамёстваў “Стары млын”, рэлігійныя суполкі і грамадскія арганізацыі, стваральнікі прыватных музеяў, калекцыянеры.

Вывучэннем прыроды, гісторыі, насельніцтва, гаспадаркі, культуры і іншых праяў чалавечай дзейнасці на пэўнай тэрыторыі займаюцца краязнаўцы. Гэта людзі розных прафесій і ўзросту, якіх яднае жаданне даведацца больш пра сваю родную старонку.

Дзякуючы іх руплівай дзейнасці Пастаўшчына выдзяляецца сярод іншых раёнаў Беларусі абсягамі і глыбінёй краязнаўчых даследаванняў. Найбольш грунтоўныя здабыткі ў галіне краязнаўчай дзейнасці маюць Іосіф Быхавец, былы настаўнік Камайскай і Лынтупскай школ, які з’яўляецца аўтарам першай краязнаўчай кнігі на Пастаўшчыне “Лынтупы і наваколле” (1993); Алесь Гарбуль, жыхар Лынтупаў, які даследуе гісторыю і культуру краю, аддаючы перавагу вывучэнню дахрысціянскіх культавых помнікаў, аўтар чатырох кніг; Міхаіл Гіль, жыхар Паставаў, які вывучае сядзібы і паркі Паазер’я, дзейнасць Арміі Краёвай на Пастаўшчыне, гісторыю 23-га палка Гродненскіх уланаў, гісторыю асадніцтва ў нашым

краі, займаецца перакладамі з польскай мовы кніг і матэрыялаў краязнаўчай накіраванасці пра родную мясцовасць, выдае краязнаўчыя бюлетэні, газеты, кнігі; Ян Драўніцкі, ураджэнец в. Гваздавічы, жыхар в. Камарова, які даследуе гісторыю і культуру Пастаўскага і Мядзельскага раёнаў, аўтар каля дваццаці краязнаўчых кніг; Ігар Пракаповіч, жыхар Паставаў, настаўнік пастаўскай гімназіі, пісьменнік, які вывучае прыроду роднага краю, старажытную гісторыю, часы вайны 1812 года і Першай сусветнай вайны, гісторыю парфорснага палявання на Пастаўшчыне, гісторыю і культуру асобных мястэчак і вёсак (Паставы, Задзеўе, Груздава, Манькавічы, Споры, Рымкі, Стары Двор), тапанімію паселішчаў і водных аб'ектаў, з'яўляецца аўтарам звыш дваццаці краязнаўчых кніг, частка якіх напісана разам з вучнямі і настаўнікамі; Іосіф Зямчонак, ураджэнец в. Цівунцы, жыхар Польшчы, які даследуе гісторыю роду Тызенгаўзаў-Пшаздзецкіх, гісторыю і культуру асобных населеных пунктаў (Варапаева, Лучай, Дунілавічы, Парыж), з'яўляецца аўтарам многіх кніг краязнаўчай тэматыкі; Мікалай Арэх, ураджэнец в. Жоўніца, жыхар в. Гута, які даследуе гісторыю і культуру вёсак паўночна-усходняй часткі Пастаўчыны, аўтар і сааўтар пяці кніг і некаторыя іншыя.

Выразнай тэндэнцыяй апошніх гадоў на Пастаўшчыне з'яўляецца паступовае пашырэнне кола асоб, якія далучаюцца да краязнаўчых пошукаў. Так, першыя кніжкі пра родныя мясціны выдалі Янусь Малец ("Таямніца Хрыстова" (2015)), Вальдэмара Шышко ("Карані нашы… Жыццё і лёс сям'і Зелянкевічаў" (2015)), Аліна Латыш ("Ясюкі – вёсачка над азёрамі" (2016) (разам з Ганнай і Алесей Венгура).

Увогуле, даследчыкаў Пастаўскага краю, якія выдалі кнігі, налічваецца на сённяшні дзень 27 чалавек, з якіх 10 жывуць і актыўна працуюць на нашай зямлі. Усяго ж краязнаўцамі Пастаўшчыны выдадзена 75 кніг. Найбольшая іх колькасць прысвечана гісторыі, геаграфіі і культуры населеных пунктаў. Выйшлі ў свет кнігі пра Паставы (гістарычная хроніка

і фотаальбом), Лынтупы, Варапаева, Лучай, Дунілавічы, Гуту, Стары Двор, Рымкі, Вялікія Споры, Ясюкі, Манеўшчыну, Васілеўшчыну, Кейзікі, Харкі, Парыж, Манькавічы, Груздава, Пятрагі, Тарасаўку, Грыдзькі, Хрыстова, Вайшкуны, Міхнічы, Полава. Даволі грунтоўныя апісанні вёсак Логавінцы і Мягуны захаваліся на старонках газеты "Пастаўскі край", Камаі – у рукапісным альбоме "Гісторыя Камайскага касцёла". Рыхтуюцца рукапісы кніг пра Савічы (Рэгіна Ластоўская), Мышкі (Аліна Латыш), Навадруцк-Асінагарадок (Святлана Латыш). Такім чынам, каля трыццаці вёсак мае сваю "гісторыю". Гэта добра, але гэтага мала. Па стану на 2001 год у Пастаўскім раёне сельскіх паселішчаў з колькасцю жыхароў ад 1 да 3 налічвалася 32, ад 4 да 6 – 32, ад 7 да 9 – 41, ад 10 да 12 – 28. Гэта значыць, што каля 130 вёсак на пачатак XXI стагоддзя былі кандыдатамі на сыход у нябыт. Сапраўды, многія з іх на сённяшні дзень ужо не існуюць. Таму вельмі актуальнай задачай краязнаўцаў варта лічыць збор матэрылаў і апісанне знікаючых вёсак. Гэта можна зрабіць, бо жывуць яшчэ іх былыя жыхары. А праз 10 15 год пра гэтыя вёскі ўжо ніхто нічога не раскажа.

Акрамя апісання асобных населеных пунктаў краязнаўцамі Пастаўчыны распрацоўваецца шырокі спектр іншых тэм. Найбольш адметнымі з іх з'яўляюцца: прыродныя асаблівасці края (І. Пракаповіч, У. Магільніцкі), падзеі Першай сусветнай вайны (І. Пракаповіч, Ю. Пракаповіч, В. Шышко, А. Мацур, А. Кузняцоў), падзеі міжваеннага часу (М. Гіль), старажытная гісторыя Пастаўшчыны (І. Пракаповіч), падзеі Другой сусветнай вайны і пасляваеннага часу (І. Драўніцкі), лёсы вядомых асоб і мясцовых родаў (В. Шышко, І. Драўніцкі, М. Гіль, І. Заяц), паходжанне і сэнс мясцовых назваў (І. Пракаповіч, В. Літвіновіч). Недастаткова ўвагі надзяляецца этнаграфічным і фалькорным даследванням мясцовых асаблівасцей.

Важным накірункам краязнаўчай дзейнасці з'яўляецца мемарыялізацыя адметных мясцін і гістарычных падзей. Рупнасцю некаторых неабыякавых да нашай гісторыі людзей

усталяваны помнікі і памятныя знакі, узведзены капліцы, упарадкаваны могілкі. Такога роду дзейнасцю на Пастаўшчыне займаюцца мастак Алесь Цыркуноў, народны майстар каваль Юрась Фурс, прадпрымальнік Уладзімір Іванковіч, краязнаўцы Алесь Гарбуль, Міхаіл Гіль, якія пабудавалі “Каплічную браму” ў в. Радута, помнік паўстанцу Ф. Даноўскаму на могілках у в. Каралінова, помнік загінуўшым жаўнерам вайны 1920 г. на могільніку ў Лынтупах і іншыя.

З ініцыятывы ксяндза Камайскага касцёла Яцака Хутмана і навукоўцы з Польшчы (ураджэнца Камаяў) Юрася Гарбінскага былі адноўлены яўрэйскія могілкі каля Камаяў.

Шмат зрабіў для ўшанавання памяці пра мінулыя часы ўраджэнец в. Рыбчаны, жыхар Паставаў Мар’ян Бумбліс. Ён выліў з бетону і ўсталяваў крыжы на магілах ксяндзоў у Паставах і Задзеўі, на могілках польскіх жаўнераў у Дунілавічах і Бураках, на месцы гібелі польскай партызанскай брыгады Кміціца.

Пастаўшчына мае грунтоўныя музейныя традыцыі, асновы якіх былі закладзены ўласнікамі мястэчка Тызенгаўзамі, і галоўным чынам – Канстанцінам, які стварыў у сваім палацы карцінную галерэю і арніталагічны музей.

Зараз у Паставах наведвальнікаў прымае раённы краязнаўчы музей, які размяшчаецца ў двухпавярховым будынку ў паўночна-заходняй частцы цэнтральнай плошчы. Першапачаткова ў гэтай пабудове ў XVIII стагоддзі знаходзіўся дом для заезду (гатэль), пасля вайны ў ім была школа. Музей адкрыты ў 1976 годзе. Налічвае каля 7000 экспанатаў. Мае аддзелы прыроды, гісторыі Пастаўскага раёна, Вялікай Айчыннай вайны, этнаграфічны. Сярод экспанатаў: археалагічныя калекцыі кафлі XV – пачатку XX стагоддзяў, скарб талераў і ортаў XVII стагоддзя, планы панскіх маёнткаў, матэрыялы пра падпольны і партызанскі рух, развіццё гаспадаркі ў пасляваенны час. У этнаграфічнай экспазіцыі куток інтэр’ера сялянскай хаты, тканыя дываны, вышываныя серветкі, керамічныя вырабы і ін-

шае. Музей мае філіял у сутарэннях палаца Тызенгаўзаў, дзе размяшчаюцца экспазіцыі, прывечаныя яго гаспадарам, гісторыі парфорсных паляванняў і падзеям I сусветнай вайны на Пастаўшчыне.

Акрамя раённага краязнаўчага музея ў Паставах дзейнічае музей Вялікай Айчыннай вайны ў СШ № 2, краязнаўчы куток у СШ № 5, экалагічны музей ў СШ № 1.

Калекцыйныя зборы сучаснага мясцовага жывапісу, дэкаратыўна-ужытковага мастацтва, народнай музыкі і фальклору знаходзяцца ў будынку раённага арганізацыйна-метадычнага цэнтра аддзела культуры "Стары млын". Маецца таксама шэраг невялікіх спецыялізаваных прыватнах збораў, сярод якіх можна выдзеліць калекцыю па кавальству Ю. Фурса, жывапісу і мастацтву І. Атрахімовіча, незалежнай прэсы часоў перабудовы і мясцовых друкаваных выданняў І. Пракаповіча.

Маецца шэраг цікавых экспазіцый у некаторых школах Пастаўскага раёна: Лынтупскай (кіраўнік С. Васільеў), Гуцкай (кіраўнік М. Арэх), Навадруцкай (кіраўнік С. Латыш).

Пашуковае краязнаўства развіваецца ў цесным спалучэнні з адукацыйна-выхаваўчым. У раёне распрацаваны вучэбна-метадычны комплекс "Паставызнаўства" (аўтар – І. Пракаповіч), які ў якасці факультатыўных заняткаў выкладаецца ва ўсіх школах раёна. Ён складаецца з дапаможніка "Чароўны край – Пастаўшчына", сшытка на друкаванай аснове "Ці ведаеце вы Пастаўскі край?", 35 паўрочных прэзентацый і дадатковых матэрыялаў.

На конкурсах даследчых работ вучні ўсё часцей рыхтуюць матэрыялы краязнаўчага накірунку. Вось некаторыя тэмы пошукаў: "Вывучэнне і апісанне ўнікальнага прыроднага комплекса "Сарочынскія азёры", "Стварэнне інтэрактыўнай карты "Краязнаўцы і краязнаўчыя выданні Пастаўскага раёна", "Стварэнне інтэрактыўнай экалагічнай карты г. Паставы", "Распрацоўка мультымедыйнага рэсурса "Зніклыя і знікаючыя вёскі Пастаўскага раёна", "Аналіз літаратурнага працэсу

на Пастаўшчыне на аснове мультымедыйнага рэсурса “Пісьменнікі Пастаўскага раёна”, “Турыстычны атлас Пастаўскага раёна”.

Такім чынам, на сённяшні дзень Пастаўшчына выступае як адзін з лідараў краязнаўчага руху Беларусі, вылучаючыся глыбінёй і абсягамі даследаваных тэм, а таксама папулярызатарскай дзейнасцю пра родны край.

## Краязнаўцы Пастаўшчыны і іх здабыткі

***Аліхвер Людміла Уладзіславаўна***, педагог, краязнаўца. Нарадзілася 15 лістапада 1968 г. у в. Муляры Пастаўскага раёна. Закончыла Камайскую сярэднюю школу (1985), філалагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута імя С.М. Кірава (1989). Па размеркаванні была накіравана ў ДУА "Гуцкая сярэдняя школа Пастаўскага раёна", дзе і працуе па сённяшні дзень настаўніцай беларускай мовы і літаратуры.

Краязнаўствам займаецца з першых гадоў працы ў школе. Асноўныя тэмы краязнаўчых росшукаў: "Дыялектызмы Пастаўшчыны", "Тапонімы і мікратапонімы Пастаўшчыны", "Фальклорная спадчына Пастаўшчыны". Сябра Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы.

Жыве ў в. Гута.

***Здабыткі ў краязнаўстве:***

Публікацыя ў кнізе: Мясцовыя назвы // Арэх, М., Пракаповіч, І. Гута-Голбія: гісторыка-геаграфічны нарыс Галбейскага краю. – Мн.: "Кнігазбор", 2007. – 88 с. – С. 81-84.

Дзейнасць у якасці куратара і навуковага кіраўніка вучнёўскіх даследчых работ: Аліхвер Ірына, Ракіта Вікторыя "Народна-абрадавая культура Пастаўшчыны" (10 клас, 2015); Куштэль Паліна, Галяш Аліна "Дыялекталагічныя асаблівасці лексікі жыхароў вёскі Гута Пастаўскага раёна" (10 клас, 2017); Касарэўскі Пётр "Тапонімы і мікратапонімы вёскі Гута і навакольных вёсак" (11 клас, 2017)

Адрас для кантактаў: в.Гута, вул.Азёрная, д.9, кв.2.

***Арэх Мікалай Уладзіміравіч,*** педагог, краязнаўца. Нарадзіўся 9 верасня 1971 г. у в. Жоўніца Шаркаўшчынскага раёна. У 1988 г. закончыў Гуцкую СШ і паступіў у Аршанскае педагагічнае вучылішча на спецыяльнасць "настаўнік працы і чарчэння", якое не скончыў, бо быў прызваны ў войска. Служыў на таджыцка-аўганскай мяжы як раз у час развалу СССР. Вярнуўшыся ўжо ў незалежную Беларусь, давучваўся ў Мінскім

індустрыяльна–педагагічным тэхнікуме па спецыяльнасці "настаўнік працы і чарчэння" (скончыў у 1992 г.).

З 1992 па 1993 г. працаваў на шклозаводзе "Гута" слесарам па рамонту пакет-паддонаў, кіроўцам электракара па пагрузцы шклотары. Далейшая працоўная біяграфія звязана з Гуцкай СШ. З 1993 па 1997 г. быў настаўнікам тэхнічнай працы і дапрызыўнай падрыхтоўкі, з 1997 і па сённяшні дзень – настаўнік гісторыі, грамадазнаўства, дапрызыўнай падрыхтоўкі. У 2000 г. скончыў Магілёўскі дзяржаўны ўніверсітэт імя Куляшова (завочна) па спецыяльнасці "настаўнік гісторыі і грамадска-палітычных дысцыплін". Мае вышэйшую кваліфікацыйную катэгорыю. Занесены на раённую Дошку Гонару па выніках працы за 2015 год, узнагароджаны Падзячным лістом Пастаўскага раённага выканаўчага камітэта за дасягненні высокіх вынікаў у навучанні і падрыхтоўцы вучняў да рэспубліканскай алімпіяды (2015), граматай Цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі (2017). Краязнаўчай дзейнасцю заняўся ад пачатку працы ў школе. Штуршком паслужыла творчасць гісторыка Зямчонка І. П. Сабраў матэрыял па гісторыі шклозавода "Гута", вёсак Гута і Голбія.

Сфера інтарэсаў: гісторыя, краязнаўства, педагогіка. Збірае і апрацоўвае матэрыялы па паўночна-усходняй Пастаўшчыне (Галбейскі край). Удзельнік шматлікіх краязнаўчых экспедыцый.

Аўтар і суаўтар пяці краязнаўчых кніг. Стварыў краязнаўчы музей у Гуцкай школе. Цікавіцца літаратурай і паэзіяй, у хвіліны натхнення піша вершы. Актыўны сябар Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы. Жыве ў в. Гута Пастаўскага раёна.

***Здабыткі ў краязнаўстве:***

<u>Кнігі:</u> Гута-Голбія: гісторыка-геаграфічны нарыс Галбейскага краю. – Мн.: "Кнігазбор", 2007. – 88 с. (разам з І. Пракаповічам); Вёсачкі над Заражанкай: Манеўшчына, Харкі, Васілеўшчына, Кейзікі – Паставы: ТБМ, 2013. – 48 с., іл.; Рымкі: вёска на краі вечнасці –

Паставы: ТБМ, 2014. – 76 с.: іл. (разам з І. Пракаповічам); Стары Двор і ваколіцы – Мінск: Каўчэг, 2016. – 128 с., укл. (разам з І. Пракаповічам); Зігзагі лёсу, Полава, Пятровічы. – Мінск: Каўчэг, 2017. – 74 с.

Публікацыі ў газетах: Манеўшчына / М. Арэх // Шыпшына. – 2011. – № 8. – жнів. – С. 5-6; Пра вёску Харкі / М. Арэх // Шыпшына. – 2013. – № 3. – сак. – С. 5-6.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: рэспубліканскі краязнаўчы семінар "Фарміраванне ключавых кампетэнцый навучэнцаў праз арганізацыю краязнаўчай вучэбна-даследчай дзейнасці" (13-15 сакавіка 2017 г.) (даклад "Краязнаўства як сродак развіцця пазнавальнай актыўнасці і патрыятычнага выхавання"); навукова-практычы семінар "Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (20 красавіка 2017, Паставы) (даклад "Краязнаўства Галбейшчыны: здабыткі і перспектывы развіцця")

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: 2010, 24-26 верасня – Экспедыцыя па маршруце Паставы-Янчукі–Заўлічы–Гайдукі–Завараты–Гарадзішча–Янчукі–Паставы (3 дні); З сябрамі пастаўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы з 2011 па 2017 правёў шэраг вандровак па Пастаўскім і Мядзельскім раёнах.

Удзел у стварэнні музеяў: Адзін са стваральнікаў краязнаўчага музея ў Гуцкай СШ.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: З 2011 па 2017 правёў прэзентацыі краязнаўчых кніг у Пастаўскім раёне (раённая і дзіцячая бібліятэкі г. Паставы, Варапаеўская, Парыжская бібліятэкі; Гуцкая, Навадруцкая, Старадворская школы). Браў удзел у праекце "Мой дом – мая Радзіма" у лістападзе 2016 г. у г. Мінску з прэзентацыяй краязнаўства Пастаўшчыны.

Дзейнасць у якасці куратара вучнёўскіх работ: Падрыхтаваў шэраг пераможцаў і прызёраў раённых і абласных алімпіяд па гісторыі: Казаровец Юлія, 11 клас (2012 г., прызёр раённай алімпіяды); Арэх Дзяніс (прызёр раённых і абласных алімпіяд 2014 г., 2015 г., 2016 г., удзельнік рэспубліканскай алімпіяды 2016 г.).

Матэрыялы пра М. Арэха: у кнігах: Півавар, М. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 24.

у перыядычным друку: Б. Лава. Новыя выданні // Наша слова.

– 2013. – 32 ліп.; Латыш, А. Прэзентацыя кнігі “Рымкі” // Пастаўскі край. – 2015. – 17 студз.; Пракаповіч, Г. Імпрэза ў Гуце // Пастаўскі край. – 2015. – 14 сак.; Курыловіч, П. Пастаўшчына – сталіца краязнаўства // Пастаўскі край. – 2016. – 21 снеж.;

Адрас для кантактаў: Пастаўскі раён, в. Гута, вул. Савецкая, д. 77; хатні тэл. 8 (01255) 59-5-21, маб. 8943280 (МТС), e-mail: mikalai.areh.@yandex. by

***Багданаў Уладзімір Анатольевіч***, выдавец, журналіст, краязнаўца, фатограф, калекцыянер. Нарадзіўся 24 кастрычніка 1963 г. у г. Брэсце. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта (1986). Працаваў у шэрагу СМІ (ТАСС/БелТА, газета “Прессбол” і інш.). У 1994 г. заснаваў выдавецтва “Гальфстрым” (зараз выдае рэкламныя часопісы ў сферы транспарту і сельскай гаспадаркі). З таго часу працуе дырэктарам выдавецтва.

Каля 20 гадоў займаецца краязнаўчай дзейнасцю. Найбольш шчыльна вывучае падзеі перыяду Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Беларусі. За час даследавання тэмы сабраў вялікую калекцыю арыгінальных матэрыялаў 1915–1919 гг.: фотахроніка, фотальбомы, дакументальная ваенная літаратура, палкавые гісторыі і інш. Многа разоў праводзіў палявыя даследаванні на Пастаўшчыне, вывучаючы памяткі Першай сусветнай вайны: германскія і расійскія ўмацаванні, могільнікі, чыгункі. Аўтар шматлікіх публікацый на краязнаўчыя тэмы ў розных СМІ Беларусі і інтэрнэт-рэсурсах.

З’яўляецца сябрам гісторыка-культурнага фонду памяці Першай сусветнай вайны “Крокі”. Удзельнік шматлікіх краязнаўчых экспедыцый па Беларусі на працягу 2000–2017 гг.

Жыве ў Мінску.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: По следам Первой мировой войны. Сморгонский район (Минск, 2008);  Битва у Нарочи. 1916. Немецкие источники о русском весеннем наступлении (Нарочская операция). – Брэст: Паліграфіка, 2016 г. (на Мінскім міжнародным кніжным кірмашы при-

знана лепшай кнігай Беларусі 2016 г. у намінацыі “Эўрыка”).

Публікацыі ў перыядычных выданнях: Аўтар шматлікіх публікацый на краязнаўчыя тэмы у розных СМІ Беларусі і інтэрнет-рэсурсах.

Персанальныя выставы: Аўтар шэрагу фотавыстаў (усяго больш за 30), сярод якіх: “На пачатку трэцяга” (архітэктурныя помнікі Беларусі) – 2002, філіял Нацыянальнага мастацкага музея у Гальшанах; “Падмуркі вечнасці” – 2002, Кіеў (Украіна), 2003, Мінск, Нацыянальны мастацкі музей Беларусі; 2004, Беласток (Польша); “Праз 90 гадоў і лінію фронта” (да 90-годдзя пачатку Першай сусветнай вайны) – 2004, Мінск, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі, 2004/2005 – краязнаўчыя музеі ў Магілеве, Гродна, Брэсце, Віцебску, Баранавічах, Смаргоні, Вілейцы і інш.; “Графікі Герман Штрук і Марк Шагал” – 2017, Віцебск, музей Марка Шагала; “Мясцовае насельніцтва” (Жыхары Беларусі на фотаздымках нямецкіх салдат Першай сусветнай вайны) – 2017, Мінск, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі; “Мастакі на вайне” (Беларусь пачатку XX ст. на малюнках салдат Першай сусветнай вайны) – 2017, Мінск, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі; “Замок на передовой” (да 100-годдзя разбурэння Крэўскага замка падчас Першай сусветнай вайны)  – 2017, Мінск, Нацыянальны музей гісторыі і культуры Беларусі.

Удзел у краязнаўчых чытаннях, навуковых канферэнцыях: Удзельнік (з дакладамі) шэрагу навукова-практычных канферэнцый па тэме Першай сусветнай вайны, сярод якіх: “К 90-летию начала военных действий на территории Беларуси” (першая на Беларусі навукова-практычная канферэнцыя па тэме Першай сусветнай вайны) – 2005, в. Заброддзе Вілейскага раёна Мінскай вобл; Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па Першай сусветнай вайне у г. Смаргонь (2007 г., даклад “Стан вайсковых пахаванняў Першай сусветнай вайны на Беларусі”); Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя па Першай сусветнай вайне у г. Паставы (2008 г., даклад “Вайсковыя пахаванні Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне); Міжнародная навуковая канферэнцыя па Першай сусветнай вайне у г. Марыямпаль (Літва) – 2012 г; Міжнародная канферэнцыя “День Примирения. 11.11. 2014”, Мінск – Баранавічы; Круглы стол “Состояние и перспективы изучения и сохранения военно-исторического

наследия Первой мировой войны в Республике Беларусь и Российской Федерации; к 100-летию битвы за Сморгонь» - 2015, Сморгонь; "Вилейка – город воинской славы» (к 100-летию освобождения Вилейки от кайзеровских войск) – 2015; Краязнаўчыя чытанні "100 гадоў ад пачатку ваенных дзеянняў на тэрыторыі Баранавіцкага краю у Першай сусветнай вайне" – 2013, 2014, 2015 гг., Таварыства беларускай мовы (ТБМ) г. Баранавічы; Міжнародная навукова-гістарычная канферэнцыя "Нарацкая аперацыя 1916 г.: гісторыя і сучаснасць" (сакавік 2016 г, Мінск – Мядзельскі раён – Паставы).

Удзел у стварэнні музеяў, экспазіцый: З'яўляецца сябрам гісторыка-культурнага фонду памяці Першай сусветнай вайны "Крокі"; браў удзел у стварэнні экспазіцыі музея Першай сусветнай вайны у в. Заброддзе Вілейскага раёна; вядзе вялікую работу па пошуку і аднаўленню вайсковых могілак Першай сусветнай вайны; перадаў шэраг матэрыялаў у экспазіцыі Пастаўскага краязнаўчага музея.

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: Удзельнік шматлікіх краязнаўчых экспедыцый па Беларусі на працягу 2000 – 2017 гг.; разам з валанцерскім рухам "Западный рубеж" (Паставы) удзельнічаў у пошуку і аднаўленні шэрагу вайсковых могілак Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Мядзельскага і Пастаўскага раёнаў; удзельнік традыцыйных аўтапрабегаў памяці Першай сусветнай вайны па вайсковых могілках і месцах баявых дзеянняў на працягу 2010 – 2017 гг.

Адрас для кантактаў: 220049, г. Мінск, вул. Наўгародская, 9-51. Тэл. + 375 29 6121222, e-mail: vb@gulfstream.by

***Баравік Нэля Аляксандраўна***, гісторык, архівіст. Нарадзілася 3 ліпеня 1975 г. у в. Пачопы Краснапольскага раёна Магілёўскай вобласці. Закончыла СШ № 1 г. Паставы, Полацкі дзяржаўны ўніверсітэт, фінансава-эканамічны факультэт (1996). Прайшла прафесійную перападрыхтоўку ў Дзяржаўнай установе "Усерасійскі навукова-даследчы інстытут дакументазнаўства і архіўнай справы" (г. Масква, 2009).

Працавала бухгалтарам, начальнікам бюро Віцебскага завода радыёдэталяў вытворчага аб'яднання "Маналіт" (1996-1998), бухгалтарам Пастаўскага РК БПСМ (1998-1999),

загадчыцай архівасховішчам, вядучым архівістам, галоўным бухгалтарам установы "Занальны дзяржаўны архіў у г. Глыбокае" (1999-2007), з 2007 г. і па сённяшні дзень – дырэктар установы "Занальны дзяржаўны архіў у г. Глыбокае".

Дэпутат Глыбоцкага раённага Савета дэпутатаў 27 склікання па Школьнай выбарчай акрузе № 14.

Асноўным накірункам краязнаўчай дзейнасці з'яўляецца архіўная спадчына па гісторыі заходняга рэгіёну Віцебшчыны. Найбольш значныя здабыткі: выяўленне, сістэматызацыя, укладанне і выданне архіўных дакументаў перыяду 1944-1950 гг.

Краязнаўча-архіўная дзейнасць Н. Баравік адзначана ўзнагародамі: Ганаровая грамата галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама за вялікі ўклад у выдавецкую дзейнасць архіўнай службы, занесена на Дошку гонару галоўнага ўпраўлення юстыцыі Віцебскага аблвыканкама (2010); Ганаровая грамата прэзідыума Рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў дзяржаўных і іншых установ за развіццё і ўмацаванне сацыяльнага партнёрства, плённую грамадскую дзейнасць (2013); Падзяка і Ганаровая грамата Глыбоцкага райвыканкама за шматгадовую добрасумленную працу па захаванні і выкарыстанні архіўнай спадчыны Глыбоцкага раёна, высокае прафесійнае майстэрства (2013); намінант на прысваенне ганаровага звання "Чалавек года Віцебшчыны" па прадстаўленні Глыбоцкага райвыканкама (2014); Ганаровая грамата Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь за плённую працу па захаванні і выкарыстанні архіўнай спадчыны Віцебшчыны (2015). Жыве ў г. Глыбокае.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

<u>Кнігі:</u> Баравік Н. з'яўляецца укладальнікам кніг і даведнікаў: Краткий справочник по фондам учреждения Зональный государственный архив в г. Глубокое" – Глубокое, 2009. – 248 с. (даведнік); Послевоенное развитие Глубокского района: 1944-1950 гг. Документы и материалы. – Мн.: Медисонт, 2010. – 424 с. (навуковае выданне); Послевоенное восстановление системы народного образования

в Браславском, Докшицком, Глубокском, Миорском, Поставском, Шарковщинском районах (1944-1950 гг.). – Мн.: Медисонт, 2012. – 420 с. (навуковае выданне); Культурно-просветительная работа на территории западного региона Витебщины (1944-1950 гг.): док. и материалы. – Мн.: Колорград, 2016. – 302 с. (даведачнае выданне); Хранители исторического наследия. Учреждение “Зональный государственный архив в г. Глубокое: 1963-2013 гг. – Мн.: Медисонт, 2013. – 98 с. (навукова-папулярнае выданне); Географический указатель к похозяйственным книгам. В 3 ч. Ч. 1. Список населенных пунктов Глубокского, Дуниловичского, Плисского, Поставского районов (1944 – 2006 гг.). – Мн.: Медисонт, 2013. – 422 с. (даведачнае выданне).

Публікацыі ў кнігах, зборніках: Учреждение Зональный государственный архив в г. Глубокое: хранители местной истории // Витебщина архивная в начале XXI века: связь времен. – Витебск: Витеб. обл. тип., 2008. – 192 с.: фот. – С. 142-144; Гістарычная даведка аб рабоце Глыбоцкага раеннага камітэта прафесійнага саюза працаўнікоў дзяржаўных устаноў за 1963-1971 гады // Глыбоччына: ад старажытнасці да сучаснасці. – Мінск: Беларус. Энцыкл. імя П. Броўкі, 2009. – 735 с. – С. 608-610; Он общался с нами, как с равными... // Вдохновенный хранитель времени. – Витебск: Витеб. обл. тип., 2013. – 96 с.: ил. – С. 81-82.

Артыкулы ў часопісах, бюлетэнях і іншых выданнях: Хроніка падзей Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Браслаўскага раёна // Браслаўская звязда. – 2009. – № 35. – 8 мая; Хроніка падзей Вялікай Айчыннай вайны на тэрыторыі Шаркаўшчынскага раёна // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). – 2009. – № 52. – 2 ліп.; К 60-летию со дня рождения Молчун Лидии Аркадьевны // Беларускі археаграфічны штогоднік. – 2009. – № 10. – С. 282-284); У истоков лесной науки на Глубоччине // Веснік Глыбоччыны. – 2010. – № 33. – 28 крас.; Информационное использование похозяйственных книг: глубокский опыт // Архивы и делопроизводство. – 2011. – № 3 (75); Работа архивистов с учреждениями здравоохранения: глубокский опыт // Архивы и делопроизводство. – 2011. – № 4 (76); Было ў Паставах педагагічнае вучылішча // ПК. – 2012. – № 55. – 11 ліп.; Памнажаем працоўную славу краю. 1952 год: старонкі гісторыі ў жыцці горада і раёна // Веснік Глыбоччыны. – 2012. – № 52. – 30 чэрв.; У

архіве афармлена выстава кніг // Веснік Глыбоччыны. – 2012. – № 61. – 1 жн.; Новая кніга аб гісторыі адукацыі ў нашым краі // Вольнае Глыбокае. – 2012. – № 39 (651). – 27 вер.; Об издании сборника документов “Послевоенное восстановление системы народного образования в Браславском, Докшицком, Глубокском, Миорском, Поставском, Шарковщинском районах (1944-1950 гг.)” // Архивы и делопроизводство. – 2012. – № 5 (83). – С. 7-8, 11-12; Военные комиссариаты на территории Дисненского уезда в 1918-1920 годах // Вольнае Глыбокае. – 2013. – № 17 (681). – 25 крас.; Как в начале прошлого века писчую бумагу берегли // Веснік Глыбоччыны. – 2013. – № 38. – 11 мая; Год 1953 в истории города и района // Веснік Глыбоччыны. – 2013. – № 39. – 15 мая; новостная информация о завершении работ по составлению самостоятельного архивного справочника в электронном виде – географического указателя к похозяйственным книгам // Архивы и делопроизводство. – 2013. – № 3 (87); предисловие к географическому указателю к похозяйственным книгам // Архивы и делопроизводство. – 2013. – № 4 (88); Экономия бумаги: как это делали раньше // Архивы и делопроизводство. – 2013. – № 5 (89); Пасляваенны час, адукацыя для ўсіх (пра зборнік “Послевоенное развитие системы образования”) // Краязнаўчая газета. – 2013. – № 93 (482); Браслаўскі павятовы ваенны камісарыят у 1919 г. // Вольнае Глыбокае. – 2014. – № 10. – 6 сак.; На варце правапарадку. З гісторыі Дзісненскай павятовай паліцыі (люты-лістапад 1918 г.), Дзісненскай павятовай міліцыі (1918-1919 гг.) // Вольнае Глыбокае. – 2014. – № 11. – 13 сак.; Создание объединенных архивных фондов из документов ликвидированных сельскохозяйственных артелей: глубокский опыт // Архивы и делопроизводство. – 2014. – № 2 (92); Вытокі скаўцкага руху на Дзісеншчыне // Вольнае Глыбокае. – 2015. – № 5. – 29 студз.; Глубокские архивисты пополнили архивохранилище интересными документами. // Архивы и делопроизводство. – 2015. – № 1 (97); Правядзенне семінара архівістаў Віцебскай вобл. // Архивы и делопроизводство. – 2015. – № 6 (102); Шаркоўшчынскі раён у 1944-1946 гадах // Вольнае Глыбокае. – 2015. – № 38. – 17 вер.; Проведение информационных мероприятий с использованием архивных документов: глубокский опыт // Архивы и делопроизводство. – 2016. – № 2 (104); Об издании сборника архивных документов “Культурно-просветительная работа на территории западного

региона Витебщины (1944-1950 гг.)" // Архивы и делопроизводство. – 2016. – № 6 (108); З гісторыі развіцця райаддзелаў кінафікацыі (1945-1950 гг.) // Вольнае Глыбокае. – 2016. – № 45. – 10 ліст.; Об истории развития финансовой системы на Дисненщине в 1918-1919 гг. // Вольнае Глыбокае. – 2017. – № 16. – 20 крас.; Трудом прославляли Глубокский наш край // Веснік Глыбоччыны. – 2017. – № 34. – 29 крас.

Удзел у канферэнцыях: краязнаўчая канферэнцыя да 600-годдзя г. Глыбокае (3 ліпеня 2014, Глыбокае) (даклад "Фонды зонального государственного архива в г. Глубокое как источник по изучению истории Глубокского района").

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: удзел у акцыі "Чытаем "Новую зямлю" разам" у рамках святкавання 130-годдзя з дня нараджэння Я. Коласа (2012); у праекце "Паэтычная Глыбоччына" (прысвечаны 600-годдзю г. Глыбокае, 2014); у Летняй школе архівістаў краін СНД (г. Алматы, Рэспубліка Казахстан, чэрвень 2017 г.).

Матэрыялы пра Н. А. Баравік: Жураўлеў, С. Архіў – мой лёс! // Веснік Глыбоччыны. – 2007. – 6 кастр.; Берникович, Д. Работа с документами – не скучное занятие // Народнае слова. – 2012. – 6 кастр.; Бондарава, А. З архіўных паліц – у друк // Народнае слова. – 2012. – 15 вер.; Сутула, Г. Архівісты краін СНД сабраліся ў Казахстане // Веснік Глыбоччыны. – 2017. – 15 ліп.; Анкета Н. А. Баравік 17.07.2017 // Архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: г. Глыбокае, вул. Леніна, д. 135А, кв. 14; тэл. маб. 8 029 5969664, тэл. хатні 8 02156 52865.

***Баразна Павел Мікалаевіч***, студэнт. Нарадзіўся 9 верасня 1997 г. ў г.Паставы. Закончыў пастаўскую гімназію і мастацкую школу імя А. Ромера. Студэнт фармацэўтычнага факультэта Віцебскага медыцынскага інстытута.

Падчас вучобы ў гімназіі ўдзельнічаў у раённых конкурсах (канферэнцыях) даследчых работ школьнікаў, выступаў з дакладамі па тэмах "Гісторыя каталіцкай царквы ў Беларусі", "Беларускія сацыяльныя сеткі" (дыплом II ступені). Прызёр раённых алімпіяд па біялогіі і англійскай мове.

Суаўтар даведніка “Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021” (разам з І. М. Пракаповічам) (2012).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021. – Паставы, ТБМ-УП “Пастаўская друкарня”, 2012. – 60 с. (разам з І. Пракаповічам).

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях, экспедыцыях: удзельнічаў у шэрагу краязнаўчых экспедыцый гуртка “Terra incognita” (кіраўнік І. Пракаповіч), у тым ліку ў двухдзённай Чарняты-Варанец-Чэцверць-Яцавічы-Загачча (21-22.04.12) і трохдзённай Рамелькі-Кашыцы-Дзеравянкі-Сарочына-Манькавічы (18-20.09.2013). Выступаў з дакладам і прэзентацыяй “Вывучэнне германскіх умацаванняў 1 сусветнай вайны каля возера Задзеўскае” (разам з П. Гукавым) на раённай канферэнцыі, прысвечанай падзеям І Сусветнай вайны (лістапад, 2014).

Удзел у стварэнні фільмаў, спектакляў, вечарын і іншых творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: Удзельнічаў у прэзентацыі кнігі “Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна…” ў пастаўскай бібліятэцы (25.05.2012).

***Бумбліс Мар’ян Антонавіч***, пенсіянер, грамадскі дзеяч, актывіст польскага руху. Нарадзіўся ў 1926 г. у в. Рыбчаны Пастаўскага павета. Вучыўся ў вясковай школе. З дзіцячых успамінаў асабліва ярка запомнілася 1,5-месячная экскурсія ў Вільню, Варшаву, Кракаў і іншыя прыгожыя мясціны тагачаснай Рэчы Паспалітай. Пасля вайны спачатку асвойваў прафесію шаўца, а потым, пасля службы ў войску, 35 гадоў працаваў кіроўцам аўтобуса.

Мэтай свайго жыцця абраў вяртанне духоўных сімвалаў роднай Пастаўшчыны. Ім асабіста і з дапамогай людзей усталяваны надмагільныя бетонныя крыжы на пахаваннях польскіх вайскоўцаў у Паставах, Дунілавічах, Бураках, на магілах ксяндзоў у Паставах і Задзеўі, на месцы расстрэлу польскіх партызан брыгады Кміціца ў Нарацкім лесе, 6-мятровы бетонны крыж каля ўласнай хаты ў Паставах.

М. Бумбліс быў арганізатарам акцыі па вяртанні касцёла св. Антонія Падуанскага вернікам (раней там размяшчаўся завод радыёкампанентаў). З крыжам сотні чалавек збіраліся каля агароджы бажніцы, маліліся. “Агітатар і правакатар” М. Бумбліс неаднаразова затрымліваўся міліцыяй, атрымліваў немалыя штрафы: і па 50 рублёў, і па 100. Даводзілася ездзіць са скаргамі да ўпаўнаважаных па справе рэлігіі і ў Мінск, і ў Маскву. У 1989 годзе касцёл Антонія Падуанскага быў вернуты вернікам і наноў асвечаны.

Калі даведаўся, што польскі ўрад выплочвае спецыяльныя фінансавыя дапамогі польскім ветэранам, якія жывуць у краінах былога Савецкага Саюза, то заняўся пошукамі салдат Войска Польскага. Адшукаў некалькі сотняў чалавек, якім былі налічаны пенсіі з Польшчы.

М. Бумбліс узнагароджаны медалём Міністэрства культуры Польшчы, пра яго зняты дакуменальны фільм. Піша вершы па-польску і па-беларуску, якія друкаваліся ў альманаху “Рунь”, мясцовых выданнях.

***Быхавец Іосіф Аляксандравіч*** (23.12. 1915 (5.01. 1916), в. Дрэтунь – ?), краязнаўца, педагог. Скончыў Полацкую сямігодку імя Я. Купалы, Полацкае педвучылішча, лінгвістычны факультэт Магілёўскага педагагічнага інстытута (1940). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Юравіцкай НСШ (1936–1940), завучам СШ № 11 г. Полацка, дырэктарам Камайскай НСШ Пастаўскага раёна (1940–22.06. 1941), завучам Лынтупскай НСШ (5.07. 1945–19.11.1946), дырэктарам Камайскай НСШ (20.11.1946–08.1952), завучам, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры ў Лынтупскай СШ (1952–1981). Жыў у Лынтупах (1952–1979).

Краязнаўствам пачаў займацца, працуючы ў школе. Лынтупская школа мела рускую мову навучання, і дзеля таго, каб зацікавіць вучняў беларускай мовай, пачаў знаёміць дзяцей з творчасцю і жыццёвым шляхам пісьменнікаў, з родным кра-

ем, гісторыяй Беларусі. Склаў і выдаў летапіс Лынтупаў (1967, 1972). Вынікі краязнаўчай працы па вывучэнні Лынтупаў падсумаваў у кнізе “Лынтупы і наваколле” (1993). Частка матэрыялаў змешчана ў кнізе “Памяць. Пастаўскі раён”. У кнізе “Сеяць душы ў людзях” (2003) аналізуе ўласны вопыт выкладання беларускай літаратуры і мовы, эпізоды з школьнага жыцця, развагі пра дасягненні і хібы педагогікі. Аўтар шэрагу артыкулаў на краязнаўчую тэматыку ў рэспубліканскім і мясцовым перыядычным друку. Працаваў пазаштатным карэспандэнтам выданняў “Роднае слова”, “Настаўніцкая газета”, “Пастаўскі край”. Публікаваў артыкулы ў ”ЛіМе”, “Звяздзе”, “Чырвонай Полаччыне”. Браў удзел у арганізацыі краязнаўчых экскурсій. Выдаваў рукапісныя часопісы “Героі жывуць сярод нас”, “Нашы ардэнаносцы”, “Наша радзіма – Беларусь”. Некаторыя нарысы з іх друкаваліся ў раённай газеце.

Падтрымліваў кантакты з краязнаўцамі г. Швянчёніс (Літва), Полацкім, Пастаўскім краязнаўчымі музеямі. Браў удзел у краязнаўчых канферэнцыях ў Паставах, Полацку. Узнагароджаны ганаровымі граматамі Пастаўскага РК КПБ(б), Маладзечанскага АблАНА, Міністэрства Асветы БССР.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Лынтупы і наваколле. Гістарычны нарыс. – Паставы: ТБМ, Пастаўская ўзбуйнёная друкарня, 1993. – 84 с.

Артыкулы ў кнігах, зборніках: Вайна 1812 г. Французы на Пастаўшчыне // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.: БелТА, 2001. – С. 99–100; Вінакурэнне і барацьба з ім // Тамсама. – С. 100–102; Паданні пра дзівацтвы пастаўскіх шляхціцаў // Тамсама. – С. 544–546; Сляды выдатных людзей на захадзе нашай вобласці // Зб. Полацкага занальнага архіва (Матэр. навук. гіст.-краязн. канф., Полацк, 18-19. 05. 2001). – Полацк, 2001. – 84 с. – С. 14-16.

Артыкулы ў перыядычным друку: Улік мясцовых гаворак // ЛіМ. – 1954; Больш увагі школе // НГ. – 1958. – 15.10.; Атэістычнае выхаванне на ўроках літаратуры // Народная Асвета. – 1964 – № 12; Да самых карэнняў // Звязда (П). – 1966. – 4.05.; Па шляхах герояў

// Звязда (П). – 1966. – 19.08.; Шчасце заваёвана ў змаганні // Звязда (П). – 1967. – 15.07; Унікальная знаходка [Плакат з У.І. Леніным] // Звязда (П). – 1970; Удмурт і беларус – браты // Звязда (П). – 1971. – 17.07.; Інтэрнацыянальнае выхаванне на ўроках літаратуры // Савецкая школа. – 1971. – № 10; Ардэнаносцы Лынтупшчыны // Звязда (П). – 1974. – 25.05.; Заўсёды з намі // Звязда (П). – 1974. – 29.06.; Не губляць набытае // ЛіМ. – 1975. – 2.09.; Хай удзячна будзе памяць // Звязда (П). – 1981. – 7.05.; Лёс трох пакаленняў // Звязда (П). – 1985. – 25.04.; Лынтупскія курганы // Звязда (П). – 1986. – № 155. – С. 4; Залаты корань // Звязда (П). – 1988. – 19.11.; Куды не кінь // Бел. мова і літаратура. – 1988. – № 10; Наш абавязак // Звязда (П). – 1988. – 9.11.; Пімен Панчанка: Тэмы пісьмовых работ (Х клас). – 1989. – Роднае слова. – № 7. – С. 46; Пімен Панчанка: Тэмы пісьмовых работ (Х клас). – 1989. – Роднае слова. – № 9. – С. 51. Не ўсё прадумана да канца // Звязда (П). – 1990. – 13.01.; Мяняюцца Лынтупы // Звязда (П). – 1990. – 20.02.; Канферэнцыя ў Мінску // Звязда (П). – 1990. – 19.05.; Каб ажыў заштампаваны вобраз// Звязда (П). – 1990. – 14.06.; З жартам і ўсур'ёз // Звязда (П). – 1990. – 24.12.; Ці можна абяліць чорнае? // Звязда. – 1990. – 25.07.; Толькі два гуляхі // Звязда (П). – 1991. – 21.04.; Лынтупская трагедыя і яе трактоўка // Звязда (П). – 1991. – 25.06.; (разам з Барсток М.) Недапетая песня [Лясовіч Т.] // ВР. – 1991. – № 176. – С. 2; На пачатку стагоддзя // ПК. – 1991. – № 88. – С. 2; Лынтупы // ПК. – 1991. – №№ 101–104; Беларускі дудар // РС. – 1991. – № 7; "Хачу, арлы, ляцець з вамі" // Роднае слова. – 1992. – № 10; "Мужыцкая праўда" на Пастаўчышне // Сумежжа. – 1992. – № 7. – С. 3; Паўстанне Т. Касцюшкі ў нашым раёне // ПК. – 1994. – № 19, 20. – С. 2; Патоп на гары // ПК. – 1994. – № 30. – С. 2; Лынтупская трагедыя і яе трактоўка // ПК. – 1994. – № 41. – С. 3.

Матэрыялы пра І. Быхаўца ў друку: Карлюкевіч А. Выдадзена ў правінцыі [Лынтупы] // Спадчына. – 1993. – № 6. – С. 93–94; Каханоўскі Г. Лынтупы і наваколлі // Спадчына. – 1993. – № 12; Першая кніга пра Лынтупы // ПК. – 1993. – № 90. – С. 2; Шпакоўская Г. Хроніка Быхаўца // НС. – 2007. – 12.05. – С. 5–6; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 50; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с.: іл. – С. 196.

***Бялкоў Сяргей Мікалаевіч***, майстар спорту па турызму, збіральнік матэрыялаў пра родны край. Нарадзіўся 19 жніўня 1954 г. у в. Стары Двор Пастаўскага раёна. Закончыў Старадворскую васьмігадовую школу, потым 9-10 класы Варапаеўскай сярэдняй школы. З 1 верасня 1971 па лістапад 1972 года працаваў настаўнікам фізічнай культуры Старадворскай школы. З лістапада 1972 па лістапад 1974 г. служыў танкістам механікам-кіроўцам у Чырванасцяжнай Беларускай ваеннай акрузе. Са студзеня 1975 па лістапад зноў працаваў настаўнікам фізічнай культуры Старадворскай школы. Затым са снежня 1975 па чэрвень 1980 вучыўся ў Беларускім інстытуце фізічный культуры ў групе арганізацыі і кіравання фізічнай культуры і спорту. З 1980 па 1983 год быў старшым інжынерам па фізкультурна-аздараўленчай рабоце жыллёва-камунальнай гаспадаркі Маладзечненскага гарвыканкама. З 1983 г. працаваў інструктарам, потым дырэктарам Маладзечненскага турысцкага клуба "Пілігрым". Цяпер на пенсіі, працуе старшым інструктарам-метадыстам Маладзечненскага спартыўнага клуба "Агеньчык".

У 1994 годзе выканаў нарматыў майстра спорту РБ па спартыўнаму турызму. У 2002 годзе ўзнагароджаны ганаровым знакам "За развіццё фізічнай культуры Рэспублікі Беларусь". Звесткі пра С. Бялкова змешчаны ў даведніку "Хто ёсць Хто ў Рэспубліцы Беларусь. Спорт" (Энцыклапедыя, Мінск, 1999 г).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Публікацыі ў кнізе: Арэх, М., Пракаповіч, І. Стары Двор і ваколіцы – Мінск: Каўчэг, 2016. – 128 с. (С. Бялкоў – С. 44-45, 57-59, 90-92, 112-113).

Публікацыя ў часопісе: Семейный велопоход по белорусскому Поозерью // Падарожнік. – 1998. – №11 (35). – С. 27-31.

Публікацыі ў рэспубліканскіх, абласных і мясцовых газетах: Скупыя фарбы Хібін // Святло камунізма (Маладзечна). – 1982. – 30 сак.; У гарах Паміра // Святло камунізма. – 1982. – 12 ліст.; Что увидели в походе // Приборостроитель. – 1983. – 29 вер.; Алтайские

восхождения // Приборостроитель. – 1985. – 10 студз.; Дела и заботы “Пилигрима” // Физкультурник Белоруссии. – 1985. – 1 чэрв.; Эта сказка “Домбай” // Знамя юности. – 1985. – 24 кастр.; На радзіме паэта // Святло камунізма (Маладзечна). – 1988. – 26 кастр.; А вы каштавалі яблык “Памяць Сікоры”? // Турызм і адпачынак. – 1996. – 24 студз. – 8 лют.; Мы, дзеці і горы // Турызм і адпачынак. – 1997. – №42. – снеж.; Гісторыя адной вандроўкі, альбо як знікла прыгожая назва // Рэгіянальная газета. – 1998. – 6-12 сак.; Маршрут выхаднога дня // Рэгіянальная газета. – 2001. – 15 чэрв.; Алёхнавічы-Пушнікі-Радашкавічы-Вязынка // Рэгіянальная газета. – 2002. – 5 крас.; На день рождения к Огинскому // Зорька. – 2002. – 19 кастр.; У Міхайлаўскае да Пушкіна // Рэгіянальная газета. – 2003. – 29 жн.; Дуб-волат // Рэгіянальная газета. – 2003. – 14 сак.; На велосипед – да в Париж // Зорька. – 2007. – вер.

Удзел у экспедыцыях, паходах: усяго ў паходах правёў 772 дні, пераадолеў 26056 кіламетраў; асноўныя экспедыцыі па Пастаўшчыне: 2015, ліпень: Стары Двор-Старадворскае лясніцтва (экалагічная сцежка)-Слабада-Навасёлкі-Чашкоўшына-Стары Двор (1 дзень, роварная); 2016, лета: Стары Двор-Вялікі валун Старадворскі-былы хутар Іванова-былы прыпыначны пункт “Жафарава”-Чортаў камень-Стары Двор (1 дзень, пешаходная); 2017, лета: Стары Двор-Круткі (“Куцухаў камень”)-Лучай-“Салаўіны гай”-Дунілавічы-Варапаева-Стары Двор (1 дзень, роварная) (па гэтым маршруце звыш 10 разоў з рознымі групамі)

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: пастаянна аказвае дапамогу музею 1-ай сусветнай вайны ў в. Заброддзе Вілейскага раёна (стваральнік і кіраўнік Б. Б. Цітовіч): штогод напярэдадні 9 мая удзельнічае ў суботніках па добраўпарадкаванні, праводзіў апытанне мясцовых жыхароў, перадаў у музей аўстрыйскі штык часоў 1-ай сусветнай вайны.

Матэрыялы пра С. Бялкова: Хто ёсць Хто ў Рэспубліцы Беларусь. Спорт. – Мінск: Энцыклапедыя, 1999; Арэх, М., Пракаповіч, І. Стары Двор і ваколіцы. – Мінск: Каўчэг, 2016. – 128 с. – С. 127, 133; Крупянькова, А. У кожнага свой Эльбрус // Маладз. газета. – 2017. – 30 вер.; Анкета С. Бялкова 19.10.2017 // Архіў І. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: 222310, Маладзечна, вул. Л. Талстога, д. 12, кв. 9; тэл. маб.: +375295086967.

***Вансовіч Анастасія Алегаўна***, медыцынскі работнік, краязнаўца. Нарадзілася 29 жніўня 1986 г. у Паставах. Скончыла СШ № 1, Экалагічны ўніверсітэт імя А. Сахарава. Працуе ў цэнтральнай раённай бальніцы г. Паставы.

У школьныя гады брала ўдзел у краязнаўчым руху, з'яўлялася членам школьнага краязнаўчага таварыства "Ювента", удзельнічала ў шэрагу краязнаўчых экспедыцый. Аўтар даследчых прац: "А.С. Юркевіч – навуковец з Пастаўшчыны", "Экалагічная характарыстыка горада Паставы. Складанне экалагічнага пашпарта горада" (навуковы кіраўнік І. Пракаповіч). Суаўтар кнігі "Манькавічы" (разам з І. Пракаповічам і І. Заяц), прысвечанай былому мястэчку на Пастаўшчыне.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: І. Заяц, А. Вансовіч, І. Пракаповіч. Манькавічы: гісторыка-геаграфічны нарыс. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2004. – 60 с.

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: падчас вучобы ў СШ №1 у 2001-2003 гг. удзельнічала ў экспедыцыях навуковага краязнаўчага таварыства "Ювента" пад кіраўніцтвам І. Пракаповіча.

Матэрыялы пра А. Вансовіч у друку: Сідарэвіч А. Выдадзена ў Паставах // Наша Ніва. – 2005. – № 29, 5 жніўня. – С. 8; Далідовіч Г. Манькавічы // КГ. – 2005, жнівень. – № 31–32. – С. 8. Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с.

***Венгура Алеся Сяргееўна***, студэнтка. Нарадзілася 10 лютага 1993 г. у г.п. Варапаева Пастаўскага раёна. У 2003 г. сям'я пераехала ў г. Мінск, але для дзяўчыны вельмі важнай і дарагой заставалася яе маленькая радзіма. Таму тэмай навуковай працы ў 2006 г. яна выбрала жыццё і творчасць У. Дубоўкі, выступала з дакладам "Абаронца праўды, прагажосці зямлі беларускай" на мінскай гарадской навукова–практычнай канферэнцыі.

Самы любімы прадмет у школе – беларускай мова і літаратура. Алеся неаднаразова брала ўдзел у раённых алімпія-

дах па беларускай мове і заўсёды ўваходзіла ў першую тройку дыпламантаў. Напісала некалькі вершаў на беларускай мове. Цікавілася і цікавіцца зараз гісторыяй свайго роду, гісторыяй родных мясцін.

У 2010 годзе паступіла на лячэбны факультэт Беларускага дзяржаўнага медыцынскага ўніверсітэта, які закончыла ў 2016 годзе. Зараз працягвае вучобу ў Варшаве.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Ясюкі – вёсачка над азёрамі /А. Венгура, Г. Венгура, А. Латыш. – Паставы: Сумежжа, 2016. – 48 с.

Даследчая праца: "Абаронца праўды, прагажосці зямлі беларускай" (Жыццё і творчасць У. Дубоўкі), 2006.

***Венгура (Гінько) Ганна Лявонаўна***, педагог. Нарадзілася 2 жніўня 1966 г. у в. Ясюкі Пастаўскага. Акрамя сярэдняй школы, вучылася адначасова ў дзіцячай музычнай школе і наведвала секцыю па валейболе.

У 1984 г. паступіла ў Беларускі дзяржаўны інстытут фізкультуры. Скончыўшы ВУЗ, з 1988 па 1994 г. працавала выкладчыкам фізічнай культуры ў СШ № 3 г. Паставы, з 1994 па 2003 г. – у Варапаеўскай СШ.

З 2003 года жыве ў г. Мінску, працуе выкладчыкам фізічнай культуры спартыўна–тэхнічнага факультэта БНТУ.

Цікавілася і цікавіцца зараз гісторыяй свайго роду, гісторыяй жыцця землякоў, гісторыяй родных мясцін.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Ясюкі – вёсачка над азёрамі /А. Венгура, Г. Венгура, А. Латыш. – Паставы: Сумежжа, 2016. – 48 с.

***Гарбінскі Юрый (Юрась) Уладзіслававіч***, гісторык, літаратуразнаўца, доктар гуманітарных навук. Нарадзіўся 7 сакавіка 1963 г. у в. Камаі Пастаўскага раёна. Скончыў Камайскую сярэднюю школу, філалагічны факультэт (1984) і аспірантуру Мінскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута, вучыўся ў ВНУ Кракава і Варшавы. Доктарскую дысертацыю абараніў у

Варшаўскім універсітэце (1997). Працаваў настаўнікам у школах Пастаўскага раёна (1984-1988), выкладчыкам БДПУ (1993). Навуковы супрацоўнік Польскай акадэміі навук і ад 2003 г. Беларускага інстытута навукі і мастацтва ў Нью-Ёрку.

Займаўся даследваннем жыццёвага і творчага шляху Алеся Гаруна, вывучэннем беларускага хрысціянскага руху, гісторыі беларуска-польскіх культурных і літаратурных узаемаадносін і кантактаў.

Склаў анталогію "Беларуская думка XX стагоддзя", даведнік "Беларускія рэлігійныя дзеячы XX стагоддзя"; укладальнік, аўтар прадмовы і каментарыяў да кнігі "Мікалай Лапіцкі: У служэньні Богу й Беларусі" (разам з В. Кіпелем). Аўтар і каардынатар серыі "Гісторыя беларускага рэлігійнага жыцця". Адзін з аўтараў кнігі "Вяртання маўклівая споведзь", сааўтар (разам з Ю. Туронкам) і навуковы рэдактар біяграфічна-бібліяграфічнага слоўніка "Беларускі хрысціянскі рух XX ст." (2003).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Вяртання маўклівая споведзь: Постаці творцаў беларускай гісторыі ў кантэксце часу. – Мн., 1994.; Беларуская думка XX стагоддзя: Філасофія, рэлігія, культура. – Варшава, 1998; Беларускія рэлігійныя дзеячы XX ст.: Жыццярысы, мартыралогія, успаміны / аўт.-уклад. Ю. Гарбінскі. – Менск-Мюнхен: Беларускі кнігазбор, 1999. – 752 с.; У служэньні Богу й Беларусі / укладаньне, прадмова, каментары Юры Гарбінскі. – Нью Ёрк-Варшава, Беларускі Інстытут Навукі й Мастацтва, Інстытут Славістыкі Польскай Акадэміі Навук, 2005. – 672 с.

Публікацыя ў кнізе: Гарбінскі, Ю. Рэлігійныя выданні беларускай дыяспары на Захадзе (1945-2000) / Юрась Гарбінскі // Новае слова ў беларусістыцы : гісторыя і культуралогія : матэрыялы V Міжнароднага кангрэса беларусістаў «Новае слова ў беларусістыцы», Мінск, 20-21 мая 2010 года. – Мінск : Четыре четверти, 2012. – С. 184-191.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях, экспедыцыях: удзельнічаў у экспедыцыях па мясцінах жыцця і дзейнасці А. Гаруна (90-я гады); займаўся пошукам архіўных матэрыялаў пра вязняў са-

вецкага ГУЛАГу — а. архімандрыта Андрэя Цікоту і кс. Адама Станкевіча (Іркуцкая вобласць, 2012); у экспедыцыях па родным краі, у тым ліку: Лужкі (2009, разам з І. Пракаповічам); па яўрэйскіх мемарыялах Мядзела, Свіры, Пастаў, Дунілавічаў, Кабыльніка (трохдзённая)(2014, разам з Л. Смілавіцкім (Ізраіль) і І. Пракаповічам).

Мемарыяльная дзейнасць: арганізатар (разам з кс. Яцэкам Хутманам (Камаі)) аднаўлення і ўпарадкавання яўрэйскага могільніка каля в. Камаі (2012).

Публікацыі пра Ю. Гарбінскага: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с., 8 (л.) іл. – Беларусь літаратурная; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы  XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с.; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с.: іл. – С. 234-235; Пракаповіч, І. Адноўленая памяць // Пастаўскі край. – 2012. – 19 вер.

***Гарбуль Алесь (Аляксандр) Васільевіч***, краязнаўца, пісьменнік, кіраўнік навуковай лабараторыі “Даследаванне археалагічных артэфактаў Беларусі” у секцыі Міжнароднай Акадэміі Інфармацыйных Тэхналогіяў (МАІТ).  Нарадзіўся 17 кастрычніка 1960 года ў г. Роўна, УССР. Дзяцінства і юнацтва правёў на радзіме маці, на Лынтупшчыне. Закончыў Лынтупскую сярэднюю школу, школу тэхнікаў падводнага плавання імя С. Кірава ў Ленінградзе з чырвоным дыпломам. Служыў мічманам на падводных лодках Ціхаакіянскага флоту. Пасля вайсковай службы вярнуўся на Пастаўшчыну, працаваў на прадпрыемствах раёна, у Маскве, у Чэхіі.

Даследуе гісторыю і культуру краю, аддаючы перавагу вывучэнню дахрысціянскіх культавых помнікаў. Быў арганізатарам і кіраўніком краязнаўчага клуба “Нальшаны”, у які ўваходзілі вучні Палескай і Лынтупскай СШ. Рэалізаваў шэраг супольных праектаў з супрацоўнікамі НАН Беларусі, навукоўцамі Літвы, Расіі, Германіі. Правёў шмат экспедыцый па тэрыторыі заходняй Пастаўшчыны, сабраў грунтоўны этна-

графічны, гістарычны і фальклорны матэрыял.

Займаецца асветніцка-выдавецкай справай. Выдаваў газету "Беражніца: Лынтупская мястэчковая незалежная газета" (лістапад 2000 – снежань 2001). Выйшла 15 нумароў. Шмат артыкулаў надрукаваў у рэспубліканскіх і мясцовых перыядычных выданнях: "Новы час", "Сумежжа", "Краязнаўцы Паазер'я", "Барвы", "Пастаўскі край", "Веснік Глыбоччыны". Член рэдакцыйнай рады ілюстраванага часопіса краязнаўцаў Паазер'я "Нашы карані", што выдаецца ў Паставах.

Некаторыя артыкулы размешчаны на сайтах westki.info, nn.by, svaboda.org, milinkevich.org, ikeiz.org. Некаторыя артыкулы перакладзены на рускую мову, напрыклад "У пошуках забытых багоў" "Ярга" (г. Масква).

Аўтар чатырох кніг, а таксама тэкстаў песень, вершаваных п'ес і тэатралізаваных пастановак, якія ёсць у рэпертуары гуртоў "Цешча" (Ратамка), "Паазёр'е" (Паставы), народнага тэатра "У пошуку" (Лёзна), дзіцячай музычнай студыі Савецкага раёна г. Мінска, дзіцячага тэатральнага гурта "Мікося" (Ратамка), артыста тэатра і кіно М. Рабычына, барда-афганца Ю. Бельскага і мясцовых выканаўцаў. Супрацоўнічае з кампазітарамі А. Шыла, А. Собалем. Удзельнік I і II Міжнародных літаратурных форумаў "Intermarium" у Каптарунах (жнівень, 2016; жнівень 2017), Міжнароднага Кінафорума / кіналецішча "Хранатоп" (ліпень – жнівень 2016, 2017). Жыве ў г. п. Лынтупы Пастаўскага раёна.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Скарбы сівых валуноў. – Паставы: "Сумежжа", 2002. – 103 с.; Навэлы і апавяданні. – Паставы: "Сумежжа", 2009. – 72 с.; Вершы, санеты і паэмкі. – Паставы: "Сумежжа", 2012. – 68 с.; Рака Лынтупка і мястэчка Лынтупы ў паданнях народа тутэйшага. – Паставы: Сумежжа, 2017. – 32 с.

Артыкулы ў кнігах, зборніках: Гэтыя дзіўныя камяні Пастаўшчыны (разам з Вінакуравым В., Дучыц Л.) // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.: БелТА, 2001. – С. 36–39; Гарбуль А. Паганскія капішчы і дахрысціянскія культавыя

помнікі Пастаўшчыны // Беларускае Падзвінне: вопыт, методыка і вынікі палявых даследванняў (да 80-годдзя пачатку археалагічных раскопак у г. Полацку). Зб. навук. прац рэсп. навук.-прак. семінара. Полацк, 20-21 лістапада 2008 г.; пад агульнай рэд. Д. У. Дука, У. А. Лобача. – Новаполацк: ПДУ, 2009. – С. 178-186; Гарбуль А. Таинственные Лынтупы (пер. с бел А. Шамрук) // Таинственная Беларусь: материалы конф. (г. Минск, 25 января 2015 г.) / Уфоком. – Минск: Регистр, 2015. – С. 65-72.

Артыкулы ў перыядычным друку: Альфрэд Ромер // Звязда (П). – 1990. – № 33. – С. 3; Беларусам – удзельнікам віленскіх падзей // Сумежжа. – 1991. – № 2. – С. 1; Зноў выходзім з акопаў // Сумежжа. – 1991. – № 6. – С. 2; Даруйце і даруюць вам // Сумежжа. – 1992. – № 5. – С. 2; Хто вінаваты і на што разлічваць // Сумежжа. – 1992. – № 6. – С. 2; Ліса і верабей // Сумежжа. – 1992. – № 12. – С. 4; Беларусы не выракаліся Радзімы ніколі // Сумежжа. – 1993. – № 3. – С. 3; У якой рэспубліцы мы жывем // Сумежжа. – 1993. – № 6. – С. 3; Лясны спявак // Сумежжа. – 2000. – № 16. – С. 27; Гэтыя дзіўныя камяні Пастаўшчыны // Краязнаўца Паазер'я. – 2000. – № 8, 9 (разам з Вінакуравым В., Дучыц Л.); Скарбы сівых валуноў // Нашы карані. – 2002. – № 4; – 2003. – № 5. – С. 36–52; У пошуках забытых багоў // Нашы карані. – 2004. – № 15. – С. 43–51; Пракляцце цыганкі, ці закляты рубель // Барвы. – 2004. – № 1. – С. 33–38; Помста прывіду // Барвы. – 2004. – № 2. – С. 7–28; Мокры камень з Цыганскага балота // ПК. – 2006. – № 103–104. – С. 3 (подпіс І. Якян); Легенда аб шляхцічы Сурвіле, альбо гісторыя ўзнікнення аднаго возера // Вольнае Глыбокае. – 2008. – № 30. – С. 6.

Удзел у творчых імпрэзах краязнаўчай тэматыкі: распрацаваў і правёў шмат экскурсій па Лынтупах і наваколлю, удзельнічаў у прэзентацыях краязнаўчых кніг.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях, экспедыцыях: правёў вялікую колькасць індывідуальных і калектыўных экспедыцый па тэрыторыі заходняй Пастаўшчыны, сабраў грунтоўны этнаграфічны, гістарычны і фальклорны матэрыял.

Удзел у стварэнні спектакляў, вечарын і іншых творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: "Камедыя", вершаваны ўступ да тэатралізаванага адкрыцця Віцебскага абласнога фестываля "Тэатральныя далягляды вёскі" (2013, 2015, г. Лёзна); вершаваныя сцэнары Лёз-

ненскага раённага свята вуснай народнай творчасці і самабытнага гумару “З невычэрпнай кайстры Несцеркі” (2012, 2014, 2015, г. Лёзна) (выканаўцы – калектыў Народнага тэатра “У Пошуку” пры ўдзеле мясцовых артыстаў Лёзненскага р-на); Тэатральная музычная святочная пастаноўка “На Каляды” паводле казачна-этнаграфічнай паэмы А. Гарбуля “На Каляды” (муз. – А. Шыла, выканаўца – дзіцячы лялечна-драматычны гурт “Мікося” пад кір. М. Рабычына) (2001- прэм’ера, Ратамскі РДК, Мінская вобл)(2012, народны фальклорна-жартоўны гурт “Цешча”).

Мемарыяльная дзейнасць: аказваў дапамогу мастаку А. Цыркунову ў будаўніцтве брамнай капліцы каля вёскі Радута (Лынтупскі с/с, 2005); будаўніцтве новага помніка на магіле “Невядомага польскага жаўнера” савецка-польскай вайны 1919–1920 гг. на Лынтупскіх могілках (2008); ва ўсталяванні бюста Б. Ялавецкаму на чыгуначнай станцыі Лынтупы (аўтар – скульптар А. Шатэрнік) (5.08.2007).

Дзейнасць у якасці куратара даследчых прац вучняў: Быў арганізатарам і кіраўніком краязнаўчага клуба “Нальшаны”, у які ўваходзілі вучні Палескай і Лынтупскай СШ (1998-2003).

Матэрыялы пра А. Гарбуля: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 70-74, 254; Шатэрнік А. Дзённік // НН. – 2007. – 6 снеж. – С. 23; Лынтупы – 625 // ПК. – 2008; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 73; Пракаповіч, І. Краязнаўцы Пастаўшчыны ў даведніку М. Півавара // Шыпшына. – 2012. – 27 лют. – № 2; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 196-197.

Адрас для кантактаў: 211840, г.п. Лынтупы, вул. Галубкова 100-3, тэл. маб. +375 29 8910291

***Гіль Міхал Нікадзімавіч***, краязнаўца, грамадскі дзеяч. Нарадзіўся 12 кастрычніка 1958 г. у г. Паставы. Скончыў СШ № 1 г. Паставы, аддзяленне механізацыі Гарадоцкага сельскагаспадарчага тэхнікума. Служыў у войсках супрацьпаветранай абароны (Рыга). Працаваў інжынерам матэрыяльна-тэхнічна-

га забеспячэння завода “Беліт” (1981–1999), займаўся агратурызмам.

Актыўна ўдзельнічае ў грамадскім руху. Быў старшынёй Пастаўскай філіі БСДГ (Беларуская сацыял-дэмакратычная Грамада), дэпутатам Пастаўскага гарадскога і раённага Саветаў. Выбіраўся старшынёй Пастаўскай раённай арганізацыі ГА “Таварыства беларускай мовы імя Ф. Скарыны”, членам праўлення Асамблеі недзяржаўных няўрадавых арганізацый. Зараз старшыня Праўлення Пастаўскага раённага грамадскага аб’яднання “Экаагратур”.

Краязнаўчай дзейнасцю займаецца з 1991 года. Даследуе сядзібы і паркі Паазер’я, жыццё Пастаўшчыны ў міжваенны перыяд (1929-1939 гг.), дзейнасць Арміі Краёвай на Паазер’і, жыццёвы лёс ўраджэнцаў Пастаўшчыны. Займаецца перакладамі з польскай мовы кніг і матэрыялаў краязнаўчай накіраванасці пра родную мясцовасць, выдадзеных у канцы XIX – першай палове XX ст.

Браў удзел у экспедыцыях і раскопках на Лынтупшчыне, якія ладзіліся літоўскімі (Вайткавічус) і беларускімі (Зайкоўскі Э.) даследчыкамі.

Аказвае значную падтрымку развіццю краязнаўчага руху ў Заходняй Віцебшчыне, Астравеччыне, Мядзельшчыне. Актыўна займаецца выдавецкай і рэдактарскай дзейнасцю: выданне кніг, газет “Сумежжа” і “Крэсы”, краязнаўчага бюлетэня “Краязнаўца Паазер’я”, ілюстраванага краязнаўчага часопіса “Нашы карані”, літаратурна-культурніцкага часопіса “Барвы”.

***Здабыткі ў краязнаўстве:***

Кнігі: Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Пастаўшчына. – Паставы: “Сумежжа”, 2004. – 79 с.; Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Астравеччына. – Паставы: “Сумежжа”, 2005. – 68 с.; Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Мядзельшчына (разам з Я. Драўніцкім). – Паставы: “Сумежжа”, 2009. – 64 с.

Кніжныя пераклады (з польскай мовы): Жаброўскі Генрык. Манаграфія вёскі Міхнічы і ваколіц у Пастаўскім павеце на Віленшчыне. – Паставы: “Сумежжа”, 2005. – 120 с.; Францішак Сяліцкі.

Даўгінаўска–Будслаўска–Крывіцкі рэгіён на былой Віленшчыне. – Паставы: "Сумежжа", 2009. – 96 с; Яўгеніюш Забела. Беразвечча ў службе Бога і ў моцы дэманаў. – Паставы: "Сумежжа", 2011. – 92 с; Гедэман Отан. Даўнія пушчы і воды. – Паставы: "Сумежжа", 2012. – 96 с.; Гедэман Отан. Глыбокае. – Паставы: "Сумежжа", 2012. – 60 с.; Гедэман Отан. Друя – магдэбургскі горад. – Паставы: "Сумежжа", 2012. – 104 с.; Якубянец-Чаркоўская Яніна. Паўстанне 1863 года ў Свянцянскім павеце. – Паставы: "Сумежжа", 2013. – 84 с.; Гедэман Отан. Граф Мануцы. – Паставы: "Сумежжа", 2013. – 68с.; Ражноўскі Каэтан. Успаміны, ч. 1. – Паставы: "Сумежжа", 2015. – 124 с.; Ражноўскі Каэтан. Успаміны, ч. 2. – Паставы: "Сумежжа", 2015. – 88 с.

Пераклад тэкстаў з польскай мовы, укладанне: Уланы, уланы – прыгожыя дзеці. – Паставы: "Сумежжа", 2012. – 64 с.; Вайсковае асадніцтва на нашых землях. – Паставы: "Сумежжа", 2014. – 112 с.; Honoris causa. Асветнікі і мецэнаты. – Паставы: "Сумежжа", 2015. – 108 с.; Honoris causa. Талент і сэрца аддалі Палоніі. – Паставы: "Сумежжа", 2015. – 116 с.; Усходняя Віленшчына ў агні. Ч.1 – Паставы: "Сумежжа", 2015. – 116 с.; Усходняя Віленшчына ў агні. Ч.2 – Паставы: "Сумежжа", 2015. – 108 с.

Укладальнік: Гэта варта ведаць жыхарам Пастаўшчыны. – Паставы: "Сумежжа", 2016. – 104 с.; "Міфічная Лынтупшчына" (краязнаўча-турыстычны даведнік. – Паставы, "Сумежжа", 2017. – 36 с.

Артыкулы ў перыядычным друку: Помніць пра Бацькаўшчыну // Нашы карані (П). – 2003. – № 8. – С. 40; Пленэр збірае мастакоў // Тамсама. – С. 54; Былыя сядзібы Паазер'я // Нашы карані (П). – 2004. – № 14. – С. 35–59; – № 15. – С. 29–32; Госці з Літвы // Нашы карані (П). – 2004. – № 15. – С. 59; Так пачыналася "Рунь" // Барвы. – 2004. – №1. – С. 39; Жыццё і лёс мастака з-пад Кямелішак // Барвы. – 2004. – № 2. – С. 29; Галерэя мастакоў у вёсцы // Тамсама. – С. 42; Ён быў нястомным рэфарматарам // Голас Радзімы. – 2007. – № 35 (20.09.). – С. 1, 3

Артыкулы ў перыядычным друку (пераклады з польскай мовы): Жамойць Ежы. Свір і касцёл свірскі // Нашы карані (П). – 2003. – № 8. – С. 17–23; Марэлоўскі Мар'ян. Палац Пілсудскіх у Мосары // Тамсама. – С. 40–45; Афтэназы Раман. Германавічы. Ёды. Лужкі // Нашы карані (П). – 2005. – № 16. – С. 42–49.

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: Арганізатар і кіраўнік

выдавецкай ініцыятывы “Сумежжа”, у якой выдаў шэраг уласных кніг і перакладаў з польскай мовы (спіс падаецца вышэй), а таксама кнігі краязнаўцаў Пастаўшчыны і Мядзельшчыны: І. Драўніцкага (“Мая Віленшчына”, “Мястэчка пры Полацкім тракце”; “Касцёл у Канстанцінаве”, “Пацеркі хваляў і соснаў бурштын”, “Сядзібны дом Раманішкі і яго гаспадары”, “Прафесар музыкі з Камай”, “Мастакі з дынастыі Ромераў. Жыццё і творчасць, родзічы і сябры”, “Тутэйшая. Гэлена Ромер-Ахенкоўская”, “У мядзведжым кутку”, “Легенды і паданні Нальшчанскага Паазер’я”, “Наваколле Сарачанскіх азёр”, “На правабярэжжы Страчы”, “Пастаўская Беларуская настаўніцкая семінарыя”); І. Зямчонка (“Лучай. Гісторыя маёнтка, мястэчка і вёскі 1542–1998”, “Данілавічы 1473–1998. Гістарычны нарыс”); І. Пракаповіча, А. Вансовіч, І. Заяц (“Манькавічы: гісторыка-геаграфічны нарыс”); А. Касценя (“Мястэчка маёй любові”); А. Латыш, А. Венгура, Г. Венгура (“Ясюкі – вёсачка над азёрамі”); Ю. Гінько (“Успаміны”); І. Пракаповіча (“Насельніцтва Пастаўскага краю”, “Ваколіцы Паставаў: Помнікі прыроды, гісторыі і культуры з маршрутамі краязнаўчых вандровак”); І. Пракаповіча, І. Собаль (“Мястэчка каля пушчы: Груздава і ваколіцы”); А. Гарбуля (“Скарбы сівых валуноў”, “Рака Лынтупка і мястэчка Лынтупы ў паданнях народа тутэйшага”).

Рэдактар і выдавец газеты “Сумежжа” (з 1991 г., выдадзена 145 нумароў) і “Крэсы”, краязнаўчага бюлетэня “Краязнаўца Паазер’я” (выдадзена больш 25 нумароў), ілюстраванага краязнаўчага часопіса “Нашы карані” (23 нумары), літаратурна-культурніцкага часопіса “Барвы” (4 нумары).

<u>Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый:</u> Адзін з ініцыятараў, фундатараў і ўдзельнік: будаўніцтва брамнай капліцы каля вёскі Радута (Лынтупскі с/с, 2005); усталяванне помніка на магіле паўстанцаў 1831 года каля хутара Жакі (Лынтупскі с/с, 28.01.2007); усталяванне бюста Б. Ялавецкаму на чыгуначнай станцыі Лынтупы (аўтар – скульптар А. Шатэрнік) (5.08.2007); будаўніцтва новага помніка на магіле “Невядомага польскага жаўнера” савецка-польскай вайны 1919 – 1920 гг. на Лынтупскіх могілках (2008); усталяванне каменя з мемарыяльнай дошкай каля чыгуначнай станцыі Лынтупы (2009); усталяванне памятнай таблiцы на будынку кінатэатра “Радзіма” ў г. Паставы ў гонар землякоў – польскіх акцёраў С. Ясю-

кевіча і З. Кенстовіча (чэрвень, 2017).

Ініцыятар і фундатар: усталяванне памятнай дошкі на будынку Пастаўскай дзіцячай бібліятэкі імя У. Дубоўкі ў гонар 110-годдзя з дня нараджэння земляка – класіка беларускай паэзіі Уладзіміра Дубоўкі (24.08.2010); усталяванне памятнай дошкі на будынку Браслаўскага краязнаўчага музея ў гонар 125-годдзя з дня нараджэння вядомага польска-беларускага краязнаўцы міжваеннага перыяду Отана Гедэмана (люты, 2012).

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: арганізатар правядзення старажытнага народнага свята "Камаедзіца" ў Лынтупах (люты, 2017); арганізатар краязнаўчай фотавыставы ў Лынтупскім Доме культуры (люты, 2017); удзельнік правядзення выставы ў Пастаўскім краязнаўчым музеі, прысвечанай дзеячам навукі, якія нарадзіліся на Пастаўшчыне (чэрвень, 2017).

Матэрыялы пра М. Гіля: Шык У. Міхась за мяжу не збіраецца пакуль [Гіль М., Паставы] // ВК. 2000. – № 38. – С. 3; Сідарэвіч А. Выдадзена ў Паставах // Наша Ніва. – 2005. – № 29 (5.08). – С. 8; Анкета "Краязнаўцы Віцебшчыны". Гіль М.Н. (20.10. 2006) // Асабісты архіў М. Півавара; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 79-80; Сідарэвіч А. Падарунак да Дня пісьменства, або Вяртанне Отана Гедэмана// Сайт - nn.by ("Наша Ніва") – 01.09.2012; Пракаповіч, І. Краязнаўцы Пастаўшчыны ў даведніку М. Півавара // Шыпшына. – 2012. – 27 лют. – № 2.; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 197; Чыгрын С.: Гутарка. Міхал Гіль: "Пра нашу Пастаўшчыну напісана больш за 50 кніг" //"Czasopis" Białystok .– 2016. - № 3/16. – с.21–24.

Адрас для кантактаў: 211861, Пастаўскі раён, вёска Вярэнькі, завулак Нарачанскі, 11. Тэл.: (02155) 53548 (Вярэнькі), тэл/факс 27659 (Паставы), e-mail: michalhil@yandex.by

***Громаў Яўген Аляксеевіч***, інжынер, краязнаўца. Нарадзіўся 31 сакавіка 1986 г. у г. Мірны Архангельскай вобласці РСФСР (зараз РФ). Закончыў СШ № 1 г. Паставы, Беларускі дзяржаўны ўніверсітэт транспарту, электратэхнічны факультэт (2008).

Працаваў праваднiком у Гомельскiм пасажырскiм участку, iнжынерам-электронiкам Iнфармацыйна-вылiчальнага цэнтра Вiцебскага аддзялення Беларускай чыгункi, iнжынерам Цэнтра навукова-тэхнiчнай iнфармацыi Беларускай чыгункi ў Мiнску (2012-2014), СП ЗАТ “НавукСофт” (2014-2015), ЗТАА “ЭПАМ Сiстэмз” (2015-2016).

Краязнаўствам пачаў займацца ў СШ № 1 г. Паставы з 2000 года. Удзельнiк шэрагу экспедыцый, у тым лiку трохдзённай “Водны шлях” па р. Мядзелка. Асноўны кiрунак краязнаўчых росшукаў: гiсторыя i геаграфiя чыгуначнага транспарту. Правёў шмат паходаў па iх вывучэннi.

Найбольш значныя здабыткi ў краязнаўстве: стварэнне праекту “Фоталiнii” з сiстэматызаванымi фотаздымкамi чыгуначных станцый на шматлiкiх лiнiях i краiнах, актыўны удзел у рэдагаваннi сусветнай адкрытай геаграфiчный карты OpenStreetMap, фотаздымкi мясцiн, стварэнне першага сайта пра Паставы (2001 г, зараз не падтрымлiваецца).

Аўтар шэрагу краязнаўчых публiкацый i фотаздымкаў у розных выданнях Беларусi i замежжа. Жыве ў Мiнску.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Публiкацыi ў рэспублiканскiх, абласных i мясцовых газетах (асноўныя): фота для вокладкi часопiса “Земля Беларуси” (навукова-вытворчы часопiс, № 1, сакавiк 2017); фота для артыкула “История одного Учителя”, “Советская Белоруссия” № 101 (24731) 30 мая 2015 (https://www.sb.by/articles/istoriya-odnogo-uchitelya.html); шматлiкiя фота i артыкулы для часопiса “Railvolution” (Чэхiя), газеты “Железнодорожник Белоруссии”, артыкулы для газеты “Пастаўскi край”, у тым лiку “Гiсторыя Манькавiцкай царквы”, “Забытая слава. Вузкакалейка Новасвянцяны – Беразвеч” (2007).

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: 2001, 26-28 чэрв. – Экспедыцыя “Водны шлях” па маршруце Паставы–Мiкольцы–Волачак–Рудакова– Стомы–Мядзел–Замак–Мядзелка–Маўчаны–Маўчанкi–Iдалiна–Пятроўшчына–Варанец–Доўжа–Дзеравянкi–Паставы (3 днi); 2016 г, 28.04-04.05, вывучэнне i фатаграфаванне чыгуначных лiнiй Грузii; 04.06-08.06 вывучэнне i фатаграфаванне чыгуначных

ліній Казахстана; 2017, 25 ліп., вывучэнне чыгунак Варненскага вузла (Балгарыя) Беласлаў-Раздэлна-Сіндэл-Дзеўня; 2017, жнів., вывучэнне гісторыі Балагое-Седлецкай чыгункі (мяжа Расіі і Беларусі, станцыі Алёшча-Клясціца).

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: рэдагаванне і тэхнічная падтрымка сайтаў https://railwayz.info, https://vagon.by

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: артыкул у падтрымку стварэння бюста Баляславу Ялавецкаму (Лынтупы), прыватная калекцыя службовых раскладаў руху цягнікоў, у тым ліку па Беларусі.

Матэрыялы пра Я. Громава: Анкета 20.12.2015; Анкета 06.09.2017 // Асабісты архіў І. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: Тэл. +375 25 9972707, +375 29 7171360, e-mail: trainer@railwayz.info, skype: ytrainer; блог https://trainer.by

***Драўніцкі Ян (Іван, Яська) Пятровіч***, педагог, настаўнік вышэйшай катэгорыі (1991), краязнаўца. Нарадзіўся 6 траўня 1932 г. у вёсцы Гваздавічы Камайскай гміны Свянцянскага павета Віленскага ваяводства (цяпер Пастаўскі раён Віцебскай вобласці). Закончыў Камайскую сямігодку (1948), Пастаўскае педагагічнае вучылішча (1952), курсы выкладчыкаў беларускай мовы і літаратуры пры Аршанскім педінстытуце (1952), завочна факультэт беларускай і рускай мовы і літаратуры Мінскага педагагічнага інстытута імя М.Горкага (1960), факультэт палітэканоміі Мінскага ўніверсітэта марксізма-ленінізма (1963). Працаваў настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, выкладчыкам нямецкай мовы Клюшчанскай НСШ былога Свірскага раёна (15.08.1952 – 22.08.1953) (зараз Астравецкі раён Гродненскай вобласці), дырэктарам Маласырмежскай НСШ (22.08.1953 – 10.30.1954) былога Свірскага раёна, дырэктарам Вялікастаўпяняцкай НСШ (01.12.1956 – 30.08,1958), дырэктарам Куцькаўскай НСШ (30.08.1958 – 01.09.1993) Мядзельскага раёна Мінскай вобласці, настаўнікам беларускай мовы і літаратуры, працоўнага навучання (01.09.1993 – 01.09.2000) Куцькаўскай СШ, кіраўніком краязнаўчага гуртка

Базы юных турыстаў і “Дома дзіцячай творчасці” Мядзельскага раёна (01.09.2000 – 30.08.2014). З 2014 года на пенсіі. З 01.11.1954 па 30.11.1956 служыў у Балтыйскім ВМФ СССР, закончыў Калінінградскую школу радыстаў-радыёмеханікаў (1955), Нівенскую дывізіённую партыйную школу (ДПШ) (1956), капітан запасу.

Краязнаўствам займаўся з 1958 года. Даследаваў часткі Нальшчаншчыны, якія цяпер уваходзяць у склад Гродзенскай (Астравеччына), Мінскай (Мядзельшчына) і Віцебскай (Пастаўшчына) абласцей: у асноўным рэгіён водазбору ракі Страчы і яе прытокаў. Сфера інтарэсаў у краязнаўстве: фальклор, тапаніміка, лакальная гісторыя, знакамітыя людзі. Аўтар артыкулаў для кніг “Памяць” Пастаўскага, Мядзельскага і Астравецкага раёнаў; артыкулаў краязнаўчай тэматыкі ў часопісах ”Куфэрак Віленшчыны”, “Родная прырода”, ”Байрам”, ”Нашы карані”, ”Роднае слова”, “Праблемы выхавання”, “Выкладанне этыкі ў школе”, ”Этыка”, “Народная асвета”. Друкаваўся ў газетах “Астравецкая праўда”, ”Нарачанская зара”, “Пастаўскі край”, “Народнае слова”, “Настаўніцкая газета”, “Наша слова” і іншых.

Узнагароды: Ганаровая Грамата ВС БССР “За шматгадовую работу па камуністычнаму выхаванню працоўных” (1976); Ганаровая Грамата Рэспубліканскага камітэта прафсаюза ВШ і НУ “За дасягнутыя поспехі ў навучанні і выхаванні вучняў” (1964); Грамата Прэзідыума Рэспубліканскага Савета педагагічнага Таварыства БССР ”За высокую і плённую работу па эстэтычнаму выхаванню вучняў” (1983); Ганаровая Грамата абласнога аддзела народнай адукацыі Мінскай вобласці ”За дасягнутыя поспехі ў навучанніі выхаванні вучняў” (1987); Ганаровая Грамата ЦК КПСС, Савета Міністраў СССР, ВЦСПС і ЦК ВЛКСМ “За дасягненне найвышэйшых вынікаў ва Усесаюзным сацыялістычным спаборніцтве ў гонар 70-годдзя Вялікай Кастрычніцкай Сацыялістычнай рэвалюцыі” (1987); Граматы прэзідыума праўлення Мінскай абласной арганіза-

цыі “Веды” (1965, 1970, 1972, 1977, 1984); Ганаровая Грамата Рэспубліканскага камітэта работнікаў асветы (1979); граматы аблАНА і райАНА (некалькі); Ганаровая грамата “За актыўнае супрацоўніцтва з часопісам “Палітінфарматар” (1985). Пераможца сацыялістычнага спаборніцтва (1977). Узнагароджаны таксама знакамі “Выдатнік асветы БССР” (1977), “Выдатнік асветы СССР” (1985) і медалямі “У азнаменаванне 100-годдзя з дня нараджэння Уладзіміра Ільіча Леніна” (1970); “Ветэран працы”(1983). Памёр 13.02.2018. Пахаваны ў в. Канстанцінава.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Мая Віленшчына. – Паставы: Сумежжа, 2004. – 59 с.; Мястэчка пры Полацкім тракце. – Паставы: Сумежжа, 2005. – 66 с.; Касцёл у Канстанцінаве. – Паставы: Сумежжа, 2005. – 60 с.; Пацеркі хваляў і соснаў бурштын (у сааўт.). – Паставы: Сумежжа, 2005. – 95 с.; Легенды Нарачанскага краю. – “ISAR, Inc” (ЗША) у РБ, 2007. – 34 с.; Сядзібны дом Раманішкі і яго гаспадары. – Паставы: Сумежжа, 2008. – 32 с.; Прафесар музыкі з Камай. – Паставы: Сумежжа, 2008. – 24 с.; Былыя сядзібы і паркі Паазер’я. Мядзельшчына (разам з М. Гілем). – Паставы: Сумежжа, 2008. – 64 с.; Смарагдавы край. – 2011. – 183 с.; Мастакі з дынастыі Ромераў. Жыццё і творчасць, родзічы і сябры. – Паставы: Сумежжа, 2013. – 59 с.; Тутэйшая. Гэлена Ромер-Ахенкоўская. – Паставы: Сумежжа, 2013. – 56 с.; Спадчына Міжазер’я. – Мінск: РыфтурПрынт, 2013. – 86 с.; Мы з іманам жывём на зямлі Беларусі (разам з Т. Якубоўскай). – Мінск: Тэхналогія. 2015. – 160 с.; У мядзведжым кутку. – Паставы: Сумежжа, 2015. – 110 с.; Легенды і паданні Нальшчанскага Паазер’я. – Паставы: Сумежжа, 2015. – 107 с.; Наваколле Сарачанскіх азёр. – Паставы: Сумежжа, 2015. – 100. с; На правабярэжжы Страчы. – Паставы: Сумежжа, 2015. – 100 с.; Наднарочча ў легендах і паданнях. – УА “НДААЦ “Зубраня”, 2015. – 72 с.; Мы памятаем! Мы ганарымся! – Мядзел: Мядз. друкарня, 2015. – 80 с.; Пастаўская Беларуская настаўніцкая семінарыя. – Паставы: Сумежжа, 2016. – 104 с.

Артыкулы ў гісторыка-дакументальных хроніках “Памяць”: а) Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Мядзельскага раёна. – Мн.: “Беларус. Энцыклапедыя” імя П. Броўкі, 1998. – 640 с. : Удзельнік паўстанняў, с. 100–101; Філантроп Ян Цывіньскі, с. 101; Прэ-

зідэнт дабрачыннага брацтва, с. 101–102; Літоўскі беларус, с. 104; Уладары альшэўскіх зямель, с. 104–105; Фальварковая гаспадарка Альшэва, с. 105; Альшэўскі рукапіс, с. 106; Падарожнік і геабатанік, урач, с. 107; Даследчык старажытнасцей Палесся, с. 107–108; Радавод вялікага маэстра Дз.Дз. Шастаковіча, с. 115–116; Народны дэпутат, с. 385–386; Святар Канстанцінаўскай парафіі, с. 392; Журналіст, с. 393–394; Канявод-селекцыянер, с. 394–395; Вучоны, патрыёт, чалавек, с. 433–434; Акцёр і рэжысёр Францішак Ян Пуховіч, с. 443; Педагог, даследчык, рэдактар, с. 444; Селекцыянер І. П. Сікора, с. 448; Дыктар беларускага радыё, с. 450–451; б) Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна.– Мн.: БелТА, 2001. – 688 с.: Кавальскі Юзаф, с. 119–120; Ромер Ахенкоўская Ганна, с. 121;

Артыкулы ў зборніках: Культура чувств (в соавт.) // Этика. Методическое пособие для учителя. – Мн.– 1982. – с. 161–166.; Руткоўскі Браніслаў // Хто ёсць Хто сярод беларусаў свету. Энцыклапедычны даведнік. – Мн. – 2000. С. 256–257; Цыбульскі Напалеон Нікадзім // Хто ёсць Хто сярод беларусаў свету.Энцыклапедычны даведнік. – Мн. – 2000 – С. 294; Янка Купала і Паўліна Мядзёлка на Астравеччыне // Беларусь–Японія. Матэрыялы Другіх міжнародных чытанняў, прысвечаных памяці Іосіфа Гашкевіча. – Мн., 2003.– С. 313–316; З гісторыі Жалядзяў і Жалядскага касцёла // Тамсама. – 341-347. Сядзібны дом Раманішкі і яго гаспадары. / Дзе Мядзелка песні пяе…Пастаўшчына літаратурная. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С.142–148.

Артыкулы ў часопісах: Вобраз Бандароўны ў паэме Я. Купалы і яго інтэрпрэтацыя ў іншых творах мастацтва // Роднае слова. – 1995. – №7. – С. 94–102; Шчодрая на таленты зямля // Роднае слова. – 1994. – №7–8. – С. 147–154; Святар-патрыёт Люцыян Хмялёвец // Наша вера. – 2011. – № 3(57). – С. 55–58; Мастак з дынастыі Ромэраў // Наша вера. – 2013. – № 3(65). – С. 53–66; Ян Цывіньскі // Дыялог. – 1997. – №7–8(40). – С. 13; “Валошкі Мядзельшчыны” // Праблемы выхавання. – 2005. – №1 – С. 21–23.

Артыкулы ў квартальніках, альманахах: Доктар Ібрагім Крыніцкі // Байрам. – 1996. – № 1–2. – С. 40–41; Хірург // Байрам. – 1998. – №4. – С. 75–78; Сцежкамі Адама Гурыновіча // Байрам. – 1999. – №1(33). – с. 50–54; Прадстаўленне на Клюшчаншчыне // Куфэрак Віленшчыны. – 2002. – №2 (7) – С. 10–13; Камаі – радзіма

Браніслава Руткоўскага // Куфэрак Віленшчыны. – 2004. – №1(9). – С. 133-148; Якубоўскі – даследчык Нарачы // Беражніца. – 2008. – №1. – С. 2; Альшэўскі парк // Беражніца. – 2008. – №1. – С.4; Слова Станчыка ўнукам // Беражніца. – 2009. – №1. – С.12; Апошні вятрак // Беражніца. – 2009. – №1. – С.4; Мёртвае возера (легенда) // "Голубые озёра", Рифтур. – 2007. – С. 20–21; Возера-сэрца (легенда) // "Голубые озёра", Рифтур. –2007. – с. 22 – 23; Камаі // Нашы карані. – 2001. – №2. – С. 4–12; Саранчанскі палац князёў Свірскіх // Нашы карані. – 2001. – №2. – С. 13–15; Сядзібны дом Раманішкі і яго гаспадары // Нашы карані. – 2001. – №2. – С. 15–21; Альшэва // Нашы карані. – 2001. – №2. – С. 21–51; Альшэва // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 4–12; Фларыян Даноўскі – чалавек–легенда // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 16–19; Славуты геадэзіст // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 20–23; Філантроп Ян Цывіньскі // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 23–25; Славуты зямляк–лекар // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 26–27; Сцежкамі Адама Гурыновіча // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 28–31; Прэзідэнт Дабрачыннага брацтва // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 32; Падарожнік–геабатанік, урач // Нашы карані. –2001. – №3. – С. 32–33; Даследчык старажытнасцей Палесся // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 33–34; Карані радаводу вялікага маэстра Дзмітрыя Шастаковіча на Мядзельшчыне // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 35–46; Ён не даваў загінуць ніве жыцця // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 46–47; Настаўнік, садавод–селекцыянер Іван Паўлавіч Сікора // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 48–49; Хірург // Нашы карані. – 2001. – №3. – С. 50–51; Камарова // Нашы карані. – 2002. – №4. – С. 4–13; Браніслаў Руткоўскі // Нашы карані. – 2002. – №4. – С. 29–34; Антыцарскія паўстанні на Віленшчыне // Нашы карані. – 2003. – №5. – С. 4–24;. Постаці нашай гісторыі // Нашы карані. – 2003. – №3. – С. 16–51; Яўрэі на Свіршчыне // Нашы карані. – 2003. – №9. – С. 4–14; Мястэчка пры Полацкім тракце // Нашы карані. – 2003. – №11; Полымя Касцюшкаўскага паўстання // Нашы карані. – 2003. – №5. – С. 4–7; Братазабойчая вайна // Нашы карані. – 2003. – №5. – С. 8–11; Антыцарскае паўстанне 1831 года на Віленшчыне // Нашы карані. – 2003. – №5. – С. 12–15; Крывавы 1863 год // Нашы карані. – 2003. – №5. – С. 16–24; З гісторыі рэлігійнага жыцця Астравеччыны // Нашы карані. – 2003. – №6. – С. 4–11; Янка Купала і Паўліна Мядзёлка на Астравеччыне // Нашы карані. – 2003. – №6.

– С. 28–30; Скульптар–самавучка // Нашы карані. – 2003. – №6. – С. 35–38; Канстанцінава // Нашы карані. – 2003. – № 7. – С. 42–56; Яўрэі на Свіршчыне // Нашы карані. – 2003. – №9. – С. 4–14; Парафія Янкі Быліны // Нашы карані. – 2003. – №10. –С. 4–16; Кароткі водны шлях // Нашы карані. – 2004. – №15. – С. 53–54; Мястэчка пры Полацкім тракце // Нашы карані. – 2004. – №11. – С.4–64.

Артыкулы ў газетах: А) У газеце "Нарачанская зара" (Мядзел) (НЗ): Не хлебам адзіным // НЗ. – 1970. – 17 сак; Свята чалавечай радасці // НЗ.– 1974. – 20 ліп.; Лучынка // НЗ. – 1974. – 26 чэрв.; Выхоўваем усімі сродкамі // НЗ. – 1974. – 9 мая; Адраджаючы забытае // НЗ. – 1989. – №153. – С.3; Настаўнік,садавод-селекцыянер І.П.Сікора // НЗ. – 1990. – №104. – С. 2–3; Чаму ж нам не пець?.. // НЗ. – 1990. – №57–58. – С. 4–6; "І вее верш мой дзіўнай казкай" // НЗ. – 1991. – №37. – С. 6; Яго цікавіла наша мінулае // НЗ. – 1992. – № 35. – С. 2; ; Шчодрая на таленты зямля // НЗ. – 1995. – №№ 5–8, 14–16; Вайсковы медык, геабатанік Т. Аўгусціновіч // НЗ. – 1995. – № 30. – С. 3; Татары на Мядзельшчыне // НЗ. – 1997. – №5. – С. 2; Канстанцінаўскі пекар // НЗ. – 2003. – 8 лют. – С. 11; ; Чалавек шматгранных інтарэсаў і ініцыятыў // НЗ. – 2004. – №10–12. – С.10; Сядзіба ў Кабыльніку // НЗ. – 2004. – №110–112. – С. 10; Каходасы з Кабыльніка // НЗ. – №142–144 – С. 10; Фларыян Ждановіч і Паўліна Мядзёлка // НЗ. – 2004. – 13 ліст. – С. 10; Змагар за родную мову // НЗ. – 2006. – № 21–23. – С. 11; Выдавец Альшэўскага летапісу // НЗ. – 2006. – №25–27. – С. 10; Сотыя ўгодкі Шастаковіча // НЗ. – 2006. – №174–176. – С. 10; Альшэўская цагельня // НЗ. – 2006. – №89–91. – С. 10; Як Жанна Д'Арк // НЗ. – 2006. – №43–45. – С. 5; Шляхам водным // НЗ. – 2007. – №122–124. – С. 5; "Літоўскі Геркулес" – гаспадар Svіра // НЗ. – 2007. – №49–50. – С. 10; Што можа расказаць надмагільны камень // НЗ. – 2008. – №21–23. – С. 5; Адысея Навума Прыгаворкі па Свіршчыне // НЗ. – 2008. – № 174–176. – С. 11; Старажавы вартавы пункт // НЗ. – 2009. – №184–186. – С. 3; Хутар Бортнікі // НЗ. – 2009. – №30–32. – С.11; Літаратурны дэбют // НЗ. – 2009. – №31. – С. 4; На рукавах насілі знак–тры літары"OST" // НЗ. – 2009. – №191. – С.4; Спачатку было ліставаненне // НЗ. – 2010. – №21–23. – С. 5; Хай застануцца мае вершы // НЗ. – 2011. – № 136–138. – С. 11; Гуманны ўчынак // НЗ. – 2011. – №65–67. – С. 12; Кніжачка з куфэрка // НЗ. – 2012. – №17. – С. 2; Вялікі звон Свірскага касцёла // НЗ. – 2012. – №2. – С. 10; Сэрца

яго імкнулася да свету // НЗ. – 2012. – №125. – С. 4; Заснавальнік двух дзяржаўных лялечных тэатраў на Беларусі // НЗ. – 2014. – 15 студз.

Б) У газеце "Пастаўскі край" (Паставы) (ПК): Наш знакаміты зямляк // ПК. – 1995. – №51. – С. 3;. Змагар за волю Фларыян Даноўскі // ПК. – 1995. – №102. – С. 2; Была ў Казлоўшчыне такая школа // ПК. – 1996. – № 6. – С. 2; З роду Чаховічаў // ПК. – 1996. – № 61. – С. 3; Урач Юзаф Кавальскі // ПК. – 1996. – № 99. – С. 2; Мастак і патрыёт // ПК. – 1997. – №8. – С. 3; Адам Міцкевіч і Пастаўшчына // ПК. – 1998. – № 65. – С. 2; Сябра Адама Міцкевіча // ПК. – 1998. – №100. – С. 2.

В) У газеце "Астравецкая праўда" (Астравец) (АП): Камарышкі // АП. – 1998. – 29 жн. – С. 3; Рэлігійны дзеяч // АП. – 1999. – 9 чэрв. – С. 3; Клюшчанскі плодагадавальнік // АП. – 2002. – № 20. – С. 3; Раміза ў Клюшчанах // АП. – 2002. – №31. – С. 6; Парафія Янкі Быліны // АП. – 2003. – №148–150. – С. 6; Ваенная адысея Леанарда Богача // АП. – 2005. – №3. – С. 3; Родны чароўны кут // АП. – 2006. – 30 вер. – С. 6.

Г) У іншых газетах: Па прафесіі – настаўнік, а па прызванні – журналіст // Мінская праўда. – 1996. – №16. – С. 3; Камаі // Краязнаўца Паазер'я. – 2001. – №6. – С. 1–6; Людвік Хамінскі. Чалавек шматгранных інтарэсаў і ініцыятыў // Голас Радзімы. – 2005. – с 11; Асобы ўплывовыя і ахвярныя // Краязнаўчая газета. – 2010. – №44(349). – С. 7; Пра Міколу Улашчыка (Да 100-годдзя з дня нараджэння) // Наша слова. – 2006. – №7. – С. 4; Kaplan-patriota // Glos znad Niemna. – 1996. – №14. – 20 кастр. – С. 4; ; Czlowiek–legenda // Glos znad Niemna. – 2001. – №20–21(471–472). – С. 11; Пра родную вёску – з любоўю // Народнае слова 2011. – 3 сак. – С. 5; Сын нарачанскага рыбака // Наша слова. – 2012. – №22. – С. 6; Сцежкамі Адама Гурыновіча // Краязнаўца Паазер'я. – 2001. – №8(21). – С. 1–4; Сустрэча на Мядзельшчыне // Наша слова. – 1996. – № 9. – С. 3; Паслядоўніца Яўхіма Карскага // Наша слова. – 2006. – 29 ліп. – С. 2.

Рукапісы: Падрыхтаваў да друку кнігу "Адам Міцкевіч і Мядзельшчына"; зрабіў камп'ютарны набор кнігі "У азёрнай старонцы маёй" (13 казак, запісаных у вёсцы Ласі на Астравеччыне А. Урбанасам).

Дапамога ў выданні кнігі: Вайнілка, З. Падаючыя зоркі: вершы.

– Паставы: Сумежжа, 2013. – 68 с.

Удзел у экспедыцыях, экскурсіях: Распрацаваў і здзейсніў паходы па маршрутах: "Чароўны родны край Астравеччына", "Шэметаўшчына", "Полацкі тракт", "Наваколле Свірскага і Вішнеўскага азёр", "Да Рымарчыкавага каменя Шастаковічаў", "Экскурсія па міжазер'і", "У графскую сядзібу Каралінова", "Па экалагічнай сцежцы Блакітных азёр", "На радзіму паэта Казіміра Сваяка", "У Глушыцу да Іяланты Валуевіч"; "Сцежкамі Габрыелі Пузыні" і інш.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: Арганізаваў і правёў са школьнікамі і вяскоўцамі этнаграфічныя вечары: "Бабулін куфэрак", "Лучынка", "Сустрэча песень трох пакаленняў", "Провады зімы", "Вяселле ў Камарове", "Купалле", "Залаты колас", "На арэлях памяці. Уяўнае інтэрв'ю з ветэранамі ВАВ". Правёў прэзентацыі краязнаўчых кніг у Паставах, Камаях, Камарове, Канстанцінаве, Габах, Свіры, Страчанцы, Страчы, Спондах.

Публікацыі пра Я. Драўніцкага: Чарняўскі, М. Энтузіяст // "Звязда" (Паставы). – 1987. – 23 мая. – С. 4; Чарняўскі, М. Экран на службе ведаў // НГ. – 1988. – 2 сак. – С. 4; Чарняўскі, М. Нястомны шукальнік даўніны // Мінская праўда. – 1995. – №135. – С.3; Чарняўскі, М. Нястомны шукальнік даўніны // ПК. – 1997. – №32. – С.2; Нястомны шукальнік даўніны // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Мядзельскага раёна. – Мн.: "Беларус. Энцыклапедыя" імя П. Броўкі, 1998. – 640 с. – С. 376–377; Шыманскі, М. "Валошкі" // Рэспубліка. – 2000. – №162; Высоцкі, А. Да сваіх каранёў // НЗ. – 2001. – №101.– С.2; Высоцкі А. 70 год Івану Драўніцкаму // РГ. – 2002. – №18. – С.1; Высоцкі, А. Свой след на зямлі // НЗ. – 2002. – №35. – С.2; Чакур Г. Знаўца роднага краю // АП. – 2002. – 2 ліп. – С. 6; Чекалов, И. В. Кто есть Кто в Республике Беларусь. / Мн.: УП "Энциклопедикс", 2004. – С. 89; Звязаны лёсам. Драўніцкі Іван Пятровіч // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Астравецкага раёна. – Мн.: 2004. – С.460; Нафрановіч, А. Нястомны шукальнік даўніны // НГ. – 2005. – 5 ліст. – С. 6.; Драўніцкі Іван / Дзе Мядзелка песні пяе… Пастаўшчына літаратурная. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 258; Мальдзіс, А. Энтузіяст Іван Драўніцкі // СБ-Беларусь сегодня. – 2008. – 13 сак.; Нафрановіч, А. Нястомны шукальнік даўніны // Зб."Сейбіты дабра і мудрасці". – Мн.: Чатыры чвэрці, 2007.– С. 34–40; Півавар, М. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы

XX – пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – С.101; Высоцкі, А. Родная зямля як паветра, як зямля, як маці // Рэгіянальная газета. – 2013. – 20 кастр.; Пракаповіч, І. Даследчык з Мядзельшчыны Іван Драўніцкі правёў для пастаўскіх краязнаўцаў экскурсію па былой сядзібе Старжынскіх. // Край. бай; Пракаповіч, І. Вандроўка па Свірскім краі: дзе гераізм і слава – сусед варварства і рабаўніцтва // Рэгіянальная газета. – 2015. – 20 ліст.; Пракаповіч, І. Па Свірскім краі // Краязнаўчая газета. – 2016. – лют. – № 6; Валуевіч, І. Жыццёвыя здабыткі Яські Драўніцкага. // Астравецкая праўда. – 2017. – № 34. – С.10; Анкета Я. Драўніцкага 27.06.2017 // Асабісты архіў І. Пракаповіча.

***Жаброўскі Генрык Блажэевіч,*** інжынер-гідролаг, краязнаўца. Нарадзіўся 3 сакавіка 1923 г. у в. Міхнічы Пастаўскага павета. Пасля заканчэння пачатковай школы вучыўся ў Пастаўскай гімназіі. Да вайны скончыў два класы. Са студзеня 1940 года перастаў хадзіць у школу, бо трэба было працаваць на зямлі. У часы нямецкай акупацыі быў звязаны з польскім партызанскім атрадам "Бура" Віленскага аддзела Арміі Краёвай, якім камандаваў падпаручнік Антоні Бужынскі. Пасля прыходу Чырвонай Арміі быў мабілізаваны ў яе рады і служыў спачатку ў чыгуначных войсках – "страйбаце". У канцы 1944 года патрапіў у атрады Народнага Войска Польскага генерала Берлінга, з якімі прайшоў баявы шлях ад Віслы да Эльбы. Пасля вайны закончыў Варшаўскую Палітэхніку на аддзяленні Воднага будаўніцтва са спецыялізацыяй "гідралогія".

Пасля заканчэння вучобы працаваў у Польскім інстытуце гідралогіі і метэаралогіі, у аддзелах у Беластоку і Вроцлаве, а з 1960 года і да выхаду на пенсію (1983) узначальваў гідралагічна-метэаралагічную станцыю ў горадзе Новы Сонч. За сваю працу ўзнагароджаны Залатой Адзнакай "Za zaslugi w zwalczaniu powodzi".

Напісаў успаміны аб сваім побыце ў войску падчас вайны. Збіраў матэрыялы па гісторыі Пастаўшчыны. Напісаў кнігу "Манаграфія вёскі Міхнічы і ваколіц у Пастаўскім павеце

на Віленшчыне", зрабіў картасхему горада Паставы 1939 года, знайшоў, запісаў і пераклаў на польскую мову народны лучайскі верш "Кірха".

Памёр 21 красавіка 1996 года. Пахаваны ў Польшчы ў горадзе Новы Сонч.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Жаброўскі, Г. Манаграфія вёскі Міхнічы і ваколіц у Пастаўскім павеце на Віленшчыне (пер. М. Гіля) / Г. Жаброўскі. – Паставы: "Сумежжа", 2005. – 118 с.

Публікацыі ў зборніку: Жаброўскі, Г. "Манаграфія вёскі Міхнічы і ваколіц у Пастаўскім павеце на Віленшчыне" (урывак з кнігі) // Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с., 8 (л.) іл. – Беларусь літаратурная. – С. 134-139; Кірха // Тамсама. – С. 43-47.

Публікацыі пра Г. Жаброўскага: Сідарэвіч, А. Выдадзена ў Паставах // Наша Ніва. – 2005. – № 29. – С. 8.; Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с., 8 (л.) іл. – Беларусь літаратурная. – С. 257-258; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 115. Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. І дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с.: іл. – С. 198; Пракаповіч, І. Вяртанне на радзіму / І. Пракаповіч // Honoris causa. – Ч. 2. – Сэрца і талент аддалі Палоніі. – Паставы: Сумежжа, 2015. – 116 с. – С. 47-51.

***Жук (Лосік) Сафія Андрэеўна***, пенсіянерка, краязнаўца. Нарадзілася 29 сакавіка 1944 г. у в. Грыдзькі Пастаўскага раёна Маладзечненскай вобласці. Бацькі, Лосік Андрэй Фёдаравіч і Антаніна Пятроўна, працавалі ў калгасе "Сцяг Перамогі". Закончыла Юнькаўскую сямігадовую школу ў 1958 годзе. Потым пераехала ў Полацк. Там закончыла вячэрнюю школу і (завочна) Магілёўскі бібліятэчны тэхнікум. У Полацку працавала паштаркай, на заводзе шкловалакна, у вучылішчы № 66 бу-

даўнікоў. Там уступіла ў шэрагі КПСС. З 1982 года пражывае ў г. Паставы, з 1999 года на пенсіі.

У суаўтарстве з І. Капыловым напісала кнігу "Пятрагі. Тарасаўка", раней з дапамогай аднавяскоўцаў – кнігу пра вёску Грыдзькі. Вялікую дапамогу ў зборы матэрыялаў аказаў муж Пётр Іосіфавіч, з якім разам прайшлі і праехалі многа кіламетраў для таго, каб знайсці патрэбныя звесткі.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Жук, С. Гридьки / Софья Жук. – Паставы, Пастаўская друкарня, 2005. – 122 с.; Жук, С., Капылоў, І. Пятрагі. Тарасаўка. Старонкі вясковага жыцця. Кніга памяці /Софья Жук, Ігар Капылоў. – Мінск: Права і эканоміка, 2013 – 283 с.

Артыкулы ў газеце "Пастаўскі край": Суседзі мае – ветэраны / С. Лосік // Звязда (Паставы). – 1984. – 22 ліст. – С. 4; Па сіле многае // Звязда (Паставы). – 1988. – 16 чэрв. – С. 2; Такая вось штука – жыццё // ПК. – 1991. – 21 чэрв. – С. 1-2; Ці варта ахайваць гісторыю? // ПК. – 1991. – 13 жн. – С. 2; Каб і праўнукаў дачакалі // ПК. – 1998. – 22 жн. – С. 2; Дрэва жыцця Лосікаў і Рамановічаў // ПК. – 1999. – 2 чэрв. – С. 2; Гады, як птушкі, праляцелі // ПК. – 1992. – 19 вер. – С. 3; Люстэрка нашага жыцця // ПК. – 2001. – 23 мая. – С. 2; Нас вылечыць дух Ефрасінні // ПК. – 2002. – 28 вер. – С. 2; Горад у святы і ў будні // ПК. - 2003. – 2 ліп. – С. 2; Не ўсе вярнуліся з вайны // ПК. – 2009. – 30 крас. – С. 2; Ёсць і заслужаная // ПК. – 2014. – 18 студз. – С. 5; "Перад імем тваім…" // ПК. – 2014. – 5 крас. – С. 8; Жылі і працавалі на зямлі // ПК. – 2014. – 20 вер. – С. 7.; Хоць ранкам пеўня не чуваць [Пра в. Тарасаўка] // ПК. – 2016. – 3 лют. – С. 6; Ва ўсім таленавіты [Пра І. Капылова] // ПК. – 2017. – 15 ліп. – С. 2.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: Навукова-практычны семінар "Пастаўскі край на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (Паставы, 20-21 красавіка 2017 г.)

Матэрыялы пра С. Жук: Курыловіч, П. Пастаўшчына – сталіца краязнаўства // Пастаўскі край. – 2016. – 21 снеж.; Анкета С. Жук 02.07. 2017 // Асабісты архіў І. Пракаповіча.

***Заяц Ірына Мікалаеўна***, журналіст, краязнаўца. Нарадзілася 4 ліпеня 1986 г. у г. Ветка Гомельскай вобласці. У дзяцін-

стве з бацькамі пераехала на Пастаўшчыну. У 1993 пайшла ў сярэднюю школу №1 горада Паставы. У старэйшых класах актыўна ўдзельнічала ў краязнаўчым руху: хадзіла ў вандроўкі, рыхтавала даследчыя працы, выступала на канферэнцыях, друкавалася ў раённай газеце.

Пасля заканчэння школы (2004) паступіла ў Інстытут журналістыкі Беларускага дзяржаўнага універсітэта на спецыяльнасць "Міжнародная журналістыка". У 2009-2011 гадах прайшла курсы кітайскай мовы пры Ўсходне-кітайскім педагагічным універсітэце ў Шанхаі (Кітай) і ў 2011 паступіла ва Усходне-кітайскі педагагічны ўніверсітэт на спецыяльнасць "Журналістыка".

Асноўныя кірункі і канкрэтныя тэмы краязнаўчых росшукаў: зніклыя помнікі Пастаў і ваколіц, генацыд яўрэйскага насельніцтва. У суаўтарстве з А. Вансовіч і І. Пракаповічам удзельнічала ў напісанні кнігі "Манькавічы". У студэнцкія гады разам з І. Пракаповічам напісала кнігі "Мястэчка над возерам: Задзеўе і ваколіцы" і "О Беларусь, мая шыпшына…": На радзіме У. Дубоўкі". Адкрыла старажытнае паселішча "Лысая гара" каля в.Шыркі (разам з Э. Зайкоўскім, І. Пракаповічам).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Пракаповіч, І.М., Вансовіч, А.А., Заяц, І.М. Манькавічы: гісторыка-геаграфічны нарыс / І. М. Пракаповіч, А. А. Вансовіч, І.М. Заяц. – Паставы : Сумежжа, 2004 – 60 с.; Пракаповіч, І.М., Заяц, І.М. Мястэчка над возерам: Задзеўе і ваколіцы / І. М. Пракаповіч, І.М. Заяц. – Мінск: Ковчег, 2006 – 56 с.; "О Беларусь, мая шыпшына…": На радзіме Уладзіміра Дубоўкі (склад. І.М. Заяц, І.М. Пракаповіч). – Мінск: Тонпік, 2007. – 128 с.

Артыкулы ў газетах (часткова): "Па таямнічай зямлі" / Заяц Ірына // Раніца. – 2002; "Зніклыя помнікі" / Заяц Ірына // Раніца. – 2003; "Не павінна паўтарыцца" / Заяц Ірына // Раніца. – 2004; "Прэзентавалі Манькавічы" / Заяц Ірына // Пастаўскі край. – 2004; "У марах я Ветку малюю" / Заяц Ірына // Пастаўскі край. – 2004; "Здзівіла Лысая гара" / Заяц Ірына // Пастаўскі край. – 2005. – № 113–114. – С. 6; "Дарога ў краіну краязнаўства" / Заяц Ірына // Краязнаўчая

газета. – 2005. – № 39. – С. 3; “Знаёмцеся, мой настаўнік – І. М. Пракаповіч” / Заяц Ірына // Голас Радзімы. – 2006. – № 45–46. – С. 9; “Вайна. Успаміны” / Заяц Ірына // Краязнаўчая газета. – 2006. – № 21. – С. 3.

Удзел у краязнаўчых і навуковых канферэнцыях: Заяц Ірына. Зніклыя помнікі Пастаў і яго ваколіц // Навукова-практычная канферэнцыя (навук. кіраўнік Пракаповіч І.М.) – Паставы, 2001; Заяц Ірына. Праявы генацыду і халакосту ў Пастаўскім раёне // Навукова-практычная канферэнцыя (навук. кіраўнік Пракаповіч І.М.) – Паставы, 2003; Заяц Ірына. Кароткія гісторыі пра вайну // Міжнародная навукова-практычная канферэнцыя (навук. кіраўнік Козак К.І.) – Мінск, 2006.

Удзел у краязнаўчых і навуковых экспедыцыях: удзельнічала ў шматлікіх экспедыцыях, якія ладзіліся навуковым краязнаўчым таварыствам школьнікаў “Ювента” СШ №1 (кіраўнік І.М. Пракаповіч), у тым ліку: 2002, лістапад – экспедыцыя па маршруце Сурвілішкі–Дзяўгуны–Кукляны–Паташня–Сухарышкі–Апідамы–Палессе; 2003, вясна – экспедыцыя па маршруце Ёдаўцы–Мумішкі–Караліново; 2006, лета – экспедыцыя па маршруце Задзеўе–Дукі–Літвінкі і інш.

Публікацыі пра І. Заяц: Сідарэвіч, А. Выдадзена ў Паставах // Наша Ніва. – 2005. – № 29 – 5 жн. – С. 8; Далідовіч, Г. Манькавічы // КГ. – 2005. – жн. – № 31–32. – С. 8; Лекарэвіч, Л. Аснова для далейшых даследаванняў // ПК. – 2007. – № 13. – С. 4. Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 121-122; Пішч, Г. Сняцца ў Шанхаі Паставы // ПК. – 2010. – 29 вер.; Пищ, Г. “Человек должен стремиться преуспеть в жизни” // ПК. – 2011. – 1 кастр.

Адрас для кантактаў: irina_zayats@mail.ru

***Зямчонак Іосіф Пятровіч***, гісторык, педагог, краязнаўца. Нарадзіўся 22 лютага 1963 г. у вёсцы Цівунцы Пастаўскага раёна. Скончыў Варапаеўскую СШ (1980), Ленінградскае тэхнічнае вучылішча № 65 (1981), Аршанскае педагагічнае вучылішча (1987), гістарычны факультэт БДУ (1994). У 1996–1999 гг. быў суіскальнікам вучонай ступені кандыдата гістарычных

навук у БДУ на кафедры гісторыі Беларусі старажытнага часу і сярэдніх вякоў гістарычнага факультэта, стажыстам Інстытута гісторыі Падляшскай Акадэміі, г. Седльцэ (Польшча, 2000–2003). Працаваў настаўнікам ў Гуцкай (1987–1994), а пасля Варапаеўскай СШ Пастаўскага р-на (1994–2000). З 2003 г. працаваў ад'юнктам [навуковым супрацоўнікам] Кафедры беларусістыкі Варшаўскага ўніверсітэта (Польшча).

Зацікавіўся краязнаўствам у час беларускага адраджэння другой паловы 80-х гадоў XX ст. У час вучобы ў БДУ напісаў і абараніў дыпломную працу пад назвай "Варапаева. Гістарычны нарыс".

Даследуе мінуўшчыну малых паселішчаў беларускай часткі даўняй Віленшчыны ўздоўж старажытнага тракту Стэфана Баторыя (Вільня–Полацк) на сучасным беларуска-літоўскім паграніччы: Паставы, Варапаева, Дунілавічы, Лучай, Парыж, Асінагарадок, Ляхаўшчына і інш.

Падчас працы ў школах арганізаваў турысцка-краязнаўчы клуб "Волаты" і распрацаваў аўтарскую праграму курса краязнаўства для школ Пастаўскага раёна "Ведай свой край". Да праграмы распрацаваў навучальны дапаможнік (у электронным варыянце).

Апублікаваў звыш 100 артыкулаў у рэспубліканскім і мясцовым перыядычным друку, каля 15 брашур і кніг. У першай палове 1990-х гг. заснаваў серыю "Мястэчкі даўняй Віленшчыны", якая складалася з шэрагу кніг, прысвечаных малым паселішчам Віленшчыны: "Мястэчка пры гасцінцы. Старонкі гісторыі Варапаева і бліжэйшых населеных пунктаў"; "Паставы. Горад на сумежжы культур 996–1996"; "Гістарычнае краязнаўства Пастаўшчыны", "Данілавічы 1473–1998. Гістарычны нарыс", "Лучай. Гісторыя маёнтка, мястэчка і вёскі 1542–1998 гг.", "Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер'я"; "Храмы Залатога пояса Пастаў".

У 1999 г. па палітычным прычынах быў змушаны да эміграцыі ў Польшчу, дзе справамі краязнаўчымі займаецца толь-

кі эпізадычна. Пасля адбыцця стажыроўкі ў Інстытуце гісторыі Падляшскай Акадэміі (г. Седльцэ, Польшча), дзе з’яўляўся першым аспірантам-гісторыкам з Беларусі, у 2002 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю ў Інстытуце гісторыі навукі Польскай Акадэміі Навук у Варшаве. Атрымаў эксклюзіўны дыплом са спецыялізацыяй у галіне гісторыі навукі і асветы.

Член ГА “Міжнародная асацыяцыя беларусістаў”. Сябра Рады Беларускага краязнаўчага таварыства імя Тодара Нарбута, каардынатар Гарадзенскай краязнаўчай асацыяцыі па Віцебскай вобласці (да выязду за мяжу).

Узнагароджаны знакам Педагагічнага таварыства РБ “За актыўную працу”, дыпломам Міністэрства Культуры РБ (1997).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Мястэчка пры гасцінцы. Старонкі гісторыі Варапаева і бліжэйшых населеных пунктаў. – Мн.: Беларусь-Інфарм-сэрвіс, 1995. – 128 с.; Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер’я. – Гродна, 1998 (2-е выд. – 2004). – 105 с.; Браславщина. Справочник на каждый день. – Мн., 2000. – 85 с.; Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер’я. – Гродна, 2000. –104 с.; Поставщина. Справочник на каждый день. – Мн., 2000. – 63 с.; Райнольд Тызенгауз. Кредо служащего / Сост.: И. Земчёнок. – Витебск: самвыдат, 2000. – 44 с.; Храмы Залатога поясу Пастаў. – Мн. : Экаперспектыва, 2000. – 102 с.; Лучай. Гісторыя маёнтка, мястэчка і вёскі 1542–1998. – Паставы: “Сумежжа”, 2004. – 67 с.; Данілавічы 1473–1998. Гістарычны нарыс. Паставы: “Сумежжа” (самвыдат), 2004. – 60 с.; Rajnold Tyzenhauz, Jak wychowywać dzieci. Wybór pism, wyboru dokonał oraz słowem wstępnym opatrzył Józef Ziemczonok. – Warszawa, 2006. – 138 s.; Twórczość Rajnolda Tyzenhauza. – Warszawa, 2007. – 94 s.; Trzej Tyzenhauzowie. Szkice biograficzne. – Warszawa, 2007. – 150 s; Konstanty Tyzenhauz 1786–1853. Uczony. Mecenas. – Warszawa, 2007. – 140 s.; Traktem Stefana Batorego: Postawy na pograniczu kultur 1409-1939-2009. – Warszawa, 2009. – 396 s.

Артыкулы ў энцыклапедыях: Лучай // ЭГБ. – Т. 4. – Мн., 1997. – С. 404–405; Лынтупы // ЭГБ. – Т. 4. – Мн., 1997. – С. 407; Паставы // ЭГБ. – Т. 6. – Мн., 1999. – С. 429–430; Паставы // Энцыклапедыя

Вялікага княства Літоўскага. – Т. 2. – Мн.: БелЭн, 2006. – С. 406;

Артыкулы ў навуковым друку: Бароны Тызенгаўзы у гісторыі Паставаў // Спадчына. – 1997. – № 5. – С. 127–147; Паставы Віленскія ў часы Тызенгаўзаў (1760–1880 гг.) // Браслаўскія чытанні. Матэрыялы IV навукова-практычнай канферэнцыі 24–25 красавіка 1997 г. Браслаў, 1997. – С. 92–99; Канстанцін Тызенгаўз вачыма гісторыка // Біялогія. Праблемы выкладання. – 1998. – № 4. – С. 109–112; Дзевятоўскі Антоній // Кантакты і дыялогі. – 1998. – № 10–11. – С. 25–26; Рэйнгольд Тызенгаўз аб садоўніцтве // Біялогія. Праблемы выкладання. – 1999. – № 4. – С. 99–101; Тызенгаўзы Пушкінскага атачэння // Асновы мастацтва. – 1999. – № 2. – С. 59–69; Музычная культура па Райнольду Тызенгаўзу // Дыялог. Культурна-рэлігійны часопіс. – 2000. – № 10. – С. 12–13; Данілавічы // Нашы карані. – 2004. – № 13. – С. 4–31; Лучай // Нашы карані. – 2004. – № 14. – С. 14–45; Гісторыя Беларусі ў гістарыяграфііі Польшчы (90-я гг. XX ст.) // Droga ku wzajemnosci: 50 lat bialorutenistyki na Uniwersytecie Warszawskim / Katedra Bialorutenistyki Uniwersytetu Warszawskiego; redakcja naukowa Mikolaj Timoszuk i Mikolaj Chaustowicz. – Warszawa, 2007. – С. 396–403; Muzeum zoologiczne Konstantego Tyzenhauza w Postawach (1814–1856) // Kwartalnik Historii Nauki i Techniki. – 2001. – Nr 2. – S. 121–140

Артыкулы ў мясцовым перыядычным друку: Пастаўшчына на мяжы стагоддзяў // ПК. – 1993. – № 70; З мінуўшчыны Варапаева і наваколля // ПК. – 1993. – № 79; Падарожжа ў гісторыю // ПК. – 1993. – № 90; Паставы і воласць у пачатку XX стагоддзі // ПК. – 1994. – № 2; Вясельны абрад // Тамсама; Талент, узгадаваны ў турмах // Звязда. – 1994. – № 197; Перакрыжаванні лёсаў // ЛіМ. – 1994. – № 28. – С. 4; З гісторыі Свянцянскага прарыва // Сумежжа. – 1994. – № 1; А даўгі застаюцца // Сумежжа. – 1994. – № 2; Сталін-малодшы хоць і піў, але быў чалавечным // Сумежжа. – 1994. – № 3; Гады маладосці, сэрца успамін // Сумежжа. – 1994. – № 4; Шляхецкія фаміліі Пастаўшчыны // Сумежжа. – 1994. – № 5; Лічыўся райцэнтрам, а горадам не стаў // Сумежжа. – 1994. – № 7–10; Кулацкія справы. Як шла прымусовая калектывізацыя ў Дунілавіцкім раёне // Сумежжа. – 1994. – № 10–14; Іх змалацілі цапамі рэпрэсій // НС. – 1994. – № 92. – С. 6; Мястэчка пры гасцінцы // Сумежжа. – 1995. – № 1–4; Сталінскі “сенакос” на Пастаўшчыне. Мястэчка пры гасцінцы // Сумежжа.

– 1995. – № 7–8; Новае пра Сікору // НС. – 1996. – 29 кастр.; Вучоны з Пастаў // Падарожнік. – 1996. – № 9;  З гісторыі Пастаўшчыны // Пагоня. – 1996. – 19–25.07.; Паставы эпохі Тызенгаўзаў // НС. – 1996. – № 27. – С. 6; Школы мастацтваў маёнтка Паставы // Падарожнік. – 1997. – № 3. – С. 6; Вёска Лучай (Пастаўскі раён) // Падарожнік. – 1997. – № 5; Вёска Казлоўшчына (Пастаўскі раён) // Падарожнік. – 1997. – № 6; Вёска Лучай (Пастаўскі раён) // Падарожнік. – 1997. – № 5; Ігнацій Дамейка – вучоны і падарожнік // Падарожнік. – 1997. – № 7; Вёска Манькавічы (Пастаўскі раён) // Тамсама; Графы Пшаздзецкія герба Шахматная вежа ў гісторыі Пастаўшчыны // Падарожнік. – 1997. – № 8–9; Хірург ад Бога // ПК. – 1997. – № 38. – С. 2; Святар і будаўнік // НС. – 1997. – № 72. – С. 5; Раскіданае гняздо, альбо чаму беларускі Парыж знік з карты свету // Народная воля. – 1997. – № 183; Сямашкі герба Лебедзь // Падарожнік. – 1998. – № 2–4; Крамлёўскі камунальнік: ад Плісы да „Баля ў Сатаны" // Падарожнік. – 1998. – № 5. – С. 23; Канстанцін Тызенгаўз: натураліст і мецэнат // Сумежжа. – 1998. – № 1–2; Залатое кола Беларусі. Погляд з Пастаў // Сумежжа. – 1998. – № 3–4; Скарбы Тызенгаўзаў і іх нашчадкаў // Тамсама; Колькі год Паставам  // Сумежжа. – 1998. – № 5–6. – С. 1; Да гісторыі рода – Фердынанд Тызенгаўз. Пецярбугская галіна // Тамсама; Збігнеў Сямашка // Народная воля. – 1998. – № 138. – С. 3; Граф Рэйнгольд Тызенгаўз: жыццё праз прызму садоўніцтва  // НС. – 1998. – № 97. – С. 5; Фердынанд Тызенгауз. Пецярбургская галіна // Сумежжа. – 1998. – № 5–6. – С. 6–9; Землякі замежжа // Сумежжа. – 1998. – № 7–8, 9; Адам Міцкевіч і наш край // Сумежжа. – 1998. – № 9. – С. 7; Раскопкі на паганскім капішчы // Тамсама; Невядомыя імёны: Адам Паўловіч (1912–1984 гг.) і Венедыкт Макрак (1887–1935 гг.) // ВГл. – 1999. – № 91. – С. 4; Волаты" Варапаева // Падарожнік. – 1998. – № 1. – С. 9–10; Сімяон Полацкі і царкоўнае вучылішча на Броннай слабадзе Масквы // Падарожнік. – 1998. – № 12. – С. 15–16; Па слядах райскай птушкі // НС. – 1999. – № 14. – С. 5; Р. Тизенгауз: "Что делать после окончания учёбы или Ответы молодого человека на свои вопросы" // НС. – 1999. – № 58. – С. 8; Філасофска-педагагічная публіцыстыка Тызенгаўза // НГ. – 1999, жнівень. – С. 4; Ваколіцы Парыжа. Старонкі гісторыі Пастаўскага Паазер'я // Kresy. Краязнаўца Паазер'я. – 2000. – № 3–9; Данілавічы. Мястэчкі старажытнай Віленшчыны // Kresy. – 2000. – № 1. – С. 1–4; Лучай 1542–1999 гг. Гісторыя

маёнтка, мястэчка і вёскі // Kresy. – 2000. – № 2. – С. 1–7; Паставы Віленскія (гістарычны нарыс) // Kresy. – 2000. – № 12. – С. 1–4.

Рукапісы: У прыватным архіве мае ненадрукаваныя працы: “Мястэчка над Зарніцай. Варапаева 1722–2002” (каля 150 старонак камп’ютарапісу А4), “Паставы. Горад на сумежжы культур 996–1996” (каля 200 старонак камп’ютарапісу А4), “Гістарычнае краязнаўства Пастаўшчыны”.

Вучэбныя праграмы: Ведай свой край. Аўтарская праграма. Паставы, (рэпрынт), 1998. – 104 с.; Праграма курса “Краязнаўства”. – Варапаева–Віцебск: самвыдат, 1999. – 12 с.; Залаты пояс Пастаў. Навукова-метадычная распрацоўка краязнаўча-турысцкіх маршрутаў Пастаўскага раёна для арганізацыі аўтобусных, пешых, веласіпедных, лыжных і інш. экскурсій і вандровак. Аўтарскі праект, Паставы: (рэпрынт), 1999. – 78 с.; Аўтарская праграма „Ведай свой край” краязнаўча-турысцкага клуба „Волаты”. – Варапаева: самвыдат, 1999. – 24 с.;

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: З 1996 года ўдзельнічаў у 20 міжнародных краязнаўчых і навуковых канферэнцыях, сярод якіх: Стэфан Баторий и Восточная Европа в его время (г. Гродно, 12–14.12.1996 г., даклад “Памятныя мясціны часоў Стэфана Баторыя на Дзісненшчыне”), “Дисненские чтения” (г. Дисна – Миоры, 20–21.06.1996 г.), “Браславские чтения” (г. Браслав, 1997 г.), Навукова-краязнаўчая канферэнцыя “Глыбоччына: погляд у мінулае” (г. Глыбокае, 21–23.06.1999 г.), “Фарміраванне і развіццё нацыянальнай самасвядомасці беларусаў” (Наваполацк, 22–23 травеня 1999 г.), гісторыка-краязнаўчая канферэнцыя “Погляд у мінулае” (II Дзісненскія чытанні) (г. Глыбокае, 21–23.06.1999 г.), Міжнародны кангрэс па асвеце (Мінск, 2000 г.), IX Навуковыя чытанні памяці Л. С. Мухарынскай (1906–1987) (Мінск, 20–21 красавіка 2001 г.), міжнародная канферэнцыя “Rzeczpospolita Obojga Narodów i jej tradycje do 1945 roku”(Седліца, 2002), міжнародная канферэнцыя “Беларуска-польскія літаратурныя, моўныя і гістарычныя сувязі (да 125-годдзя Янкі Купалы і Якуба Коласа)” (Мінск, 27–29.06.2007). З’яўляўся адным з арганізатараў канферэнцыі “Педагогическая публицистика Райнольда Тызенгауза” (г. Паставы, 1999 г.)

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: З другой паловы 1980-х гадоў да канца 90-х XX ст. абхадзіў і аб’ездзіў Пастаўшчыну і суседнія

раёны. Працаваў як даследчык у архівах, бібліятэках і музеях Мінска, Віцебска, Гродна, Полацка, Пастаў, Глыбокага і іншых месцах. Выязджаў для пошукавай працы ў архівы і бібліятэкі Расіі і Польшчы – Маскву, Пецярбург, Варшаву, Вроцлаў, Кракаў і іншыя.

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: Браў удзел у папаўненні збору Пастаўскага краязнаўчага музея, экспазіцыі, арганізаванай у былым палацы Тызенгаўзаў у Паставах. Мае прыватную калекцыю ў Варапаеве і ў Варшаве.

Дзейнасць у якасці куратара і навуковага кіраўніка вучнёўскіх даследчых работ: падчас працы ў Варапаеўскай школе вучні І. Зямчонка распрацавалі шэраг даследчых праектаў, якія з'яўляліся дыпламантамі раённых і абласных конкурсаў.

Матэрыялы пра І. Зямчонка: Казлоў Л. Мястэчка пры гасцінцы // Падарожнік. Журнал путешествий и приключений. – 1996. – № 4. – С. 14; Земчонок И. // Кто есть кто в Республике Беларусь. Люди дела. Энциклопедия. – Мн.: БелЭн, 1999. – С. 218; Шык У. Настаўнік, у вугал // ВГ. – 2000. – № 1 (33), студз. – С. 2; Мальдзіс А. Ліст з Мінска // ВГ. – 2000. – № 5 (37), сак. – С. 1; Іванова Г. Краязнаўчая скарбонка папаўняецца // Народная газета. – 2000. – № 111. – С. 2; Па ваколіцах Парыжа // Крэсы. – 2000. – № 7–8. – С. 1; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 123-125; Пракаповіч, І. Краязнаўцы Пастаўшчыны ў даведніку М. Півавара // Шыпшына. – 2012. – 27 лют. – № 2.; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 198; Анкета "Краязнаўцы Віцебшчыны" Зямчонак І. (26.02. 2008 на 4-х старонках) // захоўваецца ў асабістым архіве М. Півавара.

***Іванковіч Уладзімір Уладзіміравіч***, фермер, краязнаўца. Нарадзіўся 8 студзеня 1970 г. у г.п. Лынтупы. Скончыў Вільнюскі палітэхнічны тэхнікум (аддзяленне сувязі) (1986). Працуе фермерам (з 1993). Цікавіцца гісторыяй роднага краю пачаў у час вучобы ў школе. Даследуе гісторыю Віленскага краю. Стварыў прыватны музей ў г.п. Лынтупы. Браў удзел ва ўсталяванні помнікаў, памятных крыжоў і капліц у гонар гістарыч-

ных падзей у родным краі (паўстанцам 1831 г. у в. Жакі (Лынтупскі с/с), невядомаму польскаму салдату ў г.п. Лынтупы).

***Капылоў Ігар Лявонавіч***, навуковец, кандыдат філалагічных навук, краязнаўца. Нарадзіўся 16 ліпеня 1967 г. у в. Пятрагі Юнькаўскага сельсавета Пастаўскага раёна. У 1982 г. закончыў Юнькаўскую васьмігадовую школу, у 1984 г. – СШ № 2 г. Паставы, у 1991 г. – філалагічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта, у 1996 г. – аспірантуру пры Інстытуце мовазнаўства імя Якуба Коласа НАН Беларусі. Абараніў кандыдацкую дысертацыю «Тапанімія беларускіх дзелавых помнікаў XV – XVIII стст.».

Працоўная дзейнасць звязана з Інстытутам мовазнаўства імя Я. Коласа Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі: у 1991 годзе быў залічаны на працу стажорам-даследчыкам, затым займаў пасады малодшага навуковага супрацоўніка, навуковага супрацоўніка, старшага навуковага супрацоўніка, загадчыка аддзела лексікалогіі і лексікаграфіі, вучонага сакратара Інстытута, з сакавіка 2016 года – дырэктар Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа.

Асноўныя напрамкі навуковай дзейнасці: лексікалогія і лексікаграфія, анамастыка, камп’ютарная лінгвістыка. Асноўнымі накірункамі краязнаўчых росшукаў з’яўляюцца айканімія, мікратапанімія, антрапанімія, гістоыя роднай вёскі. Найбольш значнымі здабыткамі на ніве краязнаўства І. Капылоў лічыць выданне кнігі “Пятрагі. Тарасаўка. Старонкі вясковага жыцця” (у суаўтарстве), серыю артыкулаў пра прозвішчы знакамітых асоб Беларусі, серыю артыкулаў пра паходжанне ўласных геаграфічных назваў у рубрыцы “Родныя тапонімы” (газета “Звязда”).

І. Капылоў з’яўляецца аўтарам больш за 170 навуковых прац, сярод якіх манаграфіі “Мова “Нашай Нівы”. Семантыка. Стылістыка”, “Гісторыя беларускай зямлі ва ўласных імёнах: па слядах Дзён пісьменства”; слоўнікі і даведнікі “Слоўнік

мовы «Нашай Нівы», “Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Віцебская вобласць”, “Беларуска-рускі слоўнік. Новыя правілы”, “Слоўнік арфаграфічных новаўвядзенняў беларускай мовы”, “Разам, асобна, праз злучок”; вучэбныя дапаможнікі “Беларуская мова ў табліцах і схемах”, “Правапіс беларускай мовы. Асноўныя правілы і практычныя заданні” і інш.

І. Капылоў – вядучы спецыяліст у галіне анамастыкі. Прымаў актыўны ўдзел у распрацоўцы тэарэтычных асноў стандартызацыі ўласных геаграфічных назваў. Распрацаваў новы напрамак у беларускім мовазнаўстве – гістарычная анамастыка. Актыўна працуе ў галіне камп’ютарнай лінгвістыкі. Пад яго навуковым кіраўніцтвам створаны “Нацыянальны корпус беларускай мовы”.

Вядзе актыўную навукова-педагагічную дзейнасць у Інстытуце дзяржаўнай службы Акадэміі кіравання пры Прэзідэнце Рэспублікі Беларусь.

На пасадзе старшыні Рэспубліканскай тапанімічнай камісіі праводзіць вялікую работу па ўнармаванні нацыянальнай тапаніміі і антрапаніміі.

**Здабыткі ў краязнаўстве, мовазнаўстве, тапаніміі:**

Кнігі: Мова «Нашай Нівы». Варыянтнасць. Сінанімія. – Мінск: Беларуская навука, 2005. – 304 с. (у суаўтарстве); Die weisrussische Sprache in der Familie europaischen Sprachen. – Jena, 2005. – 70 с.; Мова “Нашай Нівы”. Семантыка. Стылістыка. – Мінск: Беларуская навука, 2014. – 363 с. (манаграфія, у суаўтарстве); Гісторыя беларускай зямлі ва ўласных імёнах: па слядах Дзён пісьменства: манаграфія / Г.М.Мезенка, І.Л.Капылоў. – Віцебск: ВДУ імя П.М. Машэрава, 2015. – 140 с. (у суаўтарстве); Пятрагі. Тарасаўка. Старонкі вясковага жыцця. Кніга памяці. (разам з С. Жук). - Мінск: Права і эканоміка, 2013. – 283 с.

Слоўнікі, даведнікі, нарматыўныя дакументы: Буква прописная или строчная. Літара вялікая або малая. Словарь-справочник. Слоўнік-даведнік. Минск: Современное слово, 2003. – 235 с. (у суаўтарстве); Арфаграфічны слоўнік беларускай мовы. Мінск: Сучас-

нае слова, 2006. – 240 с.; Арфаграфічны слоўнік. 20 000 слоў. - Мінск: Сучасная школа, 2008. - 253 с. (у суаўтарстве); Слоўнік мовы «Нашай Нівы» у пяці тамах. Т. 1. - Мінск: Тэхналогія, 2003. - 623 с. (у суаўтарстве); Слоўнік мовы «Нашай Нівы» у пяці тамах. Т. 2. - Мінск: Тэхналогія, 2007 с. - 623 с. (у суаўтарстве); Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Мінская вобласць. Нарматыўны даведнік. - Мінск: Тэхналогія, 2003. - 604 с. (у суаўтарстве); Назвы населеных пунктаў Рэспублікі Беларусь. Віцебская вобласць. Нарматыўны даведнік. - Мінск: Тэхналогія, 2009. – 687 с. (у суаўтарстве); Тлумачальны слоўнік беларускай мовы для школьнікаў. - Мінск: Сучаснае слова, 2006. - 446 с.; Толковый словарь русского языка для начальной школы. - Ростов-на-Дону: Феникс, 2009. – 147 с. (у суаўтарстве).; Словообразовательный словарь русского языка. - Минск: ТетраСистем, 2010. – 528 с. (у суаўтарстве); Беларуска-рускі слоўнік. Новыя правілы. - Мінск: Сучасная школа, 2010. – 400 с. (у суаўтарстве); Слоўнік арфаграфічных новаўвядзенняў беларускай мовы. – Мінск: "Современная школа". – 2010. – 96 с. (у суаўтарстве); Разам, асобна, праз злучок. - Мінск: Аверсэв, 2011. – 192 с. (у суаўтарстве); Тэхнічны кодэкс устаноўленай практыкі. Геаграфічныя назвы. Спосабы і правілы перадачы геаграфічных назваў і тэрмінаў Літоўскай Рэспублікі на беларускую мову. Выдане афіцыйнае. - Дзяржаўны камітэт па маёмасці Рэспублікі Беларусь, 2009. – 24 с. Тэхнічная інструкцыя па перадачы найменняў геаграфічных аб'ектаў з рускай мовы на беларускую мову. ДКНП 13-012-2011. Выданне афіцыйнае. - Мінск: Навукова-даследчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства па землеўладкаванні, геадэзіі і картаграфіі "БелНДЦзем", 2011. – 32 с. (у суаўтарстве); Тэхнічная інструкцыя па перадачы найменняў геаграфічных аб'ектаў з беларускай мовы на рускую мову. ДКНП 13-012-2011. Выданне афіцыйнае. - Мінск: Навукова-даследчае рэспубліканскае ўнітарнае прадпрыемства па землеўладкаванні, геадэзіі і картаграфіі "БелНДЦзем", 2011. – 32 с. (у суаўтарстве); Школьный курс. Русский язык. 5 – 11 классы. - Минск: Аверсэв, 2016. – 302 с. (у суаўтарстве); Тлумачальны слоўнік беларускай літаратурнай мовы : больш за 65 000 слоў / уклад. : І.Л. Капылоў [і інш.]; пад рэд. І.Л. Капылова. — Мінск : Беларуская Энцыклапедыя імя Петруся Броўкі, 2016. — 968 с. і інш.

Вучэбныя дапаможнікі: Беларуская мова ў табліцах і схемах.

Вучэбны дапаможнік для школьнікаў і абітурыентаў. Мінск: Сучаснае слова, 2006. – 224 с. (у суаўтарстве); Краткий справочник школьника. Все правила синтаксиса и пунктуации. - Минск, Москва: Харвест, 2005. - 604 с.; Вся руская литература. Весь русский язык. - Минск: Современный литератор. - 1200 с. (у суаўтарстве); Изложения по рускому языку. 9 класс. - Минск: Книжый дом, 2003. – 216 с. (у суаўтарстве); Изложения по рускому языку. 11 класс. - Минск: Книжный дом, 2003. - 235 с. (у суаўтарстве); Правапіс беларускай мовы. Асобна, разам, праз дэфіс. Асноўныя правілы і практычныя заданні. - Мінск: Сучаснае слова, 2005. – 206 с. (у суаўтарстве); Правапіс беларускай мовы. Асноўныя правілы і практычныя заданні. - Мінск: Сучаснае слова, 2008. – 256 с. і інш.

Навуковыя артыкулы (падаюцца артыкулы краязнаўчай тэматыкі (частка): Беларуская айканімія і білінгвізм // Проблемы изучения и преподавания русского языка в вузах и школах республики. Минск, 1992. – Ч. II. – С. 7 – 9; Метадычны аспект тапаніміі // Беларуская мова і літаратура: Праблемы навучання і вывучэння ў сярэдняй і вышэйшай школе. - Мінск, 1994. – Ч. 1. – С. 29—31.; Беларуская айканімія XV—XVIII стст. ва ўмовах паланізацыі // Беларуска-руска-польскае супастаўляльнае мовазнаўства і літаратуразнаўства: Матэрыялы III міжнар. навук. канф. – Віцебск, 1994. – С. 112 – 115.; Тапонімы з асновамі Морач=, Мерач= // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. – 1996. – № 1. – С. 124 – 133.; Беларуская старажытная айканімія з прыналежнымі фармантамі // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. гуманітар. навук. – 1996. – № 4. – С. 108 – 118.; Тапанімічная сінанімія (на матэрыяле тапаніміі помнікаў дзелавой пісьменнасці XV—XVIII стст.) // Мова, літаратура, культура (да 55-годдзя адкрыцця кафедры беларускай мовы і літаратуры БДУ). – Мінск, 1998. – Ч. 2. – С. 33—35.; Прыродна-геаграфічная лексіка ў айканіміі беларускіх дзелавых помнікаў XV – XVIII стст. // Беларуская мова і мовазнаўства на рубяжы III тысячагоддзя. Мінск, 2000. – С. 78 – 81.; Тапанімія беларускіх дзелавых помнікаў XV– XVIII стст. Мінск: Права і эканоміка, 2001. – 18 с.; Беларускія помнікі дзелавой пісьменнасці як крыніца вывучэння тапаніміі // Современные проблемы школьного и вузовского географического образования и топонимических исследований. – Минск, 2001. – С. 169 – 172.; Тапонімы з асновамі Волотовк=, Велятовк= як сімвал бал-

та-славянскай еднасці // Dziedzictwo przeszłosci związkow literackich i kulturowych polsko-bałto-wschodniosłowiańskich. Z jezyka i kultury pogranicza. T. III. – Białystok, 2002. S. 182—192.; Слоўнік старажытнай тапанімii. Прынцыпы ўкладання // Слово и словарь. Vocabulum et vocabularium. Сборник научных трудов по лексикографии. Гродна, 2002. С. 103—107.; Айконімы адгідранімічнага паходжання (на матэрыяле старабеларускіх помнікаў дзелавой пісьменнасці XV – XVIII стст.) // Актуальные вопросы славянской ономастики. Гомель, 2002. С. 117–122.; Назвы адантрапанімічнага паходжання ў тапанімii паўночна-ўсходніх зямель Вялікага княства Літоўскага // Мовы Вялікага княства Літоўскага. Брэст, 2005. С. 208—210.; Прыназоўнікава-апісальныя канструкцыі ў тапанімii паўночна-ўсходніх зямель Вялікага княства Літоўскага // Сучасныя праблемы беларускага мовазнаўства. Мінск, 2005. С. 73—78.; Прынцыпы класіфікацыі славянскай тапанімii. Структурна-граматычны аспект // Номинативная деривация и словообразование в славянских языках. Гродно, 2005. С. 96—101.; Тапонімы ў форме словазлучэнняў у канцылярска-юрыдычных помніках XV—XVIII стст. // Проблемы изучения и преподавания региональной географии. Могилев, 2005. С. 77-82.; Патранімічныя назвы ў сістэме тапанімii Вялікага княства Літоўскага //Беларуская лінгвістыка, 2007. Вып. 60. С. 24 – 39.; Топонимия // "Республика Беларусь. Энциклопедия." Минск: Белоруская энциклопедия, 2008. Т. 5. С. 431–432.; Пастаўшчына ў яе сувязі з духоўнай і матэрыяльнай культурай народа // Пастаўскія чытанні – 2006. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі. Мінск, 2008. С. 11–15; Гісторыя Шклоўшчыны ў геаграфічных назвах // Шклоўскія чытанні – 2007. Матэрыялы рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі. Мінск, 2008. С. 25 – 28.; Топонимия Великого княжества Литовского как источник изучения истории личных имен белорусов // Этнография Алтая и сопредельных территорий. Барнаул, 2008. С. 147–152; Беларуская рэгіянальная гідранімія: лінгвакультуралагічны і нарматыўны аспект // «Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух". Мінск, 2012. С. 36–40.; Гідранімія Брэстчыны. Праблемы сістэматызацыі і ўнармавання // Актуальныя пытанні мовазнаўства і лінгвадыдактыкі. Брэст, 2012. С. 125–131.; Унармаванне нацыянальнай тапанімii Беларусі ў кантэксце дзяржаўнага беларуска-рускага

двухмоўя // XV Міжнародны з’езд славістаў (Мінск, Беларусь, 20 – 27 жніўня 2013 г.). Том 1. Мовазнаўства. Мінск: Беларуская навука, 2013. С. 338.; Współczesna sytuacja językowa na Postawszczyznie w perspektywie uzupełnienia wielojęzycznego słownictwa terenowego // Słowianskie słowniki gwarowe – tradycja i nowatorstwo. Warszawa, 2014. S. 21.; Каб захаваць найменні па-беларуску // Веды, 17 сакавіка 2014. № 11. С. 6.; Беларуская тапанімія ў часы Рэчы Паспалітай // Studia Białorutenistyczne, 2016. № 9. Lublin. S. 237 – 254 і інш..

Артыкулы ў газеце “Звязда”, рубрыка “Родныя тапонімы”: Багданаўка // Звязда, 30 красавіка 2015. - С. 7; Кісцяні і Мадора // Звязда, 9 красавіка 2015. - С. 9; Прозвішчы года, альбо чаму ў Мінску столькі Казловых? // Беларускі час, 2015. № 1. - С. 21; Двары панскія, шляхецкія, баярскія // Звязда, 29 красавіка 2015. - С. 16; Імя продка – Пачай // Звязда, 8 кастрычніка 2015. - С. 8; Карсекава гара // Звязда, 29 красавіка 2015. - С. 9; Слідцы – ад “Слізкі” // Звязда, 12 лістапада. - С. 8; Грычына // Звязда, 20 кастрычніка 2016 года. – С. 16; Дубы і іх імёны // Звязда, 14 студзеня 2016 года. - С. 8; За дугой // Звязда, 7 ліпеня 2016 года. – С. 16; Засценкі – белыя // Звязда, 7 красавіка 2016 года. – С. 16. 15. Кольна // Звязда, 2 верасня 2014 . № 165. - С. 6; Палонка, Руда-Яварская, Капці // Звязда, 4 лістапада 2014. - С. 6; Лапатнікі // Звязда, 23 снежня 2014. - С. 6; Дворышча // Звязда, 26 верасня 2014. - С. 6; Багданаўка // Звязда, 30 красавіка 2015. - С. 7 і інш.

Удзел у краязнаўчых і навуковых канферэнцыях: канферэнцыя “Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух” (даклад “Беларуская рэгіянальная гідранімія: лінгвакультуралагічны і нарматыўны аспект”); Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя “Рагачоўскія чытанні-2016” (даклад “Прозвішчы жыхароў Рагачоўскага раёна ў кантэксце моўнай карціны свету беларусаў”); Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя “Барысаўскія чытанні – 2008” (даклад ”Барысаўшчына як састаўная частка гісіторыка-культурнага ландшафту краіны”); Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя “Смаргонскія чытанні – 2009” (даклад “Сінтэз лінгвакультурных традыцый ў антрапаніміі і тапапніміі Смаргоншчыны”); Рэспубліканскі навукова-практычны семінар “Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі” (даклад “Прозвішчы жыхароў Пастаўскага раёна як крыніца

ўнікальнай гістарычнай і лінгвакультуралагічнай інфармацыі”) і інш.

Матэрыялы пра І. Л. Капылова (частка): Пішч, Г. “Акрыяю з водарам бароў пасля пыльных стогалосых вуліц” (інтэрв’ю) // ПК. – 2009. – 22 крас. – С. 3-4; Курыловіч, П. Пастаўшчына – сталіца краязнаўства / Пётр Курыловіч // Пастаўскі край. – 2016. – 21 снеж; Жук, С. Ва ўсім таленавіты [Пра І. Капылова] // ПК. – 2017. – 15 ліп. – С. 2; Анкеты І. Л. Капылова ад 26. 11. 2016 і 14.07.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: 220059, вул. Скрыпнікава, д. 11, кв. 88, г. Мінск; тэл. хатні (8017)3142608; тэл. маб. (8029)6251127

***Касцень Алесь (Касцень Аляксандр Дзмітрыевіч)***, беларускі паэт, празаік, журналіст. Нарадзіўся 18 красавіка 1955 г. у г. Паставы. Скончыў СШ № 2 роднага горада, філфак БДУ. Вайсковую службу праходзіў у рэдакцыі газеты “Патриот Родины” 120-й гвардзейскай Рагачоўскай дывізіі. Працаваў журналістам у газетах “Пастаўскі край”, “Звязда”, “Народнае слова”, “Вольнае Глыбокае”. Аўтар шэрагу артыкулаў на краязнаўчыя тэмы ў мясцовым перыядычным друку. Адзін з арганізатараў літаратурна-выдавецкай справы на Пастаўшчыне. Кіраваў дзейнасцю літаратурнага аб’яднання “Світанак”. Шмат зрабіў для выдання зборнікаў вершаў пастаўскіх аўтараў “Рунь”, “Рунь–92”, “Рунь–93”, “Рунь–2001”, а таксама літаратурна-культуралагічнага часопіса “Барвы” (2004). Быў рэдактарам многіх краязнаўчых кніг і артыкулаў, якія выдаваліся на Пастаўшчыне. Браў удзел у літаратурным семінары “Даўжанскія вечары–96”, які быў прысвечаны памяці У. Дубоўкі. Аўтар зборнікаў паэзіі “Зруб”, “Правінцыялы”, “13 чарачак і гляк”, кніг прозы “Золата дзядулі”, “Вясковыя і местачковыя гісторыі”, “Каменьчыкі ў кірзавым боце”, краязнаўчай кнігі “Мястэчка маёй любові”. Памёр 17 верасня 2009 г.

**Здабыткі ў краязнаўстве і літаратуры:**

Кнігі: Зруб: вершы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1983. – 38 с.; Золата дзядулі. – Паставы: “Світанак”, 1992. – 64 с.; Правінцыялы.

– Паставы: “Світанак”, 1992. – 48 с.; 13 чарачак і гляк. – Паставы: “Світанак”, ТБМ, 1995 (2014). – 64 с.; Вясковыя і местачковыя гісторыі. – Наваполацк: ГА “Усяслаў Чарадзей”, 2001. – 108 с.; Каменьчыкі ў кірзавым боце. – Глыбокае: РЦ “Барміца”, 2009. – 68 с.; Мястэчка маёй любові. – Паставы: Сумежжа-ТБМ, 2015. – 68 с.

Публікацыі ў перыядычных выданнях: Рэпрэсіравана па справе педвучылішча // ПК. – 1991. – № 85. – С. 2; Сцен спаконвечных святло // ПК. – 1991. – 30 ліп.; Героі, якім даравалі. Яшчэ раз пра лёс беларускіх патрыётаў // Звязда. – 1992. – 15 вер.; Погляд з хутара Лесунова. Верасень 1939-га як акт “вызвалення заходнікаў” ад зямлі // Сумежжа. – 1992. – 22 вер.; Залатыя рукі дзядулі // Сумежжа. – 1992. – № 10–11; Пастаўчане чакалі ад Леніна зямлі і волі. Але кола гісторыі павярнула інакш... // Сумежжа. – 1992. – № 14. – С. 1, 2; Герой ці ахвяра // Сумежжа. – 1992. – № 15. – С. 4; Чаго чакаць нам ад касцёла // Народнае слова. – 1992. – № 104. – С. 5; Справа педвучылішчаў. Дагэтуль у Паставах і Глыбокім чакаюць рэабілітацыі ахвяры сталіншчыны // Народнае слова. – 1992. – № 115. – С. 3; Едзем да Далмана // Сумежжа. – 1993. – № 1. – С. 4; Пяць яго мабілізацый // Сумежжа. – 1993. – № 17. – С. 2–3; Галгофа айца Канстанціна // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). – 1993. – № 61, 62; Галгофа айца Канстанціна [Жданаў К.Д.] // Народнае слова. – 1993. – № 66. – С. 4; Алеся і Антось [Саюз беларускай моладзі] // Народнае слова. – 1994. – № 31, 34, 37, 39; Ратавала воіна малітва [Аўсіевіч П.В.] // Народнае слова. – 1994. – № 89. – С. 3; А рыба ў Дзісне яшчэ ёсць // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). – 1994. – № 91. – С. 3, 4; Стары бацькаў фотаздымак // Народнае слова. – 1997. – № 136. – С. 6; Беларусы ў Бутырцы // Народнае слова. – 1999. – № 30. – С. 4; Панове мусульмане, альбо мае знаёмыя татары [Пастаўшчына] // Народнае слова. – 1999. – № 50. – С. 4; Мулкія мяхі // Народнае слова. – 2000. – № 79. – С. 5; Вясковыя гужы // Народнае слова. – 2002. – № 50. – С. 2; Старажытны бровар і людзі вакол яго // Звязда. – 2004. – 4 снеж. – С. 5;Чорная песня металу // ПК. – 2006. – № 134. – С. 3; Грынвальд у Пастаўскім раёне // Звязда. – 2006. – 14 вер. – С. 2; Мястэчка маёй любові // Дзе Мядзелка песні пяе... Пастаўшчына літаратурная. – Мн., 2006. – 270 с. – С. 52–54.

Публікацыі пра А. Касцяня: Дзе Мядзелка песні пяе... Пастаўшчына літаратурная. – Мн., 2006. – 270 с. – С. 253; Прака-

повіч, І. Памёр А. Касцень // Краязнаўчая газета. – 2009. – вер. – № 35; І. Пракаповіч “Восень сумна ідзе…” (памяці А. Касценя) [Артыкул]; “У мястэчку тваёй любові…” : [Верш] // Звязда. – 2009. – 19 вер.; Сідарэвіч, А. Памяці таварыша. Алесь Касцень // Наша Ніва. – 2009. – 20 вер.; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с.; Касаткіна, Ф. Мелодыя святла / Фаіна Касаткіна // ПК. – 2010. - № 34 – 30 крас.; І. Пракаповіч. У мястэчку яго любові…: [Артыкул]; “У мястэчку тваёй любові…” : [Верш] // Пастаўскі край. – 2010. – 15 вер.; Пракаповіч, І. Пастаўшчына літаратурная // Шыпшына. – 2011. – сак. – № 5; Пракаповіч, І. Краязнаўцы Пастаўшчыны ў даведніку М. Півавара // Шыпшына. – 2012. – 27 лют. – № 2; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 227-228.

***Кенька Міхась Паўлавіч,*** літаратурны крытык, літаратуразнавец, перакладчык, кандыдат філалагічных навук. Нарадзіўся 8 лютага 1947 г. у в. Вялікія Верацеі Пастаўскага раёна ў сям'і чыгуначніка. У 1965 г. скончыў Ласіцкую адзінаццацігодку і паступіў на філалагічны факультэт Магілеўскага педагагічнага інстытута. Пасля яго заканчэння (1969) працаваў у раённай газеце “Кіравец” г. п. Кіраўск Магілёўскай вобласці, настаўнічаў ва Ўдзелаўскай сярэдняй школе Глыбоцкага раёна і ў Віцебску, быў лектарам, загадваў кабінетам камсамольскай работы ў Віцебскім абкаме камсамола (1972-1973). З 1973 г. – аспірант, з 1976 г. – навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР, з 1983 г. – намеснік галоўнага рэдактара выдавецтва “Юнацтва”, з 1988 г. – дацэнт кафедры беларускай літаратуры Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Кандыдат філалагічных навук. Член СП СССР з 1988 г.

У рэспубліканскім друку з рэцэнзіямі і артыкуламі па тэорыі і практыцы мастацкага перакладу, праблемах беларускай савецкай прозы і паэзіі пачаў выступаць у 1974 г. Аўтар двух літарататуразнаўчых кніг, якія прысвечаны творчасці Ар-

кадзя Куляшова і Міхася Лынькова, суаўтар навуковых дапаможнікаў па літаратуразнаўству. Прымаў удзел у падрыхтоўцы Збораў твораў М. Лынькова, А. Куляшова, М. Гарэцкага. Укладальнік кніг “Яўгеній Анегін” (на рус. і бел. мовах)(1992), “Выбранае” М. Лынькова (2017). Рэдагаваў асобныя кнігі В. Якавенкі, А. Астапенкі, І. Міско.

Перакладае з рускай, украінскай, польскай, рускай, чэшскай моў. Пераклаў на беларускую мову раманы і аповесці Г. Сянкевіча, Ю. Крашэўскага, Г. Жавускага, Э. Баса. Аб’ектамі навуковых даследаванняў М. Кенькі з’яўляюцца сучасная беларуская проза і паэзія, тэорыя і практыка мастацкага перакладу.

Займаецца краязнаўствам. Вывучае беларускі фальклор, песні, легенды. Сабраў вялікую калекцыю беларускіх анекдотаў. Некаторы час працаваў рэдактарам краязнаўчага часопіса “Падарожнік”, рыхтаваў да друку творы пастаўскіх краязнаўцаў (І. Зямчонка, І. Пракаповіча). Аўтар краязнаўчага нарыса пра родную вёску Вялікія Верацеі. Цяпер на пенсіі. Жыве ў Мінску.

**Здабыткі ў краязнаўстве і літаратуразнаўстве:**

Кнігі: Майстэрства Аркадзя Куляшова – перакладчыка / Міхась Кенька. – Мінск: Навука і тэхніка, 1983. – 128 с; Міхась Лынькоў: Летапіс жыцця і творчасці / Міхась Кенька. - Мінск: Выд-ва БДУ, 1987; Уводзіны ў літаратуразнаўства. Кн 1-2. (Сумесна з В. Рагойшам, І. Ківель, С. Шамякінай, Т.Марозавай). – Мінск: БДУ, 2015-2016; Тэксталогія і яе дапаможныя навукі: вучэб.-метад. дапам. (Сумесна з В. Рагойшам, І. Ківель, Т. Лук’янавай, С. Шамякінай). – Мінск: БДУ, 2016.

Пераклады кніг: Сянкевіч, Г. Крыжакі / пер. М. Кенькі. – Мінск: Мастацкая літаратура. 1997; Бас Э. Клапзубава каманда / пер. М. Кенькі. – Мінск: Золотой улей, 1998; Жавускі, Г. Успаміны Сапліцы / пер. М. Кенькі. – Мінск: Лімарыус, 2005. – 368 с; Палянецкі В. Бацьку сустракай / пер. М. Кенькі (Сумесна з М. Салавей). – Харкаў, 2005; Крашэўскі, Ю. Маці каралёў. Паперы Глінкі / пер. М. Кенькі. – Мінск: Мастацкая літаратура, 2007. – 432 с.; Крашэўскі, Ю. Кароль у Нясвіжы, 1784. Апошняя са слуцкіх князёў / пер. М. Кенькі.

– Мінск: Мастацкая літаратура, 2009. – 336 с.; Крашэўскі Ю. Кароль у Нясвіжы / пер. М. Кенькі. – Мінск: Мастацкая літаратура (Серыя «Мая беларуская кніга»), 2016.

Публікацыя ў кнізе “Дзе Мядзелка песні пяе…”: Верацеі і ваколіцы / Міхась Кенька. – С. 164-168.

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: Падчас працы ў часопісе “Падарожнік” падрыхтаваў да друку артыкулы І. Пракаповіча (“Забыты шлях”, “Возера, якое праглынула само сябе”), І. Зямчонка (“Школы мастацтваў маёнтка Паставы”, “Вёска Лучай (Пастаўскі раён)”, “Вёска Казлоўшчына (Пастаўскі раён)”, “Вёска Манькавічы (Пастаўскі раён)”, “Графы Пшаздзецкія герба Шахматная вежа ў гісторыі Пастаўшчыны”).

Удзел у стварэнні фільмаў: аўтар відэафільма “Даўжанскія вечары-1999”.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: 1996, лета – удзельнік літаратурнага семінара “Даўжанскія вечары-96” (в. Дзеравянкі, Пастаўскі раён); 1999, лета – адзін з кіраўнікоў літаратурнага семінара “Даўжанскія вечары-99” для моладзі (в. Дзеравянкі, Пастаўскі раён);

Матэрыялы пра М. Кеньку: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 259; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 227-228.

Тэлефон для кантактаў: тэл. маб. +375 29 7090751.

***Кузняцоў Аляксандр Іванавіч***, педагог, краязнаўца. Нарадзіўся 21 сакавіка 1972 г. у в. Дзяўгуны Пастаўскага раёна. З 1974 г. з бацькамі пераехаў у вёску Муляры Камайскага сельсавета. У 1987 г. скончыў Мулярскую васьмігадовую школу, потым вучыўся 4 гады ў Аршанскім індустрыяльна-педагагічным вучылішчы, атрымаў спецыяльнасць настаўніка працоўнага навучання і чарчэння. З ліпеня 1991 па май 1993 г. праходзіў тэрміновую вайсковую службу ва Узброеных Сілах СССР і Расійскай Федэрацыі на тэрыторыі Украіны, Беларусі і Расіі.

Пасля дэмабілізацыі працаваў настаўнікам пачатковых

класаў у Мулярскай базавай школе, пазней – настаўнікам гісторыі (з 1995 па 2000 г. навучаўся на завочным аддзяленні гістарычнага факультэта Беларускага дзяржаўнага педагагічнага ўніверсітэта імя М.Танка).

З 1997 па 2006 г. працаваў на розных пасадах у органах выканаўчай улады. З верасня 2006 г. – дырэктар Дзяржаўнай установы адукацыі "Юнькаўская яслі-сад – базавая школа Пастаўскага раёна".

Актыўна займаецца пошукам звестак пра вайскоўцаў, якія загінулі ў ваенных канфліктах вірлівага ХХ стагоддзя. Яму ўдалося ўстанавіць імены больш за дзвесце савецкіх салдат і афіцэраў, якія загінулі на тэрыторыі Пастаўскага раёна і былі пахаваныя як невядомыя. Вядзе пошук забытых вайсковых пахаванняў Першай сусветнай і Вялікай Айчыннай войнаў, таксама збірае матэрыял пра Паставы ў час ваенных канфліктаў 1919-1921 гадоў, 1939 года.

Публікацыі ў раённай газеце: Они освобождали поставскую землю… // ПК. – 2014. – 11 крас.; Освобождение Поставщины: как это было // ПК. – 2014. – 2 ліп; .; Нашли покой в земле поставской // ПК. – 2014. – 12 снеж.; За скупой строкой на обелиске… // ПК. – 2015. – 4 мая.; Бой у деревни Девятники и фольварка Курополье // ПК. – 2015. – 18 ліст.

***Курто Павел Францавіч***, калекцыянер, краязнаўца. Нарадзіўся 29 ліпеня 1970 г. у в. Курты Пастаўскага раёна. Закончыў Целякоўскую васьмігодку, СПТВ-165 у г. Паставы. Працаваў шафёрам у калгасе імя Мічурына, каршчыкам на Пастаўскім кансервавым заводзе, у Пастаўскім лясгасе на пілараме.

З'яўляецца членам Беларускага Рэспубліканскага грамадскага аб'яднання калекцыянераў. Збірае даўнейшыя бутэлькі і самавары. Дапамагаў у стварэнні экспазіцый па Першай сусветнай вайне ў Пастаўскім музеі. Удзельнічаў у двух канферэнцыях прысвечаных Першай сусветнай вайне на Пастаўшчыне. З'яўляецца ўдзельнікам валанцёрскага руху

“Заходні рубеж” па добраўпарадкаванні помнікаў і могільнікаў I Сусветнай вайны. Жыве ў Паставах.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: міжнародная канферэнцыя “Першая сусветная вайна – трагедыя, гераізм, памяць, прымірэнне” (28-29 лістапада 2008 г., Паставы); міжнародная навукова-гістарычная канферэнцыя “Нарацкая аперацыя 1916 г.: гісторыя і сучаснасць” (19 сакавіка 2016 г., Паставы).

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: здзейсніў шмат калектыўных і індывідуальных вандровак па Пастаўскім раёне з мэтай збору матэрыялаў для калекцый.

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: удзельнічаў у стварэнні музейных экспазіцый у палацы Тызенгаўзаў па I Сусветнай вайне. Перадаў у музей больш за 200 экспанатаў, якія ўключаны у асноўны і дапаможны фонд.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: актыўна ўдзельнічае ў валанцёрскіх работах па ўладкаванні помнікаў і могільнікаў I Сусветнай вайны

Адрас для кантактаў: г. Паставы, вул. Савецкая, 96, кв. 1; тэл. +375 29 516 79 02

***Ластоўская Рэгіна Норбертаўна,*** педагог, краязнаўца. Нарадзілася 5 красавіка 1948 г. у в.Савічы Пастаўскага раёна. Закончыла Савіцкую СШ (1966), Мінскі педагагічны інстытут імя М.Горкага (1972). Працоўную дзейнасць пачала старшай піянерважатай у роднай школе (1967-1972), пазней была дырэктарам Груздаўскай базавай школы. З 1973 года на камсамольскай рабоце: інструктар школьнага аддзела Віцебскага АК ЛКСМБ; першы сакратар Пастаўскага РК ЛКСМБ. З 1975 па 2008 г. працавала настаўніцай гісторыі і грамадазнаўства ў школах горада Паставы (вячэрняя школа, БШ №4; СШ №2). З 1990 па 2005 г. – намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце, настаўніца гісторыі, з 2005 года – кіраўнік музея баявой і працоўнай славы СШ №2 г.Паставы.

Краязнаўчая работа Р. Ластоўскай праводзіцца ў рэчышчы стварэння музейных экспазіцый і арганізацыі экскурсій па

накірунку “Пастаўшчына са старажытнасці да сучаснасці”. Больш паглыблена распрацаваны тэмы з Вялікай Айчыннай вайны: “Героі Савецкага Саюза Пастаўшчыны”, “Аперацыя “Баграціён”, “Перамога”, “Акупацыйны рэжым на Пастаўшчыне”, “Дзеці вайны”, “Вечны агонь і вечная памяць”.

Найбольш важнымі здабыткамі ў краязнаўчай дзейнасці з’яўляюцца: стварэнне школьнага музея баявой і працоўнай славы (1987 г.); электронныя варыянты экскурсій школьнага музея і ўдзел у разнастайных конкурсах; спектаклі (аўтар Р. Ластоўская): “Нашчадкі”, “Незвычайны сон” (па матэрыялах школьнага музея); артыкулы ў рэспубліканскіх і раённай газетах; усталяванне памятнай дошкі каля Дрэва Героя (2004 г.); экскурсійная дзейнасць у школьным музеі; напісанне і выданне кнігі пра родную вёску Савічы.

Пра краязнаўчую работу Р. Ластоўскай і створаны ёй музей надрукавана шмат публікацый у рэспубліканскім і мясцовым друку, падрыхтаваны відэасюжэты тэлекампаніяй “Паставы-ТВ”.

Р. Ластоўская ўзнагароджана шматлікімі граматамі і дыпломамі Міністэрства адукацыі СССР, БССР, абласнога ўпраўлення адукацыі, Пастаўскага РАА, АК ЛКСМБ, РК ЛКСМБ, РК прафсаюзаў, раённага архіва, цэнтра даследаванняў беларускай культуры, мовы і літаратуры НАН Беларусі, узнагароднымі кнігамі ад беларускага радыё і тэлебачання за ўдзел у патрыятычных конкурсах, узнагарода-паездка ў г. Ленінград за перамогу ў рэспубліканскім конкурсе “Беларускай маладжёжнай” на радыё і інш. У 2011 г. – дыплом ІІІ ступені ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама за ўдзел у абласной выставе–конкурсе “Грамадзянска-патрыятычнае выхаванне: вопыт і перспектывы”.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

<u>Кніга:</u> Ластоўская, Р. Н. Савічы спрадвеку славяцца / Рэгіна Ластоўская. – Мінск : А. М. Вараксін, 2017. – 154 с.

<u>Публікацыі ў перыядычным друку</u>: (важнейшыя, усяго некалькі соцень):

Рэспубліканскія газеты: "Каханне зямное" – "Звязда", 20.05.1995 (бываліца з гісторыі в.Савічы); "Музей вядзе пошук" – раздзел "Пошук", "Народная газета", 04.08.2006; "Стоп-кадр", спынены на чалавеку" – "Настаўніцкая газета", 09.08.2007; "Бацькам нашым – вечная памяць і пашана" – газета "Пенсионер", май 2010.

Раённая газета, спачатку "Звязда", потым "Пастаўскі край": "Запрашаем у музей", 20.02.1988; "Сустрэча з першымі калгаснікамі", 07.06.1988; "Жыццё праз стагоддзі", 17,21,30.04.1992; "Каб памяць жыла", 16.06.2001; "Красуйся, вёсачка родная!", 05.09.2001; "Патрыятычнае выхаванне – прыярытэтнае", 14.11.2001; "Памяць загінуўшых воінаў варта ўвекавечыць па-людску", 24.12.2004; "Шануем пераможцаў, прадаўжаем пошук", 19.03.2005; "Рыхтуем новы раздзел "Дзеці вайны", 25.01.2006; "Жыві і помні", 06.11.2006; "Яны калісьці былі побач з намі", 31.10.2007; "Калі ўжо не будзе сведак", 08.05.2008; "Новыя экспазіцыя і экскурсія", ліст. 2008; "Незагойныя раны", студз. 2009; "Ён быў "Чаромхай", студз. 2009; "Памяці – жыць", люты 2009; "Грозная зброя", 18.03.2009; "Тры гады і тры дні", 02.07.2009; "Людзі і нелюдзі", 2010; "Гісторыю не перапішаш", 29.09.2010; "Да свята – новая экскурсія", 08.12.2010; "Выток патрыятычнага выхавання", 01.06.2011; "Памяць жыве", 14.03.2012; "Захаваць памяць", 26.01.2013; "Не загойваецца рана", 02.03.2013; "Не забыць, каб не паўтарылася", 03.04.2013; "У ліпені 44-га", 27.11.2013; "Шануем памяць", 14.12.2013; "Для гісторыі няма дробязей", 11.01.2014.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: Рэспубліканская канферэнцыя архіўных работнікаў (2003, Паставы); міжнародная канферэнцыя краязнаўцаў па тэматыцы Першай сусветнай вайны (2009, Паставы); абласныя і занальныя семінары па краязнаўстве; семінар-сустрэча ветэранаў вайны і працы з маладзёжным актывам раёна (2005, на базе музея).

Удзел у стварэнні музеяў, экспазіцый: Стварэнне музея баявой і працоўнай славы ў СШ №2 г.Паставы (адчынены 4 лістапада 1987 года) і кіраўніцтва яго работай па сённяшні дзень (1999 г. – I месца ў абласным конкурсе школьных музеяў).

Удзел у стварэнні фільмаў, спектакляў, вечарын і іншых творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: Удзел у здымках фільма абласнога тэлебачання з цыкла "Цена Победы" на базе школьнага музея СШ №2 па тэме: "Вызваленне Пастаўшчыны ад гітлераўскіх захопнікаў"

(2009); неаднаразовыя перадачы Пастаўскага ТБ пра работу школьнага музея; удзел у здымках фільма, прысвечанага 25-годдзю вываду савецкіх войск з Афганістана ("Паставы-ТБ", на базе музея, 2014).

Аўтарскі спектакль "Нашчадкі" дэманстраваўся на абласным злёце краязнаўцаў у г.Паставы ў 90-х гадах мінулага стагоддзя; аўтарскі спектакль "Незвычайны сон" быў пастаўлены ў СШ №2, урыўкі з яго былі прадстаўлены ў сцэнарыі выступлення настаўнікаў школы на раённым аглядзе мастацкай самадзейнасці да юбілейнай даты Перамогі.

Мемарыяльная дзейнасць (усталяванне помнікаў, памятных знакаў): Арганізацыя і ўладкаванне памятнага знака Дрэва Героя: каля СШ №2 Героем Савецкага Саюза В.А. Сідарэнка разам з вучнямі быў пасаджаны клён (1967), 22 мая 2004 г. каля Дрэва Героя адкрыта мемарыяльная дошка.

Дзейнасць у якасці куратара і навуковага кіраўніка вучнёўскіх даследчых работ: Муха Вераніка (11 кл., 2005) "Только он не вернулся из боя…" посвящается воинам-интернационалистам, которых нет среди нас"; Рудая Вольга (11 кл., 2005) "Афганистан болит в их душах"; Мацук Наталля, Лосік Вольга, Міснік Вераніка (9 кл., 2009) "Шумел сурово партизанский лес" ("По местам действия партизанских отрядов во время операции "Багратион"); Колесава Крысціна (10 кл., 2010) "Анна Ивановна Масловская" (Педагоги – уроженцы Беларуси, Герои Советского Союза); Заўгародняя Анжэла, Кастрова Анжаліка (9 кл., 2012) "Володько Адольф Адольфович – Герой Социалистического Труда" (лаурэаты абл. конкурсу); Кастрова Анжаліка, Мелец Марыя, Пісук Кацярына, Скіпор Караліна, Смірнова Караліна (10 кл., 2013) "Мировая война в судьбах Отечества" (дыплом III ст. межрэгіянальнага інтэрнет-конкурсу); Мелец Марыя, Скіпор Караліна, Смірнова Караліна (10 кл., 2013) "Взгляни и вспомни" (Редкая фотография периода Великой Отечественной войны"); Мелец Марыя, Скіпор Караліна, Смірнова Караліна (10 кл., 2013) "Могиле этой дорогой всем сердцем поклонись"; Пісук Кацярына, Заўгародняя Анжэла, Кастрова Анжаліка (10 кл., 2013) "Встреча с Героем"; Кастрова Анжаліка, Мелец Марыя, Пісук Кацярына, Скіпор Караліна, Смірнова Караліна (11 кл., 2014) "Акупацыйны рэжым на Пастаўшчыне" і інш. У 2004 г. вучні занялі 1 месца ў рэспубліканскім конкурсе летапісаў вайсковых фарміраванняў,

якія вызвалялі беларускую тэрыторыю (дыплом І ступені і памятны знак).

Матэрыялы пра Р. Ластоўскую: У кнігах: Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с.; Нафрановіч, А. Сейбіты дабра і мудрасці. – Мінск: "Чатыры чвэрці", 2007. - 220 с. (нарыс "Неспакойнай душы чалавек").

У раённай газеце (частка публікацый): Г. Пішч "Адкрыўся у школе музей", 14.11.1987; І. Леснікава "Ганарымся сваім музеем", 06.02.1988; П. Курыловіч "Новая экспазіцыя музея", 07.11.1990; Г. Пішч "Быццам пра нас напісана", 22.09.2001; С. Дзеравянка "Загінулі ад рук акупантаў", 2002; П. Курыловіч "Захоўваюць гісторыю", 06.11.2002; В. Паршута "Прысвяцілі афганцам", 05.03.2003; А. Шапавалава "Жыве памяць", 10.05.2004; П. Курыловіч "Ціха шэпча клён Героя", 09.06.2004; А. Шапавалава "Маладосць, традыцыі, будучыня", 14.09.2005; І. Трубач "Сустрэча з афганцамі", 01.03.2006; А. Дзеўгуць "Жывая гісторыя", 22.03.2006; П. Курыловіч "Захавальнікі і носьбіты гісторыі", 14.11.2007; Н. Сямянас "Доўгага шляху, школьны музей!", 28.11.2007; А. Калеснікаў "Не сціхае боль страт, не гасне слава пераможцаў", 2009; А. Латыш "Запомніцца надоўга", 02.09.2009; Д. Кукштэль "Зямля бацькоў – мая зямля", 16.09.2009; М. Зубовіч "Імёны герояў не забыты", 13.01.2010; Анкеты Р. Н. Ластоўскай 27.02.2014 і 01.06.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

***Латыш (Гінько) Аліна Лявонаўна,*** педагог, публіцыст, пісьменніца, краязнаўца. Нарадзілася 22 сакавіка 1962 г. у в. Ясюкі Пастаўскага раёна. Скончыла Варапаеўскую сярэднюю школу (1979), з 1980 па 1985 г. вучылася на філалагічным факультэце БДУ імя Леніна па спецыяльнасці "Руская мова і літаратура".

Працоўную дзейнасць пачала ў верасні 1979 г. на прадпрыемстве Варапаеўскі дрэваапрацоўчы камбінат у якасці рабочай (да жніўня 1980 г.). З 1983 па 1986 г. працавала ў пастаўскім Доме піянераў спачатку кіраўніком гурткоў, пасля – культарганізатарам. З верасня 1988 г. і па сённяшні дзень – выкладчык беларускай мовы і літаратуры СШ № 3 г. Паставы.

Асноўнымі напрамкамі краязнаўчай дзейнасці з'яўляюцца: духоўная спадчына беларускага народа (фальклор, беларускія народныя песні), жыццё і дзейнасць знакамітых землякоў (І.П. Сікора, Л.І. Сікора, А.Д. Майсяёнак), уласны радавод, гісторыя і назвы родных мясцін.

Пачала пісаць вершы і артыкулы з 15 год, была членам літаратурнага аб'яднання пры раённай газеце "Звязда", якім у той час кіраваў А. Касцень. Артыкулы друкаваліся ў газетах "Пастаўскі край", "Звязда", "Настаўніцкая газета", у часопісах "Ave Maria", "Каталіцкія навіны", "Каталіцкі веснік", у кнізе "Дзе Мядзелка песні пяе…". У 2013 г. выйшла ў свет кніга апавяданняў і нарысаў "Кроплі святла".

У 2015 г. пераклала з польскай мовы кнігу Юзафа Гінько "Успаміны", у якой аўтар, былы жыхар Варапаеўшчыны, расказвае пра сваё дзяцінства ў Заходняй Беларусі, пра драматызм жыцця падчас вайны і ў пасляваенныя гады.

У 2016 г. разам з Ганнай Венгура (роднай сястрой) і Алесяй Венгура (пляменніцай) напісала і выдала кнігу пра родную вёску "Ясюкі – вёсачка над азёрамі". Жыве ў Паставах.

***Здабыткі ў краязнаўстве і літаратуры:***

Кнігі: Кроплі святла: нарысы, апавяданні / Аліна Латыш. – Паставы: Сумежжа, 2013. – 84 с.; Ясюкі – вёсачка над азёрамі / А. Венгура, Г. Венгура, А. Латыш. – Паставы: Сумежжа, 2016. – 48 с.; "Успаміны" /Юзэф Гінько. Пераклад з польскай мовы А. Латыш. – Паставы: Сумежжа, 2016. – 28 с.

Публікацыі ў кнігах, зборніках: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 79-83.

Публікацыі ў часопісах: Урок – педагагічная майстэрня па рамане У. Караткевіча "Каласы пад сярпом тваім" / А. Латыш. // Роднае слова. – 2003. – № 3. – С. 45–47; Урок – педагагічная майстэрня па паэме Я. Коласа "Новая зямля" / А. Латыш. – Роднае слова. – 2003. – № 9. – С. 56–57; Верую… / А. Латыш. – Ave Maria. – 2002. – №9. – С. 24–25.

Публікацыі ў рэспубліканскіх, абласных і мясцовых газетах (ас-

ноўныя): Бабка / А. Латыш. – Звязда, 02.03.2007, с. 4; Цыганка гадала / А. Латыш. – Звязда, 10.10.2007, с. 8; Настаўніца / А. Латыш. – Настаўніцкая газета, 13.09.2007, с. 8; Бабнік / А. Латыш. – Настаўніцкая газета, 20.12. 2007, с. 8; Неадпраўленыя паштоўкі / А. Латыш. – Настаўніцкая газета, 04.03.2008; Генератар ідэй / А. Латыш. – Пастаўскі край, 10.03.2007, с. 2; Любоў засталася з намі / А. Латыш. – Пастаўскі край, 22.12.2007, с 5; Праз прыгажосць ён вёў да Бога / А. Латыш. – Пастаўскі край, 16.01.2010; Хто свайго краю цураецца… / А. Латыш. – Пастаўскі край, 20.03.2010; Нас выхоўвалі пакуты, гадавала зямля / А. Латыш. – Пастаўскі край, 06.10.2010; Быў у пасёлку духавы… / А. Латыш. – Пастаўскі край, 23.11.2010, с. 6; Лепшы экскурсавод… / А. Латыш. – Пастаўскі край, 05.09.2012, с. 5; Каб любіць Беларусь нашу мілую… / А. Латыш. – Пастаўскі край, 25.02.2012; Каб не памерці… / А. Латыш. – Пастаўскі край, 19.02.2011; Мудрыя ўрокі М. Багдановіча / А. Латыш. – Пастаўскі край, 30.11.2011; Прэзентацыя кнігі "Рымкі" / А. Латыш. – Пастаўскі край, 17.11.2015.

Матэрыялы пра А. Латыш: Сейбіты дабра і мудрасці: зборнік нарысаў і вершаў / А. Нафрановіч. – Мінск: "Чатыры чвэрці", 2007. – 219 с. – С. 85 – 90; Кроплі святла ад Аліны Латыш // Пастаўскі край. – 2013. – 26 кастр. – С.7; Шчырасць // Пастаўскі край. – 2009. – 30 вер. – С. 4.; Цэнім вашу падтрымку / С. Дзеравянка // Пастаўскі край. – 2010. – 5 мая – С. 2; Абуджаныя беларускім духам / І. Пракаповіч. // Пастаўскі край. – 2011. – 3 снеж. – С.4.

Дзейнасць у якасці куратара і навуковага кіраўніка вучнёўскіх даследчых работ: Вера Гінько "Звароткі ў беларускіх народных песнях Пастаўшчыны" (11 клас СШ № 3, 3 месца на раённай навуковай канферэнцыі, 2011); Марыя Дунец, Крысціна Барынава, Аляксей Сініца "Пастаўшчына літаратурная" (10 клас СШ № 3, 3 месца на раённай навуковай канферэнцыі, 2015 г.)

Адрас для кантактаў: 211875, г. Паставы, вуліца Ленінская, 196/1; тэл. хатні 8 (02155) 42417, тэл. маб. (29) 2494758

***Латыш Святлана Пятроўна***, педагог, краязнаўца. Нарадзілася 28 чэрвеня 1971 г. ў в. Круляўшчызна. Закончыла сярэднюю школу ў г.п. Варапаева, гістарычны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1994). Пасля атрымання вышэйшай адукацыі была накіравана на работу настаўніцай гісторыі ў На-

вадруцкую школу, дзе і працуе па сённяшні дзень. З’яўляецца кіраўніком клуба “Спадчына” і гуртка “Юныя экскурсаводы”. Стварыла краязнаўчы музей, які дзейнічае ў школе.

Асноўнымі накірункамі краязнаўчых росшукаў з’яўляюцца: гісторыя вёсак Асінагарадок, Навадруцк, Парыж, Верацеі; Вялікая Айчынная вайна на Пастаўшчыне; славутыя землякі; вайна 1812 года на Пастаўшчыне; этнаграфічная спадчына.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Публікацыя: Стаяў тут асінавы гай… // ПК. – 1996. – 20 мая.

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: стварыла гісторыка-краязнаўчы музейны пакой у ДУА “Навадруцкая ЯСБШ”, які ўключае змястоўныя экспазіцыі са значнай колькасцю рэдкіх і эксклюзіўных экспанатаў па гісторыі і этнаграфіі края, а таксама багатыя калекцыі: фалерыстычная (значкі і медалі), баністычная (папяровыя грошы), нумізматычная (манеты), філакартычная (паштоўкі), філатэлістычная (маркі), філуменістычная (запалкавыя карабкі), прэсафілістычная (газеты і часопісы), філатаймістычная (календары), петрафілістычная (мінералы і камяні), конхіафілістычная (рачныя і марскія ракавінкі).

Удзел у стварэнні фільмаў, спектакляў, вечарын і іншых творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: з вучнямі прымала ўдзел у здымках тэлеперадач “Свая кампанія” (канал СТВ, выпуск “Ай-да ў Парыж!”, 2008); “Падарожжы дылетанта” Ю. Жыгамонта (канал СТВ, 28.12.2014); “Контуры” (БТ, 2017); відэафільма “Ваколіцы Парыжа” (І месца ў абласным конкурсе “Мясціны майго дзяцінства”, 2011). Была адной з арганізатараў сустрэчы пасла Рэспублікі Францыя М. Рэнеры ў аг. Парыж (23.07.2013), арганізоўвала выставы і экскурсіі для гасцей шоў “Трактарнае ралі “Парыж-Мосар” (28.01.2017). Праводзіць шмат экскурсій для наведвальнікаў як у школьным музеі, так і па ваколіцах Парыжа.

Дзейнасць у якасці навуковага кіраўніка, куратара даследчых работ вучняў: Латыш Аляксей ”Вайна на Пастаўшчыне” (2011, лаўрэат абл. конкурса “Юныя экскурсаводы”); Латыш Аляксей “Вайна 1812 г.” (2012, І месца на абл. конкурсе “Юныя экскурсаводы”); Латыш Аляксей “Гістарычнае мінулае вескі Асінагарадок” (2013, 5-я раённая навукова-практычная канферэнцыя “Глорыя”, І месца; абл. навукова-практычная канферэнцыя, дыплом ІІІ ст.)

Матэрыялы пра С. Латыш: у кнізе: Нафрановіч, А. Сейбіты дабра і мудрасці / Аркадзь Нафрановіч. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2007. – 220 с. – С. 92-96.; ў газетах: "Пастаўскі край": "Музей у чамадане" (18.04.2012); "Лепшы краязнаўца Віцебшчыны жыве ў Парыжы" (05.09.2012); "І назвалі Парыжам" (27.10 2012); "Парыж, дзе сышлася гісторыя, дзе і сення паданні жывуць" (10.11.2012); "Народнае слова": "За кожнай рэччу лёс" (04.01.2005); "7 дней": "Под сенью Эйфелевой башни" (27.03.2008); "Витебский рабочий": "Музей в чемодане или 7 интересных вещиц" (15.05.2012); Анкета С. П. Латыш 26.06.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

***Літвіновіч Віталій Аляксандравіч,*** студэнт, краязнаўца. Нарадзіўся 2 мая 1996 г. у г. Паставы. Закончыў сярэднюю школу №1 роднага горада. З 2013 па 2017 год вучыўся ў Лодзінскім універсітэце (Uniwersytet Łódzki) (г. Лодзь, Польшча) на спецыяльнасці "Фінансы і банкаўская справа" са спецыялізацыяй "Аўдыт і ўнутраны кантроль" (ступень бакалаўра). З 2017 г. навучаецца ў магістратуры ў Галоўнай Школе Эканомікі ў Варшаве (Szkoła Główna Handlowa w Warszawie) па спецыяльнасці "Фінансы і банкаўская справа" са спецыялізацыяй "Міжнародныя фінансавыя рынкі".

Падчас вучобы ў школе быў актыўным удзельнікам навуковага краязнаўчага таварыства "Ювента", займаўся даследчай дзейнасцю, хадзіў у вандроўкі. На рэспубліканскім конкурсе навуковых работ школьнікаў у 2011 годзе атрымаў дыплом III ступені за даследаванне "Геаграфічны аналіз гідраграфічнай сеткі і водападзелаў паўночна-заходняй часткі Беларусі з мэтай вызначэння старадаўніх водных гандлёвых шляхоў і волакаў". Выканаў працу "Гісторыка-геаграфічны і семантычны аналіз гадонімаў і агаронімаў горада Паставы".

Аўтар кнігі "Назвы вуліц горада Паставы" (разам з І. Пракаповічам). Жыве ў Варшаве.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: І. Пракаповіч, В. Літвіновіч. Назвы вуліц горада Паставы. – Паставы, ТБМ-УП "Пастаўская друкарня", 2012. – 44 с.: іл.

Публікацыя ў мясцовых выданнях: Гісторыка-геаграфічны аналіз назваў вуліц мястэчка Паставы канца VIII стагоддзя // Шыпшына. – 2012. – №3. – сак. – С. 8.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: даследаванне "Геаграфічны аналіз гідраграфічнай сеткі паўночна-заходняй часткі Беларусі з мэтай вызначэння старадаўніх водных шляхоў і волакаў" (разам з К. Аляксандравым, кіраўнік І. М. Пракаповіч) (дыпломы II ст. на раённай і абласной канферэнцыях (2010), дыплом III ст. на рэспубліканскай канферэнцыі (2011)); даследаванне "Гісторыка-геаграфічны і семантычны аналіз гадонімаў і агаронімаў горада Паставы" (кіраўнік І. М. Пракаповіч) (дыплом II ст. на раённай канферэнцыі (2011)).

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях : 2010, 24-26 верасня – Экспедыцыя па маршруце Паставы-Янчукі–Заўлічы–Гайдукі–Заваратах–Гарадзішча–Янчукі–Паставы (3 дні);

Удзел у стварэнні фільмаў: удзел у здымках фільма "Глыбоцкая змова" рэж. В. Мазынскага пра патрытычную арганізацыю Саюз беларускіх патрыётаў у якасці акцёра (2012, верасень).

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: 29.05.2012 - прэзентацыя кнігі "Назвы вуліц горада Паставы" ў раённай бібліятэцы г. Паставы.

***Магільніцкі Уладзімір Яраслававіч***, гісторык, краязнаўца. Нарадзіўся 5 верасня 1943 г. у в. Вайшкуны Пастаўскага раёна. Закончыў Радуцкую сямігодку (1958), Лынтупскую СШ (1961), гістарычны факультэт БДУ (1974, завочна). Пасля заканчэння сярэдняй школы працаваў на розных работах у калгасе імя Леніна, непрацяглы час – загадчыкам Радуцкага сельскага клуба. Потым – на камсамольскай рабоце: сакратаром камсамольскай арганізацыі саўгаса "Варапаева", інструктарам райкама камсамола. З 1964 па 1968 г. служыў на Чарнаморскім флоце. Пасля дэмабілізацыі працаваў на камсамольскай і партыйнай рабоце: сакратаром камсамольскай арганізацыі СПТУ-2 г. Паставы (1968-1969), загадчыкам арганізацыйнага аддзела райкама ЛКСМБ (1969-1971), інструктарам райкама КПБ (1971-1974), сакратаром партыйнага камітэта саўгаса

імя Леніна ((1974-1982), загадчыкам арганізацыйнага аддзела райкама КПБ (1982-1989). З 1989 па 2004 г. быў начальнікам Пастаўскай раённай інспекцыі прыродных рэсурсаў і аховы навакольнага асяроддзя. Цяпер на пенсіі. Жыве ў Паставах.

Комплексна даследуе Пастаўшчыну, аддаючы перавагу вывучэнню прыроды, экалагіі Пастаўшчыны, гісторыі і этнаграфіі сваёй роднай вёскі. Сабраў значны матэрыял пра крыніцы Пастаўшчыны. Аўтар кніг "Природа Поставского края", "Мая вёсачка Вайшкуны".

Узнагароджаны ордэнам "Знак Пашаны" (1978), трыма медалямі, граматамі аблвыканкама, Міністэрства прыродных рэсурсаў.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Природа Поставского края. – Молодечно: Друкарня "Перамога", 2000. – 84 с.; Мая вёсачка Вайшкуны: гісторыка-этнаграфічны нарыс. – Мінск: Кнігазбор, 2011. – 148 с.

Публікацыі ў перыядычным друку: Шчэрбніцкія крыніцы // ПК. – 1999. – 3 лют. – С. 2; Прырода раёна // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.: БелТА, 2001. – С. 22 – 28 (разам з Козак К.І.)

Удзел у краязнаўчых і навуковых экспедыцыях: з'яўляўся кuратарам і ўдзельнікам экспедыцый Акадэміі Навук Беларусі па вывучэнні крыніц і валуноў Пастаўшчыны.

Удзел у правядзенні імпрэз краязнаўчай тэматыкі: шмат гадоў прымаў самы актыўны ўдзел у падборцы матэрыялаў для экалагічнай старонкі раённай газеты "Пастаўскі край" (газета некалькі год з'яўлялася пераможцай абласнога конкурсу на лепшае асвятленне ў друку экалагічных праблем).

Матэрыялы пра У. Магільніцкага: Природа Поставского края [Рэцэнзія] // ПК. – 2000. – № 91. – С. 3; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 197; Сняжкова, І. Няхай жывуць у памяці Вайшкуны // ПК. – 2010. – № 95. – 1 снеж.; Ластоўская, Р. Як жа ён любіць родную старонку! / Р. Ластоўская // ПК. – 2010. - № 99. – 15 снеж.; Драўніцкі, І. Пра родную вёску – з любоўю / Іван Драўніцкі // Народнае слова. – 2011. – №

25. – 3 сак.; Шыталь, К. Вёска на беразе Балдука / Кастусь Шыталь // Краязнаўчая газета. – 2011. - № 17 (370). – май; Тышко, Я. Кліча родны кут / Янка Тышко // Народнае слова. – 2011. – № 35. – 29 вер.; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 198; Курыловіч, П. Пастаўшчына – сталіца краязнаўства / Пётр Курыловіч // Пастаўскі край. – 2016. – 21 снеж.; Анкета У. Я. Магільніцкага 14.07.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: 211875, г. Паставы, вул. Юбілейная, 7/29; тэл. хатні: (02155) 2-16-46; тэл. маб. 2912409.

***Майсяёнак Андрэй Георгіевіч,*** беларускі вучоны ў галіне біяхіміі і вітаміналогіі, гісторыі медыка-біялагічных навук і медыцыны, грамадскі дзеяч. Член-карэспандэнт НАН Беларусі (2000), акадэмік Міжнароднай акадэміі навук Еўразіі (1997), доктар біялагічных навук (1996), прафесар (1997). Нарадзіўся 1 чэрвеня 1943 г. у г. Глыбокае. Скончыў Варапаеўскую СШ (1959), Гродзенскі мединстытут па спецыяльнсці “Урачэбная справа” (1965), аспірантуру па біяхіміі (1968). У 1971 г. абараніў кандыдацкую дысертацыю. Доўгі час працаваў вучоным сакратаром і загадчыкам лабараторыі заснаванага ў Гродне Аддзела рэгуляцыі абмену рэчываў АН БССР, ператоранага ў 1985 г. у Інстытут біяхіміі (з 1991 г. – НАН Беларусі). З 1992 г. А. Майсяёнак намеснік дырэктара гэтага інстытута па навуковай рабоце, у 1996-1998 гг. выконваў абавязкі дырэктара. Зараз (студзень 2018 г.) працуе загадчыкам Аддзела Інстытута біяхіміі біялагічна актыўных злучэнняў НАН Беларусі (г. Гродна) і галоўным навуковым супрацоўнікам навукова-практычнага Цэнтра НАН Беларусі па харчаванні (г. Мінск). Навуковы кіраўнік і кансультант больш за 20 абароненых кандыдацкіх і доктарскіх дысертацый. За яго аўтарствам і суаўтарствам больш за 700 навуковых публікацый, у т.л. 7 манаграфій, 20 патэнтаў і пасведчанняў на вынаходніцтва.

Вядзе актыўную грамадскую і краязнаўчую дзейнасць: у 1990 г. абраны народным дэпутатам – намеснікам старшыні

камісіі Гродзенскага абласнога Савета па навуцы, культуры і адукацыі, годам раней узначаліў Гарадзенскую краязнаўчую асацыяцыю пры Гродзенскім абласным адзяленні БФК.

Выступае ў друку, на тэлебачанні і радыё па праблемах вывучэння і захавання культурна-гістарычнай спадчыны.

Асаблівую ўвагу надае А. Майсяёнак вывучэнню гісторыі Глыбоччыны, Шаркоўшчыны і Пастаўшчыны: ім даследаваны дзейнасць Жана Жылібера – паплечніка Антонія Тызенгаўза, стваральнікаў Гродзенскай медычнай акадэміі і акадэмічнай навукі ў Беларусі, малавядомыя старонкі жыцця знакамітага земляка, мастака Язэпа Драздовіча, вернута з нябыту імя рэпрэсіраванага ў часы сталіншчыны генерала П.В. Пугачэўскага, які родам з в. Чарневічы на Глыбоччыне, апісаны трагічны лёс дзісненскіх медыкаў У. Шырана і М. Алехны-Гушчы, апублікаваны матэрыялы пра пастаўскі перыяд жыцця і зняволення ў глыбоцкай вязніцы Барыса Кіта і гісторыя яго ўзлету ў сусветнай касмічнай навуцы і іншыя старонкі гісторыі роднага краю.

Аўтар артыкулаў пра вядомых землякоў у кнігах “Памяць” Браслаўскага, Глыбоцкага, Шаркоўшчынскага раёнаў, а таксама г. Гродна і цыклу публікацый пра знакамітых вучоных – ураджэнцаў Пастаўшчыны ў газеце “Пастаўскі край”. Яго імя ў “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”, у якой у супрацоўніцтве з прафесарам Міхасём Ткачовым ім апублікаваны шэраг артыкулаў, у прыватнасці пра Язэпа Драздовіча, Мар’яна Пецюкевіча, Віктара Ярмалковіча, Алеся Белакоза і іншых.

Узнагароджаны медалём “За працоўную адзнаку”, ганаровым знакам ЦК ВЛКСМ “Працоўная доблесць”, лаўрэат міжнароднай прэміі за беларуска-польскае супрацоўніцтва ў галіне культуры, прэміі імя Б. Кіта.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Артыкулы ў “Энцыклапедыі гісторыі Беларусі”, Мн.: БелЭн, 1993-2001: Акадэмік Ю.М. Астроўскі // Т. 1. – С. 225; Алесь Белакоз // Т. 1. – С. 345; Уладзіслаў Борзабагаты // Т. 2. – С. 60 (сумесна з Г.В. Кісялёвым); Язэп Драздовіч // Т. 2. – С. 275-277 (сумесна з Арсенем

Лісам); Віктар Ярмалковіч // Т. 6/2. – С. 304; Федар Ігнатовіч // Т. 6/2. – С. 392; Мар'ян Пецюкевіч // Т. 6/2. – С. 423.

Артыкулы ў кнігах "Памяць" і навуковым друку: Народный врач С.Ф. Нарбутт // Историко-медицинские памятники и здравоохранение Гродненщины: тез. докл. науч. конф., посвящ. 500-летию Ф. Скорины, Гродно, 20 сентября 1990 г. – Гродно, 1990. - С. 120-121; Представители врачебной династии Беклемишевых из Гродно (Н.Д. Беклемишев, В.Н. Беклемишев, Н.Д. Беклемишев) // Тамсама. - С. 58-59; В. Пелікан: ад Слоніма да Браслаўшчыны // Браслаўскія чытанні: матэрыялы II навукова-краязнаўчай канферэнцыі, 16-17 лютага 1991 г. – Браслаў: Браслаўскі філіял Пастаўскай узбуйнёнай друкарні, 1991. – С. 45-53; Акадэмік АН Беларусі Юрый Міхайлавіч Астроўскі // Весці Акадэміі навук Беларусі. Сер. біял. навук. – Мінск, 1992. - № 2. – С. 118-121 (сумесна з Л.М. Сушчэня, Я.Ф. Канапля, І.Д. Валатоўскі, Ф.С. Ларын, М.К. Лукашык); Генерал з Чарневіч: [П. В. Пугачэўскі] // Памяць. Глыбоцкі раён. – Мн.: БелЭн, 1995. – С. 164-165; Крыжовы шлях лекараў з Глыбоччыны // Тамсама. – С. 173-174; Светаадчуванне і жыццёвы шлях Э. Плятэр // Памяць. Браслаўскі раён. – Мн.: Паліграфафармленне, 1998. – С. 174-179; Станіслаў Нарбут // Тамсама. – С. 202-206; Вянчэслаў Пелікан // Тамсама. – С. 209-210; Памяці вялікага гуманіста // Браслаўскія чытанні: матэрыялы VI навукова-краязнаўчай канферэнцыі, 7-8 мая 2003 г. – Браслаў, 2003. – С. 7-8; Доктар Шыран з вёскі Лужкі // Памяць. Шаркоўшчынскі раён. – Мінск: БелТА, 2004. – С. 144-146; Хвароба і скананне вандроўнага мастака // У кн.: Язэп Драздовіч: «Прыйдзе час...»: зборнік матэрыялаў, прысв. 120-годдзю з дня нараджэння мастака; пад рэд.: М. Цыбульскага. – Смаленск, 2008. – С. 226-227.

Артыкулы ў мясцовым перыядычным друку: Доктар Шыран з вёскі Лужкі // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). – 1988. - № 114-115. – С. 2; Слаўнае імя Прыдзвіншчыны // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). – 1988. - № 136. – С. 2; Белорусский Чюрленис // Гродненская правда. – 1988. – № 201. - С. 3; Доктар Станіслаў // Чырвоная змена. – 10 чэрвеня 1989; Доктар Нарбут // Браслаўская звязда. – 1989. - № 67, 69; З сям'і Нарбутаў // Чырвоная змена. – 1989. - № 58-59. - С. 8-9; Хвароба і скананне вандроўнага мастака // ЛіМ. – 1989; Венцыслаў Пелікан // Браслаўская звязда. – 1991. - № 120. – С. 3-4; Конкурс і свята // Гродзенская праўда. – 1993. - № 45. – С. 3; Трагедыя Жы-

нёў з Мікуліч // Веснік Глыбоччыны. – 1994. - № 10. – С. 3; Генерал з Чарневічаў // Веснік Глыбоччыны. – 1994. - № 11, 17, 18, 20. – С. 2; Пастаўскі сюжэт у жыцці акадэміка астранаўтыкі // Сумежжа. – 1994. - № 14. – С. 19; Нашчадкі славутых Нарбутаў з вёскі Шаўры // Славутыя людзі Воранаўшчыны: матэрыялы навукова-практычнай канф. – Гродна-Нача, 1994. – С. 25-28; Лекар Станіслаў Нарбут – сын Тэадора // Тамсама. - С. 54-57; Імя, вернутае з нябыту // Браслаўская звязда. – 1996. - № 26. – С. 2; Польскі вучоны-медык родам з Іўеўшчыны // З гісторыі вякоў і пакаленняў Іўеўскага краю: матэрыялы навук.-практ. краязнаўчай канф., Іўе, Беларусь, 15 лютага 1998 г.; рэдкал.: І.П. Крэнь [і інш.]. – Гродна: ГрДУ, 1999. – С. 195-197; Пра настаўніка // Краязнаўчая газета. – верасень-кастрычнік 2000. - № 1-2. - С. 4-5; Язэп Малецкі на цярністым шляху беларускасці // Краязнаўца Паазер'я. – 2001. - № 3 (16). – С. 8; Пакроўская царква ў Сцефанполле – Дзісненская Георгіеўская царква // Краязнаўца Паазер'я. – 2001. - № 2 (15). – С. 6-7 (сумесна з Г.Н. Майсяёнкам); Бацька акадэміка // Краязнаўчая газета. – ліст. 2001.- № 11 (15). – С. 3; Еўрарэгіён "Нёман" і краязнаўства // Краязнаўчая газета. – студ. 2001.- № 1 (5). – С. 3; Параімся і за работу! // Краязнаўчая газета. – люты 2001.- № 2 (6). – С. 3; Зорка квантавай фізікі з Ліды // Краязнаўчая газета. – сак. 2001.- № 3 (7). – С. 7; Фраў Бюзінг, ствараючая будучыню // Краязнаўчая газета. – чэрв. 2001. - № 6 (10). – С. 6; Антон Жэбрак – акадэмік з Зельвеншчыны // Краязнаўчая газета. – снеж. 2001. - № 12 (16). – С. 4; Справа жыцця вучонага. Акадэміку НАН Беларусі Анатолію Свірыдзёнку – 65 гадоў // Краязнаўчая газета (Гродна). – жнів. 2001. - № 8 (12). – С. 5; Старонкі гісторыі Друйскай аптэкі і яе ўладальнікаў // Павет. – 2001. - № 2. – С. 4; Нам трэба збірацца часцей // Краязнаўчая газета. – люты-сак. 2002. - № 2-3 (18-19). – С. 5; Выдатны сын Беларусі // Краязнаўчая газета. – сак. 2002. - № 4 (20). – С. 4-5 (сумесна з Л. Калядзінскім, В. Ткачовай); Адноўленае свята Гродзеншчыны / [А. Діснёнак] // Тамсама. – С. 7; Памяці Станіславы Герасімовіч // Павет. – 2004. - № 9 (34). – С. 7; Старонкі гісторыі Друйскай аптэкі // Браслаўская звязда. – 2004. - № 84. – С. 3; Пример служения делу (о П.С. Пронько) // Пастаўскі край. – 2 ліп. 2009. - № 51. – С. 11; И наполнить мир добротой (о Н.В. Казаровце) // Пастаўскі край. – 18 ліп. 2009. - № 56. – С. 4; Выдающийся ученый и врач, прекрасный человек (о И.В. Залуцком) // Пастаўскі край. –

13 чэрв. 2009. - № 46. – С. 3 (совместно с А. Малевским); Вальтэр Кіт – сын Барыса Кіта // Новы час. – 10 студз. 2010.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: А. Майсяёнак адзін з ініцыятараў і актыўных удзельнікаў традыцыйных Браслаўскіх, Дзісненскіх (г. Глыбокае, г. Мёры), Навагрудскіх краязнаўчых чытанняў, гісторыка-краязнаўчых канферэнцый "Наш радавод" (г. Гродна, Гродзенская вобласць) і шэрагу канферэнцый па гісторыі медыцыны і фармацыі.

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: Па ініцыятыве А. Майсяёнка здзейснена выданне газеты-бюлетэня "Краязнаўчая газета" ў Гродна (2000-2002 гг.) і бюлетэня "Краязнаўства ў роднай школе" (1999 г.), выконваўся праект "500 краязнаўцаў Гарадзеншчыны".

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: Як кіраўнік дэпутацкай камісіі і краязнаўчай ассацыяцыі быў ініцыятарам і ўдзельнікам усталявання помніка Вітаўту Вялікаму, памятнага знака "Пагоня на Грунвальд" у Гродна, памятнага знака "Сям'і Нарбутаў" у Воранаўскім раёне, памятных крыжоў на месцах пахавання сям'і О'Браін дэ Лэсі ў Гродна і маці Барыса Кіта ў Карэліцкім раёне; барэльефаў, прысвечаных акадэміку Юрыю Астроўскаму ў Гродна і Полацку, а таксама аднаўлення помніка народнаму лекару Станіславу Нарбуту ў горадзе Браславе.

Асабіста ім папоўнены экспазіцыі і фонды музеяў гісторыі медыцыны (г. Мінск), аптэкі-музея (г. Гродна) і краязнаўчых музеяў г. Паставы, г. Глыбокае, г. Браслаў. Стварыў мемарыяльны кабінет-музей акадэміка Юрыя Астроўскага ў Інстытуце біяхіміі НАН Беларусі і працуе над стварэннем персанальнага фонду ў Глыбоцкім занальным архіве, куды перадаў унікальныя выданні і рукапісы беларускага замежжа.

Матэрыялы пра А. Майсяёнка: Навуковец, краязнавец / Ф. Ігнатовіч, А. Талерчык // Памяць: гісторыка-дакументальная хроніка Глыбоцкага раёна / рэд.: Б.І. Сачанка [і інш.]; – Мн., 1995. – С. 420; Андрэй Майсяёнак: біяхімік і краязнаўца / Л. Лабачэўская // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). - 2000. - 27 мая. - С. 2; Из Гродно на научный Олимп / А. Кучинский // Гродзенская праўда. – 2000. - № 33.– С. 3; Добры вучань добрага настаўніка / Н. Кануннікава // Наша слова. - 3 траўня 2000. - № 17. – С. 1; Майсяёнак А. Г. // Энцыклапедыя гісторыі Беларусі. Т. 6. Кн. 2. – Мн.: 2001. – С. 411; Андрей Георгиевич

Мойсеенок (К 60-летию со дня рождения) // Весці НАН Беларусі. Сер. мед.-біял. навук. – 2003. - № 4. – С. 146-147; А.Г. Мойсеёнок – ученый и общественный деятель / Ф.И. Игнатович // Биржа информации. – 2003. - № 22. – С. 2; Ученый из города над Неманом / А.И. Свириденок, Е.Д. Белоенко // Веды. – 2003. - № 12. – С. 5; Юбілей А.Г. Майсяёнка // Павет. – 2003. - № 7 (20). – С. 7; Талент даецца назаўжды / Л. Савік // Гродзенская праўда. – 29 мая 2003. - № 84-85. – С. 7; Биохимическая научная школа А.Г. Мойсеёнка. История создания и основные достижения (к 60-летию со дня рождения) / Ф.И. Игнатович, Т.Г. Светлович // Журнал ГГМУ. – 2003. - № 2. – С. 100-102; Вітамінолаг з душой краязнаўца / Л. Савік // ГР. – 12 чэрв. 2003. - № 24. – С. 5; Выдатны вучоны і краязнаўца / К. Кожан // Вольнае Глыбокае. - 1-7 студз. 2004. № 1 (196). - С. 6; Навуковец і краязнаўца / К. Кожан // Кліч Радзімы (Шаркаўшчына). - 10 крас. 2004. - С. 4; Навукоўца і краязнавец / Л. Навасельскі // Міёрскія навіны. – 2004. - № 70. – С. 3; Суха теория, мой друг, а древо жизни пышно зеленеет / В.И. Журавлев // Имя в энцыклопедии – член-кореспондент НАН Беларуси Андрей Мойсеенок. Биржа информации (Гродненская газета). – 18 ноября 2004. - № 46. – С. 8; Генератар ідэй / А. Латыш // Пастаўскі край. - 10 сак. 2007. - № 20. - С. 2; Андрей Георгиевич Мойсеёнок (К 65-летию со дня рождения) // Весці НАН Беларусі. Сер. мед. навук. 2008. - № 3. – С. 121; Национальная академия наук Беларуси: Персональный состав, 1928-2008; науч. ред. Н.А. Борисевич. – Минск: Белорус. наука, 2008. – С. 286-287; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – С. 198-199; Под флагом нутрициологии (к 70-летию члена-корреспондента А. Мойсеёнка) / З. Ловкис // Веды. – 2013. - № 23. – С. 7; Выдатны вучоны і краязнаўца / С. Райчонак // Кліч Радзімы. – 2013. - № 46. – С. 3; Андрэю Георгіевічу Майсяёнку – 70 / К. Кожан // Вольнае Глыбокае. – 2013. - № 22-23. – С. 5-6; В науку – из Воропаевской школы / З. Ловкис // Пастаўскі край. – 1 чэрвеня 2013. - № 43. С. – 3; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – С. 253-256.

Аўтабіяграфія А. Майсяёнка: Незабыўныя гады. Успаміны Андрэя Майсяёнка // Вольнае Глыбокае. – 3 кастрычніка 2013. - № 39-40. – С. 5 (публікацыя К. Кожана).

Газетныя інтэрв'ю: Шансы региональной науки. Как их используют в Гродно / С. Михайловская // Веды. – 1998. - № 3 (6). – С. 1-2; Фалат, такаферол, селен – як многа ў гэтых "гуках" / Б. Пракопчык // Звязда. – 24 мая 2003. - № 126-127. - С. 36; Питаться не по справочнику / Т. Скибицкая // Медицинский вестник. – 1 декабря 2005. – С. 3; Витаминное поле / Е. Марьянова //Перспектива – 19 октября 2006. – № 80. - С. 7-8; Для чего нужны БАД? / Е. Конышева // Веды. – 2008. - № 36. – С. 5; Фундаментальный подход. Гродненские ученые разрабатывают препараты, улучшающие качество жизни / Ж. Янчевская // Гродзенская праўда. – 29 студзеня 2011. – С. 3.

Навуковая дзейнасць А. Майсяёнка і творчае ўзаемадзеянне з маскоўскім даследчыкам В. Капелевічам з'явілася сюжэтам дакументальна-мастацкай аповесці Валерыя Чумакова "Субъект творения" (Масква: Аванглионпринт, 2012, 256 с.).

***Малец Іван (Янусь) Вільгельмавіч***, пісьменнік, краязнаўца. Нарадзіўся 8 лютага 1951 г. у в. Хрыстова Пастаўскага раёна. Скончыў 8 класаў Ласіцкай школы, Полацкае вучылішча № 66 будаўнікоў і Находкінскую марскую школу тэхнічнага флоту на Далёкім Усходзе. Там жа два гады служыў у войску ў Бірабіджане і ў вайсковай часці каля сяла Князе-Валконскае (1970–1972). Пасля дэмабілізацыі атрымаў сярэднюю адукацыю ў вячэрняй школе і скончыў завочна філалагічны факультэт БДУ імя У.І. Леніна ў Мінску (1977–1983).

Працаваў у розных установах па розных спецыяльнасцях. Адначасова займаўся літаратурнай дзейнасцю. Быў штатным супрацоўнікам літаратурнага аддзела часопіса гумару і сатыры "Вожык" (1993–1994).

Аўтар кніг: "Бедны конь" (1992), "Трава ў вушах" (1994), "Родны мацярык" (1995), "Намінальны людзель" (2005), "С ума сойти!" (2006). Творы змяшчаліся ў калектыўных зборніках "Лагодны промень раніцы", "Асцюкі за каўняром", "Анталогія беларускай пародыі", "Анталогія беларускай эпіграмы", "Краса і сіла", "Дзе Мядзелка песні пяе…" і іншых.

Займаецца літаратурнай крытыкай. Даследаваў вядомую

ананімную паэму "Сказ пра Лысую Гару". Практычна першым публічна назваў імя сапраўднага аўтара.

Член ГА «Саюз беларускіх пісьменнікаў» з 1994 года.

У сталыя гады зацікавіўся гісторыяй роднага краю. Стаў займацца краязнаўствам і даследаваць гісторыю Пастаўшчыны і Глыбоччыны. Выдаў кнігу "Таямніца Хрыстова" (2015 г.) пра вёску, дзе нарадзіўся і дзе прайшло маленства і юнацтва.

Прымаў удзел у літаратурных семінарах на Пастаўшчыне, прысвечаных Ул. Дубоўку "Даўжанскія вечары-96" і "Даўжанскія вечары-99", пра якія даваў інфармацыйныя звесткі ў артыкулах у рэспубліканскай прэсе. Таксама ўдзельнічаў у шэрагу іншых мерапрыемстваў так ці інакш звязаных з краязнаўствам: імпрэзы з нагоды 100-годдзя з дня нараджэння У. Дубоўкі, у час правядзення міжнародных фестываляў "Звіняць цымбалы і гармонік" і інш. Удзельнічаў у вандроўцы па Пастаўшчыне і Мядзельшчыне, прымеркаванай да 100-годдзя Максіма Танка. Разам з землякамі-краязнаўцамі адкрываў праект "Беларускага фонду культуры" і "Краязнаўчай газеты" пад назвай "Мой род – мая Радзіма" ў памяшканні Мінскага музея гісторыі тэатральнай і музычнай культуры.

Асноўнай сферай краязнаўчых інтарэсаў стала знаёмства і вывучэнне творчасці знакамітага земляка Уладзіміра Дубоўкі і літаратараў-сучаснікаў з Пастаўшчыны, а таксама з суседніх рэгіёнаў. У выніку ў рэспубліканскіх выданнях друкаваліся водгукі на іх творчыя набыткі не толькі ў літаратурным, але і ў сацыяльна-грамадскім ракурсе.

**Здабыткі ў краязнаўстве і літаратуры:**

Кнігі: Бедны конь: вершы, пародыі. – Мінск: бібл. час. "Маладосць", 1992. – 32 с.; Трава ў вушах: вершы, пародыі. – Мінск: бібл. "Вожыка" № 4, 1994. – 32 с.; Родны мацярык: вершы. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1995. – 86 с.; Намінальны людзель. – Мінск: Тэхнапрынт, 2005. – 274 с.; С ума сойти! – Мінск: Логвінаў, 2006. – 114 с.; Таямніца Хрыстова. – Паставы: ТБМ, 2015. – 60 с.

Артыкулы ў перыядычным друку: "Шлях з Айчынай" (пра І. Пракаповіча). – "Маладосць" (№5, 2000); "О, Беларусь! Я на цябе

малюся…" (пра У. Дубоўку). – "Народная Воля", 21.07.1998; "Чаму беларус не можа развітацца з жабрацкай калітой?" (Пра Ул. Дубоўку і "Даўжанскія вечары"). – "Народная Воля", 13.10.2000; "Загадкавай душы бунтоўны дух" (Пра Ул. Дубоўку.) у кн. "О, Беларусь, мая шыпшына…" – Мн.: "Тонпік", 2007. – С. 94-97, 106-108.; "Паэт з зямлі калянарачанскай" (пра А. Нафрановіча). – "Настаўніцкая газета", 15.02.2000; "Пасеяў – прыйдзе і жніво" (пра М. Шабовіча). – "Чырвоная змена", 25.09.1997; "Споведзь душы" (пра Л. Шчаснага). – "Пастаўскі край", 24.12.2005 г.; "Слова пра сябра" (пра Л. Шчаснага). – у кн. Шчасны, Л. Споведзь душы. – Глыбокае, 2007 г. – С. 5–6; "Рэзервацыя вымірання" (Пра Л. Шчаснага) у кн. Шчасны, Л. "Голас з рэзервацыі". – Глыбокае: "Прэфект-інфо", 2012. – С. 3–7; "У гасцях у Ніла Гілевіча" // "Пастаўскі край", №27, 2015 г.; "Агеньчыкі гарачыя" (пра паэтаў–пастаўчан і "Даўжанскія вечары") // "ЛіМ", 14.06.2002 г.

Матэрыялы пра Я. Мальца: у кнігах: Беларускія пісьменнікі: Бібл. слоўнік у 6-ці тамах. Т.6. Талалай-Яфімаў. Пад рэдакцыяй А. Мальдзіса – Мн.: БелЭн, 1995. – 684 с. – С. 639; Беларуская энцыклапедыя ў 18-ці т. Т. 10 Малайзія-Мугаджары. – Мінск: Беларуская энцыклапедыя, 2000. – 544 с. – С. 29; Сутула, Г. Дзённікі простага смяротнага: Аповесць. – Мінск: Беларускі кнігазбор, 2002. – 172 с. – С. 94-95; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 227; у перыядычным друку: Целеш, Л. Асоба ў краязнаўстве // Краязнаўчая газета. – 2015 г.; Курыловіч, П. Пастаўшчына – сталіца краязнаўства // Пастаўскі край. – 2016.; Малец, Я. Маналог// Шыпшына, вер. 2000 г. – С. 6-7); Прывітанне // Вольнае Глыбокае, №13,1999 г. – С. 3; Нафрановіч, А. Крывінкай донарскай гарыць…// ЛіМ – 23. 11. 1996; Мяльгуй, А. Беларускія паэты не крыўдзяцца на Мальца // Беларускі час. – № 40, 2005; Кенька, М. Нашакраёўскі клуб паэтаў// Наш край – № 10, 1996; Анкета Я. Мальца 26.07.2017 / Архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: 220018, г. Мінск, вул. Цімашэнкі, 14, корп. 2, кв. 132. Тэл.: (017) 2553493, (маб., велком +375 29 3956502; e-mail: yanus.malets@tut.by

***Маразюк Мікалай Іванавіч,*** журналіст, аматар даўніны. Нарадзіўся 21 верасня 1934 г. у в. Каваленкі Любарскага раёна

Житомірскай вобласці Украінскай ССР. Пасля праходжання тэрміновай вайсковай службы застаўся ў Паставах, з якімі і было звязана ўсё яго далейшае жыццё. З 1957 г. працаваў інспектарам аддзела перасялення і аргнабору рабочых райвыканкама, затым інструктарам раённага камітэта кампартыі. Закончыў завочна Вышэйшую партыйную школу пры ЦК КПСС. Працаваў на раённым радыё, літаратурным супрацоўнікам і карэспандэнтам, на працягу сямнаццаці гадоў (1972-1989) – галоўным рэдактарам раённнай газеты. Выбіраўся дэпутатам раённага Савета дэпутатаў і членам бюро райкама КПБ. З’яўляўся членам беларускага саюза журналістаў.

Прымаў актыўны ўдзел у напісанні кнігі “Памяць. Пастаўскі раён”. Памёр 23.09.2013.

Публікацыі ў кнізе “Памяць. Пастаўскі раён”: Аб чым пісала газета “Новы шлях” / М. Маразюк. – С. 180-181; Ішла вайна народная. Так пачыналася / М. Маразюк, М. Кішко. – С. 201-202; Народны антыфашысцкі рух / М. Маразюк, М. Кішко. – С. 232-235; Жалезны камбрыг / М. Маразюк. – С. 283-284; Подзвіг Ганны Маслоўскай / М. Маразюк. – С. 284-286; Вызваленне / М. Кішко, М. Маразюк.

***Мацур Андрэй Ранальдавіч***, фатограф, краязнаўца. Нарадзіўся 6 чэрвеня 1975 г. ў в. Коўзаны Пастаўскага раёна. Пасля заканчэння сярэдняй школы прайшоў працоўны шлях ад шафёра да фатографа.

Даследуе падзеі Першай сусветнай вайны на тэрыторыі сучаснай Беларусі. Удзельнік валанцёрскага руху “Западный рубеж”, у складзе якога ажыццяўляе работу па ўладкаванні магілак Першай сусветнай вайны. Ладзіць шматлікія экспедыцыі з мэтай фотафіксацыі гістарычных і краязнаўчых аб’ектаў.

Аўтар шэрагу фотавыстаў: “ПростОЙ, но Необычный городок”, “Нябачныя помнікі Вялікай вайны”, “Наедине”, “И память сердца говорит”, “В стальных грёзах” і іншых. Адзін з куратараў і арганізатараў рэспубліканскага конкурсу дзіцячай фатаграфіі “Свет вакол нас”. Падрыхтаваў да друку фотаальбом пра аб’екты Першай сусветнай вайны.

Матэрыялы пра дзейнасць А. Мацура:

http://www.tio.by/info/novosti/18458/,;http://www.postawy.by/2013/08/andrej-macur-snimayu-zhizn-vo-vsex-eyo-proyavleniyax/, https://govorim.by/vitebskaya-oblast/postavy/novosti-postav/138955-nyabachnyya-pomnk-vyalkay-vayny.html,https://phview.org/exhibitions/Andrej-MACzUR-Nyabachnyya-pomniki-Vyalikaj-vajny-na-Belarusi-syonnya-nikomu-ne-patrebnyya; Анкета А. Мацура 20.12.2017 / Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: г. Паставы, вул. Крупскай, 29, +375292177373, grafmazur@tut.by

***Міхасёнак Вячаслаў Васільевіч,*** беларускі паэт, педагог. Нарадзіўся 9 студзеня 1941 г. у в. Міськія Пастаўскага раёна. Скончыў Гродзенскае музычна-педагагічнае вучылішча і філалагічны факультэт Мінскага педагагічнага інстытута. Працаваў настаўнікам у Дуброўскай сярэдняй школе на Маладзечаншчыне. З 1988 года жыў у Слуцку, працаваў у Прошчыцкай школе, а затым у СШ №8 настаўнікам беларускай мовы і літаратуры. Арганізаваў і кіраваў працай грамадскага аб’яднання «Таварыства беларускай мовы» ў Слуцку. Друкаваўся ў часопісах «Маладосць», «Родная прырода», газетах «Літаратура і мастацтва», «Чырвоная змена», у раённых газетах. Аўтар кнігі паэзіі “Сіняе рэха”, краязнаўчага эсэ пра родную вёску Міськія. Памёр 13 лістапада 2002 г.

**Публікацыі:**

Кніга: Сіняе рэха / Вячаслаў Міхасёнак. – Слуцк: ВКФ “Дзіва”, 1997. – 44 с.

Краязнаўчыя артыкулы: Добры дзень, Міськія // Звязда (П). – 1990. – № 106. – С. 2, 3; Калгасны лад у в. Міськія // Звязда. – 1990. – 4 вер.; Калгасны лад у в. Міськія // Памяць. Пастаўскі раён. – 2002. – С. 478.

Вершаваныя творы: Міхасёнак В. Вершы // Сумежжа. – 1993. – 16-31 жніўня (вершы: “За душу маю”, Жукі, “Асірацелы хутар над узлескам…”); Верш // Рунь-2001. – С. 82-83 (верш Хутары); Вершы // у кн. Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая

літаратура, 2006. – 270 с. – С. 130-132. (вершы: Адамарына, Хутары, “Асірацелы хутар на ўзлеску…”)

Матэрыялы пра В. Міхасёнка: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 257; Паэт з вёскі Міськія / І. Пракаповіч // ПК. – 2011. – 19 студз.; “Дзень добры, Міськія!” / І. Пракаповіч // ЛіМ. – 2011. – 14 студз.

***Мурзёнак Пётр Сільвестравіч,*** педагог, пісьменнік, краязнаўца. Нарадзіўся 26 лютага 1930 г. у в. Чарэмушнікі Падзісенныя (цяпер – Пастаўскі раён). У школу пайшоў з 6 гадоў і да 1939 года скончыў 3 класы польскай школы. Пасля вучыўся ў савецкай школе (1939-1941), у беларускай школе пры немцах (1942-1943), сёмы год адукацыі атрымаў у Паставах (1944-1945). З 1946 па 1949 гг. вучыўся ў Пастаўскім педагагічным вучылішчы. Працоўную дзейнасць пачаў у 1949-50 гг. настаўнікам матэматыкі, фізікі і беларускай мовы ў Вайшкунскай сямігодцы Пастаўскага раёна, наступны год выкладаў батаніку, заалогію, геаграфію і беларускую мову ў Васілінскай сямігодцы. З 1950 па 1953 служыў у цяжкіх умовах у так званым “стройбаце” ў пасёлку Кулой каля Варкуты і ў Валуйках Белгарадскай вобласці.

Пасля вяртання з арміі атрымаў вышэйшую адукацыю у Мазырскім педагагічным інстытуце на фізіка-матэматычным факультэце (1959, завочна), працаваў у Васілінах, а затым настаўнікам матэматыкі і фізікі ў сямігодцы ў Шкіралях (1955-1958) і ў Дварчанскай школе з 1958 года і да выхаду на пенсію ў 1990 годзе.

З 1963 года па 1969 год працаваў дырэктарам Дварчанскай васьмігадовай школы, дзе вёў таксама заняткі фота- і кінагурткоў. Пасля выхаду на пенсію яшчэ тры гады выкладаў матэматыку ў Шыркаўскай базавай школе. Усяго адпрацаваў у беларускіх школах Пастаўшчыны 46 гадоў.

Як і многія настаўнікі, П.С. Мурзёнак шмат займаўся грамадскай працай з насельніцтвам: палітінфармацыі на кал-

гасных фермах і ў брыгадах, выраб нагляднай інфармацыі, падрыхтоўка і ўдзел у правядзенні выбараў, мастацкая самадзейнасць. З 1959 года па 1968 год быў сакратаром партыйнай арганізацыі калгаса “За Радзіму” (старшыня Усовіч У. К.). Як і ўсе вясковыя настаўнікі быў яшчэ і земляробам – араў, сеяў, касіў, гадаваў скаціну, нарыхтоўваў дровы ... Пасля выхаду на пенсію захапляўся пчоламі.

За добрасумленную працу па адукацыі і выхаванні школьнікаў атрымаў грамату Віцебскага АблАНА (1983), граматы Пастаўскага РАНА (1987, 1990), па выхадзе на пенсію — медаль “Ветэран працы” (1990).

Жонка, Даната Генрыхаўна з сям’і Мажэйкаў, працавала настаўніцай пачатковых класаў 41 год (1949–1990). Разам з жонкай, з якой пражылі разам 60 год, выхавалі двух сыноў, Пятра і Генадзя. У 2003 годзе П. С. Мурзёнак з жонкай пераехаў да дзяцей у Канаду. У 2004–2009 гг. арганізаваў разам з жонкай суботнюю беларускую школу ў Аттаве, сталіцы Канады.

Вольны час, магчымасць для пісання і асвятлення жыцця людзей Пастаўскага краю з’явіліся ў Канадзе. За кароткі час быў створаны цэлы шэраг твораў, прысвечаных як роднаму краю ў выглядзе ўспамінаў, так і адлюстраванню ўспрыняцця аўтарам жыцця беларусаў ў розныя часы – да 2-й сусветнай вайны, падчас і пасля яе. Памёр 30.06.2010 г.

**Публікацыі:**

Кнігі: Мурзёнак, П.С. Над Дзісенкай ракой / Пётр С. Мурзёнак. – Ottawa (Канада): Gilmor, 2008. – 338 с.; Мурзёнак, П.С. Адвечныя плыні / Пётр С. Мурзёнак. – Мінск: Кнігазбор, 2015. – 240 с.

Публікацыі ў альманаху “Беларус” (Нью Ёрк, ЗША): Нявыдуманыя гісторыі з жыцьця: Трагічнае каханне; Зламаныя лёсы; Вячэрня (або ўсяночная); Мілыя краявіды // Беларус. – 2007. – С. 129-140; Яны не былі вінаватыя // Беларус. – 2008. – С. 113-137; Апавяданні // Беларус. – 2009. – С. 157-177; Кастусёвы прыгоды. Апавяданні для дзяцей // Беларус. – 2010. – С. 189-204; Беларускі клас у Аттаве // Беларус. – 2012. – С. 188-193 (апублікавана post mortem).

Публікацыі ў газеце "Беларус" (Нью Ёрк, ЗША): Беларуская суботняя школа ў Аттаве // Беларус. – 2006. – №518 – сак.; Беларускія пустыні // Беларус. – 2007. – №528 – студз.; Каляды ў Аттаве // Беларус. – 2007. – №529 – люты.

Інтэрв'ю: Беларуская кляса ў Аттаве // Радыё "Свабода". – 2006. – 8 чэрв.

Публікацыі пра П. С. Мурзёнка ў друку: Пракаповіч, І. Канадскія Мурзёнкі з Пастаўшчыны // Пастаўскі край. – 2012. – 6 студз.; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 198.

***Нафрановіч Аркадзь Іосіфавіч***, педагог, пісьменнік. Нарадзіўся 26 красавіка 1936 г. у в. Юшкавічы Мядзельскага раёна. Восенню 1943 г., калі вёска была спалена, разам з бацькамі быў вывезены ў Германію, дзе адбыў 2 гады. Вярнуўшыся з палону скончыў Юшкаўскую сямігодку, Лепельскае педвучылішча (1956) (два курсы – у Пастаўскім педвучылішчы, 1 курс – у Глыбоцкім), геаграфічны факультэт Белдзяржуніверсітэта (1968). Усё жыццё працаваў настаўнікам геаграфіі, гісторыі, музыкі і спеваў у школах Пастаўскага раёна, найбольш у Янкішках і Камаях.

Вершы складаў з шостага класа, друкаваўся – з 1989 г., калі стаў сябрам літаратурнага аб'яднання "Світанак" (Паставы, кіраўнік А. Касцень). Выдаў кнігі паэзіі "Мядзельскі мерыдыян", "Святло Нарачы", кнігу прозы і паэзіі "У пошуках ісціны", зборнік песень "Мелодыі роднага краю" (муз. М. Пятрэнкі). Аўтар успамінаў "Мая Адысея", у якіх апісаў жыццё ў Германіі з 1943 па 1945 г., калі знаходзіўся там з бацькамі. Выдаў кнігу "Сейбіты дабра і мудрасці", прысвечанай настаўнікам Мядзельшчыны і Пастаўшчыны. У кнізе ўспамінаў "З дарог памяці" апісвае эпізоды жыцця родных мясцін. Да 600-годдзя горада Паставы напісаў паэму "Горад музыкі і сонца", якая была выдадзена асобнай кніжкай у 2009 годзе. Свае лепшыя творы, напісаныя за 15 гадоў (1995-2010), А. Нафрановіч змясціў у сваім зборы "Выбранае". Аўтар слоў гімна г. Паставы.

Член Саюза пісьменнікаў Беларусі (з 1998). Лаўрэат абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (2001, за кнігу "Мая адысея"). Узнагароджаны Ганаровым знакам "2000 год Хрысціянству"(2001). Памёр 15 сакавіка 2015 г., пахаваны ў Камаях.

**Публікацыі:**

Кнігі: Мядзельскі мерыдыян [Вершы]. – Мінск: Ініс Софт, 1995. – 62 с.; Мелодыі роднага краю [Песні]. – Полацк: Спадчына Ф. Скарыны, 1995. – 60 с. (разам з М. Пятрэнкам); Мая Адзісея. – Мн.: Юнацтва, 2001. – 159 с.; У пошуках ісціны. – Мн.: Беларускі кнігазбор, 2005. – 164 с.; З дарог памяці. – Мн.: Кнігазбор, 2007. – 104 с.; Сейбіты дабра і мудрасці. – Мн.: "Чатыры чвэрці", 2007. – 220 с.; Горад музыкі і сонца [Паэма пра Паставы]. – Маладзечна: Друкарня "Перамога", 2009. – 140 с.; Выбранае. – Мн.: Кнігазбор, 2011. – 332 с.

Артыкулы ў перыядычным друку: Плывуць па свеце "Рушнікі" // НС. – 1994. – № 146. – С. 3; З успамінаў маленькага вязня // НС. – 1999. – № 40. – С. 5; А "Ручнікі" плывуць па свеце [Пятрэнка М.] // ВР. – 1999. – № 147. – С. 5; Пяць лістоў ад Танка // НС. – 2003. – № 56. – С. 5; Сляды мінуўшчыны ў Паставах // ПК. – 2004. – № 153. – С. 7; Звёны аднаго ланцуга // ПК. – 2010. – № 45 – 9 чэрв.

Публікацыі пра А. Нафрановіча: Пісьменнікі Віцебшчыны. Даведнік. – Віцебск: ВАД, 2001. – С. 53; Нафрановіч А.І. // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.: БелТА, 2001. – С. 520–521; Шпакоўская Г. Аркадзь Нафрановіч: Пра родны кут і песняю, і прозай // Народнае слова. – 1998. – № 147. – С. 5; Януш І. Святло яго сэрца [Нафрановіч А.] // Лепельскі край. – 1999. – № 33. – С. 3; Шык У. Аркадзь Нафрановіч: "Шчаслівы той, хто кожнай сваёй клеткай знітаваны з роднай зямлёй // Віцебскі кур'ер. – 2001. – № 72. – С. 3; Канапелька А. Аркадзь Нафрановіч // Народнае слова. – 2002. – № 123. – С. 5; Бубала А. Прыгожы край на таленты багаты // ПК. – 2003. – № 117. – С. 3; Дзе Мядзелка песні пяе... Пастаўшчына літаратурная. – Мн., 2006. – С. 261.; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы  XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 216; Колесников, А. Во всём – правдивость / А. Колесников // ПК. – 2010. – № 13. – 17 лют.; Пракаповіч, І. Краязнаўцы Пастаўшчыны ў даведніку М. Півавара // Шыпшына. – 2012. – 27 лют. – № 2; Пракаповіч, І.

М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 226, 228.

***Нячаева Міраслава Іванаўна***, педагог, краязнаўца. Нарадзілася 24 кастрычніка 1947 г. у г. п. Лынтупы. У 1966 г. закончыла Лынтупскую сярэднюю школу. З жніўня 1966 па ліпень 1987 г. працавала старэйшай піянерважатай спачатку ў Варапаеўскай школе-інтэрнат, пазней – у Лынтупскай школе. У 1978 г. закончыла Віцебскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя С. Кірава, у 1987 г. – універсітэт марксізма-ленінізма пры Віцебскім абкаме КПБ. Уся далейшая працоўная дзейнасць была звязана з Лынтупскай школай: настаўніца гісторыі, арганізатар пазакласнай і пазашкольнай работы (з 1982), намеснік дырэктара па выхаваўчай рабоце (з 1990). З 2005 г. на пенсіі.

У час работы ў школе вяла музей Баявой славы, які быў арганізаваны Коласавым Іванам Сямёнавічам у 1960 г. Удзельнічала разам з вучнямі ў рэспубліканскіх, абласных і раённых конкурсах, мерапрыемствах, з якіх дзеці прывозілі дыпломы, граматы. За работу музея была ўзнагароджана (1992) разам з краязнаўцамі Віцебскай вобласці экскурсіяй у Польшчу, дзе знаёмілася з гістарычнымі месцамі. У 90-я гады разам з краязнаўцамі вобласці працавала ў архівах Вільнюса (Цэнтральны архіў), С-Пецярбурга, Рускім музеі, у біблятэцы Салтыкова-Шчадрына, у Віцебскім, Глыбоцкім архівах. Сабраныя матэрыялы захоўваліся ў школьным музеі. На іх аснове Быхавец І. А. напісаў кнігу “Лынтупы і наваколле” (1993). Матэрыяламі музея карысталіся вучні і студэнты пры напісанні творчых, курсавых і дыпломных работ. За сваю краязнаўчую дзейнасць М. І. Нячаева неаднаразова ўзнагароджвалася граматамі і дыпломамі. Жыве ў Лынтупах.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

<u>Публікацыя ў раённай газеце:</u> Навекі з намі / М. Нячаева // ПК. – 2004. – 6 кастр. – С. 3 (пра Героя Савецкага Саюза Галубкова)

<u>Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях, экспедыцы-</u>

ях: у пачатку 90-х гадоў удзельнічала ў абласных краязнаўчых спаборніцтвах "Мой родны кут", падчас якіх рыхтавала матэрыялы на канферэнцыі, працавала ў архівах Вільнюса (Цэнтральны архіў), С-Пецярбурга, Рускім музеі, у біблятэцы Салтыкова-Шчадрына, у Віцебскім, Глыбоцкім архівах, наведала гістарычныя мескы і архівы Польшчы.

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: доўгі час была загадчыцай музея Баявой славы ў Лынтупскай школе, для якога збірала матэрыялы, рыхтавала экспазіцыі. У 1992 г. арганізавала музей "Беларуская хатка".

Удзел у стварэнні фільмаў: дапамагала ў падрыхтоўцы праграмы "Падарожжы дылетанта" пра Лынтупы.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: праводзіла і праводзіць экскурсіі па Лынтупах для зацікаўленых людзей.

Дзейнасць у якасці куратара і навуковага кіраўніка вучнёўскіх даследчых работ: была куратарам шматлікіх работ вучняў, якія атрымлівалі ўзнагароды раённага, абласнога і рэспубліканскага ўзроўняў.

Матэрыялы пра М. Нячаеву: артыкулы пра краязнаўчую дзейнасць М. Нячаевай публікаваліся ў газетах "Пастаўскі край", "Народнае слова", "Sukarnas" (24.02.2005, №8, г. Вісагінас); Анкета М. Нячаевай 22.11.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

***Папоў Анатолій,*** праваслаўны святар, протаіерэй, краязнаўца. Нарадзіўся 16 кастрычніка 1949 г. ў в. Побалава Рагачоўскага раёна. Пасля заканчэння дзясяцігодкі служыў у войску, затым атрымаў сярэднюю спецыяльную адукацыю ў Маладзечненскім улікова-планавым тэхнікуме. Адчуўшы пакліканне да святарскага служэння, скончыў Адэскую Духоўную Семінарыю. З 1980 г. нясе крыж пастырскага служэння на пастаўскай зямлі, з'яўляючыся настаяцелем Свята-Пакроўскай царквы ў Асінагарадку. Разам з гэтым ён выступае і як дасведчаны краязнаўца, які цікавіцца мінулым і сучасным тутэйшага краю, запісвае і публікуе ў сваім блогу ў інтэрнэце легенды, паданні, гістарычныя апавяданні з вёскі Асінага-

радок і яе ваколіцаў. Сфера краязнаўчых інтарэсаў: гісторыя, спадчына продкаў, легенды.

Рупнасцю а. Анатолія з дапамогай вернікаў каля Асінагарадоцкай царквы была ўзведзена помнік-капліца ў гонар рускіх ваяроў, якія загінулі ў 1706 годзе каля р. Ласіца, а таксама ачышчана і асвечана Святая крыніца "Грамякі" каля воз. Крывое.

Жыве ў в. Асінагарадок Пастаўскага раёна.

Легенды, паданні і мясцовыя гісторыі, запісаныя А. Паповым і надрукаваныя ў аўтарскім блогу "Мирт любящий": Капище; Шведская насыпь; Могила Викинга; Памятник русским воинам. 1813 г.; Предание. Париж; Божье знамение; Село Осиногородок; Мужик (Записано иереем Анатолием в 1989 г. со слов прихожан Осиногородокского прихода); Зорька Венера (Записано иереем Анатолием в 1989 г. со слов прихожан Осиногородокского прихода); Брачная ночь смерти (Записано иереем Анатолием в 1981 г. со слов друзей Лидии Николаевны); Серафим и Людмила (Записано иереем Анатолием в 1998 г. со слов внука Серафима Михайловича Ясюковича Антона Антоновича); Наказание (Записал иерей Анатолий Попов со слов жителей Осиногородокского прихода); Западная Беларусь. 1933 г. Провинность Иосифа (Записал иерей Анатолий Попов со слов Иосифа Игнатьевича Пачковского в 1980 г.); Альцы. Внимание! Геноцид / Иерей Анатолий Попов // с. Осиногородок, 2 мая 2008 г.; Старик Залман и девушка Миханка (Записано со слов Василевского Николая Александровича) / Иерей Анатолий Попов // с. Осиногородок, 2 мая 2008 г.; Младенец Ольга и немецкие изверги / Иерей Анатолий Попов // с. Осиногородок, 21 июня 2008 г.; Русские воины. 1706 г. / Священник Анатолий Попов // с. Осиногородок, 11 января 2008 г.; Криница Гремяка. 2007 г. / Иерей Анатолий Попов // с. Осиноногородок, 1 февраля 2008 г.; Поставский район. Смерть художника / Иерей Анатолий Попов.

***Пракаповіч Ігар Міхайлавіч***, краязнаўца, педагог, пісьменнік. Нарадзіўся 9 снежня 1960 г. у г. Паставы. Скончыў СШ № 2 і СПТУ № 2 у г. Паставы, геаграфічны факультэт БДУ (1985). Спецыялізаваўся на фізічнай геаграфіі (геамарфоло-

гія і лімналогія). Працаваў настаўнікам геаграфіі, біялогіі і хіміі Апідамскай школы, старшынёй Палескага сельсавета Пастаўскага раёна, настаўнікам геаграфіі і астраноміі СШ № 1 г. Паставы (з 1986). Цяпер – настаўнік геаграфіі і астраноміі пастаўскай гімназіі (з 2006). Кіраўнік навуковага краязнаўчага таварыства "Ювента" (СШ №1), краязнаўчага гуртка "Terra incognita" (гімназія).

Скончыў аспірантуру пры Нацыянальным інстытуце адукацыі па спецыяльнасці "агульная педагогіка" (завочна, 1999). Падрыхтаваў да абароны кандыдацкую дысертацыю па тэме "Тэарэтычна-дыдактычныя асновы пабудовы сістэмы школьнага краязнаўства". Член саюза пісьменнікаў Беларусі (1994), Ганаровы член Саюза пісьменнікаў Беларусі (2014). Член Геаграфічнага таварыства Беларусі (1985), член Вучонага Савета. Старшыня Пастаўскай раённай арганізацыі Таварыства беларускай мовы (з 2008). Член рэдкалегій часопіса "Геаграфія: праблемы выкладання" (з 1995) і газеты "Наша слова" (з 2016).

Сфера інтарэсаў у краязнаўстве: геаграфія роднага краю (геамарфалогія, лімналогія, тапанімія, ландшафтазнаўства); лакальная гісторыя Пастаўшчыны (даславянская гісторыя рэгіёна, старажытныя гандлёвыя шляхі; археалагічныя помнікі; умацаванні і пахаванні на лініі фронту Першай сусветнай вайны; гістарычныя мясціны Пастаўшчыны). Займаецца літаратурнай працай і журналістыкай, педагогікай, бардаўскай песняй. Падчас вучобы ў БДУ праходзіў практыку і працаваў у экспедыцыях галіновай навукова-даследчай лабараторыі азёразнаўства пры БДУ і лабараторыі вывучэння ландшафтаў інстытута геахіміі і геафізікі АН Беларусі. Актыўны ўдзельнік абласных экскурсійна-краязнаўчых спаборніцтваў работнікаў адукацыі і культуры Віцебскай вобласці па тэме "Мой родны кут" (1990-1992).

Аўтар 28 кніг пра Пастаўскі край, сярод якіх: "Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна" (1994, 2007), "Адкуль паходзяць назвы. Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна" (2000), "Крыжы і

камяні: нарысы па гісторыі Пастаўскага краю” (2003), “Ваколіцы Пастаў” (2004), “Насельніцтва Пастаўскага краю” (2004), “Сістэма школьнага краязнаўства” (2006) і інш. Укладальнік кнігі “Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка” (2006), якая змяшчае творы і біяграмы пастаўскіх пісьменнікаў. У суаўтарстве з вучнямі напісаў кнігі “Манькавічы” (з Вансовіч А., Заяц І.), “Мястэчка каля пушчы: Груздава і ваколіцы” (з Собаль І.), “Мястэчка над возерам. Задзеўе і ваколіцы” (з І. Заяц), “О, Беларусь, мая шыпшына” (з І. Заяц), прысвечаную Ул. Дубоўку, “Назвы вуліц горада Паставы” (з В. Літвіновічам), “Памяткі Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне” (з Ю. Пракаповіч); “Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021” (з П. Баразна). Разам з настаўнікам Гуцкай школы, краязнаўцам М. Арэхам напісаў кнігі “Гута-Голбія”, “Рымкі: вёска на краі вечнасці”, “Стары Двор і ваколіцы”. Браў удзел у падрыхтоўцы геаграфічнага паказальніка для кнігі Кіпеля В. “Беларускі друк на Захадзе”.

Аўтар больш за 100 артыкулаў па краязнаўстве ў навуковым і перыядычным рэспубліканскім і мясцовым друку (“Беларускі гістарычны часопіс”, “Родная прырода”, “Маладосць”, “Крыніца”, “ЛіМ”, “Вожык”, “Звязда”, “Турызм і адпачынак”, “Настаўніцкая газета”, “Народнае слова”, “Шыпшына”, “Краязнаўца Паазер’я”, “Сумежжа”, “Крэсы”, “Нарачанская зара” і інш.). Распрацаваў вучэбныя праграмы “Спадчына”, “Турызм-краязнаўства”, “Чароўны край – Пастаўшчына”, “Краязнаўства”, “Насельніцтва і тапанімія Пастаўшчыны”, “Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна”, “Гісторыя і геаграфія Пастаўскага раёна”, факультатыўны курс “Аэракасмічныя метады даследавання ў геаграфіі”. Удзельнік конкурсу на напісанне падручніка “Геаграфія Беларусі” для 9 кл (2017). Выдаў шэраг паэтычных зборнікаў і кніг прозы: “Рэха малітваў”, “Намагнічаны космас”, “Шляхі наканаванага бязмежжа”, “Булён: вершыкі і гісторыйкі для вясёлых людзей”; “Залатая выспа: гісторыі і вершы з крыніц

народных”; “Вышкі” і інш. Арганізаваў і правёў літаратурныя семінары, прысвечаныя Ул. Дубоўку: “Даўжанскія вечары-96” і “Даўжанскія вечары-99”. Уваходзіў у рэдкалегіі рэгіянальных недзяржаўных неперыядычных выданняў “Шыпшына”, “Краязнаўца Паазер’я”, “Выспа літаратурная”.

Адкрыў месцы старажытных паселішчаў каля возера Саранчаны і “Лысая гара” каля Шырак (разам з Э. Зайкоўскім, І. Заяц), курганны могільнік каля в. Міхаліна, гарадзішча каля возера Надазер’е (разам з М. Піваварам, М. Арэхам).

Пераможца Віцебскага абласнога конкурсу “Настаўнік года-95” і рэспубліканскага конкурсу “Беларускі настаўнік году – 2009”. Лаурэат звання “Чалавек года Віцебшчыны 2009”. Лаўрэат літаратурнай прэміі часопіса “Маладосць” (1994). Лаўрэат Віцебскай абласной літаратурнай прэміі імя У. Караткевіча (2015). Лаўрэат прэміі Спецыяльнага фонду прэзідэнта РБ па сацыяльнай падтрымцы здольных навучэнцаў і студэнтаў (2016).

Краязнаўчая і краязнаўча-педагагічная дзейнасць І. Пракаповіча адзначана ўзнагародамі (асноўныя): Дыпломы Міністэрства адукацыі (2013, 2015), Ганаровыя граматы і дыпломы ўпраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама (1992, 2007, 2010, 2013, 2015); Дыпломы Рэспубліканскага цэнтра турызму і краязнаўства навучэнскай моладзі (2005(2), 2006, 2007); Дыпломы абласнога аб’яднання пазашкольнай работы (1996, 2005, 2006, 2010); Ганаровы знак “За актыўную працу” педагагічнага таварыства Беларусі (1996); Дыплом Цэнтральнага савета Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў “Наш край” (2007); Дыплом XVII Міжнароднага фестывалю народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік” (за актыўны ўдзел у арганізацыі фотавыставы “Горад, Гісторыя. Людзі”, прысвечанай да 605-годдзя горада Паставы) (2014); Ганаровая грамата за актыўны ўдзел у праекце “Малыя рэкі-вялікія праблемы” (2014); Падзяка старшыні Пастаўскага райвыканкама (2014); Падзяка Рокішскага краязнаўчага музея

(Літва) (за удзел у рабоце канферэнцыі "Тызенгаўзы на Літве і ў суседніх краінах") (2007); Грамата аддзялення гуманітарных навук і мастацтваў НАН Беларусі (2017).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна. – Віцебск: ІУН, 1994. – 50 с.; Адкуль паходзяць назвы. Назвы рэк і азёр Пастаўскага раёна. – Наваполацк, ГА "Усяслаў Чарадзей", 2000. – 45 с.; Крыжы і камяні: Нарысы па гісторыі Пастаўскага краю. – Маладзечна: УП "Друкарня "Перамога", 2003. – 56 с.; Манькавічы: гісторыка-геаграфічны нарыс. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2004. – 60 с. (разам з Вансовіч А., Заяц І.); Насельніцтва Пастаўскага краю. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2004. – 56 с.; Ваколіцы Паставаў: Помнікі прыроды, гісторыі і культуры з маршрутамі краязнаўчых вандровак. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2004. – 60 с.; Мястэчка каля пушчы: Груздава і ваколіцы. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2005. – 60 с. (разам з Собаль І.); Паставы [фотаальбом] (уступнае слова). – Мн.: Беларусь, 2006.; Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с.; И край родной откроет тайны: Система школьного краеведения. – Мн.: Четыре четверти, 2006. – 124 с.; Мястэчка над возерам: Задзеўе і ваколіцы. – Мн.: Ковчег, 2006. – 56 с. (разам з І. Заяц); "О Беларусь, мая шыпшына...: На радзіме У. Дубоўкі". – Мн.: Тонпік, 2007. – 128 с. (разам з І. Заяц); Гута-Голбія: гісторыка-геаграфічны нарыс Галбейскага краю. – Мн.: Кнігазбор, 2007. – 88 с. (разам з Арэхам М.); Фізічная геаграфія Пастаўскага раёна. – Мн.: Кнігазбор, 2007. – 124 с.; Паставы: гістарычная хроніка горада. – Мн.: Кнігазбор, 2007. – 80 с.; Чароўны край – Пастаўшчына: (гісторыка-краязнаўчы курс "Паставазнаўства") – Мн.: Кнігазбор, 2009. – 304 с., іл.; Парфорснае паляванне ў Паставах. – Мінск, Кнігазбор, 2011. – 44 с., укл.; Пошукі забытага шляху. – Мінск, Кнігазбор, 2011. – 56 с., укл.; За смугою мінулых часоў: Старажытная гісторыя і археалагічныя помнікі Пастаўскага краю. – Мінск, Кнігазбор, 2011. – 112 с., іл.; Назвы вуліц горада Паставы. – Паставы, ТБМ-УП "Пастаўская друкарня", 2012. – 44 с., іл. (разам з В. Літвіновічам); Храналогія гісторыі Пастаўскага раёна. Каляндар памятных дат 2012-2021. – Паставы, ТБМ-УП "Пастаўская друкарня", 2012. – 60 с. (разам з П. Баразна); Памяткі Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне. - Паставы, ТБМ-УП

“Пастаўская друкарня”, 2012. – 60 с., іл. (разам з Ю. Пракаповіч); Назвы нашых вёсак: Айканімічны слоўнік. – Паставы, ТБМ, 2013. – 100 с.; Назвы нашых мясцін. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 192 с.; 1812. Вайна на Пастаўшчыне. – Мінск: Кнігазбор, 2013. – 76 с. (разам з В. Шышко); Рымкі: вёска на краі вечнасці – Паставы: ТБМ, 2014. – 76 с., іл. (разам з М. Арэхам); Ці ведаеце вы Пастаўскі край?: сшытак па курсе “Чароўны край – Пастаўшчына” – Паставы: ТБМ, 2014. – 80 с.; Чароўны край – Пастаўшчына – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с., іл.; Спорскі край: Вёска Вялікія Споры і яе ваколіцы – Паставы: ТБМ, 2015. – 84 с.; Стары Двор і ваколіцы – Мінск: Каўчэг, 2016. – 128 с., укл. (разам з М. Арэхам); Залатая выспа: гісторыі і вершы з крыніц народных – Мінск: Каўчэг, 2016. – 196 с.; Кароткая гісторыя Пастаўшчыны ад старажытных часоў да пачатку XX стагоддзя ў малюнках (кніжка-размалёўка для школьнікаў) / М. Гіль, І. Пракаповіч (тэкст), І. Атрахімовіч (ілюстрацыі). – Паставы: Сумежжа, 2016. – 24 с.; Куфэрак скарбаў: легенды, паданні і цікавыя гісторыі з крыніц народных. – Мінск: Каўчэг, 2017. – 84 с.; Край беларускага сэрца – Мядзельшчына. – Мінск: Каўчэг, 2017. – 656 с.

Публікацыі ў кнігах, зборніках: Праграма турысцка-краязнаўчага гуртка // Школа: авторство и творчество (сб. программ). – Віцебск: ИПКиПРРиСО, 1997. – 74 с. – С. 58-71; Геаграфія і краязнаўства // Матэрыялы VI з’езда Беларускага геаграфічнага таварыства (Магілёў, 27 вер. – 1 кастр. 1999) - Мінск: Белдзяржуніверсітэт, 1999. – 364 с. - С. 329; З глыбіні вякоў // Памяць. Пастаўскі раён. – Мінск: БелТА, 2001. – 688 с. – С. 29-35 (без пазначэння аўтарства); Сацыяльна-эканамічнае развіццё Пастаўшчыны да сярэдзіны XIX ст. // Памяць. Пастаўскі раён. – Мінск: БелТА, 2001. – 688 с. – С. 89-99; Літаратурная карта Пастаўшчыны // Памяць. Пастаўскі раён. – Мінск: БелТА, 2001. – 688 с. – С. 564-566) (пад псеўданімам Багдан Шыпшына); Родныя мясціны паэта // “О Беларусь, мая шыпшына…”: На радзіме Уладзіміра Дубоўкі (склад. І. М. Заяц, І. М. Пракаповіч). – Мінск: Тонпік, 2007. – 128 с. – С.5-22; Уладары Пастаўскіх маёнткаў // Тизенгаузы на Литве и в соседних государствах (сб. докл. конф., Рокишки, 12.06.2007). – Утена: Utenos Indra, 2007. – 104 с. – С. 73-77; Досвед даследавання тапаніміі Пастаўскага раёна // Сучасны стан беларускага краязнаўства і валанцёрскі рух (зб. дакл.). – Мінск. – 2012. – 224 с. – С. 65-69; Арганізацыя і правядзенне школьных

краязнаўчых экспедыцый // Исследовательская деятельность как ориентир развития и расширения образовательных возможностей обучающихся: тезисы интернет-конференции. - Витебск: ГУДОВ «ВО ИРО». 2012. - 371 с.; Вяртанне на радзіму // Honoris causa. – Ч. 2. – Сэрца і талент аддалі Палоніі. – Паставы: Сумежжа, 2015. – 116 с. – С. 47-51.

Публікацыі ў часопісах: Крыніца (краязнаўчы эцюд) (плакат “Малыя рэкі – наша агульнае багацце”) // Пастаўскі райсавет таварыства аховы прыроды. – 1988; Сляды Першай сусветнай // Беларуская мінуўшчына. – 1996. – крас.; Забыты шлях // Падарожнік. – 1996. – вер. – № 9-10; Возера, якое праглынула само сябе // Падарожнік. – 1997. – № 3.; Сістэма школьнага краязнаўства // Геаграфія: праблемы выкладання. – 1998. – лют. – № 1 (10). – С. 103-114; Агульныя рысы краязнаўства як сістэмы // Геаграфія: праблемы выкладання. – 2001. – вер. – № 3 (24). – С. 44-46; Заняткі краязнаўчага гуртка па тэме “Тапаніміка Пастаўскага раёна” // Геаграфія: праблемы выкладання. – 2001. – снеж. – № 4 (25). – С. 66-71; Мадэль сістэмы краязнаўства ў школе і характарыстыка яе элементаў // Веснік адукацыі. – 2003. – № 1-2 – С. 22-29; Разнастайнасць форм і метадаў краязнаўчай работы і іх выкарыстанне ў сістэме школьнага краязнаўства // Геаграфія: праблемы выкладання. – 2003. – № 4 – С. 77-92; Насельніцтва Пастаўскага краю // Нашы карані. – 2003. – № 9 – С. 20–42; Манькавічы // Нашы карані. – 2004. – № 12. – С. 4–27; Планаванне сістэмы краязнаўчай работы ў школе // Пазашкольнае выхаванне. – 2004. – № 7. – С. 25-29; Каб любіць Беларусь нашу родную // Беларуская думка. – 2004. - № 10. – С. 126-129; Сістэмны падыход да краязнаўчай работы // Народная асвета. – 2004. – № 11. – С. 56-58.; Сляды першай сусветнай на Пастаўшчыне // Нашы карані. – 2005. – № 15. – С. 21–26; Азёры Пастаўскага раёна // Нашы карані. – 2005. – № 15. – С. 55; Моўныя працэсы на Пастаўшчыне // Роднае слова. – 2005. – № 10; Паставы: погляд географа // Геаграфія: праблемы выкладання. – 2007. – вер.-кастр. – № 5 (51); Стары Мядзел. Гістарычная хроніка Старога Мядзела (555 гадоў) // Полымя. – 2009. – кастр. – № 9. – С. 194-200; Лёс сялянскай сям’і праз прызму дакументаў // Беларускі гістарычны часопіс. – 2010. – чэрв. – № 6. – С. 58-62; Война с отсрочкой на двадцаць лет // Союзное государство. – 2013. – кастр. – № 10. – С. 73-75 (разам з Л. Курилович).

Публікацыі ў рэспубліканскіх, абласных і мясцовых газетах (асноўныя): Царкоўна-прыходскія школы на Пастаўшчыне // ПК. – 1992. – 10 студз.; На пачатку стагоддзя // ПК. – 1992. – № 8; За цемраю вякоў мінулых (даславянскі перыяд на Пастаўшчыне) // ПК. – 1992. - 13, 20, 24 сак.; Звязана з гісторыяй Пастаўшчыны // ПК. – 1992. – 14 крас.; Пастаўшчына – азёрны край // ПК. – 1992. – 7 кастр.; 90 год назад у Лучаі // Сумежжа. – 1994. – № 3.; Святыя мясціны Пастаўшчыны (верлібры І. Пракаповіча) // ПК. – 1994. – № 70; Дзе нашыя карані? // Сумежжа. – 1993. – 16–31 жн.; "Любіць Радзіму – значыць ведаць яе" // ПК. – 1995. – 8 крас.; Што ў назве? // ПК. – 1995. – 24 мая.; Уладзіміру Дубоўку – 95 // ПК. – 1995. – № 60; Бацькава закляцце // Народнае слова. – 1995. – № 77; Нямецкія чыгункі на Пастаўшчыне // ПК. – 1996. – 4 студз.; З роду фундатараў і мецэнатаў // ПК. – 1996. – 14 сак.; Эхо далёкой войны… // Туризм и отдых. – 1996. – июнь; Владимир Дубовко и Невель // Невельский вестник. – 1999. – 26 мая; Шляхі краязнаўства // ПК. – 1997. - № 25; Куточак радзімы ў Мінску // ПК. – 1998. – № 41.; Адкрыцці і знаходкі // ПК. – 1999. – 14 ліп.; Геаграфія Пастаўшчыны (віктарына) // ПК. – 1999. – 14 ліп.; Нямецкія чыгункі на Пастаўшчыне; Краязнаўчая экспедыцыя // Краязнаўца Паазер'я. – 2000. – крас. – № 2; Па Дубоўкавых мясцінах // Краязнаўца Паазер'я. – 2000. – чэрв. – № 5; Азёры Пастаўскага раёна // Шыпшына. – 2000. – кастр. – № 2; Рамуальд Зянькевіч // Шыпшына. – 2001. – люты. – № 2(5); Школы граматы на тэрыторыі Пастаўскага раёна ў 80-я гады XIX ст. // Краязнаўца Паазер'я. – 2001. – № 2(15); Краязнаўства: адкрыцці і знаходкі // ПК. – 2001. – 18 ліп.; Вандроўка на Камайшчыну // ПК. – 2001. – 5 снеж.; Падмурак будынка гісторыі // ПК. – 2002. – № 12; Экспедыцыя "Водны шлях" // Народная газета. – 2002. – 25 чэрв.; Помнік Ф. Даноўскаму // ПК. – 2002. – 28 вер.; Нязломны дух Фларыяна // Народнае слова. – 2002. – 5 ліст.; Збережом сядзібу мастака? // Народнае слова. – 2002. – 19 ліст.; Помнік паўстанцу ў Каралінове // Шыпшына. – 2002. – 7 лют.; Блізкая гісторыя // ПК. – 2003. – № 3.; Насельніцтва Пастаўскага края // ПК. – 2003. – студз.-снеж.; Моўныя працэсы на Пастаўшчыне (гістарычны агляд) // Новы час. – 2004. – 30 студ.; Праваслаўны храм у Паставах // ПК. – 2004. – 18 снеж.; Новыя знаходкі юных краязнаўцаў // ПК. – 2004. – 27 кастр.; Задзеўе – назва таямнічая // ПК. – 2005. – вер.; Новыя адкрыцці //

ПК. – 2005. – 14 вер.; Дукі ў пекле вайны // ПК. – 2005. – № 129–130; Саранчаны адкрываюць таямніцы // ПК. – 2005. – 10 ліст.; Гісторыя вёскі Груздава // ПК. – 2006. – 21 студз., 01, 22 лют.; Рамуальд Зяньковіч // ПК. – 2006. – 14 чэрв.; Шляхі вядуць у Паставы // ЛіМ – 2006. – 1 вер.; Палац Тызенгаўзаў // ЛіМ – 2006. – 1 вер.; Метрычныя кнігі Груздаўскай царквы // ПК. – 2007. – 17 студз.; Падарожжа ў Рокішкі // ПК. – 2007. – 1, 8, 15 жніўня; Шматгранная і таленавітая асоба // ПК. – 2007. – 12 вер.; Зыгмунт Чаховіч, паўстанец і летуценнік // Народнае слова. – 2008. – 17 крас.; Археалагічная знаходка года // ПК. – 2008. – 13 жніўня; У Паставах помняць пра Першую сусветную вайну // Звязда. – 2008. – 11 снеж.; Міжнародная канферэнцыя "Першая сусветная вайна – трагедыя, гераізм, памяць, прымірэнне" ў Паставах // ПК. – 2008. – 13 снеж.; Яўрэі на Пастаўшчыне // Мы яшчэ тут (яўр). – 2008. – снеж. – № 41.; Культурныя традыцыі горада // ПК. – 2009. – 21 лют., 18, 28 сак., 8 крас.; Па Віленскім тракце ў Нальшчанскую зямлю // Турызм і адпачынак. – 2009. – 26 лют. – № 7.; Падарожжы па зямлі Пастаўскай // ПК. – 2009. – 23 мая, 3, 10, 17, 27 чэрв. – №№ 40, 43, 45, 47, 48, 50; Таямнічы камень каля Парыжа // Культура. – 2009. – 3-9 кастр. – № 40; Уладары Пастаўскіх маёнткаў // ПК. – 2009. – 24, 31 кастр., 4, 21,25,28 ліст. – №№ 84, 86, 87, 92, 93, 94; Слова краязнаўца // ЛіМ. – 2009. – 4 снеж. – № 45; Warenkarte для селяніна // ПК. – 2009. – 12 снеж.; Парфорснае паляванне ў Паставах // ПК. – 2010. – 20, 23, 27, 30 студз., 3, 10, 13, 17, 27 лют., 3, 10 сак., 3 крас. – №№ 5–9, 11–13, 16–17, 19, 26; Каменная спадчына // ЛіМ. – 2010. – 22 студз. – С. 13; И край родной откроет тайны: Система школьного краеведения // Краезнавство. Географія. Туризм. – 2010. – лютий. – №8 (637). – С. 22–23. (Кіеў, урыўкі з кнігі ў перакладзе на ўкраінскую мову); Знайшоўся унікальны здымак // ПК. – 2010. – 10 сак.; Аб'яднала іх парфорснае паляванне // ЛіМ. – 2010. – 2 крас. – № 13; Назвы нашых вёсак // Краязнаўчая газета. – 2010. – жнів.–кастр. – № 30, 31, 40; Пялёсткі з радзімы У. Дубоўкі // ЛіМ. – 2010. – 20 жніўня. – № 33; Назвы нашых вёсак // ПК. – 2010. – 22, 29 вер., 9, 13, 20 кастр., 3, 10, 17, 24 ліст., 4, 15 снеж.; 2011. – 6, 15 студз., 9 лют., 22, 30 сак., 15, 29 чэрв., 3 жніўня.; Назвы нашых вёсак // Краязнаўчая газета. – 2011. – студз.-сак. – (да № 10); "Дзень добры, Міськія…" // ЛіМ. – 2011. – 14 студз.; Паэт з вёскі Міськія // ПК. – 2011. – 19 студз.; "На ўзгорку ля Аржоўкі…" // Культура. – 2011. – 15-21 студз. – №

3.; Капліца ў Кубарках // ПК. – 2011. – 29 студз.; Дарогі клічуць… або рыхтуемся да экспедыцыі разам // Настаўніцкая газета. – 2011. – 12 лют.; Пастаўшчына літаратурная // Шыпшына. – сак. – № 5; Забыты шлях, або версія пра тое, як у сярэднявеччы ажыццяўляліся стасункі паміж Полацкам і Вільняй // Нарачанская зара. – 2011. – 7 мая; Уладары пастаўскіх маёнткаў // Краязнаўчая газета. – 2011. – чэрв.–ліп. – №№ 22-25; Родныя мясціны Уладзіміра Дубоўкі // Шыпшына. – 2011. – чэрв.–ліп. – № 6; Краязнаўчая канферэнцыя ў Германавічах // Шыпшына. – 2011. – ліп. - № 7; Зыгмунт Чаховіч – паўстанец, пакутнік, духоўны бацька Янкі Купалы // Шыпшына. – 2011. – ліп. – № 7; Мядовы спас у Рымках // ПК. – 2011. – 27 жніўня; IV раённая навукова-практычная канферэнцыя школьнікаў // Шыпшына. – 2012. – 27 сак. – № 3; Назвы нашых вуліц // Шыпшына. – 2012. – 27 чэрв. – № 6; Краязнаўчая экспедыцыя па былой лініі фронту // ПК. – 2012. – 27 чэрв.; Вандроўка на радзіму Паэта // Туризм и отдых. – 2012. – 6 вер.; На радзіме Паэта // ЛіМ. – 2012. – 7 вер.; Адноўленая памяць // ПК. – 2012. – 19 вер.; “Я сэрцам пісаў сваю кожную песню” (з рэспубліканскага свята паэзіі і песні ў Мядзеле да 100-годдзя Максіма Танка) // ПК. – 2012. – 22 вер.; Экспедыцыя ў Ярэва і яго ваколіцы // ПК. – 2012. – 17 кастр.; Ці Напалеон даў назву пастаўскаму Парыжу? // ПК. – 2013. – 2 сак.; Рэшткі каменнага ідала // Шыпшына. – 2013. – 27 сак.; Вайна 1812 года на Пастаўшчыне // ПК. – 2013. – 24, 31жніўня, 7, 14, 28 вер., 12 кастр.; Помнікі Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне // Краязнаўчая газета. – 2014. – крас. – №№14, 15.; Памяткі І Сусветнай вайны на Пастаўшчыне // Мир вокруг нас (журнал гімназіі № 4 г. Віцебска). – 2014. – май. – № 24-26. – С. 16-18; Памяткі Першай сусветнай // ПК. – 2014. – 21 мая, 4, 18, 25, 28 чэрв., 9 ліп.; Вёска на краі вечнасці // Звязда. – 2014. – 19 жніўня; Адноўленая святыня // Звязда. – 2014. – 23 жніўня; Школьніцтва на Пастаўшчыне ў пасляваенны час // ПК. – 2014. – 25 кастр.; Падарожжа па зямлі крывічоў // Наша слова. – 2015. – 14 кастр.; Па усходняй Мядзельшчыне // Наша слова. – 2015. – 21 кастр.; Вясковыя творцы цікавейшыя за тусоўшчыкаў сталічнай багемы – вандроўка па Мядзельшчыне // Рэгіянальная газета. – 2015. – 14 ліст.; Вандроўка па Свірскім краі: дзе гераізм і слава – сусед варварства і рабаўніцтва // Рэгіянальная газета. – 2015. – 20 ліст.; Вандроўка па зямлі крывічоў // Краязнаўчая газета. – 2016. – 16 студз. – № 2; Па ўсходняй Мяд-

зельшчыне // Краязнаўчая газета. – 2016. – 30 студз. – № 4; Па Свірскім краі // Краязнаўчая газета. – 2016. – лют. – № 6; Думкі над Нараччу // Краязнаўчая газета. – 2016. – лют. – № 8; Першай сусветнай акопы. Жалезабетон… Бліндажы… // Настаўніцкая газета. – 2016. – 24 сак.; Пастаўскія землякі // Сельская газета. – 2016. – 24 снеж.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: рэспубліканскі семінар "Помнікі краязнаўства і іх выкарыстанне ў выхаваўчай рабоце" (г.Мінск, 1996); краязнаўчая навукова-практычная канферэнцыя "Дзісненскія чытанні" (г.Міёры, 1996); абласны семінар па турысцка-краязнаўчай рабоце (г.Паставы, 1997); семінар па краязнаўстве пры аб'яднанні пазашкольных устаноў (г.Віцебск, 1998); навукова-практычная канферэнцыя "На мяжы вякоў" (Паставы, 1998); абласны семінар па турысцка-краязнаўчай рабоце (Ветрына—Празарокі—Міёры, 1999); навукова-практычная канферэнцыя "Стан і шляхі ўдасканалення геаграфічнай адукацыі ў Беларусі" (г. Магілёў, 1999) (даклад: "Геаграфія і краязнаўства ў сістэме агульнаадукацыйнай школы"); рэспубліканскі семінар «Состояние и пути совершенствования географического образования в условиях реформирования» (г. Минск, 2000)(даклад:"Сістэма краязнаўчай работы ў агульнаадукацыйнай школе"); рэспубліканская канферэнцыя «Выхаванне грамадзянскасці і патрыятызму сродкамі турызму і краязнаўства» (г. Віцебск, 2002); рэспубліканскі семінар "Выхаванне любові да Радзімы і экалагічнай культуры вучняў сродкамі краязнаўства ў геаграфічнай адукацыі" (г. Мінск, 24–25 чэрв. 2004) (даклад: "Арганізацыйна-педагагічныя асновы стварэння сістэмы краязнаўчай работы ў агульнаадукацыйнай школе"); рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Краязнаўства і патрыятычнае выхаванне моладзі" (г. Мінск, 29 сак. 2005) (даклад: "Дзяржаўная рэгіянальная палітыка і патрыятычнае выхаванне моладзі сродкамі краязнаўства"); навуковы клуб сістэмнага міждысцыплінарнага аналіза і сінтэза Міжнароднай Акадэміі арганізацыйных і упраўленчых навук (г. Мінск, АН РБ, 9 ліст. 2005) (даклад: "Аб курсе краязнаўства ў агульнаадукацыйных школах"); пасяджэнне Цэнтральнага Савета Усебеларускай турысцка-краязнаўчай экспедыцыі навучэнцаў "Наш край" (г. Мінск, 25 лют. 2006) (даклад: "Развіццё школьнага краязнаўства: рэгіянальны вопыт і перспектывы"); "Пастаўскія чытанні – 2006", навукова-практычная канферэнцыя,

прысвечаная дню беларускага пісьменства (Паставы, 2 вер. 2006) (даклад: “Літаратурны працэс на Пастаўшчыне: гісторыя і сучаснасць”); рэспубліканскі семінар па правядзенні рэспубліканскай акцыі навучэнцаў “Жыву ў Беларусі і тым ганаруся” (НДАЛ “Зубраня”, Мядзельскі р-н, 5-6 кастр. 2006) (даклад: “Асноўныя мерапрыемствы рэспубліканскай акцыі навучэнцаў “Жыву ў Беларусі і тым ганаруся” і перспектывы развіцця школьнага краязнаўства”); міжнародная канферэнцыя “Тызенгаўзы на Літве і ў суседніх краінах” (Літва, Рокішкі, 12 чэрв. 2007) (даклад: “Уладары Пастаўскіх маёнткаў”); рэспубліканскі семінар “Пазакласная работа як шлях павышэння пазнавальнага інтарэсу вучняў да геаграфіі” (28-30 мая 2008 г, г. Мядзел, кемпінг “Швакшты”) (даклад: “Сістэма краязнаўчай работы як сродак павышэння пазнавальнага інтарэсу вучняў да геаграфіі”); міжнародная канферэнцыя “Першая сусветная вайна – трагедыя, гераізм, памяць, прымірэнне” (28-29 ліст. 2008, Паставы) (даклад: “Помнікі Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Пастаўскага раёна”); IX рэспубліканскія краязнаўчыя чытанні педагагічных работнікаў “Фарміраванне ў маладога пакалення адказнасці за захаванне гісторыка-культурнай і прыроднай спадчыны роднага краю” (п. Нарач, 22-24 крас. 2009) (даклад: “Пошукі і даследаванні навуковага краязнаўчага таварыства навучэнцаў “Ювента” г. Паставы”); абласны семінар па краязнаўстве (Віцебск-Наваполацк-Полацк-Мёры-Празарокі-Ветрына, 29-31 сак. 2011) (даклад: “Дэмаграфічныя пытанні ў апісанні гісторыі населенага пункта”); лекцыі для слухачоў курсаў па краязнаўстве ў Акадэміі паслядыпломнай адукацыі (29 чэрв. 2011) (тэма: “Сістэмны падыход да арганізацыі краязнаўчай работы ў школе”); рэспубліканскі семінар “Арганізацыя навукова-даследчай дзейнасці школьнікаў у адукацыйным працэсе па геаграфіі” (4 ліст. 2011, Акадэмія паслядыпломнай адукацыі) (даклад: “Вопыт арганізацыі школьных даследаванняў на аснове краязнаўчых матэрыялаў”); абласная інтэрнет-канферэнцыя “Даследчая дзейнасць як арыентыр развіцця і пашырэння адукацыйных магчымасцяў вучняў” (Віцебск, “Віцебскі абласны інстытут развіцця адукацыі”, 10.04.2012) (даклад: “Арганізацыя і правядзенне школьных краязнаўчых экспедыцый”); рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя па краязнаўстве (Мінск, Дзяржаўны гістарычны музей, 16.04.2012) (даклад “Досвед даследавання тапаніміі Пастаўскага

раёна"); абласны семінар-фестываль удзельнікаў абласнога этапа XV рэспубліканскай выставы навукова-метадычнай літаратуры і педагагічнага вопыту (19-20 снежня 2012, Віцебск, інстытут развіцця адукацыі) (даклад "Стварэнне ВМК па краязнаўстве раёна"); міжнародная навуковая канферэнцыя "Спадчына радні графаў Тызенгаўзаў" (5 ліп. 2013, Літва, Рокішкіс); конкурс праектаў на лепшую арганізацыю 6-га вучэбнага дня (7 ліст. 2013, лагер "Зубраня" Мядзельскі раён, выступленне з вучнямі); семінар па праекце "Малыя рэкі – вялікі клопат" (19 ліст. 2013, г. Глыбокае); краязнаўчая канферэнцыя (4 ліп. 2015, аг. Германавічы) (даклад "Першая сусветная вайна на Пастаўшчыне"); міжнародная навукова-гістарычная канферэнцыя "Нарацкая аперацыя 1916 г.: гісторыя і сучаснасць" (18 сак. 2016, Нарач) (прэзентацыя турыстычнага маршрута "Ад Мядзела да Паставаў па лініі фронту I сусветнай вайны: помнікі прыроды, гісторыі, культуры"); міжнародная навукова-гістарычная канферэнцыя "Нарацкая аперацыя 1916 г.: гісторыя і сучаснасць" (19 сак. 2016, Паставы) (даклад "Вывучэнне памятак I сусветнай вайны на Пастаўшчыне"); навукова-практычы семінар "Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (20 крас. 2017, Паставы) (даклад "Краязнаўства Пастаўшчыны: здабыткі і перспектывы развіцця")

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: 1982, лета – вучэбна-азнаямляльная практыка на Кольскім паўвостраве; 1983, лета – экспедыцыя па вывучэнні Лепельскіх і Ушачскіх азёр з супрацоўнікамі галіновай навукова-даследчай лабараторыі азёразнаўства пры БДУ; 1984, лета – экспедыцыя па вывучэнні ландшафтаў Палесся (ад Маларыты да Мазыра) з супрацоўнікамі лабараторыі вывучэння ландшафтаў інстытута геахіміі і геафізікі АН Беларусі; 1988, лета - паход 1 катэгорыі складанасці па Віцебскай вобласці; 1990, лета - турыстычны паход II катэгорыі складанасці ў Карпаты; з 1985 па 2016 - каля 150 экспедыцый і вандровак з вучнямі СШ № 1 і пастаўскай гімназіі: (некаторыя з іх): 2001, 26-28 чэрв. – Экспедыцыя "Водны шлях" па маршруце г. Паставы–Мікольцы–Волачак–Рудакова–Стомы–Мядзел–Замак–Мядзелка–Маўчаны–Маўчанкі–Ідаліна–Пятроўшчына–Варанец–Доўжа–Дзеравянкі–Паставы (3 дні); 2010, 24-26 вер. – Экспедыцыя па маршруце Паставы-Янчукі–Заўлічы–Гайдукі–Завараты–Гарадзішча–Янчукі–Паставы (3 дні); 2012, 21-23

вер. – Экспедыцыя па маршруце Паставы-Ярэва-В.Волься-Свілэлі-Лясныя Муляры-Мажэйкі-Родзі-Мольдзевічы-Ярэва-Паставы (3 дні); 2013, 6-8 вер. – Экспедыцыя па маршруце Паставы-Рамелькі-Макараўцы-Кашыцы-Дзеравянкі-Пятроўшчына-Сарочына-Манькавічы-Паставы (3 дні); 2015, 28-29 кастр. – Экспедыцыя па маршруце Паставы-Стары Двор-Дземяшы-Рамашова-Круткі-Войнеўка-Стары Двор-Жафарава-Чашкоўшчына-Стары Двор (2 дні). Правёў экспедыцыю па яўрэйскіх мемарыялах Мядзела, Свіры, Пастаў, Дунілавічаў, Кабыльніка (трохдзённая)(2014, разам з Л. Смілавіцкім (Ізраіль) і Ю. Гарбінскім). З сябрамі пастаўскай арганізацыі Таварыства беларускай мовы з 2011 па 2017 правёў 8 аўтавандровак па Пастаўскім і Мядзельскім раёнах. Шмат краязнаўчых падарожжаў па раёну здзейсніў з сябрамі-краязнаўцамі, навукоўцамі, фотографамі (А. Гарбуль, А. Чалей, У. Багданаў, Э. Зайкоўскі, А. Курак, Ю. Фурс, В. Шышко, Л. Сяменас, Н. і Г. Пракаповіч і інш.)

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: рэдагаванне, макетаванне і выданне бюлетэня Пастаўскай раённай арганізацыі ТБМ “Шыпшына” (2011 г. – 12 нумароў; 2012 г. – 9 нумароў; 2013 г. – 9 нумароў); падрыхтоўка і выданне літаратурнага бюлетэня “Выспа літаратурная” (2001 г. – 2 нумары); рэдагаванне, макетаванне і дапамога ў выданні краязнаўчых кніг: Арэх М. “Вёсачкі над Заражанкай: Манеўшчына, Харкі, Васілеўшчына, Кейзікі” (2013); Хоміч Ф. “Дунілавічы: ад ВКЛ да БССР” (2014); Малец Я. “Таямніца Хрыстова” (2015); член рэдкалегій часопіса “Геаграфія: праблемы выкладання” (з 1995), газеты ТБМ “Наша слова” (з 2016), мясцовых неперыядычных выданняў “Сумежжа”, “Краязнаўца Паазер’я”.

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: 2013-2015 – перадаў шэраг экспанатаў для экспазіцый пастаўскага краязнаўчага музея ў палацы Тызенгаўзаў; мае прыватныя калекцыі друкаваных выданняў часоў перабудовы, падручнікаў па геаграфіі, даўнейшых прылад працы.

Удзел у стварэнні фільмаў: 2010, сцэнарый (разам з Н. Пракаповіч) відэафільма “Праваслаўныя храмы Пастаўскага раёна” (пастаўская СШ №2); 2012, удзел у здымках відэафільма пра Я. Купалу на тэлекампаніі “Паставы-ТБ”; 2013, сцэнарый (разам з В. Ражко) вучэбна-краязнаўчага фільма “Блакітныя пацеркі Паставаў” (пастаўская гімназія); 2014, - удзел у здымках дак. фільма па экалогіі

Пастаўскага раёна (разам з В. Казаком) (Віцебскае абласное тэлебачанне); 2015, сцэнарый (разам з Л. Шайтар) краязнаўчага фільма "Сарочынскія азёры" (пастаўская гімназія); 2015, удзел у здымках каля Лучайскага касцёла (БТ-3, разам з В. Шышко).

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: 1996, лета – арганізатар і кіраўнік літаратурнага семінара "Даўжанскія вечары-96" (в. Дзеравянкі, Пастаўскі раён); 1999, лета – арганізатар і кіраўнік літаратурнага семінара "Даўжанскія вечары-99" для моладзі (в. Дзеравянкі, Пастаўскі раён); 2013, верасень-снежань – арганізацыя і правядзенне курсаў беларуская мовы і краязнаўства (разам з сябрамі ТБМ). З 2011 па 2017 правёў прэзентацыі краязнаўчых кніг у Мінску, Пастаўскім раёне (раённая і дзіцячая бібліятэкі г. Паставы, Юнькаўская, Лынтупская, Варапаеўская, Парыжская бібліятэкі, бібліятэка пастаўскага прафесійнага каледжа; Гуцкая, Навадруцкая, Казлоўшчынская Мулярская, Камайская, Лынтупская, Варапаеўская, Ваўкоўская, Ляхаўшчынская, Дунілавіцкая, Курапольская, Палеская, Старадворская, Андронаўская школы, пастаўскі музей): Мядзельскага раёна (Мядзельская раённая і Нарацкая бібліятэкі; Будслаўская, Крывіцкая, Старагабская, Слабадская і Сваткаўская школы), Глыбоцкага раёна (Глыбоцкая раённая бібліятэка). У паездках і прэзентацыях удзельнічалі М. Арэх, Ф. Хоміч, В. Шышко, Ю. Пракаповіч, Н. Пракаповіч, Л. Сяменас, Г. Пракаповіч, Ю. Янцэвіч, Л. Логінава.

Дзейнасць у якасці куратара і навуковага кіраўніка вучнёўскіх даследчых работ: падрыхтаваў пераможцаў абласных і рэспубліканскіх этапаў (усе 4 этапы) Усебеларускай экспедыцыі "Наш край: 1995-1997, Яўген Петракоў "Даследаванні на лініі фронту 1 Сусветнай вайны"; 1998-2000, Андрэй Чарэнка "Адкрыцці і знаходкі краязнаўчага гуртка"; 2001-2003, Святлана Барыла, Алена Красоўская "Летапіс родных мясцін"; 2004-2006, Сяргей Громаў "Краязнаўчыя адкрыцці", Алеся Кірылава "Адраджэнне гістарычнай памяці".

У краязнаўчым таварыстве "Ювента" (СШ № 1) з'яўляўся кіраўніком наступных даследчых работ (асноўныя): Яўген Палтаржыцкі "Справа Пастаўскага педагагічнага вучылішча", Іна Собаль "Вёска Груздава" (вынік – кніга "Мястэчка каля пушчы"), Сяргей Громаў "Архітэктурныя помнікі Пастаўскага раёна"; Юлія Пракаповіч "Назвы паселішчаў Пастаўскага раёна"; Андрэй Чарэн-

ка “Радавод роду Чарэнкаў” (фіналіст рэспубл. конкурсу “Мой радавод”); Арцём Гушча “Апісанне курганнага могільніка каля вёскі Сяргеевічы”; Юлія Пракаповіч “Культурныя традыцыі горада Паставы” (абл. конкурс “Нашчадкі перамогі”); Вольга Пракаповіч “Вядомыя людзі Пастаўскага раёна”; Юлія Пракаповіч, Дзмітрый Гутар “Апісанне і класіфікацыя валуноў Пастаўскага раёна”; Дзіяна Корсак “Археалагічныя помнікі Пастаўскага раёна” (дыплом ІІ ступені ў вобласці, 2009); Яўген Свірковіч “Назвы вуліц г. Паставы”; Любоў Казакова “Вызначэнне геаграфічнага цэнтра Пастаўскага раёна і Віцебскай вобласці”; Алеся Кірылава “Гісторыя будаўніцтва чыгункі Новасвянцяны-Беразвечча” (2 месца на раённым конкурсе); Юлія Пракаповіч “Выкарыстанне помнікаў І Сусветнай вайны ў турысцкіх мэтах” (выступ на міжнароднай канферэнцыі, Паставы, 2009; пазней – кніга “Памяткі Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне”); Вікторыя Емельянава, Марыя Мядзведзева “Краязнаўчы праект “Спадчына знікаючых вёсак”; Віталій Літвіновіч “Гісторыка-геаграфічны аналіз гідраграфічнай сеткі паўночна-заходняй Беларусі з мэтай вызначэння старажытных гандлёвых шляхоў і волакаў” (дыплом ІІІ ступені на рэспуб. і абл. конкурсах, 2011); Віталій Літвіновіч “Гісторыка-геаграфічны і семантычны аналіз гадонімаў і агаронімаў горада Паставы” (дыплом ІІ ступені на раённым конкурсе, 2012) (вынік – кніга “Назвы вуліц горада Паставы”). Калектыўныя праекты (асноўныя): 2005-2006 - распрацоўка праекта краязнаўчага маршрута “Класіка Спорыцкай ледавіковай лагчыны” (дыплом 1 ступені ў вобласці і рэспубліцы); 2007-2008: раённы конкурс краязнаўчых карт-схем (1 месца), раённы конкурс творчых работ “Ведай свой край” (1 і 2 месца), раённая краязнаўчая алімпіяда (3 месца).

З вучнямі пастаўскай гімназіі падрыхтаваў даследчыя працы (асноўныя): Сяргей Акелан “Страчаныя помнікі Паставаў” (2007); Вольга Жалейка “Этапы будаўніцтва палаца Тызенгаўзаў у Паставах” (2007); Васіль Васільеў, Мікалай Гуртавенка “Нарацкая аперацыя ў ваколіцах горада Паставы” (2011); Ксенія Шымановіч “Комплекснае апісанне возера Задзеўскае з тлумачэннем яго геаграфічных загадак” (2011) (дыплом І ст. на раённай канферэнцыі); Дарья Гутар, Кацярына Парангоўская “Стварэнне храналогіі падзей і календароў памятных дат для Пастаўскага раёна” (2012); Дзіяна Гінько “Гісто-

рыка-геаграфічнае апісанне вёскі Вялікія Споры" (2011) (дыплом I ст. на раённай канферэнцыі, дыплом III ст. на абласной канферэнцыі); Ільля Мачанскі, Раман Чыпко "Вывучэнне ўмацаванага раёна часоў Першай сусветнай вайны паміж возерам Задзеўскае і вёскай Дукі" (2012) (дыпломы I ст. на раённай і абласной канферэнцыях); Кацярына Дунец "Легенды роднага краю як крыніца мастацкай творчасці" (2012) (дыплом III ст. на раённай канферэнцыі); Віялета Сяменас, Валерыя Марціна, Анастасія Клянцэвіч, Маргарыта Протас "Вывучэнне фізічных характарыстык і стану водных аб'ектаў паўднёвай часткі Пастаўскага раёна (рака Глодаўка, Сарочынскія азёры)" (Краязнаўча-экалагічны конкурс, дыплом I ст. у раёне, II ст. у вобласці); Віялета Сяменас, Валерыя Марціна, Анастасія Клянцэвіч "Вывучэнне фізічных характарыстык і экалагічнага стану ракі Глодаўка" (2014) (дыплом I ст. на раённай канферэнцыі); Лада Шайтар "Вывучэнне і апісанне ўнікальнага прыроднага комплекса "Сарочынскія азёры" (2014) (дыплом I ст. на раённай, дыплом II ст. на абласной, дыплом III ст. на рэспубліканскай канферэнцыях); Віялета Сяменас, Яўген Бурак "Стварэнне інфармацыйна-даведачнай сістэмы "Краязнаўцы і краязнаўчыя выданні Пастаўскага раёна" (2015) (дыплом I ст. на раённай і абласной канферэнцыях, дыплом II ст. на рэспубліканскай канферэнцыі); Яўген Казімірскі "Стварэнне інтэрактыўнай экалагічнай карты горада Паставы на аснове палявых даследаванняў" (2016) (дыпломы I ст. на раённай і абласной канферэнцыях, дыплом III ст на рэспубліканскай канферэнцыі); Іван Куляшоў "Радавод роду Куляшовых" (2016) (дыплом I ст. на раённым конкурсе); Крысціна Клянтак "Аналіз літаратурнага працэсу на Пастаўшчыне на аснове мультымедыйнага рэсурса "Пісьменнікі Пастаўшчыны" (2017) (дыплом I ст. на раённай канферэнцыі); Андрэй Гутараў, Анастасія Лявонава "Стварэнне інфармацыйнага медыярэсурса "Зніклыя і знікаючыя населеныя пункты Пастаўскага раёна" і яго аналіз" (2017) (дыплом I ст. на раённай канферэнцыі); Кірыл Шымановіч "Распрацоўка праекта турысцка-рэкрэацыйнай зоны адпачынку вакол возера Задзеўскае" (2017) (дыплом II ст. на раённай канферэнцыі).

Матэрыялы пра І. Пракаповіча: у кнігах: Беларускія пісьменнікі: Бібл. слоўн. у 6 т. Т. 6. Талалай-Яфімаў. Пад рэд. А. Мальдзіса. – Мн.: БелЭн, 1995. – 684 с. – С. 653; Журавль надежды: республиканский

конкурс профессионального мастерства педагогов “Хрустальный журавль-95”. – Мн.: МНЦентр, 1997. – 2008 с. – С. 91-96. (нарыс “Выхоўваць грамадзян, патрыётаў сваёй Айчыны”, аўтар В. Белая); Памяць. Пастаўскі раён. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – 688 с. – С. 521-522. (нарыс “Пракаповіч Ігар Міхайлавіч”); Нафрановіч, А. Сейбіты дабра і мудрасці: Зб. нарысаў і вершаў. – Мінск: Чатыры чвэрці, 2007. – 220 с. – С. 105-110 (нарыс “Тапаніміка і герніка душы”); З росных сцяжын: аўтабіяграфіі пісьменнікаў Беларусі / уклад. М. Мінзер. – Мінск: Літаратура і Мастацтва, 2009. – 464 с. – С. 327-338 (нарыс “Зачараваны краем чароўным...”); Півавар, М. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 239-241.

У перыядычным друку: Візітная картка (“Буду храм будаваць!”) // Геаграфія: праблемы выкладання. – 1995. – вып.1. – С. 101-102; Ігар Пракаповіч. Рысы біяграфіі. Хроніка творчасці // Выспа літаратурная. – 2001. – чэрвень. – № 2; Пішч, Г. Прэзентавалі дзве кнігі // Пастаўскі край. – 2003. – 23 ліп.; Бубала, А. Прыгожы край на таленты багаты // ПК. – 2003. – № 117; Заяц, І. Дарога ў краіну краязнаўства // Краязнаўчая газета. – 2005. – № 39. – С. 3; Гук, С. Усё класічна [рэц. на кнігу “Мястэчка каля пушчы”] // Народнае слова. – 2005. – № 148. – С. 5; Нафрановіч, А. Тапаніміка і герніка душы // Настаўніцкая газета. – 2005. – 20 снеж.; Пішч, Г. Заўважылі акадэмікі // Пастаўскі край. – 2005. – 31 снеж.; Заяц, І. Знаёмцеся – мой настаўнік Ігар Міхайлавіч Пракаповіч // Голас Радзімы. – 2006. – 9 ліст.; Лекарэвіч, Л. Аснова для далейшых даследаванняў // Пастаўскі край. – 2007. – 14 лют.; Дунец, С. “І таямнічы сэнс крыжа...” // Пастаўскі край. – 2007. – 28 ліп.; Шпакоўская, Г. Калі Радзіма натхняе [Пракаповіч І.] // Народнае слова. – 2008. – № 1. – С. 9; Дзеравянка, С. Шматграннасць // Пастаўскі край. – 2009. – 30 вер.; Чарняўскі, М. Тут бярэ пачатак яго радавод // Рэгіянальная газета. – 2010. – 19 сак.; Дубоўская, В. Квінтэсенцыя прыроды ў адным прадмеце // Настаўніцкая газета. – 2010. – 22 чэрв.; Грэчка, І. Восеньскія колеры Пастаўшчыны // Настаўніцкая газета. – 2010. – 30 кастр.; Міхалевіч, А. Сустрэча з паэтам і краязнаўцам // Пастаўскі край. – 2011. – 12 кастр.; Сняжкова, І. Вечар паэзіі і гісторыі // Пастаўскі край. – 2011. – 24 снеж.; Сняжкова, І. “Ноч музеяў” – час адкрыццяў // Пастаўскі край. – 2013. – 29 мая.; Марціновіч, Я. Трымалі творчую справаз-

дачу // Пастаўскі край. – 2013. – 14 снеж.; Шапавалава, А. Музыка слова, глыбіня думкі // Пастаўскі край. – 2014. – 1 кастр.; Латыш, А. Прэзентацыя кнігі “Рымкі” // Пастаўскі край. – 2015. – 17 студз.; Шышко, В. Бенефіс карыфея пастаўскага краязнаўства // Наша слова. – 2015. – 4 лют. - №5. – С. 8; Шарынская, Я. Прымалі ў Парыжы гасцей // Пастаўскі край. – 2015. – 28 лют.; Пракаповіч, Г. Імпрэза ў Гуце // Пастаўскі край. – 2015. – 14 сак.; Шпакоўская, Г. У пошуку гармоніі // Віцебскія весці. – 2016. – 19 студз.; І Міжнародны літаратурны open-air фестываль “Каптаруны” // інф. бюлетэнь. – 2016. – 20-21 жніўня; Курыловіч, П. Пастаўшчына – сталіца краязнаўства // Пастаўскі край. – 2016. – 21 снеж.; Сауліч, У. Пастаўскія землякі // Сельская газета. – 2016. – 24 снеж.

У інтэрнеце: Вікіпедыя https://be.wikipedia.org/wiki/Ігар_Міхайлавіч_Пракаповіч; Беларуская Інтэрнэт-Бібліятэка Kamunikat.orgkamunikat.org/Prakapovicz_Ihar.html; Поставы-Postavy - сердцу милый городок https://leon210648.wordpress.com/.../ігар-пракаповіч/; Паставы – 2004. http://postavy.euro.ru /prokopov.html.

Адрас для кантактаў: 211875, г. Паставы, вул. Паркавая, 52. Тэл.: (02155) 25991; +375 29 5126927 (маб МТС); e-mail: igarpr@gmail.com

***Пракаповіч Юлія Ігараўна***, маркетолаг, краязнаўца. Нарадзілася 5 ліпеня 1991 г. у г. Мядзел. Дзяцінства прайшло ў Паставах, дзе скончыла СШ № 1, мастацкую школу імя А. Ромера, музычную школу па класу фартэпіяна. Значны ўплыў на яе светапогляд аказала праваслаўная вера. Юлія скончыла нядзельную школу пры храме Св. Мікалая ў Паставах, здзейсніла паломніцкія паездкі ў Салавецкі і Дзівееўскі манастыры ў Расіі, Жыровіцкі і Полацкі манастыры ў Беларусі.

У 2009 годзе ўдала здала уступныя экзамены (на тэсціраванні па беларускай мове атрымала 100 балаў) і стала студэнткай факультэта менеджмента, маркетынга і прадпрымальніцтва Беларускага Нацыянальнага тэхнічнага універсітэта. У 2013 годзе закончыла вуз па спецыяльнасці маркетолаг-эканаміст. Падчас вучобы ў БНТУ рэалізавала шэраг адукацыйных праектаў, наведала Швецыю, Эстонію, Польшчу, Германію, Грузію.

Краязнаўствам пачала займацца ў школе пад уплывам бацькі І. М. Пракаповіча, які працаваў настаўнікам і кіраўніком краязнаўчага таварыства школьнікаў “Ювента”. Збірала і апрацоўвала матэрыялы па тэмах “Валуны Пастаўшчыны”, “Назвы вёсак Пастаўскага раёна”, “Першая сусветная вайна на Пастаўшчыне”, “Гісторыя пастаўскай царквы”. На міжнароднай навуковай канферэнцыі (Паставы, 2008 г.) выступала з дакладам “Магчымасці выкарыстання помнікаў І сусветнай вайны ў турыстычных мэтах”. Аўтар кнігі “Памяткі Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне” (2013, разам з І. Пракаповічам). Жыве ў Францыі.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Памяткі Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне. – Паставы, ТБМ-УП “Пастаўская друкарня”, 2012. – 60 с.: іл. (разам з І. Пракаповічам).

Публікацыі ў перыядычных выданнях: Краязнаўчая аўтавандроўка // Шыпшына. – 2013. – №9. – вер. – С. 6-7; Сустрэчы ў Андронах і Навадруцку // Шыпшына. – 2013. – №9. – вер. – С. 8; Краязнаўчая вандроўка // ПК. – 2013. – 16 кастр.; У Мядзелі весяліліся з “Булёнам” // Краязнаўчая газета. – 2015. – №45(590). – снеж.; Сустрэчы ў азёрным краі // Наша слова. – 2015. – 2 снеж.; Сустрэчы ў азёрным краі // Краязнаўчая газета. – 2015. – №46(591). – снеж.; У Мядзелі весяліліся з “Булёнам” // Наша слова. – 2015. – 9 снеж.

Удзел у краязнаўчых і навуковых канферэнцыях, конкурсах: удзел у міжнароднай канферэнцыі “Першая сусветная вайна – трагедыя, гераізм, памяць, прымірэнне” (28-29 лістапада 2008 г., Паставы) (даклад “Магчымасці выкарыстання помнікаў І сусветнай вайны ў турыстычных мэтах”); выступленне на раённай краязнаўчай алімпіядзе на этапе “Экскурсія-экспромт” (2008) (1 месца, разам з Д. Гутарам)

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: падчас вучобы ў СШ № 1 удзельнічала ў шэрагу краязнаўчых экспедыцый краязнаўчага таварыства “Ювента”.

Даследчыя работы: падчас вучобы ў школе выканала творчыя краязнаўчыя работы па наступных тэмах: “Назвы паселішчаў Пастаўскага раёна”(2007-2009), “Культурныя традыцыі горада

Паставы” (абл. конкурс “Нашчадкі перамогі”) (2007), “Апісанне і класіфікацыя валуноў Пастаўскага раёна” (разам з Д. Гутарам) (2008) (абл. конкурс); “Гісторыя пастаўскай царквы” (2008) (навуковы кіраўнік І.М. Пракаповіч).

***Семянас Леанід Альфонсавіч***, пенсіянер, маёр запасу, няштатны карэспандэнт раённай газеты “Пастаўскі край”. Нарадзіўся ў в. Ракіты Пастаўскага раёна, у 1957 г. з бацькамі і сястрой пераехаў у Паставы. Скончыўшы 9 класаў пастаўскай СШ №2, паступіў у Даўгаўпілскі тэхнікум чыгуначнага транспарта. Пазней была вучоба ў Ленінградскім вучылішчы ваенных зносін і не адзін дзясятак гадоў службы ў чыгуначных войсках. Падраздзяленні, якімі камандаваў, будавалі пуці ў Манголіі, Карэліі, на БАМе, у 9 рэспубліках і абласцях СССР, ліквідоўвалі наступствы тэхнагеннай катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. З 1994 г. жыве ў Паставах, актыўна супрацоўнічае з раённай газетай “Пастаўскі край”. У друку выступае з успамінамі, жыццёвымі гісторыямі, артыкуламі пра развіццё чыгункі на Пастаўшчыне. Падрыхтаваў і надрукаваў матэрыял пра стварэнне ў роднай вёсцы Ракіты першага калгаса. Мае публікацыі ў армейскіх шматтыражках, дывізіённай газеце, часопісе “Юность”, газеце “Железнодорожник Белоруссии”.

**Публікацыі** краязнаўчыя (асноўныя): Як ствараўся калгас у Ракітах // ПК. – 2012. - №№ 37, 43, 47, 51. – 8 мая-27 чэрв.; Поруч з натхненнем // ПК. – 2016. – 3 мая; …И тогда дал себе слово // Железнодорожник Белоруссии. – 2016. – 24 вер.; Беларускай чыгунцы — 155 // ПК. – 2017. – 5 снеж.

***Сіманёнак Людміла Іванаўна,*** педагог, метадыст, літаратар. Нарадзілася 19 лютага 1975 г. у г.п. Обаль Шумілінскага раёна. Дзяцінства і юнацтва правяла ў Паставах, на радзіме бацькі. Скончыла СШ № 2 у г. Паставы і філалагічны факультэт Віцебскага дзяржаўнага ўніверсітэта. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры ў Лужаснянскай гімназіі для здольных і таленавітых дзяцей Віцебскай вобласці (1997-

1999), метадыстам аддзела беларусазнаўства і краязнаўства Віцебскага абласнога аб'яднання па арганізацыі пазашкольнай працы з дзецьмі і падлеткамі (1999-2009). Цяпер – загадчыца літаратурнай часткі ў Беларускім тэатры "Лялька" ў Віцебску.

Вершы пачала пісаць са школьных гадоў. Падчас вучобы ў старэйшых класах была ўдзельніцай літаратурнага аб'яднання "Світанак" пры пастаўскай раённай газеце. Аўтар трох паэтычных зборнікаў. Творы друкаваліся ў шматлікіх абласных і рэспубліканскіх выданнях. Член Саюза беларускіх пісьменнікаў з 2004 г. Некаторы час з'яўлялася кіраўніком Віцебскага абласнога аддзялення гэтай арганізацыі.

Краязнаўчай дзейнасцю пачала займацца з часу прыходу ў аддзел краязнаўства, дзе працавала над складаннем радаводаў вядомых асоб Віцебшчыны, арганізоўвала сустрэчы са славутымі землякамі, займалася літаратурным краязнаўствам. Рэдагавала зборнік "Гонар і слава Віцебшчыны". Укладальніца метадычных парад і рэкамендацый для ўдзельнікаў абласнога конкурсу на лепшы зборнік літаратурных твораў, прысвечаных роднаму краю. Жыве ў Віцебску.

**Публікацыі:**

Выданні краязнаўчыя: Гонар і слава Віцебшчыны: зборнік матэрыялаў конкурсу "Гісторыя славутых родаў Беларусі" / уклад. і прадм. Л. І. Сіманёнак. – Віцебск, 2001. – 92 с.; Матэрыялы для ўдзельнікаў абласнога конкурсу на лепшы зборнік літаратурных твораў, прысвечаных роднаму краю / уклад. Л. І. Сіманёнак. – Віцебск, 2002. – 21 с.

Зборнікі вершаў: У люстэрку: вершы / Людміла Сіманёнак. – Віцебск, 1996. – 64 с.; Разгорнуты сусвет: вершы / Людміла Сіманёнак. – Мінск: Мастацкая літаратура, 1999. – 96 с.; Незабыты шлях: вершы / Людміла Сіманёнак. – Мінск: Логвінаў, 2011. – 60 с.

Матэрыялы пра Л. Сіманёнак: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с., 8 (л.) іл. – Беларусь літаратурная; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 258.

***Собаль Іна,*** вучаніца, краязнаўца. Нарадзілася 27 лютага 1989 г. у г. Паставы. Вучылася ў сярэдняй школе № 1 роднага горада. З'яўлялася сябрам краязнаўчага таварыства "Ювента". Брала ўдзел у шэрагу краязнаўчых экспедыцый на тэрыторыі Пастаўскага раёна. Збірала матэрыял пра былое мястэчка Груздава на Пастаўшчыне. Разам са сваім навуковым кіраўніком (і класным кіраўніком) напісала кнігу пра гэты населены пункт.
Кніга: Мястэчка каля пушчы: Груздава і ваколіцы. – Паставы: ВІ "Сумежжа", 2005. – 60 с. (разам з І. Пракаповічам )

***Стахоўскі Віктар Канстанцінавіч***, беларускі патрыёт, дзеяч культуры, краязнаўца. Нарадзіўся 1 снежня 1928 г. у Паставах. Пасля вайны паступіў у Пастаўскае педагагічнае вучылішча. Стаў членам патрыятычнай беларускай суполкі "За Беларусь", якая пазней была пераўтворана ў Саюз Беларускіх Патрыётаў (СБП). У 1947 г. органы МДБ разграмілі арганізацыю, жорстка пакараўшы яе ўдзельнікаў. В. Стахоўскі быў арыштаваны і асуджаны на 10 год зняволення ў канцлагеры. У ссылцы Віктар захварэў на цяжкую форму энцэфаліту і выйшаў на волю датэрмінова. Вярнуўся ў Паставы, дзе знаходзіўся пад наглядам карных органаў. Закончыў завочна Маскоўскі інстытут культуры, некаторы час працаваў дырэктарам Дома культуры, а потым – рэжысёрам Пастаўскага народнага тэатра, дзе сам афармляў спектаклі і часта выходзіў на сцэну як акцёр. Ён стаў ініцыятарам стварэння ў горадзе краязнаўчага музея, для якога ўласна збіраў экспанаты, афармляў экспазіцыі. В. Стахоўскі шмат сіл і энергіі ахвяраваў на ўладкаванне гэтай установы. У студзені 1974 г. музей быў заснаваны, праз два гады адкрыты для наведвальнікаў. Яго першым дырэктарам на грамадскіх пачатках стаў В. Стахоўскі. Але, калі музей атрымаў статус раённага, Віктара, беспартыйнага і былога вязня ГУЛАГа, звольнілі, а дырэктарам прызначылі іншага чалавека. Такая несправядлівасць моцна паўплывала на стан здароўя. В. Стахоўскі памёр 2 лютага 1978 г.

Матэрыялы пра В. Стахоўскага: Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.) – Менск: Наша Ніва, 1997. – 352 с.; Драўніцкі, Я. Пастаўская Беларуская настаўніцкая семінарыя. – Паставы: Сумежжа, 2016. – 104 с. – С. 70 (нарыс "Стваральнік Пастаўскага краязнаўчага музея" (паводле ўспамінаў Антона Фурса).

***Стружэцкі Тадэуш Іванавіч,*** дзеяч культуры. Нарадзіўся 9 студзеня 1953 г. у в. Падлявонавічы Пастаўскага раёна Закончыў з адзнакай Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут імя Горкага (Ленінскі стыпендыят 1973-1975), аспірантуру Маскоўскага дзяржаўнага інстытута культуры (1981). Працаваў загадчыкам сектара Палаца культуры прафсаюзаў у Мінску (1977), выкладчыкам Мінскага інстытута культуры (1977-1981), намеснікам дырэктара Рэспубліканскага навукова-метадычнага цэнтра народнай творчасці і культасветработы. З 1983 по 2004 г. працаваў у цэнтральным апараце Міністэрства культуры: намеснікам начальніка, з 1989 г. начальнікам упраўлення ўстаноў культуры і народнай творчасці.

Адзін з ініцыятараў і распрацоўшчыкаў праектаў законаў "Аб народным мастацтве, народных промыслах і рамёствах", "Аб ахове фальклору ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб бібліятэчнай справе ў Рэспубліцы Беларусь", "Аб музеях і Музейным фондзе Рэспублікі Беларусь", Дзяржаўнай праграмы па падтрымцы народных промыслаў і рамёстваў у Рэспубліцы Беларусь на 2004-2006 гг., раздзела "Культура" Дзяржаўнай праграмы адраджэння і развіцця сяла на 2005-2010 гг., дзяржаўнай праграмы "Культура Беларусі" на 2010-2015 гг., шэрагу раздзелаў іншых праграм і нарматыўных актаў у галіне культуры. Аўтар ідэй і арганізатар (старшыня рэспубліканскіх аргкамітэтаў) стаўшых пазней традыцыйнымі рэспубліканскіх і міжнародных фестываляў: народнай музыкі "Звіняць цымбалы і гармонік" (г. Паставы), народнага мастацтва "Беларусь – мая песня", тэатральнага мастацтва "Гасціны ў Галубка", "Тэатральныя

скрыжаванні” (г.г. Баранавічы, Слуцк, Маладзечна), духавой музыкі “Беларускія фанфары” (г. Баранавічы), нацыянальных культур (г. Гродна), сямейнай творчасці (г. Слонім), народнага гумару “Аўцюкі” (Калінкавіцкі раён), этнакультурных традыцый “Кліч Палесся” і іншых.

У 1990-2004 гг. з’яўляўся кіраўніком-каардынатарам Нацыянальнай секцыі Міжнароднага савета па арганізацыі фальклорных фестываляў і традыцыйных мастацтваў (CIOFF).

Са студзеня 2005 г. працаваў саветнікам Галоўнага ўпраўлення Еўропы Міністэрства замежных спраў Рэспублікі Беларусь, з мая 2005 г. — саветнікам па гуманітарных пытаннях і культуры Пасольства Рэспублікі Беларусь у Рэспубліцы Польшча. Ініцыяваў і арганізаваў комплекс мерапрыемстваў (дні культуры, выстаўкі, гастролі) па прэзентацыі беларускай культуры ў Польшчы. Вынікова займаўся пытаннямі вяртання ў Беларусь гісторыка-культурнай спадчыны.

Са снежня  2009 г. па красавік 2013 г. працаваў намеснікам Міністра культуры Рэспублікі Беларусь. Курыраваў пытанні падрыхтоўкі спецыялістаў для сферы культуры, музейнай, бібліятэчнай справы, устаноў культуры і народнага мастацтва, работы з нацыянальнымі меншасцямі ў Рэспубліцы Беларусь, беларусаў замежжа, каардынацыі супрацоўніцтва з творчымі саюзамі і грамадскімі аб’яднаннямі.

Ініцыяваў стварэнне і забяспечваў працу Кансультатыўнага савета па справах беларусаў замежжа (2009-2013 гг.), падрыхтоўку і правядзенне Першага фестываля мастацтва беларусаў свету (2010 г., Мінск, Віцебск), рэспубліканскага праекта “Культурная сталіца Беларусі”, каардынаваў распрацоўку дзяржпраграм “Слуцкія паясы”, ”Беларусы ў свеце” і іншых.

З’яўляецца аўтарам 4 вучэбна-метадычных дапаможнікаў, мае звыш 100 публікацый па праблемах культуры ў розных выданнях Беларусі і за мяжой, аўтарам праекта і складальнікам кнігі “Беларускія народныя музычныя інструменты”.

Быў ініцыятарам стварэння музейных экспазіцый, прысвечаных фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" і фестывалю нацыянальных культур у Гродна.

Узнагароджаны Ганаровай граматай і Памятным знакам Міністэрства культуры СССР (1988 г.), Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь (1988), спецпрэміяй Федэрацыі прафсаюзаў Беларусі за актыўную працу па развіццю народнай культуры і самадзейнай творчасці працоўных (1999), ганаровым знакам Міністэрства культуры "За ўклад у развіццё культуры Беларусі" (2003), Граматай Беларускага Экзархата (2003), памятным медалём Таварыства супрацоўніцтва Польшча – Усход (2009), дыпломам Камісіі Рэспублікі Беларусь па справах ЮНЕСКО "За ўклад у развіццё супрацоўніцтва Беларусі з ЮНЕСКА ў дзейнасці па захаванні культурнай спадчыны" (2012), ганаровым знакам Беларускага прафсаюза работнікаў культуры (2013), юбілейным знакам "Федэрацыя прафсаюзаў Беларусі: 100 гадоў прафсаюзнага руху" (2013), Ганаровай граматай Нацыянальнай акадэміі навук Беларусі за вялікі асабісты ўклад у развіццё супрацоўніцтва паміж Міністэрствам культуры і Нацыянальнай акадэміяй навук у галіне захавання і адраджэння гісторыка-культурнай спадчыны (2013). З'яўляецца пераможцам рэспубліканскага конкурсу "Чалавек Года культуры" па выніках 2016 года ў намінацыі "народная творчасць".

Клас дзяржаўнага служачага – другі, дыпламатычны ранг – першы сакратар першага класа. У 2013 годзе выйшаў у адстаўку.

На цяперашні час – старшыня Беларускага фонду культуры, намеснік старшыні ЦК прафсаюза работнікаў культуры, дацэнт кафедры сацыякультурнай дзейнасці Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта культуры і мастацтваў.

Публікацыі ў энцыклапедыях: "Профессиональные союзы Беларуси". Том 2, с. 490 – Минск, 2012; "Культура Беларусі". Том 6, с.387. – Мінск, 2015.

***Фурс (Умпіровіч) Алеся (Александра) Лявонаўна***, культработнік, вязень сталінскіх лагераў. Нарадзілася 11 студзеня 1925 г. у в. Азерава, былога Відзаўскага павета (цяпер – Браслаўскі раён) у сям'і сельскага настаўніка. Пачатковую школу скончыла ў Азераве, потым вучылася ў г. Паставы, дзе паступіла пазней у настаўніцкую семінарыю. Пасля ўсталявання савецкай ўлады ў 1944 г. прадоўжыла вучобу на 3 курсе Пастаўскага педагагічнага вучылішча. Там уступіла ў шэрагі арганізацыі "Саюз беларускіх патрыётаў", якая накіроўвала сваю дзейнасць на павышэнне нацыянальнай самасвядомасці моладзі. Як і большасць сяброў СБП, па наводцы правакатара яе арыштавалі. У 1948 г. была рэпрэсіравана, тэрмін адбывала ў Мардоўскіх лагерах.

Вызвалена датэрмінова ў 1956 г., рэабілітавана ў 1992 г. У 1965 г. закончыла факультэт малюнку і жывапісу завочнага народнага ўніверсітэта мастацтваў у Маскве. 24 гады пражыла ў Казахстане (г. Шахцінск), у 1982 г. з сям'ёй вярнулася на Радзіму.

З'яўляецца аўтарам успамінаў пра жыццё на Пастаўшчыне ў сярэдзіне XX стагоддзя (польскі час, ваенны і пасляваенны час). Памерла 19.08.2017. Пахавана на могілках у Паставах.

**Публікацыі:**

<u>У кнігах:</u> Алеся Фурс (Умпіровіч). Успаміны // Гарт. З успамінаў пра Саюз Беларускіх Патрыётаў (Глыбокае, Паставы. 1945-1947 г.) – Менск: Наша Ніва, 1997. – 352 с. – С. 92-149; Паміж молатам і кавадлам // Дзе Мядзелка песні пяе... Пастаўшчына літаратурная. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 63–68.

<u>Публікацыі ў перыядычных выданнях</u>: Трагічны і светлы лёс. Успаміны пра Ларысу Геніюш // Сумежжа. – 1992. – № 2. – С. 2.

<u>Публікацыі пра А. Фурс</u>: Шык, У. Няма ў чым каяцца [Фурс А. і А. – сябры СБП] // Віцебскі кур'ер. – 1999. – № 97. – С. 3; Шык, У. Шчырыя сэрцы маўчаць не маглі: Саюз беларускіх патрыётаў // Вольнае Глыбокае. – 2000. – № 7(39). – С. 3; Шык, У. Яны былі першымі, альбо Яшчэ некалькі словаў пра патрыётаў Бацькаўшчыны з Пастаў // Вольнае Глыбокае. – 2000. – № 11, 12. – С. 2–3; Юрий Фурс:

“В первую очередь кузнецу нужны мозги” // Народнае слова. – 2007. – 6 ліст. – С. 5; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 284; Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 175; Шышко, В. Шчырай патрыёткі Беларусі, Алесі Умпіровіч, споўнілася 90 год // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2015. – сак. – №9. – С. 96; Шышко, В. Алеся Умпіровіч з Саюза беларускіх патрыётаў // Наша ніва. – 2015. – 21 студз.

***Хоміч Франц Ігнацьевіч***, краязнаўца, педагог. Нарадзіўся 31 сакавіка 1949 г. у в. Седлярова (цяпер не існуе) Дунілавіцкага (цяпер – Пастаўскага) раёна. Скончыў Дунілавіцкую СШ (1966), ГПТУ-13 ў пас. Піндушы (Карэлія) па спецыяльнасці матарыст-матрос 1 кл (1967), Аршанскае педагагічнае вучылішча (1977, настаўнік працы і чарчэння), факультэт агульнатэхнічных дысцыплін Мазырскага дзяржаўнага педагагічнага інстытута (1984). Працаваў матросам-матарыстам на цеплаходзе “Балтийский-70” ў Беламорска-Анежскім параходстве (1966–1970), настаўнікам у школах Пастаўскага раёна (1970–2004), з іх – 27 гадоў у Дунілавіцкай СШ. З 2004 года знаходзіцца на пенсіі. Пражывае ў в. Дунілавічы Пастаўскага раёна.

Асноўны напрамак пошукаў – гісторыя вёскі Дунілавічы і наваколля да верасня 1939 года. Даследуе гісторыю яўрэйскіх мястэчак у Заходняй Беларусі, падзеі Першай сусветнай вайны на тэрыторыі Пастаўскага раёна, канфесійную гісторыю ў рэгіёне. Браў удзел у стварэнні музея ў Дунілавіцкай СШ. Падтрымлівае кантакты з ”Музеем гісторыі і культуры яўрэяў Беларусі” ў г.Мінску.

Удзельнічаў у добраўпарадкаванні парка Крыкалы (разам з МДЭА “Прырода і мы”).

Стварыў у сябе на подвор’і куток народнага побыту Пастаўшчыны. Збірае матэрыялы па гісторыі краю, арганізуе вандроўкі і экспедыцыі па раёну, праводзіць экскурсіі. Аўтар

артыкулаў у мясцовым перыядычным друку.

Найбольш значныя здабыткі ў краязнаўстве: напісанне кнігі “Дунілавічы: ад ВКЛ да БССР”; падрыхтоўка буклета “Дунілавічы: старонкі гісторыі” і слайдфільмаў: “Дунілавічы”, ”Падарожжа “японкі” па мястэчку”; блог у інтэрнэце “Дуниловичи: след в истории”, правядзенне экскурсій па Дунілавічах і парку Крыкалы. Мае званне ”Выдатнік народнай асветы” (1989).

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Хоміч Ф. І. Дунілавічы: ад ВКЛ да БССР / Франц Хоміч. – Паставы: ТБМ, 2014. – 72 с.: іл.

Публікацыі ў перыядычным друку: Сям’я няпоўнай стала // ЛіМ. – 2008. – 6 чэрв.; Візіт імператара // Вольнае Глыбокае. – 2008. – 13 ліст.; Храмы Дунілавіч // Вольнае Глыбокае. – 2008. – 13 сак.; Парк Крыкалы // Вольнае Глыбокае. – 2017. – 26 студз.; Заступніца з Ларэта // Каталіцкі веснік. – 2017. – люты.

Публікацыі ў Інтэрнеце: аўтарскі краязнаўчы блог: www.dunilovichi.wordpress.com

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: Навукова-практычны семінар “Пастаўскі край на гісторыка-культурнай карце Беларусі” (Паставы, 20-21 красавіка 2017 г.)

Удзел у стварэнні музеяў, экспазіцый: Удзельнічаў у стварэнні краязнаўчага музея Дунілавіцкай школы; стварыў прыватны музей народнага побыту каля ўласнай хаты «Простыя рэчы».

Удзел у стварэнні фільмаў, спектакляў, вечарын і іншых творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: Удзельнічаў у здымках перадачы Юрыя Жыгамонта “Падарожжы дылетанта” пра вёску Дунілавічы; выступаў на прэзентацыях краязнаўчых кніг у Варапаеўскай і Глыбоцкай бібліятэках; правёў шмат экскурсій па Дунілавічах, Крыкалах і ваколіцах для турыстаў і гасцей з розных куткоў Беларусі, Ізраіля, Вялікабрытаніі, Германіі, ЗША, Італіі, Канады  і іншых краін.

Дабрачынныя і фундатарская дзейнасць у галіне краязнаўства: Сумесна з МДЭА “Прырода і мы” удзельнічаў у добраўпарадкаванні парка Крыкалы каля Дунілавіч.

Матэрыялы пра Ф. Хоміча: Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы  XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – С. 291; Пра-

каповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 198; Целеш, Л. Апантаны краязнаўца з Пастаўшчыны // Голас Радзімы. – 2014. – 18 снеж. – № 48. Анкеты Ф. І. Хоміча 12.04.2012 і 25.05.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: хатні – 59-9-32, мабільны – 963-59-53 (Velcom), 376-78-22(МТС), E-mail: fkh@tut.by, скайп – fkhomich, блог–www.dunilovichi.wordpress.com

***Храпавіцкая Тамара Аркадзьеўна,*** педагог, краязнаўца. Нарадзілася ў 1963 г. у в. Забрэззе Валожынскага раёна Мінскай вобласці. У 1980 г. з залатым медалём скончыла Забрэзскую сярэднюю школу, у 1985 атрымала дыплом з адзнакай геаграфічнага факультэта БДУ. Спецыялізацыя – краязнаўства і турызм. Працавала настаўніцай геаграфіі сярэдняй школы №4 г. Ліды. З 1986 года выкладае гісторыю ў сярэдняй школе №4 г. Паставы. Настаўніца вышэйшай кваліфікацыйнай катэгорыі. Кіраўніца школьнага навуковага таварыства вучняў "Родник". Сябра ГА "Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны". У 2000-2001 гг. была рэдактарам рэгіянальнай жаночай газеты "Сяброўка". Пастаянна займаецца павышэннем сваёй прафесійнай і грамадзянскай кампетэнцыі: прайшла курс навучання ў 3-й школе "Асновы грамадзянскай адукацыі" (Міжнародны адукацыйны праект у межах праграмы TASIS, Мінск, 2002), курс семінара-трэнінга "Падрыхтоўка лідэраў навучальных гурткоў" (Мінск, 2003), навучанне па праграме летняй школы для жанчын-педагогаў "Да гендэрнай роўнасці праз адукацыю" (праект праграмы развіцця ААН у РБ, 2005), навучанне ў Школе правоў чалавека для выкладчыкаў (Вільнюс, 2007). З канца 1990-х гадоў займаецца даследваннем гісторыі Халакосту і даваеннага жыцця габрэяў на Пастаўшчыне. Актыўны ўдзельнік міжнародных семінараў па праграме Еўразіяцкага габрэйскага кангрэсу "Талерантнасць – урокі Халакосту". Удзельнічала ў працы Міжнароднай канферэнцыі "Вывучэнне тэмы Халакосту ва ўстановах сістэмы адукацыі

Рэспубліке Беларусь” (2016), навучалася ў Міжнароднай школе выкладання Катастрофы (Яд Вашэм, Іерусалім, Ізраіль) па тэме «Другая Сусветная вайна і Катастрофа габрэйскага народа: гістарычныя і адукацыйныя аспекты».

Узнагароджана Ганаровай граматай Упраўлення адукацыі Віцебскага аблвыканкама за І месца ў абласным конкурсе на лепшы краязнаўчы занятак з вучнёўскім гуртком (2006), граматамі аддзела адукацыі Пастаўскага райвыканкама (2007, 2012).

Публікацыя ў раённай газеце: Шляхам пастаўскага Халакосту // ПК. – 2012. – 14 ліст. – С. 3.

Удзел у краязнаўчых канферэнцыях, экспедыцыях: VII Рэспубліканскія краязнаўчыя чытанні педагагічных работнікаў (Магілёў, 2006) (даклад “Шляхам пастаўскага Халакосту”).

Удзел у стварэнні фільмаў, спектакляў, вечарын і іншых творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: брала ўдзел у здымках відэафільма пра Я. Купалу (2012, “Паставы-ТБ”); відэафільма “120-годдзю Максіма Багдановіча прысвячаецца…» (2011, “Паставы-ТБ”). Праводзіла экскурсіі для прадстаўнікоў яўрэйскай дыяспары з ЗША, Ізраіля, а таксама для беларускіх турыстаў і даследчыкаў.

Дзейнасць у якасці навуковага кіраўніка, куратара даследчых работ вучняў: Праводзіць з вучнямі даследчую работу ў межах школьнага навуковага таварыства “Родник”. Вучнямі падрыхтаваны даследчыя працы (асноўныя): Антон Курдо, Уладзімір Крупенін “Беларуская слава Грунвальдскай бітвы” (2009) (удзел у Міжнароднай навукова-практычнай канферэнцыі вучнёўскай і студэнцкай моладзі “Идеи М.М. Бахтина и проблема гуманизации образования”); Вольга Рабіза, Уладзімір Крупенін “Гістарычная памяць беларускага народа і яе ўплыў на сучаснасць і будучыню” (2010) (дыплом III ст. на V раённай навукова-практычнай канферэнцыі); Марыя Міцюк, Палачаніна Ганна “Талерантнасць беларусаў: міф ці рэальнасць?” (2011) (дыплом II ст. на VI раённай навукова-практычнай канферэнцыі); Марыя Міцюк “Габрэйскія карані ў пастаўскай зямлі” (2013) (дыплом I ст. на VIII раённай навукова-практычнай канферэнцыі); Лізавета Жук “Вялікі Кастрычнік у лёсе Антона Уладзіміравіча Станкевіча” (11 кл, 2017) (дыплом II ст. на V абласных краязнаўчых

чытаннях “Неизвестные известные: история в лицах); Арцём Падгайскі, Паліна Танона “Дом, аб якім жыве памяць” (10 кл., 2017) (дыплом I ст. на IX раённай навукова-практычнай канферэнцыі).

Матэрыял пра Т. Храпавіцкую: Анкета 25.06.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: 211875, г. Паставы, вул. Скарыны,12. Тэл.:+375 29 7116513 (маб.МТС),e-mail: alx1987@mail.ru, skype: tamara_khrapav

***Хутман Яцэк***, ксёндз касцёла Яна Хрысціцеля ў Камаях. Быў назначаны пробашчам храма 1 ліпеня 2002 г. За час служэння на Пастаўшчыне здзейсніў шмат карысных спраў, якія важкія не толькі ў сферы духоўнай, але і краязнаўчай. Па яго ініцыятыве і пры непасрэдным чынным удзеле праведзены рамонт і рэстаўрацыя камайскага касцёла, уладкавана тэрыторыя і агароджа вакол яго, ачышчаны і аздоблены склеп з даўнейшымі пахаваннямі мясцовых уласнікаў, укладзены невялікі мемарыял ксяндза Папялушкі, зроблена новая пларіроўка цэнтральнага парка, які цяпер носіць імя Браніслава Руткоўскага — ураджэнца Камай, кампазітара, сусветна вядомага арганіста.

Былі ўпарадкаваны грамадзянскія могілкі ў Камаях, Лявонавічах, Аляхнішках, Янкішках, Старчунах, Сакунах, Гродзях, Каралінове, Мягунах, Норкавічах, Гвоздавічах, Грэйцях, Лопуцях, Чычэлях, Буцавічах, Оцкавічах, а таксама германскія вайсковыя пахаванні часоў I Сусветнай вайны і яўрэйскі могільнік каля Камаяў.

За сваю дзейнасць Я. Хутман удастоены звання “Чалавек года Пастаўшчыны 2013”.

***Цыркуноў Алесь (Аляксандр Іванавіч)***, мастак, краязнаўца. Нарадзіўся 28 сакавіка 1948 г. у в. Лясань Жлобінскага раёна. У 1956-1964 гг. выхоўваўся ў дзіцячых дамах у в. Дзям’янкі Добрушскага раёна, в. Пірэвічы Жлобінскага раёна, г. Ветка. З 1964 па 1967 г. вучыўся ў СПТВ Пятраданецкай вугальнай

капальні Данбасу. У 1967-1969 гг. служыў у танкавых войсках. З 1970 па 1976 г. навучаўся на аддзяленні станковага жывапісу Беларускага дзяржаўнага тэатральна-мастацкага інстытута (Акадэмія мастацтваў). З 1976 г. – удзельнік шматлікіх выстаў у Беларусі і за яе межамі. Працуе ў сюжэтна-тэматычнай карціне, у жанрах: партрэт, краявід (пейзаж), рэчавід (нацюрморт), сюжэтная кампазіцыя. Яго творы вызначаюцца псіхалагізмам, сцісласцю і дакладнасцю жывапісных сродкаў, удалым вырашэннем тэмы выяўленча-пластычнымі сродкамі.

Набыўшы сабе лецішча ў в. Чэхі Мядзельскага раёна, актыўна ўключыўся ў рэгіянальны краязнаўчы рух, паставіўшы мэтай мемарыялізацыю гістарычных падзей і вядомых асоб, якія звязаны з тутэйшым краем. Ён з’яўляецца распрацоўшчыкам і стваральнікам шэрагу адметных праектаў на тэрыторыях Пастаўскага і суседніх раёнаў. Аўтар шэрагу карцін, прысвечаных падзеям і асобам Пастаўшчыны.

**Здабыткі ў краязнаўстве і мастацтве:**

Публікацыі: артыкулы друкаваліся ў газетах “ЛіМ”, “Наша слова”, “Народная Воля” і іншых.

Удзел у стварэнні помнікаў, памятных знакаў: Крыж усім святым Беларусі да юбілея хрысціянства ў в. Чэхі (2000), помнік на магіле Ф. Даноўскага ў Канябічах (2002), “Каплічная Брама” у Радуце (2005), помнік Вандзе Ромер у Канябічах (2001), помнік Невядомым жаўнерам-суайчыннікам вайны 1920 г. у Лынтупах (2008), капліца-пашана героям ў в. Страча (2004), Памятны знак Вацлаву Ластоўскаму ў Курапатах (2016).

Удзел у выставах у Паставах: 2006, 2 верасня – выстава жывапісу і кавальства ў доме рамёстваў “Стары млын” (разам з Ю. Фурсам); 2012, 5 кастрычніка – выстава ў доме рамёстваў “Стары млын” па выніках мастацкага пленэру да 180-годдзя з дня нараджэння А. Ромэра; 2017, кастрычнік-лістапад – персанальная выстава твораў жывапісу.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: 2012, 4 кастрычніка, удзел у літаратурна-мастацкай імпрэзе ў ДК 5 гарадка (Паставы), прысвечанай А. Ромэру; 2014, 16 кастрычніка, творчая сустрэча з сябрамі ТБМ у Паставах.

Карціны краязнаўчай тэматыкі: "Нязломны Уладзімір Дубоўка", "Містэрыя плошчы г. Паставы", "Сядзіба А. Ромара ў Каралінове", "Асветнік і выдавец Міхал Гіль", "Пошум нарацкага трыснягу", "Народны мсцівец Рыгор Крукаў", "Мядзельскі замак на Мястры", "Краявід з касцёлам у Камаях", "Векапомнае ўкрыжаванне Міхала Грачаніка", "Паўстанец Альфрэд Ромэр у Дынабургскай цытадэлі", "Разважная Лёня з Канябіч", "Гордая Ядзвіга з Каралінова", "Нязломны Расціслаў Лапіцкі", "Гартаваныя ліхалеццем Алеся і Антось Фурсы", "Раздольныя Швакшты", "Ранак у Лынтупах", "Максім Танк у развагах", "Барыс Кіт у сузор'і планет".

Матэрыялы пра А. Цыркунова: Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 199.; Пракаповіч, І. М. Край беларускага сэрца – Мядзельшчына / Ігар Пракаповіч. – Мінск: Каўчэг, 2017. – 656 с. – С. 381.

Адрас для кантактаў: в. Чэхі, Мядзельскі раён; тэл. +375 29 3020712

***Чарэнка Яўген Іванавіч***, будаўнік, краязнаўца. Нарадзіўся ў 1939 г. у в. Логавінцы Юнькаўскага сельсавета ў сялянскай сям'і. Закончыў Мінскі архітэктурна-будаўнічы тэхнікум і Беларускі дзяржаўны эканамічны ўніверсітэт. Працоўную дзейнасць пачаў у 1959 г. на пасадзе прараба Пастаўскай кватэрна-эксплуатацыйнай часці. З 1962 г. працаваў старшым інжынерам-будаўніком раённага ўпраўлення сельскай гаспадаркі. У студзені 1965 г. Я. Чарэнка абраны старшынёй савета Пастаўскай міжкалгаснай будаўнічай арганізацыі, калектыў якой ён узначальваў на працягу 32 гадоў. Дзякуючы прафесійным і арганізатарскім здольнасцям, асабістай ініцыятыве кіраўніка за невялікі час арганізацыя ператварылася ў буйное будаўнічае прадпрыемства з магутнай вытворчай базай.

Я. Чарэнка прымаў акыўны ўдзел у грамадскім жыцці, выбіраўся дэпутатам абласнога і раённага Савета дэпутатаў, быў сапраўдным патрыётам роднага краю.

Пасля выхаду на пенсію ён актыўна заняўся краязнаўчай дзейнасцю. Шмат працаваў у архівах, запісваў успаміны люд-

зей, вывучаў гістарычныя крыніцы. Асноўнымі накірункамі краязнаўчых росшукаў былі: гісторыя Пастаўшчыны ў міжваенны час, усталяванне савецкай улады ў 1939-1941 гг., гісторыя роднай вёскі Логавінцы, гісторыя пастаўскай міжкалгаснай механізаванай арганізацыі, лёс помнікаў культуры на Пастаўшчыне. Выдатна валодаючы беларускай мовай, напісаў шэраг змястоўных артыкулаў пра родны край, якія друкавала раённая газета "Пастаўскі край": "Такі быў час, каб будаваць", "Лёс гістарычных помнікаў Пастаўшчыны", "Пастаўшчына і яе "сталіца": крокі станаўлення і развіцця", "Логавінскія валокі", "Зямля і гаспадары". Да 50-годдзя галоўнай будаўнічай арганізацыі раёна ўбачыла свет яго грунтоўная кніга "След на зямле".

Працоўная і грамадская дзейнасць Я. І. Чарэнкі высока ацэнена дзяржавай. Ён узнагароджаны ордэнамі Працоўнага Чырвонага Сцяга, Кастрычніцкай Рэвалюцыі, медалём "100 лет со дня рождения В. И. Ленина", Ганаровай граматай Вярхоўнага Савета БССР, шматлікімі Ганаровымі граматамі "Белмежкалгасбуда", Міністэрства сельскага будаўніцтва, аблсельбуда, аб'яднання "Полацксельстрой", райкама партыі і райвыканкама. Памёр 18 студзеня 2013 г.

**Публікацыі:**

Кніга: След на земле: 50-летию Поставской районной строительной организации посвящается / автор-составитель Е. И. Черенко. – Молодечно: Типография "Победа", 2004. – 208 с.

Публікацыі ў перыядычных выданнях: Пастаўшчына і яе "сталіца": крокі станаўлення і развіцця // ПК. – 2009-2010. - №№ 95, 97, 99, 102, 1, …. (шэраг нумароў); Лёс помнікаў даўніны // ПК. – 2010 (шэраг нумароў); Логавінскія валокі // ПК. – 2011-2012. - №№ 60, 62, 65, 67, 69, 71, 73, 75, 79, 85, 86, 87, 88, 69, 91, 93, 95, 97, 99, 1, 5, 7, 13; Зямлі і гаспадары // ПК. – 2012. - №№ 59, 61, 63, 67, 70, 71, 73, 75, 77; Зямля і гаспадары: "другія Саветы" // ПК. – 2013 г (шэраг нумароў).

Публікацыі пра Я. Чарэнку ў друку: Пракаповіч, І. М. Чароўны край – Пастаўшчына / Ігар Пракаповіч. – 2-е выд., дапр. і дап. – Мінск: Ковчег, 2014. – 332 с. – С. 198; Курыловіч, П. Пастаўшчына

– сталіца краязнаўства / Пётр Курыловіч // ПК. – 2016. – 21 снеж.; Дронжык, Н. Ён быў гаспадаром з прыроджаным дарам кіраўніка / Н. Дронжык // ПК. – 2017. – 18 студз.

***Чатовіч Людміла Яўгенаўна,*** работнік культуры, педагог, краязнаўца. Нарадзілася 28 верасня 1954 г. у г.п. Варапаева Пастаўскага раёна. Скончыла СШ №2 г. Паставы, потым Мінскі дзяржаўны педагагічны інстытут замежных моў (1977), факультэт французскай мовы (другая спецыяльнасць – нямецкая мова). Скончыла аспірантуру Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору імя К. Крапівы НАН РБ па спецыяльнасці "антрапалогія, этналогія, этнаграфія" (2004). Працавала настаўніцай нямецкай мовы Схолінскай базавай школы Пастаўскага раёна (1971-1972), Зялёнкаўскай сярэдняй школы Полацкага раёна (1977-1978), потым культарганізатарам Пастаўскага Дома піянераў і школьнікаў (1978-1980), старшай піянерважатай, культарганізатарам і метадыстам аддзела культурна-масавай работы Сыктыўкарскага Палаца піянераў і школьнікаў, па сумяшчальніцтве выкладала французскую мову ў Сыктыўкарскім дзяржуніверсітэце, вучылішчы мастацтваў і кааператыўным тэхнікуме (1980-1989). Вярнуўшыся на радзіму па сямейных абставінах, была кіраўніком гурткоў Пастаўскага Дома піянераў і школьнікаў. З 1991 г. працуе ў Цэнтры культуры і народнай творчасці Пастаўскага раёна (да 2013 г. – раённы арганізацыйна-метадычны цэнтр аддзела культуры) вядучым метадыстам культурна-дасугавай дзейнасці, цяпер – вядучым навуковым супрацоўнікам. Таксама курыруе аматарскія аб'яднанні і клубы па інтарэсах пры клубных установах Цэнтра і развіццё ў іх тэатральнага і гульнёвага жанраў. Займаецца перакладам песень на беларускую мову для вакальнай студыі Цэнтра.

Яшчэ працуючы ў Сыктыўкарскім Палацы піянераў, зацікавілася этнаграфіяй і культурай, здзяйсняла этнаграфічныя экспедыцыі па Комі краю. На радзіме распачала вывучэн-

не народных традыцый, гульняў, іншых праяў фальклору Пастаўшчыны. Зацікавілася творчай працай – стварэннем сцэнарыяў, ажыццяўленнем пастановак і арганізацыяй культурна-масавых імпрэз паводле набыткаў мясцовай традыцыйнай культуры на беларускай мове, а таксама навуковай работай – даследаваннем гульняў моладзі беларусаў, іх генэзіса і эвалюцыі.

Аўтар шматлікіх публікацый ў рэспубліканскіх, абласных і раённых выданнях. Займаючыся аматарскай творчасцю, супрацоўнічае з мясцовымі кампазітарамі. Падрыхтавала шэраг тэматычных імпрэз. З дапамогай акампаніятара клуба “Традыцыя” Я. Каськевіча рыхтуе буклет мясцовай песеннай творчасці.

Узнагароджана Прэміяй 2002 г. па выніках абласнога агляду прафесійнага майстэрства ў намінацыі “Навукова-даследчая праца” і ганаровымі граматамі Галоўнага ўпраўлення ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі Віцебскага аблвыканкама, дыпломамі Віцебскага абласнога метадычнага цэнтра народнай творчасці, ганаровымі граматамі і падзякамі Пастаўскага райвыканкама і аддзела ідэалагічнай работы, культуры і па справах моладзі (раней аддзела культуры) Пастаўскага райвыканкама. У 2014 г. Цэнтр культуры і народнай творчасці Пастаўскага раёна быў адзначаны як лаўрэат абласнога конкурсу “Тэрыторыя гульні” ў намінацыі “Лепшая рэгіянальная гульня” за запіс і рэканструкцыю гульні “Ламур” Л. Чатовіч. Жыве ў Паставах.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: Весела бавім час: зборнік сцэнарыяў гульнявых праграм / Л. Чатовіч. – Мінск: БелДІПК, 2006. – 72 с.: іл; Культурная палітра Пастаўшчыны / склад. Л. Чатовіч. – Паставы: аддзел ідэал. работы, культ. і па спр. мол. Паст. РВК, 2016. – 76 с.: іл.;  XIII Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. Н. М. Булавінцава, Л. Я. Чатовіч – Паставы, 2010.; XIV Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. Н. М. Булавінцава, Л. Я. Чатовіч

– Паставы, 2011.; XV Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. І. Ф. Лойка, Л. Я. Чатовіч – Паставы, 2012.; XVI Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. І. Ф. Лойка, Л. Я. Чатовіч – Паставы, 2013.; XVII Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. І. Ф. Лойка, Л. Я. Чатовіч. – Паставы, 2014.; XVIII Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. І. Ф. Лойка, Л. Я. Чатовіч.– Паставы, 2015.; XIX Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. І. Ф. Лойка, Л. Я. Чатовіч. – Паставы, 2016.; XX Міжнародны фестываль народнай музыкі “Звіняць цымбалы і гармонік”: інф. даведнік / Склад. І. Ф. Лойка, Л. Я. Чатовіч. – Паставы, 2017.

Публікацыі ў кнігах, зборніках: З матэрыяльнай культуры Пастаўшчыны / Л. Чатовіч // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – С. 548-562.; Захавальнікі фальклорных скарбаў / уклад. Л. Чатовіч // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – С. 588-619.; Гульнёвы фальклор Пастаўшчыны / Л. Чатовіч // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мінск: БЕЛТА, 2001. – С. 604-608.; Зюзя Паазерскі вітае гасцей / Л. Я. Чатовіч // Зімовыя святы: зборнік сцэн.-мет. рапрац. / уклад. А. Я. Камінскі. – Мінск: выдав. “Чатыры чвэрці”, 2010. – С. 74-89. (Серыя “Бібліятэка беларускага фальклору”); Перадача набыткаў традыцыйна культуры дзецям і моладзі на Пастаўшчыне / Л. Чатовіч // Традыцыйная культура і дзеці: праблемы этнавыхавання. Вып. 2: матэрыялы ІІІ Рэспубліканскай навукова-практычнай канферэнцыі (19-20 крас. 2006 г., г. п. Акцябрскі) / аўт. праекта і ўклад. М. А. Козенка. – Мінск: БелДІПК, 2006. – С. 124-127.; Нравственный идеал белорусов в народном игровом наследии / Л. Четович // Вестник Полоцкого государственного университета: сборник статей. / Коллектив авторов. ред. Л. Н. Авласёнок. – Полоцк: Пол. ГУ, 2004. – № 10 – Серия А. – С. 17-19.; Народныя традыцыі ў сучасных святах каляндарнага цыклу Пастаўшчыны: выкарыстанне абрадаў і гульнёвага фальклору / Л. Я. Чатовіч, А. А. Грабоўская // Актуальныя праблемы культуры і мастацтва: навук.-інфарм. зб. / Нацыянальная

бібліятэка Беларусі. – Мінск, 2005 – С.62-77.; Беларуская лазня / Л. Чатовіч // Любоў мая – мая Радзіма: інф.-мет. зборнік матэрыялаў па выніках абласнога конкурсу сцэнарыяў праведзеных мерапрыемстваў на беларускай мове. – Віцебск: ДУ "Віцебскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці", 2012. – С. 31-37.; С Новым годом! Пошёл в баню! / Л. Четович // В новогоднюю ночь: сб. новогод. сцен. – Витебск: ДУ "Витебский областной методический центр народного творчества", 2013. – С. 35-39.; Музыкальный шторм / Л. Четович, А. Гурьева // Шалости домовят: сб. развлек. прог. для дет. – Витебск: ДУ "Витебский областной методический центр народного творчества", 2017. – С. 33-37.; Падушкі для сына і дачушкі. Паводле беларускай народнай традыцыі "Талака" (расскубанне пер'я) / Л. Чатовіч // Прыдзвінскія прысмакі: мет. мат. з воп. раб. клубаў нац. кухні, фальк. і гульні Віцебскай вобл. – Віцебск: ДУ "Віцебскі абласны метадычны цэнтр народнай творчасці", 2017. – С. 19-23. (У зборніках Віцебскага АМЦНТ змешчаны і іншыя творчыя працы аўтара).

<u>Публікацыі ў часопісах:</u> Беларускія народныя гульні як феномен традыцыйнай культуры / Л. Чатовіч // Роднае слова. – 2005. – № 6. – С. 97-99.

<u>Публікацыі ў рэспубліканскіх газетах</u>: Вяселле на Пастаўшчыне / Л. Чатовіч // Літаратура і мастацтва. – 2008. - №2. - 11 студ. – С. 14.; Паўлінчыны забавы / Л. Чатовіч // Культура. – 2010. – № 32 - 7-13 жн. – С. 8-10.; Вышыня. Сцэнарый сямейнага шоў-конкурсу. / Л. Чатовіч // Культура – 2011. – № 15 - 9-15 крас. – С. 10-16.; На прызбе ў пастаўскага млынара / Л. Чатовіч // Культура. – 2016. – № 52 - 24 снеж. – С. 11.; Янка-Стралец і хлопцы-малойцы / Л. Чатовіч, Т. Маслоўская // Культура. – 2017. – № 12 - 25 сак. – С. 11-12.; Вяселле на Пастаўшчыне / Л. Чатовіч // Пастаўскі край. – 2013. – №№ 66, 68, 70, 72, 74, 76, 80.

<u>Рыхтуюцца да выдання:</u> "Народная гульня моладзі "Яшчар" як архаічная праява культурнай спадчыны беларусаў (да пытання заяўкі на ўключэнне ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь гульні "Яшчар" у Пастаўскім раёне" (у зборніку матэрыялаў Рэспубліканскага семінара "Пастаўскі край на гісторыка-культурнай карце Беларусі" – 20-21 красавіка 2017 г. – Інстытут мовазнаўства імя Я. Коласа); Народныя традыцыі і фальклорныя набыткі ў сучасным вяселлі на Пастаўшчыне (тамса-

ма); Калядныя гульні і забавы моладзі на Беларусі ў II-III чвэрці XX стагоддзя.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: абласная навукова-практычная канферэнцыя "Працэсы мадэрнізацыі народнай культуры і вопыт устаноў культуры і адукацыі Віцебшчыны па захаванні традыцый"; III Рэспубліканская навукова-практычная канферэнцыя "Традыцыйная культура і дзеці: праблемы этнавыхавання" (даклад "Перадача набыткаў традыцыйнай культуры дзецям і моладзі на Пастаўшчыне", 2006); абласная навукова-практычная канферэнцыя "Народная культура Віцебшчыны: вывучэнне, ахова і папулярызацыя", прысвечаная 165-годдзю з Дня нараджэння М. Нікіфароўскага (даклад "Вяселле на Пастаўшчыне", 2010); творчы семінар супрацоўнікаў метадычных служб РБ "Павышэнне ролі абласных метадычных цэнтраў у сацыякультурным жыцці рэгёнаў" (даклад "Рэгіянальная праграма развіцця мясцовай культуры ў дзеянні", 2001); Рэспубліканскі семінар "Пастаўскі край на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (даклад "Народная гульня моладзі "Яшчар" як архаічная праява культурнай спадчыны беларусаў (да пытання заяўкі на ўключэнне ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь гульні "Яшчар" у Пастаўскім раёне", 2017).

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: шматлікія этнаграфічныя экспедыцыі па Пастаўскім раёне (разам з К. Грэська і С. Марозавай) з мэтай стварэння фальклорнага архіву з тэкставай, фота- і відэафіксацыяй элементаў (традыцыйныя гульні Пастаўскага краю); у 90-х гг. удзел у экспедыцыях па зборы звестак аб народных святах, звычаях і абрадах (з В. Басько) і па запісу адметных мясцовых танцаў (з М. Козенкам); удзел у краязнаўчым паходзе на воз. Каптаруны (кіраўнік І. Пракаповіч) з навучэнцамі "Нядзельнага ліцэя беларускай культуры", створаным па ініцыятыве Т. Гарошка. Разам з іншымі спецыялістамі ўдзельнічала ў выкладчыцкай рабоце ў гэтым дзіцячым аб'яднанні (1992-1993); з дапамогай культработнікаў Пастаўшчыны здзейснены экспедыцыі і запісаны 18 варыянтаў народнай гульні моладзі "Яшчар", якую разам з супрацоўнікамі ЦКіНТ і дырэктарам Гуцкага сацыяльна-культурнага цэнтра Т. Маслоўскай рэканструіравала і здзейсніла значную працу па падрыхтоўцы дакументаў для ўнясення гэтай архаічнай праявы традыцыйнай культу-

ры ў Дзяржаўны спіс гісторыка-культурных каштоўнасцей Рэспублікі Беларусь (2014-2017).

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: распрацавала змест і афармленне першага каляровага буклета аб Пастаўскім раёне для гасцей і турыстаў края (2001, разам з супрацоўнікамі Пастаўскага музея); з'яўляецца складальнікам штогадовага інфармацыйнага буклета фестывалю "Звіняць цымбалы і гармонік" (з 2010, на гэты час выдадзены 8 даведнікаў) (з І. Лойка); з'яўляецца складальнікам кнігі "Культурная палітра Пастаўшчыны"(2016); рэдагуе буклеты па тэматыцы мясцовай культуры, якія выдае ЦКіНТ Пастаўскага раёна.

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: ініцыятар і распрацоўшчык рэгіянальнай праграмы ў галіне культуры "Перадача набыткаў гістарычнай спадчыны і традыцыйнай культуры падрастаючаму пакаленню", якая дзейнічала ў раёне ў 1999 – 2002 гг. (адказны сакратар каардынацыйнага Савета па выкананні гэтай праграмы); ініцыятар і стваральнік (з Т. Гарошка) пакоя-музея традыцыйнай музычнай культуры Пастаўшчыны пры Доме рамёстваў, матэрыялы каторага перададзены цяпер Пастаўскай школе мастацтваў імя А. Тызенгауза; ініцыятар і стваральнік (з Т. Гарошка) гістарычнага кутка з фотавыявамі аўтэнтычных ўзораў прыватнага арніталагічнага музея К. Тызенгаўза (XIX ст.) і мінігалерэя карцін, падораных пастаўскімі мастакамі, у палацы графаў Тызенгаўзаў (адміністрацыяй райбальніцы экспанаты захаваны да гэтага часу); У рамках Праграмы: адкрыты мемарыяльныя дошкі А. Ромеру і У. Дубоўку; распачалося (працягвалася) у клубных установах з удзелам бібліятэк раёна напісанне летапісаў паселішчаў, адбыліся конкурсы на лепшы этнаграфічны куток, афармленне інтэр'ераў устаноў культуры ў народным стылі, на лепшы летапіс і інш.; праведзены конкурс-агляд цырымоній урачыстай рэгістрацыі шлюбу на аснове народных традыцый Пастаўшчыны; на мясцовым радыё выходзіла перадача "Голас мінуўшчыны гучыць сёння"; пры Курапольскім СДК створаны клуб нацыянальнай кухні, гульні і абраду "Традыцыя" (1999), які ў 2003 г. атрымаў званне "Народны самадзейны калектыў", і клуб аматараў-садаводаў "Памяць Сікоры" пры Варапаеўскім ГПДК. Аўтар Праграмы ў 2002 г. была ўзнагароджана прэміяй абласнога агляду прафесійнага майстэрства. Непасрэдна прымала ўдзел у распрацоўцы іншых перспектыўных праграмм развіцця галіны

культуры ў Пастаўскім раёне. У 2016 г. стала ўдзельніцай распрацоўкі праекта па праграме Еўрасаюза трансгранічнага супрацоўніцтва “Латвія-Літва-Беларусь” пад назвай “Актыўнае прасоўванне і ўстойлівае выкарыстанне гісторыка-культурнай спадчыны ў Літве і Беларусі праз паляпшэнне даступнасці і захаванне традыцыйных рамёстваў”.

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: з’яўляецца аўтарам творчых праектаў “Жаніцца па-беларуску” (існуе з 2012 г.), “Кола года ў Ліпніках” (2013-2014), “Шляхецкі баль” (з 2014 г.). Першыя пяць год існавання праекта “Зюзя Паазерскі” Пастаўскага цэнтра турыстычных паслуг пісала сцэнарыі “Зюзя Паазерскі запрашае гасцей на Каляды” (2005-2010 гг.), а таксама распрацавала шматлікія сцэнарыі па народных традыцыях і фальклорных набытках краю, сярод якіх і мерапрыемствы па народных традыцыях на “сядзібе Зюзі” – “Перуновы гульні”, “Юр’я, Мікола прыйшлі – цяпло прыняслі”, “Паазерская Масленка”, “Купальскае свята”, свята сустрэчы вясны “Ляльнік у “Неруш-краі”, вечарынка “Паазерскі каравай”; для праекта “Кола года ў Ліпніках” – “Каляды ў Ліпніках” (2013), “Масленка пышна на вуліцу выйшла” (2014); фальклорнае прадстаўленне “Падушкі для сына і дачушкі” паводле беларускага народнага звычая талакі па расскубанні пер’я для падушак па ўспамінах былога кіраўніка клуба “Традыцыя” Г. Балаш з в. Дуброва; агітацыйна-мастацкая праграма “Упрыгожым Беларусь кветкамі”; фальклорная сустрэча “Гуцкія вячоркі”; гульнявое застолле “Выкуп месца” (традыцыя другога дня вяселля на Пастаўшчыне); тэатралізаваныя сюжэтна-гульнёвыя праграмы на мясцовым матэрыяле з дыялектнымі асаблівасцямі мясцовых гаворак “Паўлінчыны забавы” (лаўрэат абласнога конкурсу гульнёвых праграм), “Веснавы настрой”, “Птушыны гоман”, “Куліціны сюрпрызы”, “Хлопцы, трымайцеся!”, сучасны абрад Дажынак, “Спас – усяму час” (клуб “Традыцыя”, які прадстаўляў праграму стаў лаўрэатам абласнога агляду “Аматарства Віцебшчыны”, 2004), “Лавіся, рыбка, вялікая, немалая” (была праведзена ў г. Швянчоніс падчас Міжнароднага фестывалю “Злавіў рыбку – сазваў гасцей”, 2005), “Кафэ цётухны Франкеты” (лаўрэат абласнога конкурсу майстэрства культарганізатараў у 2011 г.), “Янка-Стралец і хлопцы-малойцы” (пераможца ў намінацыі абласнога конкурсу майстэрства культарганізатараў у 2016 г.). Павод-

ле ідэі дырэктара Варапаеўскага ГПДК Ю. Г. Галяш і ўдзелам мастацкага кіраўніка І. П. Кузьміч напісана сюжэтна-гульнёвая праграма “Марылька і Мядзведзь” (лаўрэат абласнога конкурсу майстэрства культарганізатараў у 2017 г.); для брэндаў пастаўскага падвор’я на Міжнародных фестывалях “Славянскі базар у Віцебску” створаны гульнёвая праграма “Вясёлы калаўрот” (2011), прадстаўленні “Граф Тызенгаўз запрашае” (2012) “Пастаўскі фестываль збірае сяброў на баль” (2014); для падвор’я на абласным свяце Дажынак – праграмы “На прызбе ў пастаўскага млынара” (2015), “На пастаўскім панадворку і Каза іграе звонка” (2017); па іншых напрамках культурна-асветніцкай работы (здаровы лад жыцця, патрыятычны накірунак, работа аматарскіх аб’яднанняў і інш.). Таксама найбольш значнымі краязнаўчымі імпрэзамі на аснове аўтарскіх сцэнарыяў і з непасрэдным рэжысёрскім кіраўніцтвам краязнаўцы ў 90-х гг. можна вызначыць: свята вуліц Я. Купалы і Я. Коласа (1992), паказальнае мерапрыемства абласнога конкурсу – свята в. Ярэва, сямейныя шоў-конкурсы “Вышыня”, праведзеныя ў вв. Хацілы і Кураполле; у супрацоўніцтве з Т. Гарошка - Пакроўскае свята ў в. Хацілы (1996); у пач. 2000-х – разам з рэжысёрам РАМЦ А. Грабоўскай “Жаніцьбу Цярэшкі” у в. Кураполле з хлопцамі з в. Сяргеевічы (2000), праграму “Пастухоўскія гульні” (2002), свята вуліцы Чырвонаармейскай да 600-годдзя г. Паставы (2009), святкаванне 200-годдзя в. Парыж (2012), тэатралізаваныя шэсці-відовішчы “Каляда ідзе – карагод вядзе” (2012), “Ёлка, зіхаці агнямі, карагодзьце разам з намі!” (2013), “Свята беларускай лазні” (лаўрэат абласнога конкурсу мерапрыемстваў на беларускай мове “Любоў мая – мая Радзіма”, 2012), “Гадзіны народных гульняў” (2015-2016), гісторыка-культурная акцыя “Святкуем па-беларуску” (2017); гісторыка-музычныя імпрэзы каля палаца Тызенгаўзаў у рамках Міжнароднага фестывалю “Звіняць цымбалы і гармонік” і інш. З’яўлялася сцэнарыстам гарадскіх святаў Купалле – “У ночку купальскую” (2007), “Сёння Купала” (2008), “Купальскія прыгоды” (паводле ідэі К. Грэська, 2012). Вясельны абрад “Зборная субота” паводле звычаяў і традыцыйных песень Пастаўшчыны, увасоблены РАМЦ пад кіраўніцтвам Л. Чатовіч, быў прадстаўлены ў польскім г. Вэграў на X Міжнародным фестывалі вясельных абрадаў (2007). Сцэнар музычнай інтэрактыўнай камедыі з элементамі фальклору Пастаўшчыны паводле беларускай на-

роднай казкі “Шаптуха” пакуль не ўвасоблены.

Удзел у стварэнні радыё і тэлеперадач, фільмаў: інтэрв’ю рэспубліканскаму, абласныму і мясцовым радыё і тэлебачанню аб практыцы работы па захаванні культурнай спадчыны рэгіёна і па праекце “Зюзя Паазерскі” (2005-2010); кіраўнік творчага калектыва Пастаўскага РАМЦ па здымках відэафільма абласнога агляду-конкурсу фальклорных калектываў і відэафільмаў традыцыйных вясельных абрадаў у сучаснай вясельнай традыцыі Віцебшчыны (2009, лаўрэат) і конкурсу вясельных абрадаў Віцебшчыны ў намінацыі “Увасабленне традыцыйнага вяселля ў сучаснай вясельнай традыцыі” (відэафільм, 2012); кіраўнік праекта “Кола года ў Ліпніках”, па матэрыялах якога  беларускімі тэлеканаламі быў падрыхтаваны відэасюжэт “Эх, калядкі!” у праграмах “Тэрра інкогніта” і “Я хачу гэта ўбачыць”(2014).

Матэрыял пра Л. Чатовіч: Анкета 20.10.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: вул. Станкевіча, д. 11, кв. 10, г. Паставы Віцебскай вобласці, тэл. хатні 8(02155)25-189, маб. (33) 648-78-03(МТС), e-mail – lyudmilachetovich@mail.ru.

***Шушкевіч Іван Часлававіч***, гісторык, юрыст, пісьменнік, публіцыст. Нарадзіўся 9 мая 1955 г. у вёсцы Русакі Пастаўскага раёна. Пасля службы ў войску ў 1975 г. паступіў на гістарычны факультэт МДУ ім. М.В. Ламаносава, які скончыў у 1981 г. Навучаўся ў завочнай аспірантуры ўніверсітэта, напісаў кандыдацкую дысертацыю, якую абараніў у 1998 г., атрымаўшы навуковую ступень кандыдата юрыдычных навук.

На працягу пяці гадоў працаваў выкладчыкам гісторыі ў Маскоўскім электратэхнічным інстытуце сувязі, а з 1985 па 2005 гады служыў у МУС СССР/Расіі на пасадах: інспектар, старшы інспектар па выключна важных справах, начальнік міжнароднага аддзела Дэпартамента кадравага забеспячэння МУС Расіі. Мае ўзнагароды, у тым ліку – і ўрадавыя. Больш 50 раз выязджаў у замежныя камандзіроўкі. Мае званне палкоўніка.

Пасля выхаду ў адстаўку працаваў на кіраўнічых пасадах

у Клубе ваеначальнікаў Расіі і ў Міжнароднай арганізацыі па міграцыі, а таксама ў Акадэміі МУС Рэспублікі Беларусь. Пасля прыезду ў 2012 г. у г. Паставы працаваў у якасці карэспандэнта на тэлестудыі «Паставы ТБ». Дзве яго аўтарскія работы: «Генацыд» (пра генацыд фашыстаў супраць мясцовага насельніцтва ў гады Вялікай Айчыннай вайны) і «Альфрэд Ромер» занялі першае месца на абласным конкурсе тэлевізійных праграм. Некаторы час працаваў у Цэнтры турыстычных паслуг.

Працуючы ў Расіі, І. Шушкевіч выдаў шэраг навуковых і мастацкіх кніг. Пасля вяртання ў Паставы ён працягвае займацца літаратурнай дзейнасцю. За гэты час ім падрыхтавана і выдадзена ў Пастаўскай друкарні больш дзясятка брашур, у тым ліку і краязнаўчай тэматыкі.

**Здабыткі ў краязнаўстве і літаратуры:**

Кнігі: Мир глазами сотрудника МВД России, 2013 – 143 с.; Духовный мир поставского социума (история и современность), 2013 – 130 с.; Воспоминания и размышления о прошлом и настоящем, 2014 –135 с.; Любовь не знает границ, 2015 – 130 с.; История и легенды родины нашей, 2015 – 126 с.; Портрет художника, 2015 – 109 с.; Крик белой цапли: сборник рассказов, 2016 – 82 с.; Нечаянная радость: повести, 2017 – 128 с.; Кровь на пергаменте / Иван Шушкевич. – Минск: Ковчег, 2017. – 120 с.

Удзел у стварэнні фільмаў, тэлеперадач: Падчас працы ў тэлекампаніі "Паставы-ТБ" (2012-2014), падрыхтаваў шэраг перадач краязнаўчай тэматыкі: Молодежная политика в действии (пра пазіцыю сучаснай моладзі, падтрымцы яе дзяржавай); Народно-прикладное искусство: традиции и современность (пра нацыянальную культуру, нацыянальнай самабытнасці, традыцыях: пляценне з саломкі, разьба па дрэве, кавальская справа, ганчарства, гафт; пра сучасных пастаўскіх майстроў); Архитектурный облик Постав (гісторыя горада і яго архітэктурныя помнікі); Семья и общество (пра сучасную сям'ю, яе праблемах); Генацыд (пра генацыд у адносінах да нашага народа, успаміны сучаснікаў).

Адрас для кантактаў: e-mail: shushkevich1955@mail.ru, тэл. маб. +375 29 287 59 81;  тэл. хатні  8(02155) 22 535

***Шык Уладзімір Раманавіч***, журналіст, краязнаўца. Нарадзіўся 5 кастрычніка 1956 г. у в. Пятровічы Пастаўскага раёна. Пасля заканчэння Дунілавіцкай школы непрацяглы час працаваў рабочым на Варапеўскім дрэваапрацоўчым камбінаце, адкуль быў прызваны ў войска. Служыў камандзірам танка ў Барысаве. З 1976 па 1982 год вучыўся на факультэце журналістыкі Белдзяржуніверсітэта. Пасля заканчэння ВНУ працаваў намеснікам рэдактра раённай газеты "Дзвінская праўда" ў Верхнядзвінску. З 1985 па 1996 год быў дырэктарам Пастаўскай друкарні. Потым некаторы час працаваў камерцыйным дырэктарам ТАА "Заазёрнае" у Дунілавічах. Каля дзясяці гадоў (1997-2006) з'яўляўся ўласным карэспандэнтам газет "Народная Воля" і "Віцебскі Кур'ер". З 2006 г. і па цяперашні час працуе намеснікам галоўнага рэдактара, рэдактарам радыё ва ўстанове "Рэдакцыя радыёвяшчання "Пастаўскае радыё" і тэлебачання "Паставы-ТБ".

Займаецца краязнаўчымі даследаваннямі Пастаўшчыны ў межах журналісцкіх заданняў і актыўнай грамадзянскай пазіцыі. Рыхтаваў публікацыі па краязнаўчых пытаннях Глыбоччыны, Шаркаўшчыны, Міёршчыны, Докшыччыны і іншых раёнаў заходняй Віцебшчыны.

**Публікацыі:** <u>у газетах:</u> Уваскросшы з руінаў [Троіцкі касцёл у Дунілавічах Пастаўскага р-на] // Нар. Воля. – 1998. – 22.05. – С. 3; Таинства видимый знак [рэліквія з в. Ваўкалата Докшыцкага р-ны] // ВК (Віцебскі Кур'ер). – 1999. – № 8 (29.01.). – С. 3; Месца матэрыялізму павінен заняць ідэалізм [Пракаповіч І.] // ВК. – 1999. – № 25. – С. 3; Долгая дорога к дому [Паставы] // ВК. – 1999. – № 29. – С. 4; Хопіць быць чужымі ва ўласным доме [Ляшонак Ф.] // ВК. – 1999. – № 60. – С. 4; Владимир Скрабатун: "Мы были вполне европейским государством" // ВК. – 1999. – № 68. – С. 3; Глубокский Нострадамус [Глаўніцкі П.Д.] // ВК. – 1999. – № 93. – С. 3; Няма ў чым каяцца [Фурс А. і А. – сябры СБП] // ВК. – 1999. – № 97. – С. 3; Настаўнік, у вугал // ВГ. – 2000. – № 1 (33), студзень. – С. 2; Шчырыя сэрцы маўчаць не маглі: Саюз беларускіх патрыётаў // ВГ. – 2000. – № 7(39). – С. 3; № 8. – С. 3; Цяжкі крыж акадэміка астранаўтыкі // ВГ. – 2000. – №

10. – С. 3; Яны былі першымі, альбо Яшчэ некалькі словаў пра патрыётаў Бацькаўшчыны з Пастаў // ВГ. – 2000. – № 11, 12. – С. 2–3; Паставы – горад старажытны // ВГ. – 2000. – № 11, 12. – С. 3; Тяжкий крест академика астронавтики [Кіт Б.] // ВК. – 2000. – № 26. – С. 3; Наш уголок Европы [Мосар] // ВК. – 2000. – № 30. – С. 3; Міхась за мяжу не збіраецца пакуль [Гіль М., Паставы] // ВК. – 2000. – № 38. – С. 3; Железных дел мастер [Фурс Ю.] // ВК. – 2000. – № 71. – С. 3; Мы іграем не за грошы [Собаль А., Паставы] // ВК. – 2000. – № 81. – С. 3; Сэрцы не маглі маўчаць [Саюз беларускіх патрыётаў, Глыбокае] // ВК. – 2000. – № 95. – С. 4; Пограничная зона // ВК. – 2001. – № 1. – С. 3; В окрестностях Парижа без перемен // ВК. – 2001. – № 68. – С. 3; Аркадзь Нафрановіч: “Шчаслівы той, хто кожнай сваёй клеткай знітаваны з роднай зямлёй” // ВК. – 2001. – № 72. – С. 3; Иосиф Бунто: “Вольно обошлись с историей даже в Хатыни” // ВК. – 2002. – № 5. – С. 3; Віталь Гарановіч: “Нікаму не знішчыць родную мову” // ВК. – 2002. – № 15. – С. 3; След Мюнхгаузена в Глубоком [пахаванне аднафамільца] // ВК. – 2002. – № 27. – С. 3; Збигнев Колос: “Забывая прошлое – не построишь будущее” // ВК. – 2003. – № 26. – С. 4; Возвращение из небытия [Пастаўшчына, Ромер А.] // ВК. – 2003. – № 61. – С. 3; Іосіф Атрахімовіч: “Баюся цвілі ў душах новых са скуры бычай” // ВК. – 2003. – № 66. – С. 3; Сумерки над Гутой [вёска ў Пастаўскім раёне] // ВК. – 2003. – № 69. – С. 4; Настоящий полковник [Харчанка М.] // ВК. – 2003. – № 85. – С. 4; Хранить вечно [Глыбоцкі занальны архіў] // ВК. – 2003. – № 92. – С. 3; Древний поселок с гербом [Шаркаўшчына] // ВК. – 2004. – № 8. – С. 3; Жизнь, похожая на зону [рэпрэсіі ў Зах. Віцебшчыне] // ВК. – 2004. – № 16. – С. 3; До города не дорос [Варапаева] // ВК. – 2004. – № 24. – С. 3; Шудель Иосиф: “Любая диктатура аморальна и отвратительна” // ВК. – 2004. – № 36. – С. 3; Аистов пересчитали [на Браслаўшчыне – 500 пар] // ВК. – 2004. – № 74. – С. 2; Верность призвания [Жук Л.] // ВК. – 2004. – № 100. – С. 3; В эпоху великих потрясений [Зах. Віцебшчына] // ВК. – 2005. – № 16. – С. 3; В условиях военного времени [Глыбокае, 1944] // ВК. – 2005. – № 25. – С. 25. – С. 3; Эх, путь-дорожка фронтовая [землякі-пастаўчане на франтах Другой сусветнай вайны] // ВК. – 2005. – № 34. – С. 2.

Адрас для кантактаў: г. Паставы, вул. Юбілейная, д. 12, кв. 78; e-mail lenachik@list.ru. Тэл.: +375 29 211 42 40.

***Шыман Зінаіда Іванаўна***, педагог, пенсіянер. Нарадзілася ў 1928 г. у в. Азярава Браслаўскага павета. Скончыла філалагічны факультэт БДУ імя У.І. Леніна. Працавала настаўніцай беларускай мовы і літаратуры. Піша вершы, невялікія гісторыі, ў якіх дзеліцца ўспамінамі з ранейшага жыцця. Выдатнік народнай асветы БССР.

**Публікацыі:** У кнізе "Памяць. Пастаўскі раён": Легенды і паданні Пастаўшчыны // Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Пастаўскага раёна. – Мн.: БелТА, 2001. – С. 611; у раённай газеце: Адам Гурыновіч // Звязда (П). – 1990. – № 33. – С. 3; Васіль Качалаў // Звязда (П). – 1987. – № 60. – С. 3.

***Шышко Вадзім Аляксандравіч***, гісторык, краязнаўца. Нарадзіўся 22 студзеня 1981 г. у в. Турлы Пастаўскага раёна. Скончыў Навасёлкаўскую СШ, гістарычны факультэт БДУ (2003). Спецыялізаваўся на гісторыі Старажытнага свету і Сярэднявеччы. Адслужыў год у войску. Працаваў на прадпрыемстве "Пастаўскі мэблевы цэнтр", у клініцы ў Нямеччыне, на харчовай вытворчасці ў Чэхіі, у школе в. Княгінін Мядзельскага раёна. Цяпер – навуковы супрацоўнік Пастаўскага краязнаўчага музея (з 2010 г.). Сябра Пастаўскай раённай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы".

Сфера інтарэсаў у краязнаўстве: штучна створаныя белыя "плямы" ў гісторыі Пастаўскага раёна, погляд на гісторыю Пастаўскага раёна ў кантэксце агульнабеларускай гісторыі.

Займаецца літаратурнай працай, падарожжамі, спрабуе зразумець навакольны Свет і феномен чалавека.

Аўтар 3 кніг, шэрагу артыкулаў у такіх выданнях як "Наша Ніва", "Шыпшына", "Наша слова", інтэрнэт-часопісе "Культура, нацыя" ("Сакавік").

Аўтар навуковай канцэпцыі і шэрагу экскурсаў Пастаўскага краязнаўчага музея, кансультант стварэння музейнай экспазіцыі ў Лучайскім касцёле. Жыве ў Паставах.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кнігі: 1812. Вайна на Пастаўшчыне. – Мінск: Кнігазбор, 2013.

– 76 с. (разам з І. Пракаповічам); Беларускае войска ўзору 2004-га года. Погляд знутры. – Мінск: Логвінаў, 2016. – 146 с.; Успаміны Іосіфа Сівіцкага. – Паставы: ТБМ, 2017. – 100 с.

Публікацыі ў перыядычных выданнях: Зварот да беларускай эліты // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2014. – снеж. - №8. – С. 6; Славяне? // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2014. – снеж. – №8. – С. 47; Фізіялогія нацыяналізму // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2014. – снеж. - №8. – С. 58; Шчырай патрыётцы Беларусі, Алесі Умпіровіч, споўнілася 90 год // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2015. – сак. – №9. – С. 96; Заўвагі па практычнай рэалізацыі “Стратэгіі” // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2016. – сак. – №13. – С. 45; Узаемазалежнасць існавання беларускай культуры і нацыянальнай самасвядомасці. Роля краязнаўства ў іх фарміраванні // Культура, нацыя (“Сакавік”). – 2017. – чэрв. - №18. – С. 26; Алеся Умпіровіч з Саюза беларускіх патрыётаў // Наша ніва. – 2015. – 21 студз; Бенефіс карыфея пастаўскага краязнаўства // Наша слова. – 2015. – 4 лют. - №5. – С. 8; Струны нашай душы… // Наша слова. – 2015. – 11 лют. - №6. – С. 8; Пастаўскі дэсант на Мядзельшчыне // Наша слова. – 2015. – 18 лют. - №7. – С. 5; Дзень роднай мовы “па-пастаўску” // Наша слова. – 2015. – 4 сак. - №9. – С. 7; Дотык дабрыні // Пастаўскі край. – 2011. – 15 кастр. - №80. – С. 9; Дакрануцца да вытокаў // Пастаўскі край. – 2016. – 25 мая. - №40. – С. 8; Праз час і прастору // Шыпшына. – 2011. – снеж. - №12. – С. 6; Мастак і грамадзянін // Шыпшына. – 2012. – крас. - №4. – С. 3; Некаторыя разважанні пра тое, што ёсць // Шыпшына. – 2012. – жнів. - №8. – С. 3; Некаторыя разважанні пра тое, што ёсьць // Шыпшына. – 2012. – вер. - №9. – С. 3; Славяне? // Шыпшына. – 2013. – студз. - №1. – С. 6; Экскурсія па слядах яўрэяў? // Шыпшына. – 2013. – ліп. - №7. – С. 6; Фізіялогія нацыяналізму ? // Шыпшына. – 2013. – жнів. - №8. – С. 3; Фізіялогія нацыяналізму ? // Шыпшына. – 2013. – вер. - №9. – С. 3.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: міжнародная навуковая канферэнцыя “Спадчына рода графаў Тызенгаўзаў” (5 ліпеня 2013 г., Літва, Рокішкі); навукова-практычная канферэнцыя “Паўстанне 1863 г.” (5 ліпеня 2014 г., Германавічы) (даклад “Паўстанне 1863 г. на Пастаўшчыне”); міжнародная навукова-гістарычная канферэнцыя “Нарацкая аперацыя 1916 г.: гісторыя і сучаснасць” (18 сакавіка 2016 г., Нарач) (даклад “Першая сусветная вайна

на Пастаўшчыне”); навукова-практычы семінар “Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі” (20 красавіка 2017 г., Паставы) (даклад “Узаемазалежнасць існавання беларускай культуры і нацыянальнай самасвядомасці. Роля краязнаўства ў іх фарміраванні”).

Удзел у краязнаўчых экспедыцыях: 2012, 24-26 красавіка – Экспедыцыя “Спадчына рода графаў Тызенгаўзаў у Літве і Беларусі” па маршруце Рокішкі-Салас-Ігноцішкі-Таўенай-Коўна-Вільня (3 дні); 2012, 22-24 траўня – Экспедыцыя “Спадчына рода графаў Тызенгаўзаў у Літве і Беларусі” па маршруце Горадня-Жалудок-Мінск-Камаі-Лучай-Салаўіны гай-Варапаева-Паставы (3 дні). Удзельнік аўтавандровак з сябрамі пастаўскай раённай арганізацыі “Таварыства беларускай мовы” па Пастаўскім і Мядзельскім раёнах.

Выдавецкая і рэдактарская дзейнасць: рэдагаванне, вёрстка і дапамога ў выданні краязнаўчай кнігі Вальдэмары Шышко “Карані нашы…” (2015).

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: 2013-2014 распрацаваў навуковую канцэпцыю для пастаяннай музейнай экспазіцыі Пастаўскага краязнаўчага музея “Першая сусветная вайна на Пастаўшчыне” у палацы Тызенгаўзаў; распрацаваў экскурсы па гістарычнай зале Пастаўскага краязнаўчага музея, па гораду Паставы і Пастаўскаму раёну, па месцах Першай сусветнай вайны на Пастаўшчыне. Браў удзел у якасці кансультанта пры стварэнні музейнай экспазіцыі ў Лучайскім касцёле.

Удзел у стварэнні фільмаў: 2012, удзел у здымках відэафільма пра Я. Купалу на тэлекампаніі “Паставы-ТБ”; 2015, удзел у здымках каля Лучайскага касцёла (БТ-3, разам з І.М. Пракаповічам); 2017, удзел у здымках фільма “Чалавек з ГУЛагу” пра дзейнасць пастаўскай суполкі “Саюз беларускіх патрыётаў” (Белсат). Прымаў удзел у здымках тэлерэпартажаў: 2011 г., “Всё путём. Поставы. Ч.1.” https://www.youtube.com/watch?v=HdtOQQBKtSs&list=PLD1qrXyXnOs3EAGGGsaqbIaAx2638Z4sB&index=5 “Всё путём. Поставы. Ч.2.” https://www.youtube.com/watch?v=S6I5I2WaLEY&list=PLD1qrXyXnOs3EAGGGsaqbIaAx2638Z4sB&index=7 2017, “Что посмотреть в Поставском районе? Часть 1.” http://vedi.by/idei-dlya-puteshestvij/418-chto-posmotret-v-postavskom-rajone-chast-1

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі:

2013, верасень-снежань – арганізацыя і правядзенне курсаў беларуская мовы і краязнаўства (разам з сябрамі ТБМ); разнастайныя мерапрыемствы краязнаўчага характару ў межах Пастаўскага краязнаўчага музея. З 2013 па 2017 праводзіў прэзентацыі краязнаўчых кніг у Мінску, Пастаўскім раёне (раённая і дзіцячая бібліятэкі г. Паставы, Лынтупская і Палеская школы, пастаўскі музей): Мядзельскім раёне (Мядзельская раённая бібліятэка), Глыбоцкім раёне (Глыбоцкая раённая бібліятэка).

Дзейнасць у якасці навуковага кіраўніка даследчых работ вучняў: Віялета Сяменас, вучаніца 10 кл пастаўскай гімназіі, "1939 год у памяці жыхароў Заходняй Беларусі"(2013).

Адрас для кантактаў: 211873, г. Паставы, вул. Касманаўтаў, 28-22. Тэл.: 375 29 3562773 (velcom); e-mail: belariy@yandex.by

***Шышко Вальдэмара Альбертаўна***, бібліятэкар, краязнаўца. Нарадзілася 28 снежня 1951 г. у в. Жданы Пастаўскага раёна. Скончыла Ласіцкую СШ, Кемераўскае культурна-асветніцкае вучылішча, факультэт бібліятэказнаўства-бібліяграфіі Кемераўскага дзяржаўнага інстытута культуры (1978 г.). Працавала ў 1971-1980 гг. у бібліятэчнай сферы, у 1983-1999 гг. у калгасе імя Суворава (в. Навасёлкі-1, Пастаўскі раён). Цяпер – пенсіянерка (з 2010 г.). Сябра Пастаўскай раённай арганізацыі "Таварыства беларускай мовы".

Сфера інтарэсаў у краязнаўстве: асабісты радавод. Займаецца хатняй гаспадаркай, піша вершы. Аўтар кнігі пра радавод Зелянкевічаў. Жыве ў в. Навасёлкі Пастаўскага раёна.

**Здабыткі ў краязнаўстве:**

Кніга: Карані нашы…Жыцьцё і лёс сям'і Зелянкевічаў / Вальдэмара Шышко. – Паставы: ТБМ, 2015. – 60 с.

Публікацыя ў перыядычных выданнях: Як жа ў полі цвітуць васількі! // Шыпшына. – 2011. – ліст. - №11. – С. 8.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: навукова-практычны семінар "Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (20 красавіка 2017 г., Паставы).

Удзел у правядзенні творчых імпрэз краязнаўчай тэматыкі: у 2016 г. правядзенне прэзентацыі краязнаўчай кнігі ў дзіцячай

бібліятэцы г. Паставы. Удзел у розных мерапрыемствах (у т.л. і краязнаўчых) раённай арганізацыі ТБМ.

Адрас для кантактаў: 211832, Пастаўскі р-н, в. Навасёлкі-1, вул. Маладзёжная, 21-1. Тэл.: 375 29 9115379 (velcom).

***Юркайць Аляксей Іосіфавіч,*** магістр педагагічных навук. Нарадзіўся 29 ліпеня 1983 г. у г. Паставы. Пасля заканчэння СШ № 4 у родным горадзе (2001), паступіў у Міждыяцэзіяльную Вышэйшую Духоўную Семінарыю імя Св. Тамаша Аквінскага ў Пінску (Брэсцкая вобласць). Скончыўшы яе (2008), паспяхова абараніў магістарскую працу па гісторыі Касцёла ў Люблінскім Каталіцкім Універсітэце (Рэспубліка Польшча) на тэму “Гісторыя парафіі пад тытулам Беззаганнага Зачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Антонія Падуанскага ў Паставах”, асноўныя матэрыялы якой былі выдадзены асобнай кнігай (2009). Час ад часу друкуе артыкулы ў перыядычных выданнях.

Служыў у РА “Віцебская дыяцэзія Рыма-каталіцкай Царквы ў Рэспубліцы Беларусь”. Дыяканскае пасвячэнне прыняў 5 ліпеня 2008 года ў “Віцебскай катэдральнай парафіі пад тытулам св. Барбары”. Служыў дыяканам у рэлігійных абшчынах “парафіі пад тытулам св. Ганны” ў в. Мосар (Глыбоцкі раён), “парафіі пад тытулам св. Андрэя Баболі” ў г. Полацку, “парафіі пад тытулам Езуса Міласэрнага” ў г. Віцебску і “парафіі пад тытулам Імя НПМ в. Парафьянава” (Докшыцкі раён).

25 ліпеня 2009 г. у “парафіі пад тытулам св. Андрэя-апостала” ў г.п. Лынтупы (Пастаўскага раёна) прыняў святарскае пасвячэнне. На працягу 2009-2010 гадоў выконваў абавязкі намесніка кіраўніка (вікарыя) ў “парафіі пад тытулам св. Тройцы” ў г. Глыбокае. З 2010 па 2013 год быў адміністратарам “парафіі св. Ганны у в. Мосар”.

**Публікацыі:**

Кнігі: Гісторыя парафіі пад тытулам Беззаганнага пачацця Найсвяцейшай Панны Марыі і святога Антонія Падуанскага ў Паставах. – Паставы: Сумежжа; Глыбокае: Барміца, 2009. – 80 с.; Рэзідэнцыя

рымскага філосафа ў Мосары, альбо Беларускі лёс філосафа-мучаніка, Малітвы да святога Юстына.– Глыбокае: Глыбоцкая тыпаграфія, 2011. – 18 с.

Публікацыі ў перыядычным друку: У Мосар да Святога Яна / Аляксей Юркайць // Пастаўскі край. – 2012. – 29 чэрв. – С. 8; Скарбы стагоддзяў у Мосары / Аляксей Юркайць // Пастаўскі край. – 2012. – 29 жн. – С. 6; Хрысціянскія традыцыі святкавання каляд / Аляксей Юркайць // Пастаўскі край. – 2012. – 15 снеж. – С. 5; Постаць святога Юстына / Аляксей Юркайць // Ave Maria, http://ave-maria.by/archive/9-208/1361-postats-svyatoga-yustyna; Мосар – скарбніца прыгожага і ўзнёслага. Пра гісторыю славутай святыні расказвае адміністратар парафіі Мосар ксёндз Аляксей Юркайць / Аляксей Юркайць // Кліч Радзімы; http://www.klich.by/?p=3282; Погляд у мінулае з думкай аб сучаснасці / Аляксей Юркайць // Наша вера, 2 (56) 2011, с. 14-17. https://issuu.com/nashavera/docs/n56; Рэзідэнцыя рымскага філосафа ў Мосары, альбо Беларускі лёс філосафа-мучаніка / Аляксей Юркайць // http://krytyka.by/by/page/science/historya-navuka/5758; Беларускі лёс філосафа-мучаніка / Аляксей Юркайць // Наша Нива, https://nn.by/?c=ar&i=73179; Крыжовы шлях на Мосарскай Кальварыі / Аляксей Юркайць // https://nn.by/?c=ar&i=70518; Вернікі, адданыя традыцыі / Аляксей Юркайць // Каталіцкі веснік, 8(17) 2012 г. – С. 4; Унікальны жук-насарог заляцеў у Мосар, https://nn.by/?c=ar&i=111774.

Блог: http://archive.li/iWdyN; http://westki.info/blogs/ks-aliaksiey-jurkayc, http://westki.info/users/ks-aliaksiey-jurkayc; http://news.vitebsk.cc/author/jurkajc/

Адрас для кантактаў: alexius375@gmail.com

***Якавіцкая Стэфаніда Сцяпанаўна***, медыцынскі работнік, краязнаўца. Нарадзілася 2 лістапада 1948 г. у в. Міхнічы Пастаўскага раёна. Пасля заканчэння 9 класаў Савіцкай СШ паступіла ў Пастаўскі філіял Полацкага медвучылішча. Атрымаўшы спецыяльнасць медсястры (1968), была накіравана на працу ў Дунілавіцкую бальніцу. Там закончыла 11 клас школы рабочай моладзі (1969). Збіралася паступаць у інстытут. Але жыццё склалася інакш. Выйшла замуж і ў 1972 г. пераехала

жыць у Паставы. Да выхаду на пенсію працавала медсястрой у Пастаўскай ЦРБ у тэрапеўтычным аддзяленні.

З дзяцінства вельмі цікавілася гісторыяй роднага краю. У школе любімымі прадметамі былі гісторыя і геаграфія. Веды пра родную вёску і родны край чэрпала з аповедаў свайго дзеда Спірыдовіча Фелікса Вікенцьевіча, удзельніка І Сусветнай вайны, свайго бацькі Ластоўскага Сцяпана Вітальевіча, удзельніка ІІ Сусветнай вайны, сваёй мамы Ластоўскай Яніны Феліксаўны. Напісала і надрукавала шэраг матэрыялаў пра вёску Міхнічы, удзельнічала ў стварэнні музейнай экспазіцыі у палацы Тызенгаўзаў, прысвечанай І Сусветнай вайне. У красавіку 2017 г. на раённым конкурсе творчых работ на тэму "Люблю цябе такой, якая ёсць, зямля бацькоў святая" заняла 1 месца. Жыве ў Паставах.

Публікацыі ў раённай газеце: Мае Міхнічы // ПК. – 2004. – № 146, 149, 152. – 2005. – № 1; Вось так калядавалі // ПК. – 2005. – № 166–167. – С. 7; След Першай сусветнай // ПК. – 2014. – 20 снеж.

Удзел у краязнаўчых навуковых канферэнцыях: удзельнічала ў навукова-практычным семінары "Пастаўшчына на гісторыка-культурнай карце Беларусі" (20 красавіка 2017, Паставы)

Удзел у стварэнні музеяў, выстаў, калекцый: удзельнічала ў стварэнні музейнай экспазіцыі па І Сусветнай вайне: прадставіла фотаздымкі сваіх землякоў і родных, якія ўдзельнічалі ў гэтай вайне.

Матэрыялы пра С. Якавіцкую: Анкета С. Якавіцкай 22.11.2017 // Асабісты архіў І. М. Пракаповіча

Адрас для кантактаў: 211875, г. Паставы, вул. Пралетарская, 10, тэл. 8 (02155) 4-18-51, +375 29 8138304

***Якян Іван Францавіч,*** работнік культуры. Нарадзіўся ў 1941 г. у в. Мягуны Пастаўскага раёна. Пасля заканчэння Камайскай школы служыў у войску. Дэмабілізаваўшыся, вярнуўся на радзіму, некаторы час быў паляводам у мясцовым калгасе. Пазней на працягу 27 гадоў працаваў работнікам культуры ў Навасёлках, Палессі, загадчыкам Мягунскага сельскага клу-

ба. Шмат гадоў з'яўляўся сакратаром камсамольскай арганізацыі калгаса імя Кірава.

Узнагароджаны граматай ЦК ЛКСМБ, знакам ЦК ВЛКСМ "За актыўную работу ў камсамоле", юбілейным медалём "50 лет Победы в ВАВ", раённымі граматамі.

З артыкуламі і жыццёвымі нарысамі выступае ў раённай газеце з 1955 года. Збірае фальклор сваёй мясцовасці, аддаваючы перавагу народнаму гумару. Напісаў гісторыю роднай вёскі Мягуны, якая была надрукавана у газеце "Пастаўскі край". Пазаштатны карэспандэнт пастаўскай раённай газеты. Піша прыпеўкі для ўдзельнікаў мастацкай самадзейнасці.

Жыве ў в. Мягуны.

**Публікацыі:**

У кнізе "Дзе Мядзелка песні пяе": Сашка падвёў; Цаны няма; Павіншаваў; Ажыў. – С.100-101.

У раённай газеце: Юбілей у Мягунах [пра Мягунскую капліцу] / ПК. – 2004. – 16 чэрв. – № 70. – С. 3; Гісторыя вёскі Мягуны // ПК. – 2004. – № 85, 88, 91, 94, 100. – С. 2.

Матэрыялы пра І. Якяна: Дзе Мядзелка песні пяе...: Пастаўшчына літаратурная: проза, паэзія, публіцыстыка / уклад. І. М. Пракаповіч. – Мн.: Мастацкая літаратура, 2006. – 270 с. – С. 256; Півавар, М. В. Краязнаўцы Віцебшчыны 2-ой паловы XX - пачатку XXI ст.: біябібліяграфічны даведнік / М. В. Півавар. – Мінск: Кнігазбор, 2010. – 372 с. – 340; Анкета І. Якяна 19.12. 2017 / Асабісты архіў І. М. Пракаповіча.

Адрас для кантактаў: 211850, в. Мягуны, Камайскі с/с, Пастаўскі р-н; тэл. МТС 8102465.

# Іншыя краязнаўчыя публікацыі і матэрыялы

## Некаторыя краязнаўчыя артыкулы супрацоўнікаў Пастаўскага краязнаўчага музея

***Валетка, Л***. У кнізе "Памяць. Пастаўскі раён": Пастаўскі раённы краязнаўчы музей / Л. Валетка. – С. 563; у раённай газеце: Гартаючы старонкі мінулага // Звязда (П). – 1989. – № 111; Заглянем у нашу гісторыю // ПК. – 1993. – № 79. – С. 2; Першая кніга пра Лынтупы // ПК. – 1993. – № 90. – С. 2; Якая ж будучыня без гісторыі // ПК. – 1994. – № 6. – С. 2; Камбрыг – Герой Савецкага Саюза // ПК. – 2003. – № 126. – С. 3; На урок у музей // ПК. – 2004. – № 54. – С. 3.

***Гарошка, Т.*** У кнізе "Памяць. Пастаўскі раён": Захавальнікі фальклорных скарбаў / Т. Гарошка. – С. 588-599; у раённай газеце: Яго імем названа вуліца ў Паставах // ПК. – 2004. – № 31. – С. 2; Яго імем названа вуліца // ПК. – 2004. – № 49. – С. 2; Да перамогі заставалася нямнога // ПК. – 2004. – № 61. – С. 3; Імя героя ўвекавечана // ПК. – 2004. – 2 ліп. – С. 2 (пра Галубкова)

***Селядцова, М.*** Залатыя рыбкі // ПК. – 2006. – № 10. – С. 2.

***Лукічоў, М.*** Паставы ў гады іншаземнай ваеннай інтэрвенцыі і грамадзянскай вайны (1918-1920 гг.) // Звязда (П). – 1968. – 19, 22 кастр.

***Грузд, В.*** Як вызвалялі Пастаўшчыну // ПК. – 2009. – 4 ліп. – С. 1,2.

***Кураченко, Р.*** Удивительное рядом // ПК. – 2010. – 13 лют; З успамінаў В. К. Шэпелева / запісала Р. Курачэнка // Памяць. Пастаўскі раён. – Мінск: БелТА, 2001. – 688 с. – С. 325.

## Некаторыя краязнаўчыя артыкулы супрацоўнікаў раённай газеты "Пастаўскі край"

***Касаткіна, Ф.*** Той родны кут, што сэрцу мілы [Казлоўшчына] // ПК. – 2013. – 30 ліст. – С. 4-5; Цудоўны куточак прыроды, працавітыя, шчырыя людзі [Навінкі] // ПК. – 2014.

– 30 ліп. – С. 4-5; Мае Кавалі, якіх няма // ПК. – 2015. – 23 снеж. – С. 5.

***Курыловіч, П.*** Ціха шэпча клён Героя // ПК. – 2004. – 9 чэрв.- С. 2; Парыж, дзе сышлася гісторыя, дзе і сёння паданні жывуць // ПК. – 2012. – 10 ліст. – С. 3.; Пастаўшчына – сталіца краязнаўства // ПК. – 2016. – 21 снеж.

***Пішч, Г.*** "Акрыяю з водарам бароў пасля пыльных стогалосых вуліц" (інтэрв'ю з І. Капыловым) // ПК. – 2009. – 22 крас. – С. 3-4; Дзе назаўжды дабрыня прапісалася [Кашыцы] // ПК. – 2013. – 27 лют. – С. 3; Пад абярэгам дзьвух крыніц [Нарыца] // ПК. – 2013. – 11 мая. – С. 4-5; Ля канторы цагельнга завода // ПК. – 2014. – 22 ліст. – С. 7; Пакуль жыве гісторыя, і Целякі будуць стаяць // ПК. – 2015. – 26 вер. – С. 4-5.

***Анішкевіч, А.*** Апідамы – сталіца старавераў // ПК. – 2013. – 18 снеж. – С. 4-5; Деткава цяпер на дзетак беднае // ПК. – 2014. – 24 снеж. – С. 4-5; Ад роду Сямашкаў да сённяшніх дзён [Ляхаўшчына] // ПК. – 2014. – 24 мая. – С. 4-5; Старэюць Старчуны, а людзі працуюць, жывуць // ПК. – 2015. – 24 студз. – С. 4-5; Ідзе размерана жыццё ў Парыжы // ПК. – 2015 – 16 вер. – С. 4-5.

***Шапавалава, А.*** Адрадзілі святыню // ПК. – 2005. – 26 ліст. – С. 2 (пра помнік у Асінагарадку); Гісторыя і сучаснасць у архітэктурных пейзажах // ПК. – 2010. – 28 ліп. – С. 6; Знітаванасць традыцый, сувязь часоў // ПК. – 2012. – 20 чэрв. – С. 3; Ганарыцца мінулым, спадзявацца на будучыню [Васіліны] // ПК. – 2013. – 2 кастр. – С. 4-5.

***Сняжкова, І.*** Тызенгаўз па Віцебску гуляў // ПК. – 2012. – 25 ліп. – С. 3; Святкаваў Лучай // ПК. – 2012. – 20 кастр. – С. 5; Хаваем жывую гісторыю? [лёс могілкаў у цэнтры Паставаў] // ПК. – 2012. – 12. вер. – С. 6; Вёска, якой жыць [вёска Каптаруны] // ПК. – 2013. – 13 крас. – С. 4-5; Няма мяжы ўспамінам [вёска Пеляка] // ПК. – 2015. – 25 лют. – С. 4.

***Дзеравянка, С.*** "На мяжы вякоў" // ПК. – 1998. – 18 крас. – С. 3.

**Іншыя публікацыі і матэрыялы па краязнаўстве**

***Аляшэвіч, Л.*** Узрошчаны на сяргеевіцкай зямлі [пра Ч. Славінскага] // ПК. – 2009. – 23 снеж.; З гісторыі мікратапонімаў // ПК. – 2010. - № 17. – 3 сак.; Невыдуманыя гісторыі (з мінулага) // ПК. – 2010. - № 34. – 30 крас.

***Дулеба, Г.*** З гісторыі народных вучылішчаў Пастаўшчыны // ПК. – 2004. – 14 ліп. – С. 2; З гісторыі пошты Пастаўшчыны // ПК. – 2010. - № 100. – С. 5

***Катовіч, Ю.*** Вывучаем родны край // ПК. – 2012. – 8 мая. – С. 7.

***Клименко, Н.*** Старались работать с полной отдачей // ПК. – 2010. – 17 лют.

***Куницкий, Р.*** Было такое училище [пра тэхвучылішча № 7 у Паставах, 1954 г.] // ПК. – 2010. - № 45. – 9 чэрв.

***Лаўданская, А.*** Свіраны // ПК. – 2006. – 25 сак. – С.2.

***Саўліч Ул.*** Шубін-сын ціха жыве ў Лынтупах // ПК. – 1994. – № 30. – С. 2.

***Салівон, І.*** Фізічны тып насельніцтва Пастаўшчыны // ПК. – 1993. – 3 крас.

***Сідаровіч, Т.*** Помнікі археалогіі // Звязда (П). – 1985. – 22 кастр.

***Цягака, Л.*** Антрапалагічныя даследаванні на Пастаўшчыне // ПК. – 1993. – 6 кастр.

***Цвіка, Л.*** Запавет чырвонага конніка // Віцебскі рабочы. – 1982. – 15 снеж. (пра І. Шубіна)

***Касяк М.*** У., настаўнік гісторыі Дунілавіцкай школы. У 2009 г. падрыхтаваў гістарычны нарыс "Вёска Сяргеевічы", які захоўваецца ў Пастаўскім краязнаўчым музеі. Да аўтарскіх матэрыялаў прыкладзены 2 лісты ўспамінаў былой настаўніцы Сяргеевіцкай школы Л. Аляшэвіч.

***Грайчонак А.,*** пенсіянер, ураджэнец в. Полава, жыхар Мядзела. Перадаў у дар Пастаўскаму краязнаўчаму музею 15.12.2016 матэрыялы пра родную вёску "Деревня Полово" (на рускай мове), якія сабраў з розных крыніц.

